# ЗМЕСТ Крыніца


| | | |
|---|---|---|
| **Кірыла ТРАНКВІЛІЁН-СТАЎРАВЕЦКІ** | Я | 2 |
| **Галіна ТВАРАНОВІЧ** | Я маю твор... | 28 |
| **Іван КЛІМЯНКОЎ.** ДЭТЭКТЫЎНЫ СЮЖЭТ | У НАС | 29 |
| **Аляксей БАЦЮКОЎ** | Я маю твор... | 47 |
| **Мікола ПРАКАПОВІЧ.** НА МІКОЛУ | У НАС | 48 |
| **Віталь ПЯТРОЎСКІ** | Я маю твор... | 53 |
| **Уладзімір АРЛОЎ.** GENIUS LOCI | МЫ | 54 |
| **Алесь МАКРАЦОЎ** | Я маю твор... | 64 |
| **Янка СІПАКОЎ** | ТЫ | 65 |
| **Наталля РУСЕЦКАЯ** | Я маю твор... | 90 |
| **Марыя КІПЕЛЬ** | НАША | 91 |
| **Святлана ВАРОНІК** | Я маю твор... | 98 |
| **Барыс ЧЫЧЫБАБІН** | ЁН | 99 |
| **Анатоль СЫС** | Я маю твор... | 108 |
| **Ганна МАТУСЕВІЧ.** АДКРЫЦЦЁ | ЯНО | 109 |

# ЗМЕСТ Крыніца


| | | |
|---|---|---|
| Кірыла ТРАНКВІЛІЁН-СТАЎРАВЕЦКІ | Я | 2 |
| Галіна ТВАРАНОВІЧ | Я маю твор... | 28 |
| Іван КЛІМЯНКОЎ. ДЭТЭКТЫЎНЫ СЮЖЭТ | У НАС | 29 |
| Аляксей БАЦЮКОЎ | Я маю твор... | 47 |
| Мікола ПРАКАПОВІЧ. НА МІКОЛУ | У НАС | 48 |
| Віталь ПЯТРОЎСКІ | Я маю твор... | 53 |
| Уладзімір АРЛОЎ. GENIUS LOCI | МЫ | 54 |
| Алесь МАКРАЦОЎ | Я маю твор... | 64 |
| Янка СІПАКОЎ | ТЫ | 65 |
| Наталля РУСЕЦКАЯ | Я маю твор... | 90 |
| Марыя КІПЕЛЬ | НАША | 91 |
| Святлана ВАРОНІК | Я маю твор... | 98 |
| Барыс ЧЫЧЫБАБІН | ЁН | 99 |
| Анатоль СЫС | Я маю твор... | 108 |
| Ганна МАТУСЕВІЧ. АДКРЫЦЦЁ | ЯНО | 109 |



*О смерць, ты не маеш жалю*
*забрала мяне ты з балю*
*і, маладога, ўмярцвіла.*
*О смерць, ты з мяне ўчыніла*
*відовішча ўсяму дому,*
*усім, каму быў вядомы.*
*Сябры нада мною плачуць,*
*а ворагі рады – скачуць.*

# Нішто, удыхнутае ў абалонку

## КІРЫЛА ТРАНКВІЛІЁН-СТАЎРАВЕЦКІ





Нішто, удыхнутае ў абалонку

**Скажу вам праўдзівае слова**
**і прывяду**
**праўдзівыя паказанні**
**пра тыя чатыры брамы,**
**якія акрэсліваюцца перад намі**
**і праз якія,**
**рады ён ці не рады,**
**праведны ён ці грэшны,**
**мусіць, аднак, аднойчы**
**у нейкі дзень неспадзеўны,**
**прайсці чалавек,**
**каб урэшце**
**займець свой прыстанак**
**вечны.**
**Першая брама — смерць;**
**брама другая — страшны**
**суд Божы;**
**брама пякельная, што ўгатавана**
**грэшнікам самым, —**
**трэцяя брама;**
**і брама чацвёртая, праз якую**
**праведнікі ў сялібу**
**вечную пойдуць, —**
**чацвёртая брама.**

КІРЫЛА ТРАНКВІЛІЁН-СТАЎРАВЕЦКІ

**Выдатны ўсходнеславянскі багаслоў, філосаф, прапаведнік і літаратар Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі трывала ўвайшоў у гісторыю еўрапейскай культуры як аўтар трох фундаментальных кніг — "Зярцала Багаслоўя" (1618)[1], "Евангелле навучальнае" (1619)[2] і "Перла шматкаштоўнае" (1646)[3].**

**Біяграфічныя звесткі пра К. Транквіліёна-Стаўравецкага вельмі скупыя. Месца і час яго нараджэння невядомыя, няма і паведамленняў пра тое, якія навучальныя ўстановы ён скончыў. У канцы 80 — пачатку 90-х гадоў XVI ст., як сведчаць архівы, К. Транквіліён-Стаўравецкі працуе настаўнікам Львоўскай брацкай школы. У 1592 г. на запросіны Фёдара Скуміна ён пераязджае ў Вільню, дзе да 1614 г. выкладае царкоўнаславянскую і грэцкую мовы[4], затым падарожнічае, пераязджае з месца на месца. Блізу 1626 г. Кірыла прымае Унію і з гэтае хвілі да апошніх дзён, да 1646 г., займае пасаду архімандрыта Ялецкага уніяцкага манастыра, што на Чарнігаўшчыне.**

**Лёс творчай спадчыны К. Транквіліёна-Стаўравецкага складаны. Адразу пасля з'яўлення яго кнігі набылі шырокую папулярнасць у Вялікім княстве Літоўскім, Маскоўскай Русі, Балгарыі, Украіне. Паказальна з'яўленне ўжо ў XVI ст. шэрагу рукапісных**

І панясе тры сумы
з сабой чалавек
(зразумей,
што кажацца тут пра цябе,
чалавеча
зямны пілігрыме).
У першай суме (належаць
яны самому сумленню)
жаль невымоўны смерці,
калі чалавек назаўжды
расстаецца з усім,
што любіў на свеце, —
з жонкай ды з дзецьмі,
з прыязнікамі ды з сябрамі,
ды з многімі скарбамі
дарагімі.
Пры гэтым
балюча і цяжка
целу, з якім
душа разлучаецца, нібы з сябрам.
Другая сума сумлення —
страх і трымценне перад судом
непахібным Божым.
У трэцяй суме сумлення
роспач і вечны верад
з-за вечных пакутаў
пякельных.
Вось жа, пра гэта
ў часіне кожнай
думай і развражай —
і ніколі
ужо не зграшыш і дойдзеш,
мінаючы страшнае,
да спакою
і радасці вечнай.

Я тут павяду
гаворку пра першую браму
пра смерць
і ўздыхну
казаннікавым уздыхам.
Марнасць над марнасцю
і ўсё марнасць,
таўпеханне і паражнеча.
Няма нічога трывалага
ў справах пад сонцам —
усё бяжыць
бегам бесперастанным,
нібыта цень
бязводнага воблака.
Гэты свет,
і ўсё, што ў ім ёсць,
на карчму падобны;
бязлітасны ў ёй гаспадар.
Ледзь толькі
мы ў ёй абжывёмся —
нас выганяе адтуль і ўсё,
што цешыла нас,
што было нам люба,
ад нас забірае, а нас,
разбойным, зласлівым, нелітасцівым
слугам сваім аддаўшы,
выпіхвае голымі
за парог.

Паражнеча
усе чалавечыя справы,
і час чалавечы
таўпеханне і блуканне.
Дзе багацеі гэтага свету?
Дзе іхнія за́мкі, якія
былі абароненыя надзейна?
Дзе іхнія маляўніча
аздобленыя палацы?
Дзе іхнія па-мастацку
выробленыя шкатулкі,
поўныя золата?
Ну, дык вось:
шпалеры каштоўныя пашарпаны,
скарбы нязмерныя парабаваны,

копій, перакладаў з твораў асветніка. Найбольш цікавы сярод іх, пераклад на рускую мову “Зярцала Багаслоўя”, выкананы Феафанам, бібліятэкарам Чудава манастыра. На тытуле перакладчык зазначыў: “Книга глаголемая Зерцало Богословии, собрана от многих богословских, и трудолюбием составлена иеромонаха Кирилла Транквилиона и проповедника Слова Божия... Ныне же преписася и переправися многогрешным диаконом Феофаном с *белороссийскаго языка* на истинный славено-российский язык во обители Пречестной Рождества Богородицы...”[5]

Гэты запіс каштоўны ў першую чаргу тым, што ў ім маскоўскі перакладчык XVII ст. дакладна акрэсліў прыналежнасць твораў К. Транквіліёна-Стаўравецкага менавіта да старабеларускай кніжнай культуры. І гэта не супярэчыць ісціне. На старабеларускай мове апрача “Зярцала Багаслоўя” напісана і “Перла шматкаштоўнае”. “Евангелле навучальнае” — выключэнне. Імкнучыся шырока абвясціць свае ідэі, аўтар свядома выбраў для яго царкоўнаславянскую мову як універсальную ва ўсім славянскім праваслаўным рэгіёне.

У Маскоўскай Русі творы асветніка былі сустрэты ўсё ж варожа, аб чым сведчыць “Світак дакораў”[6] ігумена Іллі і святара Іаана Шэвеля. Больш за тое, паводле царскай волі і загаду патрыярха Філарэта кнігі Кірылы сабралі з манастыроў і цэркваў, пасля чаго публічна спалілі. “На Москве и во всех городах, — гаварылася ў загадзе, — литовскія печати Учительные Евангилья архимандриты Транквиліона-Ставровецкого и иныя *книги его кирилова слогу собрати и на пожарех сжеч,* чтоб та ересь и смута в мире не была”[7].

Найбольшай папулярнасцю творы К. Транквіліёна-Стаўравецкага карысталіся ў Беларусі, красамоўнае пацвярджэнне чаму іх перавыданне ў Магілёўскай друкарні Максіма Вашчанкі (“Евангелле навучальнае”, каля 1697; “Перла шматкаштоўнае”, 1699).

Актыўнае вывучэнне творчай спадчыны К. Транквіліёна-Стаўравецкага пачалося ў мінулым стагоддзі. У расейска-праваслаўнай навуковай традыцыі творчасць асветніка атрымала рэзка адмоўную ацэнку[8].

Пачатак аб‘ектыўнаму даследаванню творчасці К. Транквіліёна паклаў выдатны ўкраінскі навуковец С.І. Маслаў, праўда, падрыхтаваная ім манаграфія доўгі час захоўвалася ў рукапісным выглядзе і толькі нядаўна пабачыла свет[9].

У 1984 г. у Нямеччыне Х. Трунтэ перавыдаў “Перла шматкаштоўнае”[10], а ў наступным 1985 г. апублікаваў грунтоўны, рэдкі паводле навуковай дакладнасці, каментар да тэксту[11].

Папулярнасць твораў К. Транквіліёна-Стаўравецкага, як і татальная забарона іх, у прыватнасці, у Маскве, — зусім не выпадковыя з‘явы. Яны вынікалі з нутраной сутнасці гэтых кніг, напісаных таленавітым майстрам слова, якія да таго ж знаходзіўся ў цэнтры тагачасных дыскусій, што адбываліся вакол актуальных філасофска-багаслоўскіх, сацыяльна-грамадскіх і маральна-этычных праблемаў.

К. Транквіліён-Стаўравецкі выказаў шэраг арыгінальных натурфіласофскіх ідэй, якія

набыткі нялічаныя пабраны
і ворагам іхнім
аддадзены ў рукі;
а ім адно шкадаванне
вечнае засталося,
і цяжкая цемра знянацку
іх агарнула.
О смерць, твае рухі гняўлівыя,
о смерць, твая сіла страшлівая,
ты нібы люты леў згаладнелы,
ты як разбойнік,
у нелітасцівасці закамянелы.

Кожны заможны
і дужы заможнасцю гаспадар,
згадаўшы пра смерць,
урэшце,
можа сказаць пра сябе:
о смерць,
раптоўна ты на мяне напала
і добрае ўсё
ты ў мяне забрала.
У доме маім учора
не начавала гора,
у доме маім бяседа
учора цякла, і беды
учора ў ім не днявалі,
але музы́кі ігралі,
але спевакі спявалі,
але танцоры скакалі,
дасціпнікі жартавалі,
бяседнікі балявалі.
А сёння — якая змена! —
не тое ўжо ў гэтых сценах.
Мой дом стаўся месцам плачу —
усё нехта ў ім перайначыў:
слёзы — замест іграння,
скаргі — замест спявання,
уздыхі замест скакання,
жалоба — замест весялосці,

ўрэшце аформіліся ў вучэнне пра найвышэйшы элемент светабудовы — Абсалюту (Бога), чатыры "сусветы" (паводле тэрміналогіі мысліцеля — "нябачны", "бачны", малы", "зласлівы"), а таксама два адмысловыя месцы — "вавілонскае" і "цудоўны нябесны Ерусалім".

Галоўны акцэнт *тэалагічных* разважанняў К. Транквіліёна-Стаўравецкага скіраваны на праблему спазнання Бога. Багаслоў у прынцыпе лічыў магчымым для праведнага верніка спасціжэнне нейкіх найважнейшых сутнасных праяваў Творцы, праўда, пры выкананні некалькіх умоваў, — найперш, сталага жыцця з "чыстым сэрцам", шчырасці памкненняў, пачуцця страху перад Госпадам і сваёй мізэрнасці перад ім. Сузіраць Бога хрысціянін можа, аднак, не ў нейкім "бурлівым духу", ці ў "полымі вогнішча" ("запальчивости огня"), як мерavailable паганскія філосафы, а выключна ў "тонкім, пакорлівым, ціхім і прасветлым духу"[12].

Спасціжэнне Абсалюту адбываецца праз словы, звычайныя тэрміны, што маюць, аднак, сімвалічнае значэнне. Гэта дазваляе пазбегнуць персаніфікацыі Бога. Так, на думку К. Транквіліёна-Стаўравецкага назоўнік"вочы", ужыты пры апісанні Госпада, сімвалізуе веданне Богам усіх рэчаў, якія ён стварыў; калі ж ужываецца назоўнік "ногі", дык ён азначае імгненнасць пераадолення Госпадам розных адлегласцяў, "ноздры" сімвалізуюць чуйнасць, "вусны" — розную сілу слова, "рамёны" — Божую сілу, "вушы" — здольнасць чуць усіх, хто звяртаецца з малітвай, "сон" — Божае доўгацярпенне, "старасць" — Божую спрадвечнасць і





смуткуюць і плачуць госці.
Прыйшла, хоць яе не клікаў,
смерць у мой дом вялікі.
Прыйшла і вялікага пана
не стала неспадзявана.
Зняла з мяне смерць уборы,
якімі хваліўся ўчора.
Паклала мяне да купы —
сярод смуродлівых трупаў.
О смерць, ты не маеш жалю
забрала мяне ты з балю
і, маладога, ўмярцвіла.
О смерць, ты з мяне ўчыніла
відовішча ўсяму дому,
усім, каму быў вядомы.
Сябры нада мною плачуць,
а ворагі рады скачуць.
Учора хадзілі за мною
слугі мае чарадою,
а сёння стаяць за кругам
хто я сябрам і слугам?
Труп, што смярдзіць, не болей.
Розныя нашы долі.
Яны насы затыкаюць,
мной грэбуюць, пагарджаюць.
Адно, што яны павінны,
у цёмную дамавіну
укласці мяне і зямлёю
цяжкою засыпаць, каб з ёю
змяшаўся я даастатку
і чарвяковаму статку
стаўся спажыткам урэшце:
наце, бярыце, ешце.
Чым быў я ўсім людзям любы,
о смерць, ты кідаеш на згубу.
Чым быў я прыяцелям мілы,
о смерць, ты кладзеш у магілу.
Заводзіш у тлустым целе
ты гнюсаў, каб цела елі.
Водарам са смуроду

вечнасць[13]. Абстрактныя назоўнікі, што традыцыйна ўжываліся для характарыстыкі Госпада — *свет, прамудрасць, жыццё, моц, існасць, бацькоўскасць, сыноўскасць, дух, тройца, адзінка, рух, стаянне, праўда, даброць* і інш. — паводле засцярогаў К. Транквіліёна-Стаўравецкага, нельга ўспрымаць літаральна. Бог ёсць святло, але не тое, якое ведаюць людзі, гэта "святло над святлом". Бог ёсць прамудрасць, але не тая, якую ведаюць людзі; гэта "звышпрамудрасць і найвышэйшы розум". У блізкім рэчышчы багаслоў паказваў і сутнасць астатніх дэфініцыяў. Пры вызначэнні Божых імёнаў К. Транквіліён-Стаўравецкі, бясспрэчна, абапіраўся ў сваім тэксце на Дыянісія Арэапагіта, ягоныя знакамітыя творы: "Пра Божыя імёны" і "Містычнае багаслоўе"[14].

Аналізу наймення Бога як "тройцы" і "адзінкі" багаслоў прысвяціў спецыяльны раздзел. К. Транквіліён-Стаўравецкі не бачыў супярэчнасці ў тым меркаванні, што Абсалют — адначасна "тройца" і "адзінка": Бог адзіны, але траякі ў сваіх іпастасях. Бог Айцец, Бог Сын і Бог Святы Дух роўныя між сабой, яны бясконцыя ў часе: "А в тых персонах Бозских, ведле присносущнаго бытія их, немаш не единой персоны первейшей и последней, но все три равны — без початку и без конца, предвечны и вечны"[15]. Тых, хто аддаваў перавагу нейкай з персонаў, багаслоў залічваў да паслядоўнікаў "ерэтыка" Арыя, бо менавіта ён упершыню ў гісторыі багаслоўскай думкі прапанаваў градацыю між Божымі персонамі. Разам з тым, кожная з іпастасяў адзінага Бога мае свае рысы, адметныя ўласцівасці, якія акурат даюць падставы гаварыць пра іх

значыш маю прыроду.
Што чыніш ты з прыгажосці?
Агідныя гніль і косці.
Што з велічы самай-самай?
Яна паглынута ямай.
Што з дужасці, поўнае змогі?
Кінута ўсім пад ногі.
Ты доступ да кожнага маеш,
нікога ты не мінаеш.
Вядзеш у панурую хату
са светлых палатаў магнатаў.
Піхаеш пад цеснае века
славутых гэтага веку.

Дзе сёння князі,
што гулялі,
наладжваючы паляванне
на птушак нябесных
і на звяроў зямных?
Усе пасыходзілі ў дол.
Дзе цяпер
цары знакамітыя, чыя ўлада
сягала на мноства земляў?
Там, дзе зямля
на царствы не дзеліцца.
Дзе ганарлівыя ваяры?
Пераможаны апраметнай.
Дзе прагавітыя рабаўнікі —
крумкачы
пабоішчаў страшных?
Усіх памкнула
смяротная сетка.
Дзе сёння раскошнікі і гулякі,
што ў гамане застольнай
пілі віно?
Занямелі
прыйшоўшы, у іх забрала
смерць гучную весялосць.
Дзе цяпер
тыраны і дэспаты,
што ў дзяржаве

"нязлучнасць", траічнасць у адзіным. Прыкмета Айца — ненароджанасць, Сына — народжанасць, Святога Духа — выпраменьванне, або зыходжанне. Такім чынам, К. Транквіліён-Стаўравецкі пазбягаў арыянства і ў той жа час адмяжоўваўся ад вучэння Савелія, паводле якога Божыя персоны не маюць адметнасцяў. Тры персоны злучаныя, знітаваныя ў адзінстве праз адначаснае суіснаванне, ніводная з іх не існуе паасобку. Падмацоўваючы свае тэзы спасылкамі на царкоўныя аўтарытэты — Яна Дамаскіна, Васіля Вялікага, Рыгора Назіянзіна і Аўгусціна, К. Транквіліён-Стаўравецкі мусіў, аднак, гаворачы пра неспазнаную таямніцу "тройцы", ужываць так званы экстатычны прыём — абсалютнай веры ў неспазнаную таямніцу без лагічных доказаў. Услед за Васілём Вялікім, які калісьці павучаў Яўномія, ён паўтараў: "О сей тайне больше не пытай, яко и самыи аггелове, херувими и серафими не поведят тебе о ней, но тылко простою верою, веруй в триипостасное Божество и не испытуй неиспытанного"[16].

Да першага нябачнага сусвету К. Транквіліён-Стаўравецкі залічваў свет анёлаў, або *"анёльскую бытнасць"*. Паводле ягоных дэманалагічных уяўленняў, анёлы створаны Богам у імгненне вока, у невымернай колькасці: іх лік вядомы толькі Госпаду. Колькасць анёлаў не ўзрастае і не памяншаецца, яны не нараджаюцца і не паміраюць. Анёлы не маюць плоці, іх нельга адчуць дотыкам, яны агнянosныя і самаўладныя, валодаюць выключнай сілай і неабмежаванымі магчымасцямі. Здольныя ў адно імгненне





наводзілі жах?
Пакліканы на суд Божы.
Дзе сёння
аздобнікі і красуны,
што золатам шытыя шаты насілі,
што маляўнічыя ўборы любілі
і мазаліся духмянай
парфумай старанна?
Ляжаць у трунах
згалелыя і смярдзяць.
Дзе сёння
самая важкая галава,
якую вянчала карона?
Адцята
мечам гняўлівай смерці.
Дзе сёння
скарбы, якія
збіраліся ў багацеяў?
З раптоўным прыходам смерці
рассыпаны і разабраны.
Дзе шафы, што зіхацелі
штукарствамі залатымі?
Ў хвіліну
распаліся з трэскам.
О чалавеча, ці скажаш сёння,
дзе твая пыха,
дзе гонар,
якія з цябе прамяніліся
і якія
наклікалі Божы гнеў
на тваю душу?
У смяротнай
вязніцы замкнёны разам
з тваёю душой.
Дзе палацы,
што роскашшу білі ў вочы,
дзе дарагія шпалеры,
што дзівавалі розум?
Гінуць, як гінулі,
і зямля
іх паглынае, як паглынала.

зруйнаваць усё, што пад сонцам. Перамяшчаюцца нібы бліскавіца або чалавечая думка. Без перашкод праходзяць праз усялякае цела, нават каменныя муры і жалезныя дзверы. Анёлы не абмежаваныя нейкім пэўным месцам жыхарства: яны паўсюль і ва ўсім. Між сабой яны абменьваюцца інфармацыяй без голасу і слова. Яны ўсе падобныя сваёй існасцю, але не роўныя, між імі існуе нейкая іерархія, вядомая толькі Богу[17].

Госпад пасля стварэння анёлаў раздзяліў іх сваёй воляй на 10 палкоў, над кожным з якіх, нібы мудры гетман, паставіў старэйшага, ці ваяводу. Дзесяты анёльскі полк на чале з Люцыферам неўзабаве схіліўся да злога і адпаў ад Бога. Астатнія дзевяць засталіся ў "Божай даброці і пры ласцы свайго Стваральніка"[18].

У адпаведнасці з функцыямі добрыя анёлы, згрупаваныя ў дзевяць хораў, ці палкоў, маюць наступныя назовы і ўласцівасці.

1. Анёлы *Троны* — знаходзяцца побач з Госпадам, напоўненыя яго святлом, ад якога прасвятляецца іхны розум, яны першыя і найбліжэйшыя слугі Бога;

2. *Херувімы* — маюць невымерны розум, паколькі сузіраюць дзівосную і велічную Божую прамудрасць;

3. *Серафімы* — шасцікрылыя, агняносныя знішчальнікі ўсякай цемры, маюць сярэднюю моц розуму, не могуць глядзець на высокі свет, што выпраменьваецца ад Госпада. Іхныя ногі сімвалізуюць скараходную моц разумнага бачання, а пёры — лёгкасць розуму;

4. Анёлы *Гаспадарствы* — вольныя ад працы сярод дольнага свету, не служаць матэрыяльным рэчам;

5. Анёлы *Сілы* — здольныя

Усё бяжыць
бегам бесперастанным,
нібыта цень
бязводнага воблака.
О чалавеча,
нашто заўзята
гонішся ўвесь свой век
за тым, што злавіць не можаш?
О так,
марнасць над марнасцю
усе справы,
што спраўджваюцца пад сонцам,
таўпеханне і паражнеча.

Цяпер
наблізімся разам з табою
змысловай наблізінаю
да трупаў.
Угледзься і пакажы,
дзе бацька тут,
дзе тут маці,
дзе іхнія дзеці,
якія памерлі,
свой век пражыўшы;
адрозні,
хто гэта — цар
ці жабрак,
грэшнік ці праведнік.
Не адрозніш
і не пакажаш: змяніла
смерць усе постаці
і змяшала
усе найменні.
Дзе сёння тыя
магутнікі, што хадзілі
у срэбры і ў золаце,
што сядзелі
высока на троне
і што былі
аточаны вартаю паслухмянай?
Нічога няма ўжо ад іх,

вытрываць моцнае, недаступнае для іншых святло;

6. Анёлы *Улады* — маюць агромністую ўладу ("власть их неудержанна") уладарным поглядам сузіраюць уладатворную моц Госпада, валодаюць бачнымі і нябачнымі рэчамі;

7. Анёлы *Пачаткі* — у вытокаў свайго быцця адразу ж скіравалі сваю зрокавую моц да першапачатковага свету, ("ненасытныя салодкасці ў светласці дзівоснага Боства");

8. *Арханёлы* — пастаўленыя над анёламі, духоўныя служкі Божых тайнаў;

9. Анёлы *Пасланцы* — пастаўленыя Госпадам блізу бачнага свету, зямнога жыцця. Да кожнай стыхіі Богам пастаўлены анёлы — вогненныя, водныя, паветраныя, зямныя[19].

Што да *Люцыфера*, або Святланосцы, дык тым авалодала пыха, і ён скіраваў на зло дадзенае яму Госпадам самаўладдзе, адступіў ад Божай ласкі разам з усім падпарадкаваным яму анёльскім палком. Ён пакінуў святло і перайшоў у цемру, ператварыўшыся з прыгожага і светлага анёла ў брыдкага і цёмнага Дэмана: "И вместо ангела светлого и красного, Демон тёмный и шпетный стался"[20]. Прыняўшы цемру, Д'ябал навекі прывязаўся да яе. Ён разам са сваім злым палком апанаваў тры месцы: паветраную прастору над водамі, зямлю і апраметную бездань пад зямлёю. Паўсюль яны чыняць паганыя справы, прыносяць шкоду чалавеку. Яны спакушаюць людзей, каб зрабіць іх сваімі слугамі. Праўда, часам людзі самі, праз грэх, трапляюць да воржаў у няволю.

Арыгінальныя ідэі К. Транквіліён-Стаўравецкі выказаў, характарызуючы *другі ("бачны")*





адно —
голыя косткі,
агідныя чарвякі,
ліпкая павуціна.
Усё толькі сон і ўява,
усё толькі цень і дым,
што ў паветры
затрымліваецца на хвіліну
і неўзабаве развейваецца,
нішто,
удыхнутае ў абалонку.
Марнасць над марнасцю
і паражнеча
справы і з'явы
гэтага свету.
Таму, чалавеча,
распазнавай мінлівасць
і нетрываласць
веку зямнога:
тваё жыццё
кароткае ў ім,
і да марнасцяў звабных
ты не прывязвайся,
але пільна
шукай і трымайся моцна
вартасцяў вечных — і будзеш
жывы заўсёды.

Я расказаў вам пра марнасць,
таўпеханне
і паражнечу,
справы і захапленні
людскога роду,
што ўжо мінуў.
Цяпер жа
душаратоўнае слова
скіруем да тых, што таксама
тонуць у марнасці,
што тойсамай
грахоўнаю слодыччу зваблены,
што працуюць

*сусвет*, да якога ён адносіў пяць стыхій: агонь-святло, паветра, ваду, зямлю і "нябесны круг".

Фармальна не адмаўляючы крэацыянізму — аднаактовага стварэння Зямлі (гіпотэзы не горшай і не лепшай за існуючыя раней і створаныя пазней), ён зазначыў, што дакладна і адназначна вырашыць пытанне пра ўзнікненне Зямлі, прасачыць канкрэтныя шляхі і этапы яе развіцця немагчыма. "О постановленю еи (Зямлі. — І.С.) і утверженю, трудно кто может выповести"[21]. Ужо тут К. Транквіліён-Стаўравецкі адмовіў царкве ў манапольным праве на абсалютную ісціну біблейскага тлумачэння стварэння Зямлі і выказаў слушную перасцярогу пазнейшым вучоным, якія ў наступныя стагоддзі будуць ваяўніча абараняць свае ўласныя гіпотэзы.

Услед за "прамудрымі філосафамі" К. Транквіліён-Стаўравецкі лічыў, што Зямля з'яўляецца круглай, "яко яблоко". Своеасаблівы погляд выказаў Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі на будову атмасферы і Зямлі. У прыватнасці, ён геніяльна прадказаў знаходжанне ў сярэдзіне Зямлі распаленага рэчыва — магмы (грэцк. magma — цеста, месіва), прывёўшы ў якасці неабвержнага аргумента свайго меркавання існаванне вулканаў і гейзераў. "Суть в посредку Земле, — пісаў ён, — места огнистыи, реченыи вулканы. Поневаж огнь, разделен на все стихіи. И если трафит воде проход близко вулкана и каменія распаленого, тогда загревается вода и з горячостью выходит"[22]. Гэтая думка К. Транквіліёна-Стаўравецкага зусім не супярэчыць сучаснай навуцы аб Зямлі, яна цалкам пацвярджаецца і навейшымі геалагічнымі адкрыццямі[23].

і ўдзень, і ўначы на грахі,
што ў абжорстве,
у п‘янстве,
у блудзе,
нечысціні
пасвяцца колькі змогі;
што прагай
багацця спакушаны
і з душой
захоплены срэбралюбствам.
Такія людзі
не думаюць і не дбаюць
пра тыя чатыры брамы,
якія ўжо іх чакаюць
і праз якія
часінаю невядомай
пойдуць яны адгэтуль
да іншай сялібы
вечнай.

Не думае і не дбае
такі чалавек ні аб смерці,
якая пільнуе яго,
ні аб страшным
Божым судзе,
ні аб вечных
пакутах пякельных,
ні гэтаксама —
аб царстве нябесным,
бо д‘ябал
хітры спакуснік
і ён перш-наперш
крадзе ў чалавечых душаў
памяць пра гэта
і напускае
на іх забыццё,
а саміх светалюбцаў
і грахатворцаў у пачуццё
бясстрашнасці ўводзіць.
І той, хто граху дагаджае
і д‘яблу слугуе,

Бадай што самымі цікавымі ў натурфіласофіі К. Транквіліёна-Стаўравецкага з‘яўляюцца яго ідэі аб эвалюцыйным шляху развіцця жыцця на Зямлі. Так, філосаф быў абсалютна пераканаты ў тым, што на першых этапах свайго існавання ўся Зямля была пакрыта вадою і толькі пазней, пад уздзеяннем сонечнага цяпла, на ёй узнік жывёльны і раслінны свет. “Вначале, — пісаў ён, — Земля покрыта была водами, а кгды ся воды повеленіем Божіем зобрали в одно место, тогды уступуючи от Земле, починили долы и горы по всей Земли”[24]. І ў другім месцы: “Або вем: тогды Земля была посреде вод неведома, яко желток в посредку яйца, но повеленіем Божіем, збеглися воды в низины, на едино место. Тогда Земля явилася яко сухая реч: черна, шпетна, яко неякое багниско, мокротна, нага и неукрашена. Аж ю Солнце променями своего света осветило и загрело. И тогды, повеленіем Божіем, пріяла силу ражительную и растительную и проросла травами, и различными цветы от естества своего произвела, и семена плодоносніи, и древа”[25].

Аддаючы даніну традыцыі і, як правіла, падкрэсліваючы, што ўсё адбывалася “Божай воляй”, К. Транквіліён-Стаўравецкі пры гэтым не прымаў асноўных, сутнасных палажэнняў міфалагічнай канцэпцыі стварэння жыцця на Зямлі. Гэта пацвярджае і яго вывад аб тым, што ўсё жывое — рыбы, птушкі, жывёлы — утварылася ў вадзе: “И наперве й, повеле Бог воде, да изведе душу живу, рибы, китов великих и балень множество и гад всякій в водах, и птице по воздуху летающіи — вся сія от воды сотворены суть”[26]. Ад гэтага сцверджання





аб смерці не думае
і не баіцца
пякельных пакутаў
і аб нябесным
царстве не дбае.
Ёсць і такія, што кпяць
і пасміхаюцца крыва,
калі ім згадаеш пра гэта,
а д‘ябал
цешыцца і агіду
да веку наступнага
ў іх абуджае.
Затое
уцехай і асалодай
ім выстаўляе цяперашні век,
дзе смутак,
дзе плач
і скаргі,
дзе воржы
лютыя ворагі
роду людскога
і згубцы
збавення людскога —
блукаюць, закідваючы на нас
хітрамысныя сеткі,
каб светалюбцаў ды грахатворцаў
імі злавіць і смерцю,
злавіўшы, ўмарыць.
Так воржы,
поўныя здрадных намераў,
людзям някемлівым выдаюць
гарчэчу за слодыч,
змрок за святло
і смерць за жыццё.
Дзе ўсё змена,
плач,
уздыханні,
марнасць,
малюе зламысны д‘ябал
гэта сваім ахвярам
слодыччу і раскошай

заставаўся адзін крок да прызнання таго, што і чалавек, як і іншыя жывыя істоты, узнік у выніку эвалюцыйнага развіцця прыроды. У нейкай ступені К. Транквіліён-Стаўравецкі зрабіў гэты крок, прыйшоўшы да высновы, што чалавек складаецца з тых жа элементаў, з якіх утвораны і ўсе астатнія рэчы ў прыродзе. “И о се подобает ведати, — пісаў ён, — яко человек составом своим имеет причастіе або участицтвом и сполкованя до вшелякого створеня: земли — плотію, воде — кровію, дыханіем — воздуху, теплотою — огневи, древу — растительною силою, безсловесным — яростю и пахотеніем, бездушным — ногты, власы — сих хотя й режут, не чуют болю”[27]. Пры ўсім відавочным схематызме, абстрактнасці і пэўнай наіўнасці гэтага тлумачэння, у ім, усё ж такі, выказана прынпыпова новае разуменне ўзаемаадносін прыроды і чалавека, сутнасць якога ў тым, што між імі існуе непарыўная лучнасць, пераадолець якую чалавек не ўстане, бо ён з’яўляецца неад’емнай часткай прыроды, адной з яе мнагастайных формаў.

У “Зярцале Багаслоўя” К. Транквіліён-Стаўравецкі ці не ўпершыню ў літаратуры распавёў пра кругаварот вады ў прыродзе, вытлумачыў прычыны акіянічных цячэнняў і даў бліскучае навуковае тлумачэнне ўзнікнення прэснай вады: “Но и се ведати подобает, откуда сладкая вода течет, поневаж вся стихія слана ест с прироженя. Напрод то уважати потреба, иж вся Земля дери в себе имеет, яко неякіи жилы. В мори зась суть таковы и места, еврепины альбо пупы и пропасти, которими вода впадает внутрь Земле и расходится по жилах и дерах оных. И так идучи сквозе

і так
зваблівае хлуснёю
іхнія душы
і ў будучым веку
ім не дае паглядзець ні трохі
на вечную радасць,
калі міраванне
царуе ўсюды
і ўсюды любоў, якая
з'ядноўвае чалавека
з Богам і са святымі
анёламі.
Але д'ябал
спачварвае рэчаіснасць
і гэта
ад светалюбцы крадзе,
хавае ад грахатворцы.
Той будучы век шчаслівы
паказвае д'ябал векам
жалобы і скрухі
і ад яго
так адварочвае малавераў.
Падвучвае д'ябал
свайго навучэнца: навошта
спяшацца табе з пакаяннем,
лепей
адкласці яго на заўтра,
а сёння
займіся чым цікавейшым.
У Бога дзён многа
заўсёды
пакаяцца зможаш,
і многа
на пашы ў мяне
разнастайных рэчаў,
якія чакаюць тваёй увагі.
Хіба ты стары
і схілак
гадоў тваіх блізкі?
Ты ў росквіце, дык не губляй
у марных развагах часу,

землю, грубость горкости и солоность в земли оставует. Тилко тонкая и сладкая вода исходит жрудлами. Паки же от источников составляются реки и озера. И тако посреде гор проходят воды и зась в море обрашаются"[28].

Апрача таго, за 69 гадоў да Н'ютана[29], якому ў гісторыі навукі адведзена месца першаадкрывальніка прычын марскіх прыліваў і адліваў, беларускі натурфілосаф ужо ў другім дзесяцігоддзі XVII ст. геніяльна прадугадаў, што прылівы і адлівы з'яўляюцца вынікам узаемадзеяння Месяца і Зямлі. Праўда, К. Транквіліён-Стаўравецкі не адказаў на ўсё кола пытанняў, звязаных з прылівамі і адлівамі; ён не выявіў колькасных заканамернасцяў сіл прыцяжэння паміж планетамі і рознымі касмічнымі целамі і, канечне, не сфармуляваў закона сусветнага прыцяжэння, што, як вядома, зрабіў пазней Н'ютан, але ў сваім "Зярцале Багаслоўя", надрукаваным у 1618 г., ён адназначна заявіў, што прылівы і адлівы — гэта вынік прыцяжэння Зямлі Месяцам. Аб гэтым недвухсэнсава сведчаць яго наступныя словы: "Друго порушеня мают воды морскіи. Тое парушеня часто видают тыи, что над морам живут"[30].

Глыбінёй вылучалася вучэнне К. Транквіліёна-Стаўравецкага аб *чалавеку* — трэцім, "малым" сусвеце. Галоўным дасягненнем асветніка ў галіне філасофскай антрапалогіі з'яўлялася распрацоўка важнейшых гнасеалагічных пытанняў. У "Зярцале Багаслоўя" ён сфармуляваў прынцыповыя палажэнні навейшай тэорыі пазнання; вызначыў дзве асноўныя ступені спасціжэння чалавекам свету — ніжэйшую на ўзроўні пяці органаў пачуццяў (смаку, нюху,





ідзі і каштуй
пачастунак жыцця
на пасвішчах нашых.
Будзеш стары — тады
кайся, калі захочаш.
А састарэе бядак — вядзе
д'ябал яго
да смяротнага ложа,
кажучы па дарозе:
ты можаш
каяцца і лічыць
грахі свае проста
на ложы смяротным.

О чалавеча грэшны,
не слухайся здраднай
д'ябалавай рады —
не адкладай да заўтра
свайго пакаяння.
Бо ведаць не ведаеш,
калі смерць
спаткае цябе праз тыдзень,
праз дзень,
а мо праз гадзіну, а мо
калі заспявае певень,
і вось
да старасці не дабудзеш
і што хацеў здзейсніць —
не здзейсніш.
Дык не марудзь з пакаяннем,
не адкладай на потым,
як раяць воржы.
У старасці час не гэткі,
які быў у маладосці:
кароткі — бы дзень узімку,
няроўны — бы сцежка ў лесе,
і шпаркі бы птушка ў небе.
А смерць
не толькі ў канцы дарогі,
якой мы ідзем, чакае,

слыху, зроку і датыкання), з якіх пачынаецца працэс пазнання, і вышэйшую — з дапамогай розуму і абстрактнага мыслення.

К. Транквіліён-Стаўравецкі стварыў узнёслы гімн чалавечаму розуму, гэтай, паводле яго слоў, наймагутнейшай, нічым не абмежаванай і вечнай моцы чалавечага духу, якой падпарадкоўваюцца ўсе астатнія сілы чалавечай душы: воля, памяць, разважлівасць, любоў, даброць і інш. "Яко в небесі, — натхнёна пісаў ён, — в свете неприступном живет Бог невидимый, самовластный, безсмертный, всеведущій, так и в горней части человека, в главе, в белом и безкровном мозгу — ум невидимый, самовластный, безсмертный, вечный, многозрительный, самая преднейшая сила души, которій есть кшталтом и образом неведомого Бога!"[31]. Такім чынам, чалавечы розум — гэта вобраз Бога, з чаго вынікала — чалавек, дзякуючы свайму розуму, тоесны самому Богу. У дадатак да гэтага К. Транквіліён-Стаўравецкі вучыў, што воля чалавека і яго розум свабодныя; не ад Божага наканавання, а ад уласнага выбару чалавека, "самаўладдзя" ды "разважлівасці", залежаць яго дзеянні і лёс.

Важны момант антрапалогіі К. Транквіліёна-Стаўравецкага — вучэнне пра даброці, дараваныя людзям Госпадам: тры бачныя і пяць нябачных. Да ліку бачных Божых дароў ён адносіў самаўладдзе душы, здольнасць чалавека да свабоднага выбару паміж дабром і ліхам. Другі Божы дар — зямное цела, створанае як абалонка несмяротнай і вечнай душы, каб яна праз увесь час жыла ў пакорлівасці ды спадзявалася на Божую ласку,

аднак жа суправаджае
заўжды нас, на ўсёй дарозе,
і ўладу сваю прасцірае
на ўсе гады і гадзіны
нашага бытавання.
І ў маладога
здароўе, здараецца, адбірае;
здараецца, што й старому
звязвае, як немаўлятку,
язык: нешта хоча
сказаць, але ўжо не можа;
і розум,
здараецца, чалавеку
цемраддзю акрывае.
А пакаянне
і сэрца разжаленае
дарунак,
які далёка не ўсім
у хваробе іхняй
даецца Богам.
Не маюць
дарунку такога людзі,
якія ім пагарджалі,
якія яго адцуралі,
калі былі ў дужасці і ў здароўі.
Таму згодна з Божым
судом справядлівым,
хто якім быў у жыцці,
і ў смерці
такім апынецца,
і хто
з грахамі прыязніўся
і патрэбы
у пакаянні не меў,
той мае
памерці ў грахах таксама.
У чым чалавека
смерць застае     тым Бог
і судзіць яго: таму
адны заслугоўваюць
вечнай пакуты,

а не ўзносілася ганарліва дзеля свайго высокага паходжання. Каб душа ведала пра ўсё, што дзееца пад Сонцам, Бог стварыў у несмяротным целе пяць "ваконцаў" — зрок, дотык, слых, нюх і смак. Трэці бачны Божы дар — пасяленне чалавека на тым месцы, з якога выпалі анёлы. Усё зямное жыццё, жывёлін і гадаў, Госпад стварыў, каб яны служылі чалавеку: дрэвы давалі плады, моры — рыбу, зямля — скарбы, месяц служыў вымярэнню часу, сонца было крыніцай святла. Святы абавязак чалавека не пераходзіць межы сваіх запатрабаванняў, разумна карыстацца Божымі дарамі. Інакш яго спасцігне пакаранне, замест карысці й дабра ён знойдзе шкоду, напасці ды непамыслоту: "И розумною душею заживай тых даров Бозких, абысь в них не заблудив в тму греха. Знай же, яко огнь тебе служит, загревает, просвещает, а если безмерне глупе будешь заживати, тогда тебе принесе шкоду и смерть. Так же и вода — напавает, очищает, загревает и прохлаждает, а если еи дурно, над замер заживаеш, то принесет тобе шкоду и смерть. Тож розумей и о инъших стихіях и родах земных: що над меру — то грех"[32].

Нябачныя Божыя дары, паводле навукі К. Транквіліёна-Стаўравецкага, наступныя:

1. Госпад праз свайго адзінага Сына выбавіў людзей з "няволі д'ябальскай", з цемры граху і вечнай смерці;

2. Зрабіў людзей, якія ўжо сталі нявольнікамі Д'ябла, сваімі сынамі, найперш, праз таемства Хрышчэння;

3. Прасвятліў чалавечы род святлом Евангелля, якое ёсць нябесная прамудрасць;





другія — у вечнасць
прысвечанага жыцця.

Зазначым прытым, што старасць
зусім не садзейнічае пакаянню;
наадварот, цяжарам
кладзецца на чалавека:
больш немачы ў ім, чым сілы,
больш боязі, чым адвагі,
і іржавыя спакусы
кладуць перад ім перашкоды,
якія ці здолее небарака
адолець     бо й часу нямнога
ён мае на гэтым свеце
і мусіць душа неўзабаве
цела пакінуць.
А на смяротным
няпэўным ложы
і час як не час     няпэўны.
Вунь, ужо смерць ідзе
і вядзе
на цела тваё чараду хваробаў,
а д'ябал зласлівы
гурму спакусаў
вядзе на тваю душу.
Калі ж азірнешся
назад, на жыццё, якім жыў,
дык убачыш:
ідзе за табою ў абліччах,
бы ў дэманаў, страшных
мноства тваіх грахоў,
каб з'явіцца
разам з табою на страшным
Божым судзе.
Ты іх забаішся,
і засаромеешся,
і адвернеш
вочы свае ад іх.
А скіруеш
у правы бок     вось жа,
убачыш анёлаў Божых,

4. Даў людзям самога сябе, сваё цела і кроў у выглядзе хлеба і віна;

5. Прыняў смерць на крыжы за грэшны людскі род, выпіў горкую чашу за нашае выратаванне[33].

На антрапалогію беларускага філосафа вызначальны ўплыў, бясспрэчна, аказалі Васіль Вялікі ("Шасціднеў")[34] і Рыгор Ніскі ("Пра чалавека")[35].

У шэрагу казанняў К. Транквіліёна-Стаўравецкага дамінавалі эсхаталагічныя матывы. Істотны момант ягонай эсхаталагічнай дактрыны — прыхільнасць да ідэі чатырох брамаў, якія наканавана пераадолець чалавеку: смерць, Божы суд, геенскія пакуты для грэшнікаў і нябесныя царскія вароты для праведнікаў.

Тэма смерці распрацоўвалася пісьменнікам асабліва дэталёва. Ён нагадваў чытачу пра ўсеўладнасць смерці, яе здольнасць імгненна ператвараць весялосць у смутак, спакой у адчай, музыку ў стогны.

*"Вчера в дому моем слышано было*
*веселя роскошное,*
*утеха музыков, играня,*
*радостное спеваня*
*скоки, танци, плясаня,*
*а ныне плач и стогнаня*
*в дому моем явися, смерть пришедши,*
*веселіе мое отняла*[36]

Смерць замест парфумаў нясе смурод; пекнасць і прыгажосць ператварае ў брыду і пачварнасць ("шпетнасць"); з яе прыходам выяўляецца і сапраўднае стаўленне да памерлага людзей, што пры жыцці былі поплеч з ім.

К. Транквіліён-Стаўравецкі намаляваў каларытныя сцэны смерці грэшнікаў і праведнікаў. Смерць для распуснікаў, клятваадступнікаў, срэбралюбцаў і іншых грэшнікаў —

якія з цябе пасміхаюцца,
кажучы: не разумее
гэты бядак-чалавек
годнасці чалавечай,
што неразумнай
скаціне ўпадобіўся.
А зірнеш
у левы бок ад сябе, убачыш
жахлівых істотаў д'яблаў,
што, быццам галодныя львы,
чакаюць
душы тваёй,
і здрыганешся
душою, яшчэ жывою.
І вочы падымеш
у неба, увышыню
ды Ўсявышні
Бог, справядлівы суддзя,
ад цябе
адвернецца найсвятлейшым
сваім абліччам.
І ты
славы яго засаромеешся
і забаішся,
і вочы апусціш долу
але і тут
цябе чакае-падсцерагае
жахлівае:
перад табою
стаіць са сваёю касою
грозная смерць,
пад табой
сярністым агнём бушуе
бяздоннае пекла.
І так
у роспачы,
у грахах,
змарнаваўшы
магчымасці пакаяння,
грэшнік
смерцю бясслаўнаю памірае,

невыносная пакута. У момант разлучэння душы з целам грэшнік бачыць праваруч Божых анёлаў, якія смяюцца і прамаўляюць: “Не ведаў годнасці — стаў скацінай”[37]. З левага боку да яго набліжаюцца злаславыя д'яблы, якія, нібы галодныя львы, чакаюць яго душы. Уверсе грэшнік бачыць, як Суддзя адварочвае свой твар ад яго. Унізе — стаіць Смерць, як люты кат, а пад ёю пекла і бяздоннае мора сернага агню”[38].

У такіх жахлівых умовах памірае грэшнік — у роспачы, без пакаяння. Да яго прыходзяць д'яблы, гвалтам выдзіраюць душу і нясуць яе ў цёмныя месцы. Там яна ў пакутах будзе сядзець з дэманамі да Суднага дня.

Праведнік пакідае зямное жыццё інакш. Ён адыходзіць з вясёлай душой, усцешаны тым, што развітваецца з “домам цямніц”, “тварам няпраўды”, “цемрай граху”, “дэманскім асяродкам”. Яму спадарожнічае вяселле і радасць з нагоды выхаду з “няволі Егіпта”, з “грэхатворнай краіны”; перасялення ў “зямлю абяцаную”, у “нябесны Ерусалім”, да сваёй “вечнай і радаснай Айчыны”[39].

Тых, хто запытае, адкуль вядома пра тое, як памірае праведнік, К. Транквіліён-Стаўравецкі адсылаў да Лукі (16:22—23), дзе распавядалася пра смерць праведніка Лазара. Сцэны смерці грэшнікаў і праведнікаў, намаляваныя К. Транквіліёнам-Стаўравецкім, пэўна, не маюць аналагаў ва ўсім старабеларускім пісьменстве.

Божаму Суду папярэднічае шэраг знамянальных падзей — прыход Антыхрыста, зруйнаванне гэтага свету вогненнай плынню, пакаранне Антыхрыста і яго слуг, стварэнне новых нябёсаў і новай зямлі, нарэшце,





а д'яблы —
лютыя каты
прыходзяць і гвалтам
душу з яго выдзіраюць.
І потым яе заносяць
у цёмныя нетры,
і там
яна бытуе ў пакутах
да суднага дня.
Такі, варты жалю,
канец грахатворцы,
што памірае без пакаяння.
Таму, чалавеча,
не адкладай да заўтра,
да старасці
ці да смяротнага ложа,
як радзяць зламысна воржы,
свайго пакаяння.
Але цяпер,
адкладу не чынячы,
кайся
разжаленым сэрцам
і абмывай слязамі
грахі свае,
і рассыпай
міласцінамі — пакуль
цябе не паклічуць анёлы
на Божы суд.

Нам кажуць
падзеі вякоў старажытных,
як перад самым патопам
людзі пілі і елі,
скакалі, ігралі,
цешыліся і ахвоту
да ўцехаў сабе дадавалі,
але нечакана
вялікай вадою патопу
змыты былі з аблічча
зямлі;
гэтаксама

усеагульнае ўваскрашэнне і станаўленне перад Божым абліччам. У кожны з названых традыцыйных хрысціянска-міфалагічных сюжэтаў К. Транквіліён-Стаўравецкі прыўносіў новыя мастацкія дэталі, адметныя тлумачэнні і павароты думак. Асабліва яркія і непаўторныя карціны ўваскрашэння праведнікаў і грэшнікаў.

Вось што, паводле меркавання багаслова, чакае праведнікаў.

Калі затрубяць анёлы, узрушыцца іх прах і астанкі ў магілах. Раскіданыя косці збяруцца, іх абцягнуць жылы і пакрые скура: “Тогда аггелове затрубят... в той час подвигнет ся прах сущій въ гробе; и розсыпани кости къ исцеленію; и кость до кости и жилы; и покриют ся кожею, або телом[40].

Святыя анёлы збяруць у адзінае цела, разнесеныя звярамі і птушкамі косці і рассыпаны прах, усё звяжуць жыламі і абцягнуць скураю. А душу нябачную сам Госпад Бог, Стваральнік наш, злучыць з целам уладаю Боства свайго[41].

Хрыстос уваскрэсіць усіх адданых яму вернікаў, прычым у дасканалым выглядзе — без хваробаў і цялесных пашкоджанняў, ад якіх людзі пакутавалі ў зямным жыцці. На іх целе застануцца толькі сляды колішніх ранаў, як вечны напамінак: “И такъ въскресит праведных и верных своих в целых телах: безрукого зе двема рукама, и ногами; едноокого зе двема очима...”[42].

Уваскрэшаныя людзі будуць пазбаўленыя ўсіх “плюгаўстваў”, што ідуць праз цела, як, напрыклад, пот, малако, семя. Застануцца нутранасці, якія напоўняцца “салодкімі вонясцямі”. Што да пачуццяў, дык

чыніліся і ў Садоме
падобныя справы,
і грэх
разрастаўся беспакарана
і звычкай
людскою рабіўся,
але зняңацку
сярністым агнём з нябёсаў
былі спапялёны
нячыстыя грахатворцы.

Таксама былі пакараны
трое князёў габрайскіх:
Дафон, Авірон і Карэй;
яны не чакалі смерці,
але расселася раптам
пад імі зямля і жывымі
іх паглынула пекла.

Таксама
Елізавель-царыца
думала не пра смерць,
а пра чары і пра залёты,
аднак мінуў дзень
і з'елі
яе сабакі.

І багацею
было напярэдадні сказана,
што ўначы
вырвуць душу з яго цела
анёлы смерці, а ўсім,
што ён назапасіў, будзе
валодаць другі.

Калі гэткай
раптоўнаю смерцю людзі,
згаданыя тут,
паміраюць,
дык мы не павінны
вочы заплюшчваць і думаць,

яны застануцца, як і вочы, вушы, вусны, язык, ноздры, рукі.

Усе ўваскрэшаныя праведнікі будуць людзьмі аднаго веку; і старыя і маладыя ў Хрыстовым веку, трыццаці гадоў[43].

Мужчыны і жанчыны пазбавяцца юру і пажадлівасці, між імі пачнуцца выключна духоўныя адносіны.

Уваскрэшаныя целы атрымаюць новыя якасці: яны змогуць бесперашкодна пераадольваць каменныя муры і жалезныя брамы, імгненна пераадольваць любыя адлегласці, апынацца там, дзе пажадае душа: "Где едно душа разумная позволит, там тело заразом въ мгновенію ока станет"[44].

Грэшнікі гэтаксама ўваскрэснуць, выйдуць з магілаў сваіх. Аднак целы іх будуць чорныя і гідкія, смуродлівыя, "як гнілыя псы". Грэшнікі, у адрозненне ад праведнікаў, уваскрэснуць у непрывабным выглядзе з усімі фізічнымі і цялеснымі хібамі, якія мелі ў зямным жыцці — бязрукія, бязногія, сляпыя, паршывыя, шалёныя: "А тыи все грешныци воскреснут и выйдут из гробов своих в темных телах шпетны, яко муринове, и смродливых яко псы згнилыи; полны темности адскои и смрадов. У своих уломностях станут и покажут ся и безърукии и безногии, слепыи и сведроокіи, трудоватіи и паршивіи, бесноватіи и шаленіи, и французоватіи"[45].

Не парываючы з хрысціянскай традыцыяй, К. Транквіліён-Стаўравецкі стаяў усё ж такі на прынцыпова новых ідэйна-тэарэтычных пазіцыях, чым яго многія папярэднікі і сучаснікі. Ён, наколькі дазвалялі абставіны, улічваючы ўсе дасягненні еўрапейскай навукі, імкнуўся растлумачыць эвалюцыю зямнога жыцця, выявіць





што мы неўміручыя,
і адкладаць
сваё пакаянне да заўтра,
да старасці
ці да смяротнага ложа,
як вушчаць
нам ашуканцы-воржы.

Павінен, аднак,
хрысціянін-вернік
ведаць і разумець,
што з некім
другім чалавекам
здараецца, тое можа
здарыцца неспадзеўна
і з ім самім.
Бо такое слабае
і нетрывалае наша цела,
што часам
хопіць аднюткай
заразнай кроплі,
якая з паветра ўпадзе незаўважна,
каб смерць
чалавеку прынесці.
О сумятлівы
і хапатлівы спадару,
хіба не грахамі
ты кормішся?
Нібы камень,
што коціцца шпарка з гары,
мы такім жа
шпаркім няспынным бегам
бяжым да смерці.
І што не бачна
нам на сабе, тое добра
відаць на суродзічах нашых:
учора яшчэ размаўлялі з намі,
а сёння ляжаць у цёмнай
труне маўкліва.
Няхай жа ім дапаможа
цяпер іхні гонар —

заканамернасці розных прыродных з'яў, раскрыць асаблівасці чалавечага розуму, сэнс чалавечага быцця.

**Іван САВЕРЧАНКА**

## Спасылкі

[1] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сія книга нарицаемая Зерцало Богословіи, избрана от многих книг Богословских, и трудолюбием съставлена іеромонаха Киріла Транквиліона, проповедника Слова Божіа [1618].

[2] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Евангеліе учителное, албо Казаня на неделія през рок и на праздники Господскіе, и нарочитым святым угодником Божіим. Съставлена трудолюбіем іеромонах Кирилла Транквиліона, проповедника Слова Божого. [Б.м.] 1619.

[3] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сія книга названая Перло многоценное. Съставленна трудолюбіем през Киріла Транквеліона и проповедника Слова Божія. 1646. Спасылкі тут падаюцца паводле нямецкага перавыдання: Trankvilion Stavroveckij K. "Perlo mnochocennoje" Köln; Wien; Böhlau. 1984.

[4] Ліст Ф. Скуміна да Львоўскага брацтва з просьбай прыслаць выкладчыка "славянскай" і грэцкай моваў, датаваны 8 студзеня 1592 г Апублікаваны ў кн.. Архив Юго-Западной России. Ч.1 Т 10. С.79—83.

[5] Цяпер рукапіс гэтага перакладу захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Масква), фонд Чарткова, № 223. Гл. Описания рукописей собрания Черткова / Сост М.М. Черниловская, Э.В. Шульгина. Новосибирск. 1986. С. 54—55.

[6] Адзін з спіскаў "Світка дакораў" захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Масква), фонд Сінадольнай б-кі № 294. Гл.. Горский А.В., Невоструев К.И. Описание славянских рукописей Московской Синодольной библиотеки. Отд. 2. Кн. 3. М., 1862. № 294.

[7] Собрание государственных грамот и договоров. М., 1822. Ч. 3. № 77 С. 298.

[8] **Макарий.** История русской церкви. СПб., 1882. Т XI. Кн. 2. С. 337—339.

[9] **Маслов С.И.** Кирилла Транквиллион-Ставровецкий и его литературная деятельность. Киев, 1984 (гэтае даследаванне было ажыццёўлена напачатку XX стагоддзя).

[10] **Trankvilion-Stavroveckij K.** "Perlo

ён быў вялікі;
няхай жа цяпер паспрыяе
ім іхняя слава —
яна лунала высока;
няхай ім цяпер паслужыць
раскоша, што іх акружала, —
яна была адмысловай;
няхай іх цяпер накормяць
ласункі-лізункі;
няхай напояць
напоі салодкія;
хай аздобяць
уборы святлістыя
і надухмяняць
пахошчы!..

Нямы, страхотны,
і ты неўзабаве ляжаш
у цёмную яму
смярдзець і ежай
быць чарвякам нікчэмным.
Таму дарма ганарышся
і хвалішся сваім царствам,
сваім багаццем,
сваёй прыгажосцю і моцай,
сам — куфар нечысціні,
сам    кораб гнілечы,
сам — гляк смуроду.
Кім ёсць ты на справе самой,
тым урэшце
і апынаешся: недарэчнай
і не патрэбнай нікому рэччу,
заразным тленам,
гнілою зямлёю.
Такі вось канец
грэшнага чалавека:
усё абяцалі яму грахі,
а ўсё ў яго ўрэшце забралі.
Таму, адкладу не чынячы,
людзі, о людзі,
пакайцеся шчыра ўжо сёння,

mnohocennoje" 1 Texbd. Köln; Wien; Böhlau. 1984.

[11] **Trankvilion-Stavroveckij K.** "Perlo mnohocennoje. Bd. 2. Kommentar Köln; Wien; Böhlau. 1985.

[12] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сіа книга нарицаемая Зерцало Богословіи. Арк. 2.

[13] Тамсама. Арк. 5—5 адв.

[14] Гл.. **Дионисий Ареопагит.** О божественных именах. О мистическом богословии / Тексты, пер. с греч. СПб., 1994.

[15] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сіа книга нарицаемая Зерцало Богословіи. Арк. 8.

[16] Тамсама. Арк. 7 адв.- 8.

[17] Тамсама. Арк. 21—22.

[18] Тамсама. Арк. 22—22 адв.

[19] Тамсама. Арк. 22 адв.—24 адв.

[20] Тамсама. Арк. 26 адв.

[21] Тамсама. Арк. 34 адв.

[22] Тамсама. Арк. 34.

[23] Наука и Человечество. М., 1980. С. 351—352.

[24] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сіа книга нарицаемая Зерцало Богословіи. Арк. 35.

[25] Тамсама. Арк. 32.

[26] Тамсама. Арк. 34.

[27] Тамсама. Арк. 40.

[28] Тамсама. Арк. 33—33 адв.

[29] Твор І. Н'ютана "Матэматычныя асновы натуральнай філасофіі" быў надрукаваны ў 1687 г

[30] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сіа книга нарицаемая Зерцало Богословіи. Арк. 33.

[31] Тамсама. Арк. 40.

[32] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сіа книга названная Перло многоценное. С. 16.

[33] Тамсама. С. 19—20.

[34] Гл.. **Василий Великий.** Творения. В 4 томах. М., 1993. Ч. I.

[35] Гл. **Нисский Григорий.** Об устроении человека /Пер., прим. и послесловие В.М. Лурье. СПб., 1995.

[36] **Транквіліён-Стаўравецкі К.** Сіа книга названная Перло многоценное. С. 198.

[37] Тамсама. С. 202.

[38] Тамсама. С. 202.

[39] Тамсама. С. 204—205.

[40] Тамсама. С. 232.

[41] Тамсама. С. 232.

[42] Тамсама. С. 233.

[43] Тамсама. С. 234.

[44] Тамсама. С. 235.

[45] Тамсама. С. 235.





слязамі ўжо сёння абмыйце
усе свае, вартыя жалю, справы:
вы зневажалі Божую веліч
сваімі грахамі —
і перш чым на Божы суд
паклічацеся,
перш чым будуць
палічаны вашы грахі,
палічыце іх самі!..

Ведаю, што засмуціў
душы і сэрцы вашы
казаннем сваім аб страшных
і жаласных з'явах смерці.
І хоць яно страшыць і засмучае,
але прыводзіць хутка
да пакаяння праўдзівага многіх
людзей, не пазбаўленых праўды,
і ад пякельных
пакутаў іх выбаўляе.
Належыць
мне зараз уцешыць вашу
заплаканую душу
расказам пра тое,
як адыходзіць з гэтага свету
праведны чалавек.

Ведайце, з гэтага свету —
з юдолі слёзнай,
з вязніцы цёмнай,
з сялібы няпраўды,
з бярлогі разбойнікаў,
з дому грахоў —
ён з вясёлай
душой адыходзіць.
Ён радуецца, што застаецца
нарэшце ззаду
няволя Егіпта — краіны,
якая з грахамі схаўрусавалася,
і што ўваходзіць
у край запаветны —
ў нябесны Ерусалім,
у сваю
аднойдзеную Айчыну.
Не смутак і не жалоба
праведніка праводзяць,
а абдымае радасць,
калі ён выходзіць з цямніцы,
грахамі населенай
і пільнаванай
зламыснымі духамі,
і ўваходзіць
сцяжынай нябесную у нябесны
Ерусалім;
калі ён прыходзіць
да першаіснай,
напісанай на набёсах,
царквы саборнай

і там сустракае
мноства анёлаў Божых,
святых і праведных духаў:
там будзе
у радасці вечнай з імі
праведнік бытнаваць.

Дык вось, калі век чалавека,
адмераны Богам Творцам,
канчаецца, а чалавек
трымаўся ў жыцці хрысціянскай
праўдзівай веры
і не чыніў нічога,
што Божыя запаведзі забараняюць,
тады да яго прыходзяць
анёлы, святыя і светлыя,
і як бачыш
з абліччам вясёлым лёгка
з ягонага цела вымаюць
яго святую душу.
І, пэўна ж,
усцешаны праведнік дужа
з прыходу анёлаў і з іхніх
паводзінаў шчасных.
Яны ж, узяўшы,
душу яго, што не мае
цямноты граху, імкнуць
яе ўвышыню, да трона
трохсупастаснага Боства
і пакланяюцца разам з ёю
Творцу свайму, а ён
лабаслаўляе душу
праведную лабаслаўленнем
сваім усявышнім вечным
і кажа весці яе
у праведны збор.
Анёлы
бяруць і адводзяць яе тады,
радуючыся, у месца
спакою і светлыні.
І там сустракаюць
яе другія святыя
анёлы
і патрыярхі вітаюць,
і пацалункам
любові святой цалуюць,
радуючыся яе
прыходу і перамозе
над звабамі гэтага свету
і хітрасцю воржавай.
І жыве
у светлай сялібе душа
праведніка да другога
прыйсця Ісуса Хрыста,
Госпада нашага,
з канчатковым
судом вызначальным, якім
будуць судзіцца людзі.





А калі б тут
азваўся які малавернік
з нязгодаю і сказаў:
дзе гэта пісана, каб анёлы
людскую душу імкнулі
з зямлі ў нябёсы,
і хто гэта бачыў,
я адкажу:
той гэта бачыў, перад чыімі
вачамі як на далоні
усё стварэнне
усёвідушчы
Сын Божы бачыў.
І праз Яго
мы таксама бачым,
як узялі і панеслі
анёлы ў нябёсы
Лазараву душу,
а душу
грэшнага багацея
панеслі д'яблы
у сутарэнні падземныя —
ў пекла.
Сам Бог засведчыў
і паказаў нам, які
страшны канец рыхтуе
грэшнік сабе і які
не страшны, а радасны угатаваны
праведніку.

Павінны
усе хрысціяне
шукаць і прагнуць
такога канца.
І латва
могуць яго дасягнуць
праз праўдзівае пакаянне
і праз таемствы святыя
Цела Хрыстовага і Крыві
і алеяпамазання,
бо святыя
гэтыя з'явы
нячысцікаў адганяюць
ад чалавечай душы
у часіну смерці.
Належыць
ведаць яшчэ вам,
што разам з целам
не памірае,
ў адрозненне ад жывёльнай,
душа чалавечая,
а жыве,
будучы вобразам Божым,
жыццём бясконцым.
Дваякае бачым жыццё людское,
дваякая — бачым — людская смерць:
адною дарогай

праведнік адыходзіць,
другою грэшнік,
адзін — у вечную радасць,
другі у пакуту.
Думай
пра іхнія долі часцей,
чалавеча,
і ў памяці моцна,
што чуеш цяпер, трымай
бо ў чым смерць застане,
тым Бог і асудзіць.

З трыма
вялікімі зменамі
смерць настае і нас
гэтымі зменамі страшыць:
па-першае, стратаю рэчаў,
з якімі мы звыкліся;
па-другое,
той невядомай краінай,
дзе апынецца бядачка-душа;
і, па-трэцяе, неспазнаным
аблiччам Бога,
які нас будзе судзіць.
Ды ад гэтага страху
я маю траякія лекі,
траякую дапамогу.

Па-першае, ведай
і памятай, чалавеча,
што ты пілігрым-вандроўнік
на гэтым свеце
і тут у доме чужым жывеш.
Як сказаў апостал,
не маем тут горада,
але мусім
будучы горад шукаць.
А на гэтым свеце
мы нібы ў карчме,
і гняўлівы
у ёй гаспадар гаспадарыць
смерць.
Яшчэ не паспелі
мы тут набыцца,
а ўжо гаспадар патрабуе
платы ад нас
і, нібы разбойнік,
усё дарагое і гожае,
што мы мелі,
у нас адбірае гвалтам
і, голых,
выпіхвае прэч.
Па-другое,
прыводзь на розум
словы апостала, што сказаў:
калі гліняная хата
нашага цела разбурыцца,
маем у небе





палац незраўнаны,
які не людскою рукою,
а Боскаю збудаваны.
Дык паспяшайся,
любы мой чалавеча,
хутчэй да яго,
а не баўся
ў закутку смуродлівым,
дзе звіваеш
гняздо свайго быту,
марна
спрабуючы на зямлі,
а не ў небе,
займець уцеху.
Па-трэцяе, зарабляй
тут, у цяперашнім гэтым веку,
нябесную ласку Бога,
а ён табе заўтра,
у будучым веку,
заплаціць шчодра.

Нам недарэчы
баяцца смерці,
бойся адно граху,
які пасылае адданцаў сваіх
на пакуты ў пекла;
а праведнаму чалавеку
не страшная смерць: праз яе,
нібы праз браму,
мы пераходзім
ад нетрывалых часовых рэчаў
да вечных
і ў неўміручасць саму.

Дык ведайце і памятайце,
што смерць выводзіць
нас з цемрадзі да святла
і ўводзіць
з зямлі ў нябёсы —
каб вечна
ты жыў з Богам Творцам сваім
і славу
царства ягонага бачыў ясна.

Спадобі ўсіх нас,
сваіх вернікаў,
Хрысце Божа,
нябеснага царства твайго,
каб у ім
і мы ўслаўлялі цябе,
адзінага ў Боства
з Богам Айцом і Богам
Духам Святым,
цяпер, і заўжды, і на векі вякоў.
Амін.

*Са старабеларускай мовы ўзнавіў*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

Я маю твор...

# Галіна ТВАРАНОВІЧ



* * *

Калі званы святочна збіраюць
па ўсім-усенькім нашым краі
на літургію верных Крыжу,
чую царкву над маёю ракою —
у ранку празрыстым, святым,
абуджаных бомаў густых
звонкае срэбра наўкола.

Гэта вайною пабураны Храм
склікае ўвесь свой прыход немалы,
што пад бярозамі й саснякамі

Праз масточак, якога даўно ўжо няма,
паспавядацца й Ахвяру прыняць
спяшаюцца мама з бабуляй

Наводдаль стаю, узіраюся ў твары
не зважаюць, не хочуць сваёю прызнаць

Званіцы завуць агністая зелень ваколіц



# Іван КЛІМЯНКОЎ

У НАС



*І хаця яна разумела, што ён проста выконвае сваю ролю ў гэтым спектаклі, ёй зрабілася страшна. З'явілася прадчуванне, што наперадзе яе чакае нешта яшчэ.*

# ДЭТЭКТЫЎНЫ СЮЖЭТ

*Аповесць*

Дзверы былі не замкнёныя, падаліся лёгка і бязгучна, як толькі Альберт павярнуў ручку Пераступіўшы парог, ён апынуўся ў прасторнай, цемнаватай пярэдняй, усёй істотай адчуўшы ўтульнасць і спакой жытла, яго да драбнейшых адценняў знаёмыя пахі. Ён уключыў святло, павесіў на разгалістыя аленевыя рогі капялюш і плашч, затрымаўшы на момант позірк на гэтай адмысловай, выдатна апрацаванай вешалцы, усміхнуўся і тут жа, бязгучна ступаючы па варсістым дыване, накіраваўся ў жончын кабінет У яго не было сумніву, што Рэгіна там, і ён нават уяўляў позу, у якой яна паўсядзела-паўляжала ў глыбокім крэсле

Рэгіна сапраўды, заплюшчыўшы вочы, схіліўшы на плячо галаву, сядзела ў крэсле Збоч крэсла, на падлозе стаяла напалову выпітая бутэлька віна і крышталёвы бакал з рэшткамі цёмна-барвовай вадкасці на донцы

Альберт не мог стрымаць кароткай непрыемнай дрыготкі, адчуў да моташнасці непрыемны кісла-салодкі і рэзкі прысмак у роце як можна піць такую мярзотнасць? Сам ён цярпець не мог кіслых вінаў, і яму было дзіўна, што некаму яны даспадобы.

Рэгіна, пэўна ж, адчувала, што ён стаіць перад ёю, але ніводная рысачка не кранулася на яе твары, змірэнчым і глыбока няшчасным.

Злёгку паружавелыя шчокі і скрушна стуленыя вусны надавалі ёй хваравіты выгляд. Прыгожа зробленая прычоска, сукенка з зялёнага аксаміту, тры ніткі пералівістых жамчужных караляў, што абвівалі яе доўгую шыю, як ні дзіўна, падмацоўвалі ўражанне нямогласці і знясіленасці

Рэгіна заўсёды была паслядоўнай Яна ніколі не садзілася за пісьмовы стол, не прыбраўшыся як на нейкую неймаверна важную ўрачыстасць. Гэта была неад'емная ўмова яе творчага працэсу, пад якую яна даўно падвяла неабвяргальнае абгрунтаванне. знешні выгляд адэкватна адбіваецца на ўнутраным стане душы, і, у сваю чаргу, на змесце і форме твора.

Альберт быў згодны з ёй Нават ледзь прыкметная неахайнасць у яго гарнітуры, ці не зусім добра завязаны гальштук, імгненна псавалі яму настрой, выклікалі адчуванне, што кожны заўважае гэта, грэбліва крывіць твар, і тады ён губляўся, ніякавеў, не мог пазбавіцца ад усведамлення сваёй нягегласці, непаўнацэннасці.

Ён паглядзеў на друкавальную машынку на пісьмовым стале Ліст паперы, запраўлены ў карэтку, быў амаль чысты, толькі чарнеліся тры ці чатыры радкі, а ўверсе, нібы праклясце, стаяла тлуста выбітая лічба 13, як і ўчора, і пазаўчора, як і тыдзень назад.

Ён глыбока, са спачуваннем, уздыхнуў, паклаў ёй далоні на плечы.

— І сёння ніякіх зрухаў?

— Ніякіх.

— Ніводнага радка? Ніводнага слова?

— Ніводнага.

Словы яе гучэлі апатычна, без усякіх адценняў, як пад гіпнозам.

— Не бяда, — паспрабаваў суцешыць ён — Да канца тэрміну цэлых два тыдні

— Усяго два тыдні.

— Гэта нямала Пры тваёй працаздольнасці. Не сумняваюся — ты напішаш гэтую злашчасную аповесць.

— Замаўчы. З мяне хопіць. Я здаюся. З літаратурай скончана!

— О, калі б гэта ад цябе залежала Але ты яе палонніца Ты не зможаш без гэтага.

— На жаль, не магу Літаратура мой крыж, мой рай і маё пекла.

— Тады паслухайся мяне — плюнь на гэты конкурс. На які ляд ён табе? Тым больш, ты ніколі не пісала дэтэктываў

— Таму і хачу стаць пераможцам. — У голасе яе чуўся выклік. — Гэта вар'яцтва, але я нічога не магу зрабіць з сабою. Ды, урэшце, няўжо я няздатная "закруціць" нейкае там забойства, абрабаванне? Няўжо ў мяне настолькі чэзлая фантазія? Я сканаю ад крыўды, калі не адхаплю Гран-Пры.

— Неабавязкова Гран-Пры

— Абавязкова. Іншае не мае сэнсу Толькі адкуль гэтая апатыя? Творчая нямогласць? Нічога падобнага са мной не здаралася

— Наколькі я чуў, такое бывае з кожным творцам.

— Але чаму менавіта цяпер? У такі адказны момант? Хаця ўсё зразумела — ТЭРМІН Для мяне яго ніколі не існавала, і таму словы самі сабой ткаліся ў палатно твора, без напружання, без пакут Не трэба і доказу — усякае абмяжаванне, усякая ўмова для творцы — гвалт Гвалт над розумам, над душой

Альберт апусціўся ў крэсла насупраць.

— Павер, тут няма ніякай трагедыі. Ты проста стамілася. Адсюль і надлом. Зноў раю — плюнь на ўсё гэта.

— Як ты можаш!

— А што? У конкурсах няхай тузаецца моладзь, пачаткоўцы Тым больш у галіне дэтэктываў А ты і без таго — велічыня. Празаік ад Бога. Ці не так пішуць пра цябе крытыкі?

Яго спакойны разважлівы тон не суцешыў, як ён спадзяваўся, жонку, і, нават, як падалося яму, яна нечага спалохалася, спахмурнела і доўга маўчала. Потым шумна, як быццам на нешта адважылася, выдыхнула паветра, страсянула галавой.

— Я напішу гэтую аповесць, — з зацятай упартасцю, нібыта давала клятву, вымавіла яна. — Чаго б гэта ні каштавала. І атрымаю Гран-Пры Справа тут, нават, не ў літаратуры.

— У чым тады? — Ён пільна, дапытліва глядзеў ёй у вочы.

Яна збянтэжылася, сутаргава прыкусіла вусны, але ў наступнае імгненне Альбертаў позірк прасвятлеў, у вачах і на твары з'явілася вясёлая хітраватасць, на губах таямніча-загадкавая ўсмешка. Здавалася, ён ведаў і хаваў ад яе нейкі цікавы, важны сакрэт

Яна па-свойму зразумела перамену ў яго твары, разгадала ўсмешку

— Ты нечаму рады?

— Я? Злітуйся

— Не адпірайся, я бачу Цябе заўсёды радавалі мае літаратурныя няўдачы.

Яна гаварыла з непадробнай крыўдай, але ў глыбіні душы была задаволена, што такім чынам удалося пакінуць яго пытанне без адказу.

Ён, аднак, сур'ёзна ўспрыняў яе папрок, быццам баронячыся, прыўзняў і выставіў уперад далонь правай рукі.

— Бог з табою? Няпраўда ўсё гэта.

— Няпраўда? Думаеш, я не бачу, як ты смакуеш маё гора? Думаеш, не бачу тваёй брыдкай узнёсласці?

Яна добра ўсведамляла, што нагаворвае, нясе самую сапраўдную лухту, аднак з кожным словам усё мацней распальвала сваю крыўду і ўсё больш верыла ў існасць таго, што кажа.

— Ты ніколі не мог дараваць мне майго таленту Ты і ў адвакаты з пракурораў пайшоў, каб хоць нечым праславіцца, а не быць проста мужам знакамітасці.

— Ну, гэта ўжо смешна. І не сціпла.

— Няхай сабе. Думаеш, я сляпая? Думаеш, не заўважаю, як ты зларадна паціраеш рукі, пасміхаешся, пазіраючы на мяне? Бо мой поспех быў бы чарговай стрэмкай твайму пачварнаму самалюбству Я ненавіджу цябе.

Вочы яе палалі гневам, яна ледзь стрымлівала рыданні.

Альберт, быццам не заўважаў яе ўзрушанасці, быў надзіва спакойны, і позірк яго свяціўся спачуваннем, а на твары ляжаў выраз разумення, усёдаравальнасці. Ледзь прыкметная, добрая ўсмешка, што кранала яго вусны, дакорліва гаварыла· "Ах, якое ж ты яшчэ дзіця".

О, як яна ненавідзела і гэтую ўсмешку, і добрыя разумныя вочы, пад шкельцамі ў тонкай залатой аправе, і ягоную гатоўнасць сцярпець усякія папрокі, нараканні і нават абразы.

"Ён ставіцца да мяне, як доктар да хворага. Ён наўмысна здзекуецца з мяне."

— Супакойся. Бог сведка — я заўсёды зычыў табе поспеху. - У голасе Альберта чулася непадробная шчырасць. — Ды ты і сама не верыш у тое, што кажаш А мая радасць, паціранне рук... што ж, не адмаўляю. Але прычына таму зусім іншая.

— Не крыўляйся. Прычына мне добра вядома.

— А вось і не. Ты нават не здагадваешся пра яе Словам — у мяне для цябе сюрпрыз.

— Сюрпрыз?

— Ну так. Наколькі я ведаю, усе твае беды ад таго, што ў цябе няма тэмы, сюжэта. Ты не ведаеш, пра што пісаць.

— Ты празорлівец. Але хіба не пра тое кажу я ўвесь час? Калі б у мяне быў хоць больш-менш акрэслены сюжэт, калі б твор жыў у маёй душы, у маім уяўленні, хапіла б і тыдня, каб перанесці яго на паперу. А ў мяне няма нават абстрактнай задумы Я кідаюся ад адной тэмы да другой, прыдумваю сітуацыі, сцэны і. усё не тое, усё дробязнае, нязначнае, гаворанае-перагаворанае І незаймальнае.

— Калі так — я тваё выратаванне.

— Ты?

Яна не магла схаваць сарказму.

— Чаму б і не? У мяне ёсць выдатны сюжэт З каханнем, здрадай, забойствам. Дарэчы, забойства неад'емная частка дэтэктыўнага твора?

— Неабавязкова.

— Але ж без забойства рэч у гэтым жанры, што страва без солі. Пагадзіся

Ёй усё было зразумела І ў душы з'явілася пачуццё грэблівасці і пагарды да мужа. Карцела адным разам абсекчы яго

віжаванне, выкрыць, вывесці на свет тое, што ён думаў на самай справе Але ўсё-такі злітасцівілася, здолела стрымаць сябе і, паціснуўшы плячыма, суха прамовіла.

— Што ж, табе і карты ў рукі.

Ён роблена засмяяўся дробным смяшком, махнуў рукой

— Куды мне Які з мяне пісака. Ды, па праўдзе, я не без кепікаў адношуся да самага што ні ёсць геніяльнага твора. Бо ўсе гэтыя "шэдэўры" не жыццё, а яго цень, чэзлы, размыты адбітак. Упэўнены, калі б увялі закон, які дазваляў бы займацца белетрыстыкай толькі пасля пяцідзесяці, то ў літаратуру ішлі б, ну, хіба што прыдуркаватыя Любая судовая справа, якой мне даводзілася займацца, намнога драматычней за самую жорсткую трагедыю Шэкспіра ці Дастаеўскага Ды што там: добрая прамова адваката ці пракурора куды цікавейшая за пампезныя маналогі Гамлета альбо самакатавальныя стагнанні Бязухава. Дарэчы, і сюжэт той я зусім не прыдумаў, а, як кажуць, выкапаў з чужой градкі. Апошні працэс, у якім я браў удзел, гатовая аповесць. Не трэба ні дадаваць, ні адымаць. Грэшны, з самага пачатку я больш думаў пра тое, як аказаць карысць табе, чым пра свайго падабароннага. Само сабой, гэта амаральна, але я нічога не мог зрабіць.

Яна зусім не верыла яму, кпліва прамовіла.

— Надалей пастарайся не ахвяраваць лёсам падсудных.

— Ну, безумоўна. Але тут быў асаблівы выпадак: вельмі хацелася дапамагчы табе А працэс я выйграў

— І то дзякуй Богу

— Так што адно другому не пашкодзіла І ўпэўнены — Гран-Пры будзе твой Хаця. — ён вінавата ўсміхнуўся, — што я разумею ў гэтым.

Ён пстрыкаў запальнічкай і не мог высекчы агню.

— Хвалююся, — нарэшце распаліўшы цыгарэту, прызнаўся ён. — Яшчэ б! Як-ніяк літаратурны дэбют

"Вось ты і ўвесь навідавоку Усё стала на свае месца"

Ей было непрыемна, прыкра за яго, і разам з тым у душы пасялілася тужлівая спустошанасць, пачуццё незваротнай страты. Хаця што тут дзіўнага? Не ён першы, не ён апошні трапляў у графаманскае сіло, зацягнуты спакусай літаратурнай славы. І ўсё ж такі яна нізашто не далучыла б Альберта да людзей гэтай катэгорыі Ужо аднаго позірку было дастаткова, каб пазбавіцца і думкі, што ён здольны на нешта неразумнае, непрадуманае, тым больш захапіцца прывіднай ідэяй. Занадта шмат для гэтага было інтэлекту ў яго вачах, занадта практычна, цвяроза і не без адцення іроніі адносіўся ён да жыцця. Усё ў яго было запланавана наперад, раскладзена на палічках работа, адпачынак, вечарыны, візіты, сустрэчы Здавалася, нават кожны жэст, кожнае слова былі абдуманыя, узважаныя ім раней Яго нельга было здзівіць, уразіць, узрадаваць ці засмуціць. Ён прызнаваў толькі адну філасофію — стаіцызм І прытрымліваўся яе целам і духам.

Хаця. Часам ёй здавалася, што ён не жыве, а гуляе ў жыццё, ці, хутчэй, з жыццём, як дарослыя часам гуляюць з дзецьмі, робячы выгляд, што ім сапраўды цікава.

Яна адчувала, што на яе літаратурны занятак ён глядзіць не без скепсісу, з той жа лёгкай іроніяй "Чым бы дзіця ні цешылася.. "

А калі іншым разам яна пыталася яго думкі пра нейкі свой твор, ён толькі паціскаў плячыма.

"Я — што? Галоўнае — масы. Калі чытаюць — значыць добра" Асабістае ўражанне? Ды хіба ён нешта кеміць у літаратуры? Яго дзейнасць — юрыспрудэнцыя. Выдумка, узнёслаць, штучнасць — тут дрэнныя памочнікі. Рэальная ацэнка рэальных фактаў — вось альфа і амега яго мыслення Быць літаратурным крытыкам? — ну не, прабачце

І калі ласка! Спакусіўся, аднак, на пісьменніцкія лаўры Казкі пра судовы працэс, жаданне дапамагчы ёй — дзіцячае хітраванне, камуфляж, за якім хаваецца няўпэўненасць пачаткоўца, страх быць высмеяным

Што ж, відаць на гэтую хваробу хварэе кожны. Тут — паталогія, спрадвечны пokліч застацца ў гэтым жыцці навечна.

Само сабою, не варта марнаваць час на тое, каб слухаць лухту, якую ён, безумоўна, лічыць за шэдэўр. Тым больш, а гэта ўжо непазбежна і ад яго не залежыць, бачыць яго крыўлянне, падлашчванне, умольнае зазіранне ў вочы: ну як? няўжо не геній? І папрок — няўжо цяжка ўхваліць, ашчаслівіць, акрыліць? І напружаны, як у чаканні прысуду, страх у вачах...

Каб пазбавіцца гэтых пакут, працей за ўсе было спаслацца на стомленасць, на галаўны боль, урэшце, на дрэнны настрой, аднак, замест таго, яна, хітнуўшы галавой, адкінула за плечы валасы, зручней уладкавалася ў крэсле, пацягнулася па цыгарэты.

— Пачынай Ягатова слухаць. У выпадку ўдачы — сааўтарства гарантуецца.

Ёй самой была непрыемная тая паблажлівая пагарда, тое адчуванне сваёй вышэйшасці, што гучала ў голасе.

"Што ж, няхай атрымлівае тое, што заслугоўвае", — паспрабавала яна апраўдацца перад сабой, хаця выдатна разумела, што гэта казала яе абражанае самалюбства. Яна помсціла. Помсціла за тое, што ён так неабачліва і так нахабна ступіў на зямлю, права хадзіць па якой было даравана толькі Богам абраным.

Добра, яна заахвяруе і цярпеннем, і часам, нават паакторнічае, напусціўшы на твар засяроджанасць і ўвагу, каб потым, выслухаўшы, з робленай павагай, праз якую так выразна будзе прасвечвацца халодная здзеклівасць, завяршыць прысуд адным сказам: "Як сказаць. здаецца нішто сабе". І болей нічога. З яго розумам, уменнем бачыць за сказаным сапраўдны сэнс, ён адразу схопіць што да чаго. Гэта будзе справядліва. Не трэба быць літасцівым да тых, хто, не зведаўшы неймаверных творчых пакут, што разрываюць душу, кідаюць яе то ў бязмежную эйфарыю, то ў жудасную роспач, ператвараюць цела ў камяк аголеных нерваў, робяць нямілым гэты свет і само жыццё, хоча адным разам узняцца на літаратурны Алімп.

Але была яшчэ і другая прычына выслухаць мужа — спадзяванне на цуд. А раптам?

Якія б дыфірамбы ні пелі пра яе творчасць крытыкі і рэцэнзенты, як бы ні пераконвала яна сябе самую, што напісанае ёй калі не шэдэўры, то нешта блізкае да іх, аднак чарвяк сумніву няспынна тачыў яе душу ніякага павеву геніяльнасці, адметнага светаадчування ні ў адной сваёй аповесці ці рамане яна не знаходзіла. А слава, якая выпала ёй на долю, была не болей, чым гарэзнасць фартуны, дагода чарговаму густу чытачоў. Яна добра разумела, што такая слава кароткачасовая. І рана ці позна наступіць калі не забыццё, то абыякавасць чытацкага натоўпу Гэта страшна, як старасць, непазбежна, як смерць. З якой лёгкасцю яна аддала б д'яблу душу за тое, каб з-пад яе пяра выйшаў хаця б адзіны шэдэўр. І не некалі, а менавіта цяпер Ёй патрэбна была не робленая, не дзьмутая, а сапраўдная слава. Каб пра яе гаварылі і праз пяць, і праз дзесяць гадоў, усё яе жыццё і пасля смерці. Гэта было патрэбна ёй, як паветра І хто ведае, можа, сапраўды ён дасць матэрыял для шэдэўра.

— Сааўтарства мне непатрэбна, — пасміхнуўся Альберт — Калі што, можаш узяць у гэтай якасці майго кліента.

— Чакай, — схапілася яна, — ты ж, пэўна, галодны. Зараз я накрыю на стол і ты раскажаш за абедам

— Я паабедаў у кавярні з сябрамі У нас была размова. Ды і сюжэт я не хачу яго проста пераказваць. Душой адчуваю — нічога з таго не выйдзе усё скамечыцца, зблытаецца, атрымаецца шэра і посна.

— Як ведаеш, — паціснула яна плячыма. — Што тады прапануеш?

Ён нічога не адказаў, падышоў да акна, са сцішанай задуменнасцю нейкі час глядзеў на жаўтаватыя дрэвы ў скверы, насупраць іх дома, на блакітнае, з лёгкай самотай, неба, на якім дзе-нідзе дыміліся празрыстыя, лёгкія аблачынкі

— Сёння цудоўнае надвор'е, — прамовіў ён, не адыходзячы ад акна. — Поўная гармонія ў прыродзе Рэдкае суладдзе нябёсаў і зямлі І нашых грэшных душаў

Ён павярнуў галаву і, сустрэўшы яе недаўменны позірк, паўтарыў

— Так-так — і нашых грэшных душаў

І зноў нейкі час глядзеў у акно, потым глыбока ўздыхнуў, пакруціў галавой

— "В багрец и золото одетые леса"

Што ні кажы, а генія распазнаеш з аднаго радка. Я адразу ж уяўляю бярозавы гай за горадам, дзе мы так любілі гуляць да жаніцьбы. Колькі цяпер там гэтай залатой лістоты Памятаеш, яшчэ доўга, пасля таго як мы пажаніліся, я называў яго "нашым гаем". Я запалоніў яго ў сабе, быццам ён належыць толькі нам і нікому болей Ён і самае чыстае, самае светлае, што было і ёсць між табою і мной, непадзельна.

Яна здзіўлена глядзела на мужа, уражаная яго незвычайнай гаварлівасцю і чуллівасцю. Раней яна ніколі не заўважала ў ім ні ўзнёсласці, ні смутку Упэўненасць і ўзорны кантроль над сабою — гэта быў існы Альберт А сённяшнія яго паводзіны можна параўнаць хіба з тунгускім метэарытам: сюжэт, сентыментальныя маналогі, уздыхі.

"Што з ім? Ад чаго?"

— У мяне прапанова — паедзем туды. Зараз жа. Там так цудоўна.

Яна ўразілася яшчэ болей Халадок незразумелага, беспадстаўнага страху казытнуў яе душу, які яна адразу ж і раскадзіравала неспакоем за яго псіхічны стан. Відаць, у яго сёння быў надзвычай цяжкі працэс, які стаміў яго, спустошыў душу да немагчымага, узвініціў нервы Аднак усё адно гэтая паездка ў мінулае, як яна азначыла прапанову мужа, выклікала ў яе нутраны пратэст і прадчуванне нейкіх вельмі істотных і шпаркіх пераменаў

— А сюжэт? — гэта ў першаю чаргу была спроба супрацьдзейнічаць яго прапанове.

— А ён мае да гэтай паездкі самае непасрэднае дачыненне Ну дык што?

Па напружаным твары мужа яна бачыла, як баіцца ён адмовы.

— Калі так — я згодна.

Твар Альберта адразу праясніўся

— Я нават не спадзяваўся, — усміхнуўся ён — І абяцаю — ты не пашкадуеш. Гэта будзе незвычайная паездка, вельмі незвычайная.

— Толькі нам трэба пераапрануцца.

— Навошта?

— Не ехаць жа мне прыбранай, як на шлюб? І ты

— У гэтай сукні ты чароўная А мне таксама хочацца падабацца табе. Як тады, у дзень шлюбу

Ён дзівіў яе ўсё болей Нібыта наўмыснай маскай здаваўся яго ранейшы, непраніклнёна-спакойны, строгі твар Нейкая дзіцячая адкрытасць і даверлівасць была зараз у яго ўсмешцы, у яго вачах.

— Падабацца? З якой гэта нагоды?

— Бо вельмі люблю цябе

Кепік, які гатовы быў вырвацца, застыў у яе на вуснах. Ніколі, можа толькі ў тыя, перадвясельныя часы і першыя месяцы пасля вяселля, ён так адкрыта не гаварыў пра сваё каханне. Мо хвіліну яна не зводзіла з яго ўражаных вачэй, потым, як бы пазбаўляючыся ад недарэчнай, неверагоднай думкі, паволі пакруціла галавой

— Нешта тут не тое

Ён усміхнуўся, але ўсмешка была штучная. Пэўна, ён і чакаў з яе боку шчырага водгуку на сваё пачуццё

Яна паспяшалася апраўдацца.

— Проста не звыкла чуць ад цябе такое Ты так даўно не гаварыў пра гэта.

— Хіба сама ты таго не адчувала, не ведала?

— Адчувала, ведала. Але заўсёды хочацца чуць пацвярджэнне

— Калі часта гавораць пра пачуцці, то гэта прыкідванне.

— Усё адно.

— Вінаваты Паспрабую выправіцца.

— Паедзем на машыне?

— Возьмем таксі. А назад — аўтобусам Лічы, што мы едзем на наша спатканне Як пятнаццаць гадоў таму

— У такім разе мне давядзецца навесці поўны касметычны марафет. Гэта зойме процьму часу.

— Куды спяшацца?

— Ну што ты маўчыш наконт сюжэта? — спытала яна, калі таксі, мінуўшы апошні святлафор, выехала на шырокую, выструненую аўтастраду. — Я слухаю.

— А ўсё ж такі цікава? — крыху блазнавата ўсміхаючыся, паглядзеў ён на Рэгіну

– Цікава, – не стала адмаўляцца яна. – Чаму б і не?

— Прызнайся — у душы ты лічыш мяне за сцебанутага. на што пасягае судовы кручок! А між тым жыве і спадзеўка "А раптам" Бывае, і чапяла страляе

— Не бывае, — нахмурылася яна. Было адчуванне, што яе злавілі на нейкім крадзяжы. — Ва ўсякім разе, не той выпадак. Урэшце, можаш і не расказваць. Ды толькі куды падзенешся — не ўтрываеш.

— Твая праўда, — ён весела засмяяўся. — Тым болей што сюжэт выдатны. На мой погляд, вядома. І што каштоўнае — выхаплены з жыцця, як бульбіна з прыску — гарачы, духмяны. Адна бяда — не ведаю, з чаго пачаць. Я чытаў пра аднаго пісьменніка, дык самае цяжкае для яго быў пачатак. Ён тыдні пакутаваў над першай старонкай, затое, адолеўшы пачатак, мог за месяц – другі напісаць цэлы раман. Вось і ў мяне — не ведаю з чаго пачаць.

— Пачні проста. жылі-былі...

— Геніяльна! Да чаго проста! Значыць так — жылі-былі муж і жонка. А далей?.. Не, усё-такі я не той пісьменнік. наогул, не пісьменнік. А як быць з дэталямі, з апісаннямі — хто яны, адкуль, знешнасць, узрост, чым займаюцца Адразу завіруха ў галаве Так уяўляю ўсё да дробязяў, усё ў аповесці раскладзена як на палічках, а выказаць і не магу

— Няўжо цяжка ў двух словах сказаць што да чаго. Астатняе — мая справа. Калі сапраўды нешта вартае...

— Вартае-вартае Але я ўжо казаў — просты пераказ усё сапсуе, скамечыць і ты не зможаш як след ацаніць усёй вартасці сюжэта. Шкада, што Бог не даў мне таленту Можа, толькі цяпер я паверыў шчыра ў творчыя пакуты. Прабач, але раней мне гэта здавалася крыўляннем

Яна прамаўчала.

— Аднак якое выйсце? — ён задуменна пакусваў вусны, моршчыў лоб Потым вочы яго гарэзна заблішчэлі, загадкавая ўсмешка кранула вусны

— Мне здаецца, што ты даўно ведаеш, якое, — крыху незадаволена прамовіла яна, — навошта манернічанне

Ён засмяяўся.

— Твая праўда З вашым братам, літаратарам, у жмуркі не пагуляеш Прасвечваеце, што рэнтген. Сапраўды крыху крыўляюся. Толькі зноў-такі — ад хвалявання А выйсце наступнае проста мы возьмем ды разыграем гэты сюжэт Ад пачатку да канца.

— Як гэта? Не разумею.

— Натуральна, як у кіно, у тэатры. Кажуць, цяпер нават у модзе такія спектаклі, дзе выканаўцы ў асноўным не ведаюць, што яны акторы. Адзін ці два ведаюць, ствараюць пэўную сітуацыю, астатнія не здагадваюцца, што сітуацыя створана штучна, што за імі назірае нябачная публіка, і паводзяць сябе не як на сцэне, а як у жыцці. Тут у чым каштоўнасць — няма падробкі, чалавек выяўляецца такім, як ёсць, ва ўсёй сваёй аголенасці. Нешта падобнае прапаную і я.

— А публіка?

— Нашто яна? У нас іншая мэта. Дарэчы, я хачу папрасіць прабачэння, але спектакль ужо даўно пачаўся.

— Не разумею.

— Так. З таго моманту, калі я прыйшоў дадому Справа ў тым, я вырашыў інсцэніраваць задуманы сюжэт Папершае, гэта найлепшы спосаб, каб ацаніць яго вартасць. Па-другое, калі ўсё пойдзе, як я задумаў, табе не трэба будзе траціць час на абдумванне, дэталі, пейзажы. Застаецца толькі занатаваць тое, што бачыла і чула. І яшчэ адно — у мяне няўвязка з фіналам. Існуе некалькі варыянтаў, і я ніяк не магу выбраць лепшы. Можа, я і расказаў бы табе сюжэт, як ты кажаш, у некалькіх словах, хутчэй за ўсё, так і зрабіў бы, але канец — справе вянец. Без заключнай часткі, сам па сабе, сюжэт нічога не варты Вось я і надумаў..

— Што ж, — няпэўна пацепнула яна плячыма. — Як ведаеш.

— Ну і цудоўна Значыць, пачнём, як ты і раіла Жылі-былі муж і жонка Ёй трыццаць два, яму сорак. Ён скончыў універсітэт, скончыў бліскуча, з чырвоным дыпломам Яна — з інтэлігентнай сям'і, разумная, даволі ганарлівая, і пажаніліся яны, бо кахалі адно аднаго І цяпер ён любіць яе больш за ўвесь гэты свет, больш за жыццё, яна, як яму думаецца, таксама сплачвае яму тым жа Ён гатовы дзеля яе на ўсё, гатовы выканаць яе любое жаданне І радуецца як малое, калі ў нечым дагодзіць ёй Хаця знешне гэта на ім не выяўляецца. Такі ён ужо ад прыроды — маўклівы, педантычны сангвінік. Але ўсяго, чаго ён дабіўся ў жыцці дастатку і вядомасці (ён ці не лепшы адвакат у краіне) — усё гэта дзякуючы ёй Ён імкнуўся, як кажуць, быць на вышыні ў яе вачах.

— Чакай, — перапыніла яна. — Я пачынаю ўлоўліваць. Галоўны герой — гэта ты?

— І так, і не так. Толькі згодна сцэнарыю. Калі мы акторы, то нашто нам нейкі грым, другія імёны, звычкі Няхай усё будзе так, як ёсць. Гэта спросціць нашу задачу

— Выходзіць яна — бландзінка, высокага росту, з доўгімі стройнымі нагамі, прывабнымі грудзямі, прыгажуня з твару і, у дадатак, белетрыстка.

— Менавіта так, — зарадаваўся ён, — і белетрыстка, і бландзінка.

— І жывуць яны разам ужо дзесяць гадоў, ціха.

— Мірна, у дастатку

— І сумна.

— Хутчэй спакойна і мірна, без сямейных сцэн, сварак.

— Няпраўда былі і сваркі, і сцэны

— Ты забываешся, што мы толькі акторы, што ёсць сцэнарый і неабавязкова спісваць, калі можна так сказаць, з прататыпаў кожны штрых. Ды, урэшце, і сваркі, якія ўсё ж былі вельмі і вельмі рэдкімі, нельга і назваць сваркамі Сварылася ты, а я маўчаў, бо ведаў, што табе проста трэба адвесці на некім душу І, у асноўным, на літаратурнай, так сказаць, глебе Калі ў цябе не ладзілася нешта з раманам ці аповесцю. На шчасце, такое было нячаста У асноўным яны былі шчаслівыя. Ён неймаверна любіў сваю

жонку, яна таксама. І абодва бязмежна любілі свайго сына.

— У нас няма дзяцей

Ён з лёгкім дакорам паглядзеў на яе

— Ах, я забылася. Вядзі далей.

— Дарэчы, нам даўно пара мець дзяцей

— Божа, ну колькі паўтараць — дзеці будуць замінаць. Тут трэба адно альбо літаратура, альбо дзеці

— Аднак жыць без дзяцей.

— Усяму свой час, – незадаволена ссунула бровы Рэгіна. — І прашу цябе, не цягні гуму Так мы ніколі не дойдзем да развязкі

— Вінаваты, — нахіліў ён галаву. — Бяру адразу быка за рогі. Значыць, так, гэты бязмерна шчаслівы чалавек аднойчы раніцай выходзіць з дому, каб ехаць на судовы працэс, які прыцягнуў увагу ўсяго горада і які ён меў спадзяванне бліскуча выйграць. Настрой у яго быў цудоўны, ну проста эйфарычны Надвор'е спрыяла таму: ціхае, цёплае Ноччу прайшоў дождж, і паветра было свежае, пахла скошанай з газонаў травой І неба блакітнае як ніколі. Без адзінай хмурынкі Мір і спакой панавалі ўсюды. Як і цяпер. І ён усміхнуўся і небу, і сонцу, і ўсяму свету. Усміхнуўся шчаслівa, даверліва, як дзіця.

— Можна без прыгажосцяў, — з нотай раздражнення перапыніла яна. — Гэтае сюсюканне

Ён пачырванеў

— Сапраўды, сюсюканне Я ведаю. Але што рабіць — таленту, як і розуму, не пазычыш, а мне хочацца, каб ты ўсё ўяўляла, як гэта ўяўляецца мне Тады менш страху, што сюжэт забракуецца. Словам, гэты чалавек усміхаецца і зусім не здагадваецца, што праз хвіліну на яго абрынецца неймаверная бяда, якая ў адно імгненне зробіць яго самым няшчасным на гэтай светлай, утульнай планеце

Ён ужо адчыняў дзверы машыны, як да яго падышоў хударлявы мужчына ў джынсах і пінжаку ў клетку, з акуратнай чорнай, з сівізной, бародкай, у цёмных, люстраных акулярах, ветліва, нібы яны ўжо даўно знаёмыя, павітаўся.

Тое, што з ім павітаўся незнаёмы чалавек, ніколькі не здзівіла Траўмана.

— Гэта што, прозвішча прататыпа?

— Ну так. Табе не падабаецца?

— Не вельмі. І калі ты ўжо спісваеш з натуры, то і заві свайго героя Альбертам.

— Але ж і гераіню трэба будзе тады назваць Рэгінай

— Само сабою.

— Ведаеш, мне гэта неяк... ну не зусім прыемна. Ужо надта мы зліваемся з героямі і падзеямі.

— Але ж ты сам таго хацеў.

— Праўда. Толькі занадта драматычна ўсё ў гэтай гісторыі. І не хацелася б але хай будзе па-твойму Значыць, Альберта ніколькі не здзівіла, што да яго звярнуўся незнаёмы. Прафесія і вядомасць адпавядалі таму .. Пэўна ж, у яго нейкая справа, і, магчыма, мужчына з бародкай з гэтай хвіліны стане ўжо ягоным кліентам.

Але мужчына нечым розніўся ад іншых людзей, нібыта нейкае таўро ляжала на ім. У Альберта чамусьці сціснулася ў балючы камяк сэрца, горача запульсавала ў скронях, смуга заслала вочы. І таму ён адказаў на прывітанне не як звычайна ветліва, а суха, нават непрыязна.

— Чым абавязаны?

Ён стараўся як мага лепш разгледзець твар гэтага чалавека і не заўважаў у ім нічога такога, што выклікала б такую ўстрывожанасць. Але нешта падказвала, што аблічча незнаёмца толькі маска, пад якой хаваецца штосьці страшнае, бязлітаснае Ён ледзь стрымаў у сабе неадольнае жаданне зняць з гэтага твару акуляры, зазірнуць у вочы, што хаваюцца за імі, у вочы свайму Лёсу

— Зноў нешта не тое, — перапыніла яго Рэгіна. — Калі тэатр, дык тэатр, і героі павінны гаварыць пра сябе ад першай асобы.

— Яшчэ не прыспеў час, — з хітрынкай глянуў ён на жонку. — Пацярпі крыху

— Не разумею цябе

— Будзем лічыць, што я не зусім увайшоў у ролю. Пагадзіся, гэта не так лёгка, калі ідзе аповед пра мінулыя падзеі Тут пераўвасобіцца, поўнасцю зліцца з героем проста немагчыма І мне прасцей весці пераказ ад другой асобы. Так меней будзе фальшу.

— Як сабе хочаш, — не стала пярэчыць яна.

Таксі між тым адолела доўгі і высокі пад'ём, уз'ехала на вяршыню пагорка — і наперадзе, у шырокай роўнай даліне, наколькі можна было бачыць, перад імі адкрылася залаціста-барвовае мора лістоты. Яна свяцілася чароўным, велічным свячэннем.

— Наш гай, — сціснуўшы жончыну руку, — прамовіў ён. — Можаш смяяцца, але мне хочацца заплакаць.





Рэгіна не адказала, але па яе напружаным твары лёгка было здагадацца, якія пачуцці перапаўняюць яе душу.

З горкі машына памчала на вялікай хуткасці, і з такой жа імклівасцю наплывала на іх гэта лісцвяное хараство, у якім неўзабаве ўжо можна было адрозніць белыя, з чорнымі крапінамі, ствалы бяроз, кроны асобных дрэў

— Тут спыніцеся, — сказаў Альберт кіроўцу, калі яны апынуліся на ўскрайку гаю — Мы выйдзем

— Вас чакаць? — спытаў той, прытармазіўшы збоч дарогі і выключыўшы транзістар.

— Не трэба — Альберт працягнуў яму грошы — Вазьміце

Таксіст паглядзеў на купюру, збянтэжана прамовіў·

— У мяне не будзе рэшты.

— І не трэба, — супакоіў яго Альберт. — Паездка была вельмі прыемнай Яна варта большага, куды большага

Ён вылез з машыны, падаў руку жонцы, дапамагаючы ёй І калі таксі развярнулася і памчала ў бок горада, яны, зірнуўшы адно аднаму ў вочы, ціха, быццам баяліся парушыць чуйную сцішанасць, што панавала наўкол, рушылі пад шаты стройных бяроз. Праз хвілін пяць яны спыніліся і доўга стаялі нерухома, моўчкі, зачараваныя святасцю і чысцінёй блакітнага, глыбокага неба, мяккага, павосеньску самотнага сонечнага святла, прыгажосцю ахутаных золатам дрэў Сэрцы іх біліся роўна, спакойна, дыхалася лёгка і глыбока З душаў іх сплывалі ўсе будзённыя клопаты, якія здаваліся цяпер нязначнымі, да смешнага мізэрнымі, даючы месца ачышчальнай лёгкай і светлай самоце, тузе пра нешта незваротна страчанае, падмененае ..

— Ты не шкадуеш, што паехала? — спытаў ён — Табе не здаецца, што мы ніколі адсюль нікуды не выходзілі і што ўсё тыя ж бязмерна закаханыя, юнак і дзяўчына, якія дзесяць гадоў таму, за дзень перад вяселлем, з ранку да вечара хадзілі па гэтым гаі?

— Не шкадую. Толькі дрэвы тады былі маладзейшымі.

— А ў мяне адчуванне, што нічога не змянілася І не было ні дзесяці гадоў сямейнага жыцця, ні абрыдлых паўсядзённых клопатаў Ёсць толькі гэтая чысціня неба, гаю і чысціня нашых душаў І над усім гэтым наша бязмежная, святая любоў, якая перапаўняе і нас, і ўвесь сусвет

Рэгіна злёгку спахмурнела, цень раздражнёнасці слізгануў па яе твары

— Ты сёння занадта сентыментальны Але даволі меладрамнічаць. Мы забыліся пра сюжэт.

— Сюжэт? — ён нібыта не разумеў, пра што яна кажа, але зараз жа спахапіўся — Ах, так, сапраўды Хаця нічога страшнага, нікуды ён не дзенецца. Але, справа перш за ўсё Дык на чым мы спыніліся?

— На жаданні Альберта зняць з барадача акуляры.

— Дзякуй Само сабою, рабіць ён гэтага не стаў, а моўчкі чакаў, што скажа той і што будзе далей Між тым, незнаёмец дастаў з унутранай кішэні пінжака канверт, працягнуў яго Альберту, ледзь варухнуўшы тонкімі вуснамі, каб вымавіць усяго два словы:

— Гэта вам

— Мне? Ад каго? І што гэта?

Ён узяў канверт, нейкі час неадрыўна глядзеў на яго, адчуваючы, як цяжэюць рукі і смяротна-тужлівай млосцю наліваецца душа. Потым ён узняў вочы на незнаёмца, але той быў ужо кроках у дзесяці ад яго, нібыта з лянотай, але неяк напружана, не азіраючыся, праставаў на другі бок вуліцы і на Альбертава "Паслухайце!" нават не павярнуў галавы

Альберт, з канвертам у руках, загіпнатызавана сачыў за ім, аж пакуль той не змяшаўся з натоўпам на супрацьлеглым баку вуліцы.

Канверт не быў заклеены, і павольна, як праз сілу, адгарнуўшы на ім трохкутнічак, Альберт убачыў частку каляровага фотаздымка· прыгожае жаночае вока Яно гарэзна, з хітрынкай, улюбёна і з глыбокай адданасцю пазірала на яго Яму добра быў вядомы гэты прыжмур, гэтая гарэзнасць, брыво, але свядомасць ніяк не магла вызначыць, чый гэта позірк. І пакуль дрыготкія пальцы паспешліва выцягвалі здымак з канверта, гарачая млявасць нястрымна залівала грудзі, ніз жывата, пералівалася ў калені, ясны дзень рабіўся ўсё цямнейшым і цямнейшым, а з гэтай цемры, як дабяла напаленая металёвая пласціна, усё выразней і выразней акрэсліваўся прастакутнік фотаздымка, на якім яго жонка ў адзенні Евы ляжала на шырокім ложку, а побач, паклаўшы ёй галаву на

грудзі, ляжаў смуглявы дзяцюк, з шырокімі пакатымі плячыма, мускулісты, нібы адліты з бронзы Жончыны пальцы цярэбяць кучаравыя валасы палюбоўніка, а ў вачах у яе — закаханасць і шчасце І нейкая асаблівая, святая ўсмешка на губах І найвялікшы боль быў ад яе ўсмешкі, ад яе святасці І гэта надзвычай уразіла Альберта — чаму? І адразу ж асэнсаваў — яна не адчувае грэху ад сваёй здрады Яна — ЛЮБІЦЬ Як ніколі не любіла яго, Альберта І можа, сам Бог не бачыў у гэтым пралюбадзействе грэху — такой вялікай была яе любоў

Альберт кінуў кароткі позірк на Рэгіну

— Ну як завязка? Інтрыгуе

У адказ яна грэбліва пакрывіла губы

— Банальна і шэра, хаця ты не шкадаваў фарбаў і эмоцый Амаль кожны любоўны раман нізкага гатунку перанасычаны такімі калізіямі

— Сапраўды? Мяне гэта засмучае Але пагадзіся, кожная любоўная інтрыга мала чым розніцца ад іншых, а часам бываюць і падобныя, як тыя блізняты А наконт фарбаў і эмоцый — гэта прафесійнае Усякі адвакат хварэе на гэтую хваробу, бо засядацеляў часцей пераконвае не логіка, не факты, а ўменне плесці словы, плаўнасць і неакрэсленасць прамовы, яе квяцістасць. Аднак, як часта піша ваш брат белетрыст, вернемся да нашага героя, які, ашаломлены сустрэчай і аглушаны здымкам, што апынуўся ў яго руках, стаіць узбоч тратуара і ледзь стрымліваецца ад нясцерпнага жадання кінуцца пад колы якой-небудзь машыны, што праносяцца міма Смерць зараз здавалася яму не параўнальнай ні з чым асалодай, палёгкай, прахалодай для душы

— Дзеля ўсяго святога, — узмалілася яна, – толькі без гэтай біжутэрыі, без эпітэтаў, метафараў Гэта так нудотна слухаць.

Ён умольна паглядзеў на яе

— Ну, патрывай Нічога не магу з сабою зрабіць І ведаеш, што дзіўна, пачынаю расповед і адразу як бы сам раблюся тым злашчасным Альбертам І мне шкада яго і балюча. Так балюча, быццам не з ім, а са мной адбываецца ўсё гэта І я проста не магу не выказаць, што ў яго на душы Хацеў бы, а не магу І ўсё ж паспрабую карацей

У такім шокавым стане бядак стаіць мо хвілін пяць, здранцвелы, на крок ад таго, каб звар'яцець, але паступова да яго прыходзіць здольнасць думаць, разважаць, а разам з тым і выратавальнае сумненне

— Мана! Быць не можа, каб Фрыда...

— А гэта хто?

— Так завуць жонку. О, прабач, забыўся. Быць не можа, каб Рэгіна, якую ён так любіць, абагаўляе, Рэгіна, якая сама чысціня і дабрачыннасць, магла так падлюжна, так цынічна абысціся з ім, з іхнім каханнем Няйначай, нейкі шантаж. Нехта хоча паўздзейнічаць на вынік судовага працэсу ці, хутчэй за ўсё, помсціць яму за сваё паражэнне Канечне, так яно і ёсць.

Альберт уважліва, ужо прафесійным вокам, паглядзеў на здымак Безумоўна, ён зроблены тэлексам, бо па краях відаць абрысы расчыненага акна. Але і гэта не пераканала яго пры жаданні можна зрабіць усякі фотамантаж. А ён сам вельмі вінаваты перад Рэгінай Вінаваты за сваю, няхай і кароткую, рэўнасць, за недавер. Як мог ён, хаця б на імгненне, засумнявацца ў ёй? Павольна разарваў ён здымак на дзве палавінкі, склаў і разарваў яшчэ, потым яшчэ, няспешна падышоў да сметніцы, кінуў у яе дробныя кавалачкі паперы і плюнуў у сметніцу Потым сеў у машыну, спакойны, з незвычайна лёгкай і светлай душой, завёў матор і паехаў на працу

Жонцы ён нічога не сказаў пра гэтую гісторыю, аднак, як не стрымліваўся і не дакараў сябе за гэта, не мог ужо ранейшымі вачыма глядзець на яе, паранейшаму адчуваць сябе з ёю лёгка і шчасліва. У кожным яе слове, у кожным руху, жэсце, у выразе твару ці позірку шукаў ён пацвярджэння таму жудаснаму, што ставіў ёй нехта ў віну. Шукаў і не знаходзіў У ёй не было нават намёку на хітраванне, акторства, якое непазбежна прасачылася б, калі б той здымак не быў падробкай Тады ноччу ён зрабіў ёй вераломнейшае выпрабаванне не стаў, як звычайна, першым абдымаць і мілаваць, а моўчкі, нерухома ляжаў побач з ёй Ён быў упэўнены, калі здрада сапраўды мае месца, то Рэгіна нізашто не прылашчыцца да яго Гэта было б святатацтвам, грахом над грахамі Іншая справа, калі б ён сам дамагаўся яе Тады б яна не магла не адказаць узаемнасцю ну, хаця б дзеля таго, каб не выдаць сябе. А так. .





— Што з табой, Альберт? — здзіўлена спытала яна праз нейкі час.

— Нічога

— Няпраўда Я адчуваю, як нядобра ў цябе на душы

— Проста стаміўся. Цяжкі быў дзень.

— З табой ніколі не здаралася такога І наогул — навошта думаць пра тое, што было ці будзе Ноч для іншага

І яе страснасць, яе любоўная апантанасць выцесніла з душы Альберта ўсялякую падазронасць. І, ужо засынаючы сном шчаслівага чалавека, ён грэбліва, з пагардай пасміхнуўся ў твар незнаёмаму мужчыну з бародкай, які ў апошні момант з незвычайнай выразнасцю паўстаў перад вачамі

Міналі дні, тыдні Ён ужо зусім забыўся і пра барадатага дзецюка, і пра здымак. А калі ў памяці і ўсплывала тая раніца, апроч прыкрасці, было і задавальненне сабой, што не даў справакаваць сябе, што адразу ж разгадаў нейчую зламыснасць і падлюжнасць.

. У тую суботу ён сядзеў у гасцёўні адзін і слухаў Бетховена. Ён вельмі любіў у адзіноце слухаць Бетховена. Велічныя гукі паланілі яго душу, ён здаваўся сам сабе бесцялесным, бязважкім, нібыта растварыўся ў гэтых гуках, ці, хутчэй, у той вібрацыі космасу, якая існуе сама па сабе і якую некалі пачуў і паклаў на ноты натхнёны геній.

— Не думала, што ты гэтакі меламан, — не стрымалася Рэгіна

— Гэта плагіят Недзе чытаў штосьці падобнае

— Я так і падумала І нават ведаю, што зараз адбудзецца

— Няўжо? І што ж?

— "Раптам зазваніў тэлефон" Не так?

Альберт збянтэжана паглядзеў на яе

— З табою немагчыма

— Кінь. Тут не трэба асаблівай празорлівасці Падобнымі штампамі стракацяць усе творы дылетантаў

Але ён не пакрыўдзіўся, хітравата зірнуў на яе

— Яшчэ не вечар

— Які там вечар! — ноч, цемрадзь, а дакладней — шэрасць. Вядома, нехта па тэлефоне пачціва-далікатным голасам пацікавіцца, дзе яго жонка, і калі ён, абураны, скажа, што каму якая справа да таго, дзе Рэгіна, той жа голас з саркастычнай добразычлівасцю параіць яму паехаць ну, скажам, на пляж, дзе яна грэецца пад сонейкам на цёплым пясочку з палюбоўнікам

— Усё так, — амаль роспачна паглядзеў ён на жонку — Толькі ты не ўгадала, не на пляжы, а ў ба́ры

— Хіба гэта нешта мяняе?

Ён зусім зніякавеў

— Я бачу, што задумаў бязглуздзіцу, жадаючы дапамагчы табе. Кожны павінен ведаць сваё месца, свой шосцік.

— Ну, гэта не зусім так, — злітасцівілася яна — Можа, і сапраўды яшчэ не вечар Трэба ісці да канца Галоўнае, спадзяюся, наперадзе Не такі ты ўжо і працячок, каб распальваць сыр-бор дзеля нейкага прымітыўнага сюжэціка Пэўна ж напрыканцы нешта ў цябе прыхавана зусім не ардынарнае

— Дзякуй — У голасе яго чулася палёгка і ўдзячнасць. — Падзеі сапраўды толькі пачынаюцца. І, можа, тваё цярпенне будзе ўзнагароджана Ага, значыць зазваніў тэлефон Альберта аж перасмыкнула ад прыкрасці, і ўсё ж, узяўшы трубку, ён здолеў стрымана і нават ветліва вымавіць

— Слухаю вас.

І сапраўды, саладжава-пачцівы мужчынскі голас са здзеклівай далікатнасцю пацікавіўся, як у яго здароўе, асабліва сэрца, нервы .

— Дзякуй Усё добра.

Уяўленне імгненна перанесла яго ў той сонечны ранак, калі яму перадалі канверт са здымкам, і, вядома, тэлефанаваў цяпер той жа клышаногі, з бародкай, у цёмных акулярах.

Усё ж ён спытаў, з кім гаворыць, і ў адказ пачуў, што гэта зусім не мае значэння.

— Я бачу, вы не паверылі таму, што ўбачылі на здымку, — ні то з дакорам, ні то з папрокам пашкадаваў той, хто тэлефанаваў

— Я папрасіў бы не турбаваць мяне рознымі глупствамі, — рэзка адказаў Альберт — Больш не званіце, не губляйце дарэмна часу Усё адно вы нічога не дасягняце

— На жаль, вам назаўсёды давядзецца забыць пра спакой, — паспачуваў голас у трубцы — Спадзяюся, вы добра ведаеце бар "Зацішша"

— І што з таго?

— Калі не станеце марудзіць, то застукаеце іх цёпленькімі

— Каго — іх?

— Не прыкідвайцеся дурнем Вы ж выдатна ведаеце, пра каго ідзе гаворка Вашу жонку з тым прыгажунчыкам, што на здымку. Калі здымак вас не пераканаў, то. .

Пачуліся кароткія, частыя гудкі.

Бар "Зацішша" ён, канечне ж, ведаў Не адзін вечар з Рэгінай бавілі яны там за столікам пад пальмаю, у аддаленым куце залы. Там было вельмі ўтульна. Цьмяна-бэзавае святло, што лілося зверху, рабіла ўсё загадкавым і таямнічым. І музыка тут была не гучна-крыклівая, як амаль ва ўсіх барах, а сцішаная, задушэўная. Яна раскоўвала душу, адцясняла ўсе праблемы і трывогі, пераносіла ў свет шчымлівай пяшчоты і бесклапотнасці

"Не паеду, — кінуўшы трубку на апарат, у бяссільнай злосці падумаў ён. — Камусьці хочацца паздзекавацца, пабачыць мяне дурнем. Вядома, у бары Рэгіны няма А нейкі падлюга будзе назіраць за мной і смяяцца.. "

І адразу ж прызнаўся сабе, што не хоча ехаць туды менавіта таму, што баіцца. Баіцца неабвержнага доказу, што Рэгіна сапраўды здраджвае яму, а мо і, самае жахлівае, кахае другога. У такім выпадку гэты свет пераставаў існаваць для яго, рабіўся шчопцем шэрага попелу, у які ператвараецца спаленая, прыгожа і адмыслова зробленая стракатая цацка.

Але ў наступнае імгненне ён убачыў той, ІХНІ, столік пад пальмаю і яе, Рэгіну, не з ім, Альбертам, а з ненавісным яму смуглявым, і яе вочы, закаханыя, адданыя. .

— Чакай жа, — міжволі помсліва выдыхнуў ён і спешна пачаў апранацца

І дзіўна, ён зусім не адчуваў рэўнасці, а было толькі нясцерпнае жаданне пераканацца, што яна сядзіць за гэтым столікам. І, на вялікай хуткасці кіруючы машынай, ён думаў і не мог зразумець, чаму менавіта гэта выклікае ў душы такую нясцерпную крыўду, такі пякучы боль.

Ён іх заўважыў, як толькі ўвайшоў у бар. Увайшоў ён туды асцярожна, папярэдне прыадчыніўшы дзверы і зазірнуўшы ў залу

Яны сядзелі за столікам пад пальмаю, і бэзавае святло рабіла іх твары незямнымі, фантастычнымі, быццам яны былі жыхары іншай планеты і выпадкам апынуліся на гэтай грэшнай, панылай зямлі

Ледзь перастаўляючы ногі, ён дацёгся да незанятага століка за калонай, адкуль мог назіраць за імі і разам з тым быць незаўважаным, цяжка апусціўся ў крэсла, аглушаны пачуццём сваёй нязначнасці, мізэрнасці, усведамленнем, што ён тут лішні, непатрэбны, і не толькі тут, а наогул у гэтым жыцці Усё, што ён рабіў, чым жыў дагэтуль, да чаго імкнуўся — дабрабыт, вядомасць — рабілася толькі для яе і ў імя яе Усяго сябе, да самай апошняй драбніцы, з першай жа іхняй сустрэчы ён кінуў на ахвяравальны агонь, каб атрымаць яе любоў Не прынялі багі яго ахвяры, не прынялі

— Віншую — Рэгіна, як здалося Альберту, з цікавасцю паглядзела на яго. — Псіхічны стан твайго героя апісаны даволі праўдзіва. Сцісла і праўдзіва. І гэтае — "не прынялі багі яго ахвяры, не прынялі ." Тут крык душы.

— Так, крык душы, — пагадзіўся Альберт — Бо ніколі Рэгіна не глядзела на яго такім адданым, такім закаханым позіркам і ніколі не свяціўся такім шчасцем яе твар І ён, з безнадзейным адчаем, раптам, асэнсаваў, што жыццё абдзяліла яго, не даўшы самага галоўнага, што магло даць — КАХАННЯ ЖАНЧЫНЫ. Бяздумнага, бязмежнага кахання не праз твае вартасці і поспехі, а дзеля самога цябе, калі цябе любяць толькі за тое, што ты ёсць на свеце

— Ну, такое наўрад ці можа быць, — засумнявалася Рэгіна

— Думаеш? А каханне з першай сустрэчы, з першага позірку? Ці і не ёсць яно самае шчырае, самае бескарыснае? Калі ты кахаеш і не ведаеш каго — генія ці прасцячка, высакароднага рыцара ці махляра, а мо нават і забойцу? Не, як сабе хочаш, а такое каханне — вяршыня пачуццяў

Рэгіна нейкі час маўчала, потым паглядзела Альберту ў вочы і ціха прамовіла.

— Можа, і так. Але вернемся да твайго няшчаснага героя

— Вернемся

Час ішоў У цяжкім атупенні Альберт сядзеў у крэсле, пазіраў на ўлюбёных і не ведаў, што рабіць. Канечне, можна знішчыць гэтага прыгажунчыка, наняць забойцу ці самому Але што гэта зменіць? Ніякімі высілкамі, ніякім агнём не вырвеш, не выпаліш з яе сэрца тое, чым перапоўнена зараз яно

— Слухаю вас.

Перад ім стаяла афіцыянтка з нататнікам у руках, — маладзенькая, зусім дзяўчо, а ён доўга і няўцямна пазіраў на яе і не мог асэнсаваць, што ёй патрэбна. Потым вінавата ўсміхнуўся, узняўся, як робат перастаўляючы ногі, пайшоў да выхаду. Ужо каля дзвярэй спыніўся, паглядзеў на Рэгіну, і пакутная грымаса скрывіла яго твар. Але ў наступнае імгненне яе сагнаў выраз гневу і помслівай крыўды. І сам таго не чакаючы, праз зубы, расцягваючы кожны склад, ён прадыхнуў:

— Не аддам Не ад-дам

Паставіўшы машыну ў гараж, ён дацямна хадзіў па горадзе, беспярэпынна курыў, намагаўся нешта прыдумаць, знайсці нейкае выйсце, ды так, нічога не прыдумаўшы, накіраваўся дадому І тут яго ахапіла вострае, пакутна-салодкае хваляванне Безумоўна, жонка ўжо даўно дома. І, само сабою, не здагадваецца, што ён ведае ўсё. І, пэўна ж, будзе выдаваць сябе за бязгрэшную праведніцу, у душы смеючыся над ім. Што ж, зараз яны памяняюцца ролямі і яна сама трапіць у сваю пастку.

Зларадны, едкі смяшок вырваўся з яго горла, ён узбуджана пацёр далонь аб далонь і прыбавіў кроку Яму не цярпелася як найхутчэй убачыцца з Рэгінай, не цярпелася пачаць гульню, якая будзе ёй самай жорсткай і самай справядлівай помстай за яе вераломства.

Рэгіна сядзела за пісьмовым сталом і пакутавала над аповесцю, якую збіралася адаслаць на конкурс. Ні на твары, ні ў вачах яе не было і знаку перажывання, раскайвання альбо трывогі. Позірк яе быў спакойны, ясны, і на твары гэткі ж спакой

— Дзе ты быў? — спытала яна. — Я ўжо пачала непакоіцца.

— Сустрэў старога сябра, — адказаў ён. — Ну, само сабою, успаміны, роспыты І добра, што я сустрэў яго Вельмі ж не хацелася ісці дадому, ведаючы, што цябе яшчэ няма. У апошнія часы я не люблю адзіноты Яна прыгнечвае, наганяе тугу.

— А гэта ўжо для мяне навіна, — зазначыла яна. — Раней ты любіў пабыць адзін.

— То раней Ну як твае справы?

— Усё тое ж .. Ведаеш, чым я займалася ўвесь дзень? Сядзела ў бібліятэцы і праглядвала публікацыі аб крымінальніках. Спадзявалася, што натраплю на матэрыял, які б можна было ўзяць за аснову аповесці. Ды дзе там

"Д'ябальская вытрымка, — жахнуўся ён — Гэта не жанчына Гэта пачвара — жорсткая, пажадлівая, бессаромная. Як я мог падманвацца, бачыць у ёй чыстую, бездакорную душу, лічыць яе за самую святасць?"

І разам з тым адчуваў, як мацнее ў ім, робіцца ўсё вастрэйшай хваравітая асалода ад яе маны, ад яе няведання, што яна даўно ўжо ў пастцы і што дзверцы зачыніліся намёртва, што ёй ніколі не выбрацца на волю.

І ён піў гэтую асалоду дзень за днём, тыдзень за тыднем

Асабліва пранізлівай была яна па начах, у час іх любоўных вакханалій У ложку ён даводзіў Рэгіну да апантанасці, да бессаромнай пажадлівасці, да сладастрасных стогнаў і ўсхліпаў, праз якія прарывалася раз-пораз: "Любы. . Любы. "

У такія імгненні ён бачыў перад сабой твар смуглявага — разгублены, няшчасны твар мужчыны, якога пакідае каханка І, яшчэ больш распальваючы Рэгіну і сябе, слухаючы яе поўныя салодкага тамлення стагнанні, ён смяяўся ў гэты ненавісны смуглявы твар, смяяўся бязлітасна, пераможна, здзекліва

Ён дзівіўся сваёй невядома адкуль узятай юрлівасці, д'ябальскай асалодзе, якую адчуваў ад гэтай д'ябальскай гульні Але часта, прачнуўшыся сярод ночы пасля чарговай оргіі, ён ледзь стрымліваў крык невыноснай роспачы ад жудаснага ўсведамлення, што ён на мяжы вар'яцтва, а можа ўжо і вар'ят.

Аднак думка пра хваробу сваёй душы з'яўлялася рэдка, і ён адразу ж заганяў яе ў глыбіні свядомасці, а сваю вытанчаную помсту тлумачыў жаданнем пазбавіцца ад той любові да Рэгіны, якая яшчэ жыла ў ім, таміла сэрца, не давала спакою душы Але ж, нягледзячы на ўсе намаганні, гэтая любоў мацнела з кожным днём І яму яшчэ і яшчэ трэба было бачыць пацвярджэнне яе нікчэмнасці, разбэшчанасці і сапсаванасці

Так, для гэтай жанчыны не было нічога святога Яна здраджвала адначасова і мужу, і палюбоўніку Для яе нічога не існавала, апроч юру, сладастраснасці.

Але аднойчы, у момант найвышэйшага экстазу, яна штосілы абвіла яго шыю рукамі, прыціснулася да яго шчакі сваёй гарачай шчакой, сутаргава выдыхнула.

— Казімір Любы ..

Ён адхіснуўся ад яе, доўга ляжаў

побач, як паралізаваны, няздольны нават паварушыцца. Страшнае адкрыццё аглушыла яго. яна не здраджвала Казіміру — так, аказваецца, звалі палюбоўніка І аддавала яна сябе не яму, Альберту, а таму, смугляваму І яе надзвычайную страснасць можна тлумачыць толькі тым, што на месцы яго, Альберта, яна ўяўляла палюбоўніка.

І зноў перад вачамі паўстаў смуглявы прыгожы твар, але ўжо не разгублены і няўцешны, а самаўпэўнены, з пераможна-пагардлівай усмешкай на губах.

— Я прайграў, — прашаптаў ён, і тужлівая сцюдзёнасць палілася ў яго грудзі, змярцвіла ўсё цела Так. Ён маніў сабе Зусім не дзеля таго, каб выкінуць яе з душы, вёў ён гэтую гульню Ён змагаўся за яе, ён хацеў адабраць яе ў ненавіснага суперніка, хацеў вярнуць да сябе мінулае

Наіўны

Пачуццё невыноснай адзіноты, адрынутасці пранізала яго, і ён ледзь стрымліваўся, каб не ўскочыць на ногі, нават не апранаючыся, кінуцца ў гараж, сесці ў машыну і, разагнаўшы яе, на шалёнай хуткасці ўрэзацца ў сцяну дома ці ў слуп і адным разам суняць нясцерпны боль у душы І што стрымлівала яго, – яго, каму ўжо не было чаго рабіць на гэтай зямлі?

З-пад ног у іх раптам вылецела, шумна трапечучы крыламі, вялікая шэрая птушка, але Рэгіна нават не здрыганулася Твар яе быў спахмурнелы і засяроджаны

— Ну як, больш-менш? — спытаў Альберт, пільна ўзіраючыся ў жончын твар — Толькі прашу, без суцяшальнай маны

Яна кіўнула·

— Больш-менш Працягвай

— Табе сапраўды цікава?

— Сапраўды

— Я рады Вось толькі хацеў бы ведаць, што ўсё ж такі на самай справе прымушала яе быць і палюбоўніцай, і жонкай? Як растлумачыць тое, што яна так апантана кідалася ўслед за мужам у бессаромную слодыч любоўных оргій?

— Ты вольны сам даць таму тлумачэнне Ты аўтар, ты гаспадар.

— Каб жа так. Ты сама выдатна ведаеш, што гаспадаром тут з'яўляецца толькі ісціна. Калі грашыць супраць яе — твора не атрымаецца А хто ведае псіхалогію жанчыны лепш, чым сама жанчына? Апроч таго — ты празаік, і не абы-які.

— І што з таго? Прычын можа быць безліч, і кожнай можна было б даць псіхалагічнае абгрунтаванне

— І ўсё ж?

— Ну, хаця б тое, што яна адчувала сябе раздвоенай. любоў да Казіміра і ўсведамленне сваёй віны перад мужам

Альберт у сумненні пакруціў галавой.

— У гэта цяжка паверыць. Любоў самае эгаістычнае, што ёсць у чалавеку

— Магчыма. Але розныя бываюць душы

— А ці нельга растлумачыць гэта самай што ні ёсць эратычнай пажадлівасцю? Жанчыны, якім за трыццаць з нечым, якраз і адметныя гэтымі, калі так можна сказаць, якасцямі

— Я не думала, што ты такі вульгарны.

— Але ж мне патрэбна ісціна. Чаму яна адразу не сказала мужу ўсё, чаму не папрасіла разводу?

— Зноў-такі, тут знойдзецца безліч прычын Адна з іх — Казімір не хацеў яе разводу

— Але ж ён халасты, даволі забяспечаны І любіць яе

— Гэтага я не ведала

— Я проста забыўся пра гэта сказаць.

— Тады тут толькі адзінае тлумачэнне ён быў перакананы, што не здольны зрабіць яе шчаслівай

— Што ж ім яшчэ трэба для шчасця?

— Магчыма, ён быў хворы на нейкую невылечную хваробу, ці нешта такое

— Што ж, можа быць. — Альберт у задуменні ссунуў бровы — Але давай вернемся да сюжэта.

— Даўно пара Папраўдзе, я з нецярпеннем чакаю, чым скончыцца гэтая калізія.

— На жаль, я сам гэтага не ведаю. Але спадзяюся, разам мы знойдзем адзіны існы фінал Значыць, наш няшчасны герой згубіў усякую ахвоту жыць, і думка пра смерць была для яго як прахалода Але другая — што можа яны толькі і чакаюць яго смерці і будуць радавацца ёй — была нясцерпнай пакутай Так, яна паплача над ім, паходзіць у жалобе і зноў кінецца ў абдымкі таго, хто разбіў іхняе ціхае, нібыта такое трывалае шчасце

І разам з тым яшчэ цеплілася надзея, што сувязь Рэгіны з Казімірам трымаецца не на каханні магчыма, гэта проста яе часовае захапленне, ці можа, ён быў гатовы дапусціць і гэта, у яе памуціўся розум Патрэбен час, каб яна





перакаималася ў гэтым І ён цярпліва чакаў Але ішоў час, і нічога не мянялася. І разам з тым, як ні дзіўна, адчуванне, што Рэгіна не кахае смуглявага, не знікала, наадварот, мацнела, перарастала ў перакананасць. Ён нават падвёў пад гэта выснову· палюбоўнік пры дапамозе нейкіх чараў ці напояў прываражыў яе

— Наіўна, смешна і нелагічна, — перабіла яго яна. — Ён жа разумны чалавек. Пры чым тут чары, ведзьмаванне?

Альберт усміхнуўся задуменнай усмешкай, пакруціў галавой

— Ну не. Спасылкі на розум, інтэлект тут не праходзяць. Дзе каханне — там няма логікі Здаецца, пра гэта мы ўжо гаварылі.

— І ўсё ж такі

— І ўсё ж такі Альберт штодзень пераконваў сябе, што Рэгіна яму не здраджвае, што яна ахвяра, ахвяра нейкіх шальмаванняў, нейкага псіхічнага ўздзеяння І трэба моцны стрэс, крытычная сітуацыя, каб прасвятліць яе розум, адкрыць ёй вочы, каб яна ўбачыла, куды яна зайшла.

— А калі акажацца, што Альберт памыляўся, калі каханне яе не самападман, не нейкае ачмурэнне, а самае што ні ёсць сапраўднае, — моцнае і вечнае?

— Для такога выпадку ён нешта падрыхтаваў

— Што менавіта?

— Не спяшайся Усяму свой час.

— Але я хачу ведаць гэта зараз

— Не думаў, што ты такая нецярплівая Але, як мне ні шкада, табе давядзецца патрываць, дачакацца, куды завядзе герояў існы ход падзей

— Што ж. — Яна пакрыўджана падцяла вусны

Ён быццам не заўважаў яе крыўды

— План Альберта быў надзіва просты і геніяльны. Пры яго здзяйсненні расстаўляліся ўсе кропкі над «і» І кожнаму з траіх адмервалася адпаведнай мерай, адмервалася без махлярства, без прадузятасці Кожны з траіх атрымліваў тое, што яму вызначыў Лёс

І, набіраючы нумар тэлефона, Альберт падумаў, што сам Лёс і падказаў яму гэты план, каб здзейсніць над імі траімі наканаванае

— Чым абавязаны?

Голас у трубцы быў уладарна-ўпэўнены і крыху незадаволены

— Як здароўе, Эдвін?

Нейкі час цягнулася маўчанне, потым ужо непадробна-радасны голас азваўся·

— Альберт? Не магу паверыць...

— Ты не памыліўся

— Рады чуць цябе І яшчэ больш буду рады, калі змагу нешта зрабіць ..

— Дзеля таго і турбую.

— Я шчаслівы Што за праблема?

На душы Эдвіна ляжала шмат грахоў, але ў тым, за які яму свяціла вышка, ён быў невінаваты Шанцаў даказаць сваю невінаватасць у яго не было. Ніхто не сумняваўся, што яму не пазбегнуць смяротнага прысуду, і ніводзін прэстыжны адвакат не браўся за гэту справу Альберт узяўся і здолеў даказаць яго стопрацэнтнае алібі

"За мною доўг, — вызвалены пасля суда з-пад аховы, сказаў яму Эдвін. — Калі што спатрэбіцца ад мяне — зраблю ўсё Усё, што скажаш Чаго б гэта мне ні каштавала "

— Трэба сустрэцца, — сказаў у слухаўку Альберт

— Дзе і калі? — быццам і чакаў гэтага, спытаў Эдвін

Альберт назваў месца і час, і калі яны сустрэліся, будзённым голасам, гледзячы Эдвіну ў вочы, прамовіў·

— Патрэбны кілер

У той дзень Альберт прыйшоў з работы раней звычайнага і ў эйфарычным настроі узнёслы, нязвыкла гаваркі і сентыментальны Дарэчы, адсюль і пачынаецца спектакль, пра які я казаў. Усё, што было перад гэтым, пераказ мінулага, прэлюдыя да спектакля А з той хвіліны, як ён увайшоў, спектакль і пачаўся. Табе застаецца толькі занатаваць, зрабіць храналагічны запіс апошніх дзвюх гадзін І чым дакладней, тым лепшым будзе твор А вось з гэтага моманту нам трэба зусім забыць, хто мы, поўнасцю пераўвасобіцца ў сваіх герояў і нават не дапускаць думкі, што тое, аб чым гаварылася, і тое, што адбывалася, было з некім іншым, а не з намі

— Для чаго ўсё гэта? — пачужэлым голасам спытала яна

Ён дакорліва паглядзеў на яе

— Фінал, уся справа ў фінале. Без яго нам не бачыць Гран-Пры

— Але ж у твайго героя ёсць план. Перакажы яго і досыць. Я ўжо казала

— Прабач, не ў героя, а ў мяне. Мы ж дамовіліся. з гэтага моманту поўнае

пераўвасабленне . Яны — гэта мы Разумееш — мы!

Яна здагадалася пра гэта ўжо даўно. Яшчэ тады, калі ён згадаў пра бар Напачатку яе гэта толькі насцярожыла, і незразумелая трывога мімаходзь зачапіла сэрца і зараз жа знікла Ніякага бара "Зацішша" яна не ведала і, само сабою, ніколі не была ў ім з Альбертам. Але адкуль тады травога? І асэнсавала, што гэта звязана з Валерыем З ім яна часта бавіла час у бары, але не ў "Зацішшы", а ў "Кутку жаданняў". Няўжо Альберт пра нешта дазнаўся? Адкуль?. Супадзенне, не болей Ды і Валерый ніякі не смуглявы брунет, а бландзін. Але калі Альберт пачаў гаварыць пра бэзавае святло, пра ціхую, мілагучную музыку, ёй зрабілася млосна. Не было сумнення — ён ведае ўсё І яго выдумка наконт сюжэта — дасканала прадуманае езуіцкае катаванне І здзек. І насміханне І помста. Што з таго, калі Валерый не Казімір і не чарнявы? Трэба быць апошнім дэбілам, каб дакладна намаляваць партрэт. Увесь спектакль адразу б праваліўся. І што з таго, што яны з Альбертам ніколі пасля жаніцьбы не былі ў бары і што яна наогул не ведае пра ніякае "Зацішша"? Усё той жа спектакль І трэба аддаць яму па справядлівасці, ён па-майстэрску выконвае сваю ролю А яна Якой блазанкай, дурнічкай выглядала ўвесь гэты час. Калі крывілася ад яго сентыментальна ўзнёслых маналогаў пра каханне, калі кпліва пасміхалася з яго літаратурных эксперыментаў Колькі абразы, здзеку і цынізму вылілася на яе за гэтыя гадзіны!

Ад гневу, абурэння на вочы ёй набеглі слёзы, цела трэслася ў ліхаманкавай нервовай дрыготцы

Што ж, яна прыме гэтую гульню! Толькі яму будзе мала ў тым радасці Яна адпомсціць яму. Хаця яшчэ не ведае як, але адпомсціць — жорстка, бязлітасна

Страху больш не было Калі ён ведае ўсё — тым лепш. Цяпер ужо непазбежна вырашыцца праблема, якая даўно не давала ёй дыхаць: больш не будзе той кашмарнай падвойнасці, не трэба будзе маніць, прыкідвацца

Яна паглядзела на мужа доўгім насмешлівым позіркам, спакойна прамовіла.

— Я пераўвасобілася Можам працягваць далей Спадзяюся, кілер зараз не з'явіцца і не пачне страляць у мяне

— У цябе — не

— Тады ў каго? Калі на сцяне вісіць ружжо. .

— Яно павінна выстраліць? Само сабою

— Дык хто ж ахвяра?

Ён задуменна наморшчыў лоб, непрыемная, жорсткая ўсмешка скрывіла яго губы

— Так, хто ж ахвяра?

І нельга было зразумець, пытае ён у сябе, у яе ці проста насміхаецца

Раптам страшная здагадка прамільгнула ў яе галаве Валерый Няўжо ён хоча забіць Валерыя? Але, на шчасце, яго тут няма, а калі яна апынецца ў горадзе, то адразу ж папярэдзіць яго І яны знойдуць, як уратавацца Ды, можа, усё гэта няпраўда? Ну, вядома, няпраўда Альберт такі разумны і добры Ён не здольны на такое І ўсё ж па-ранейшаму спакойным голасам спытала:

— Няўжо ты збіраешся забіць Казіміра?

— Яшчэ не вырашыў

— Значыць, намеры такія ёсць? - твар яе пабялеў — Але гэта невысакародна

І зноў губы яго ссунуліся набок у жорсткай, пагардлівай усмешцы

— Пра якую высакароднасць ты гаворыш? У кахання няма высакароднасці А ёсць права на помсту Асабліва, калі табе здраджваюць, калі цябе пакідаюць.

— І ўсё ж я веру ў тваю велікадушнасць, у твой халодны розум і тваю разважлівасць.

Альберт глядзеў на жонку пустымі, бяздумнымі вачыма Цяжкая змрочнасць набегла на яго твар, губы моцна сцяліся, нервовы цік торгаў шчокі

— Нічога ад яе не засталося, ад разважлівасці І розум не халодны — у галаве ўсё плавіцца Я проста вар'яцею ад гэтай гарачыні І ў душы пякельны агонь.

— Гэта пройдзе

— Гэта ніколі не пройдзе

— Я прашу цябе, не чапай яго, — яна плакала — Мы з'едзем з гэтага горада і ніколі, ніколі ты не ўбачыш нас І ніколі не пачуеш пра нас.

— Я буду ведаць, што ты з ім ..

Нейкі час яны маўчалі. Рэгіна плакала. Твар Альберта па-ранейшаму быў змрочны і жорсткі Слёзы жонкі ніколькі не кранаді яго

— Скажы праўду, вельмі прашу, ты мяне ўжо не кахаеш? — ціха спытала яна і сцялася, напалоханая сваім пытаннем

— Мацней чым калі

Па яго твары прабегла сутарга

— А калі я паабяцаю, што на гэтым парываю з ім? Назаўсёды Ніводнай сустрэчы, ніводнага тэлефоннага званка

Кароткі іранічны смяшок вырваўся ў яго з горла

— Ты ідзеш на гэта, каб уратаваць яго І яшчэ болей будзеш мяне ненавідзець. І жыццё тваё ператворыцца ў пякельную пакуту І няўжо ты думаеш, што я ўсяго гэтага не буду заўважаць? Няўжо буду спакойна і шчаслівa глядзець на ўсё гэта? Самападман не для мяне

— Самападман не спатрэбіцца, — прамовіла яна

— Што ты хочыш гэтым сказаць?

— Тое, што хавала ад сябе апошнія месяцы. Нікога, апроч цябе, я не кахала і не кахаю Гэта праўда А Казімір Ты не памыліўся, гэта ачмурэнне Толькі напоі і чары тут ні пры чым Спакуса падзення — так можна гэта растлумачыць. У здрадзе, у падзенні ёсць свая асалода — пранізлівая, грахоўная, дэманічная Яна ні з чым не параўнальная, паглынае цалкам, адбірае душу Ёй немагчыма працівіцца І хто аднойчы трапіў у яе нераты, таму з іх не выбрацца. І я не магла спыніцца Калі б ты ведаў, як стамілася мая душа ад грэху, ад віны перад табой Я злачынца, роўных якой няма Як хацелася мне хоць нечым змякчыць сваю вінаватасць! Адсюль і страснасць, і апантанасць.. Але і тут дэманічная слодыч не выпускала мяне Я губляла пачуццё рэальнасці, і зноў перада мной з'яўляўся Казімір, потым зноў ўсведамляла, што я з табою.

— Выдатна! — у захапленні ўсклікнуў Альберт — Лепшага абгрунтавання паводзін гераіні не знойдзеш А ты — акторка вышэйшага класа Далібог, я проста забыўся, што мы іграем Я быў тым няшчасным Альбертам, а ты грахоўніцай Рэгінай Я проста згараў ад пакут рэўнасці

— Ты пра што? — яна недаўменна пазірала на мужа

— А ты яшчэ не хацела інсцэніраваць, — узбуджана папракнуў ён — Цяпер Гран-Пры наш Вось толькі б фінал, фінал даць забойны!

У яе раптам закружылася галава, пачалі падгінацца ногі.

"Божа, — жахнулася яна, — дык гэта ўсё-такі быў спектакль. А я ўсё прыняла Ён нічога не ведае. "

— У якім сэнсе — забойны, — аблізаўшы засмяглыя вусны, спытала яна

— Забойны — у сэнсе эфектны. Хаця не выключана спалучэнне і з іншым паняццем Але гуляем далей. — І ўжо другім голасам — насмешлівым і злым - спытаў·

— Выходзіць, ты кахаеш абодвух. Толькі па-рознаму

— Так, але не зусім .

— Але я не хачу ні з кім цябе дзяліць. Аднак і няволіць не буду Ты павінна застацца з тым, каго больш кахаеш Гэта будзе справядліва Ты згаджаешся са мною?

— Згаджаюся .

— Тады рабі выбар.

Яна разгублена пазірала на яго і маўчала.

Ён злавесна ўсміхнуўся, вочы пад шкельцамі акуляраў нядобра загарэліся.

— Я бачу, ты яшчэ не зрабіла выбару. Добра, я дапамагу Адзін з нас павінен быць забіты Ён альбо я. Гэта адзінае выйсце

Нешта вар'яцкае з'явілася ў позірку Альберта. Ён зглынуў сліну раз, другі Шчокі яго зноў заторгаліся

І хаця яна разумела, што ён проста выконвае сваю ролю ў гэтым спектаклі, ёй зрабілася страшна З'явілася прадчуванне, што наперадзе яе чакае нешта яшчэ.

— Нашто забіваць? — запярэчыла яна.

— А таму што нам з ім дваім цесна на зямлі. Помніш, як у Пячорына з Грушніцкім

— Ты хочаш наладзіць дуэль?

— Ну не Гэта зробіць кілер І ты будзеш выбіраць, каму з нас жыць, каму памерці.

— Я? О не!

— І ўсё-такі давядзецца.

Яна ўжо не магла асэнсаваць, спектакль гэта ці рэальнасць.

— І давядзецца неўзабаве, — ён зірнуў на гадзіннік, — праз чатыры хвіліны.

Яна з палёгкай уздыхнула — усё-такі спектакль Можа, кілер і ёсць недзе непадалёку, але Валерыя няма

— Я недаказаў табе пра сустрэчу з Эдвінам, — загаварыў Альберт — З ім была дамова, што кілер застрэліць таго, на каго пакажа жанчына І, па-мойму, ён

чакае нашага выхаду на сцэну Нам трэба паспяшацца

Але перш чымісці, ён адламаў з бліжэйшай бярозы галінку з яркімі жоўтымі лістамі, падаў яе Рэгіне.

— Яна табе спатрэбіцца, — сказаў ён, убачыўшы здзіўленне на яе твары — Хадзем.

— Куды?

— Помніш альтанку, вось там, на ўзгорку? Мы любілі там сядзець, у свой час Прыйдзем туды, і праблем з фіналам не будзе

Яна адчула, як цяжкай злавеснасцю напоўніўся гай, неба быццам пацямнела Ногі зрабіліся млявымі, і яна мусіла трымацца за руку Альберта

Яны ўзышлі на ўзгорак, і зрабілася бачнай альтанка, а ў ёй мужчына, які сядзеў на лаве і чытаў газету Напачатку яна падумала, што гэта кілер, і ледзь не апусцілася на зямлю Але зараз жа міжвольны ўскрык вырваўся ў яе з грудзей — яна пазнала Валерыя

— Чаго ён тут? — калоцячыся ў нервовай ліхаманцы, спытала яна Альберта — Што ты надумаў?

— Як што? Фінал Цяпер табе патрэбен усяго толькі фінал А без гэтай асобы ён не атрымаецца

— Як ён тут апынуўся?

— Яму ад твайго імя перадалі, каб у чатыры гадзіны чакаў цябе ў альтанцы Як я ўжо ведаю, вы з ім не раз бывалі тут Мы зараз падыдзем, ты сядзеш побач з ім, а я — каля цябе Неўзабаве перад намі з'явіцца кілер, і ты пакажаш, у каго яму страляць. Для гэтага пакладзеш некаму з нас на калені галінку Гэта знак.

– Я гэтага не зраблю, не зраблю, не..

— Давядзецца

— Нізашто Я проста кіну яе

— Тады ён застрэліць — яго і мяне Згодна з інструкцыяй

Яна амаль губляла прытомнасць Ухапіўшыся за яго плячо і не адрываючы вачэй ад яго скамянелага твару, умольна шаптала

— Пашкадуй! Пашкадуй!

— Хадзем, — ён узяў яе пад руку — Ды не забудзь павітацца з ім лагодна

Калі яны зайшлі ў альтанку, Валерый здзіўлена глядзеў то на яе, то на Альберта, намагаючыся зразумець, што да чаго

Яна села побач з ім, Альберт таксама апусціўся на лаву Яна спрабавала ўсміхнуцца, нешта сказаць, але вусны яе зледзянелі і ўсмешка была жаласная і бездапаможная, а словы застылі ў горле

І адразу ж за кустамі, што акружалі альтанку, пачуўся трэск сухіх галін і адтуль выйшаў чалавек у шэрым доўгім плашчы, з узнятым каўняром На яго твары былі цёмныя люстраныя акуляры Правую руку ён трымаў за адваротам плашча Крокі яго былі няспешныя і ўпэўненыя, як непазбежнасць.

Рэгіна неадрыўна глядзела на незнаёмца, потым павярнулася да Альберта Твар яе нечакана зрабіўся надзіва спакойным, у вачах не было ні страху, ні роспачы

. .. . .. .

— Віншую, — Альберт паклаў перад жонкай свежы нумар газеты — Гран-Пры наш

— Я ведаю, — адказала яна — Мне тэлефанавалі

Альберт сеў у крэсла, задуменна паглядзеў на жонку

— Я даўно хацеў спытаць. Ты паклала галінку на калені Валерыю Няўжо ты на самай справе асуджала яго на смерць?

— Я ведала, што стрэлу не будзе

— Адкуль?

— Калі мы ішлі да альтанкі, я лічыла, што ў цябе памуціўся розум Але калі ў апошні момант зазірнула табе ў вочы, убачыла ў іх столькі пакуты і міласэрнасці і зразумела, што ты пры ясным розуме Такія, як ты, не здольныя на злачынства, тым больш на забойства

— І ўсё ж ты

— Паклала галінку У гэты момант я паверыла табе і твайму незвычайнаму сюжэту да канца. І паклала галінку, каб вярнуць цябе Каб ты ўпэўніўся, што ты для мяне даражэй за ўсіх і за ўсё, каб сплаціць хоць нечым за той боль, які прынесла табе

— Я таксама хацеў вярнуць цябе

— Дзякуй Няўжо сапраўды ўсё ў мінулым?

— У мінулым

Ён падышоў да бара, наліў у бакалы віна

— За Гран-Пры.

Яна паглядзела на яго з пяшчотай і глыбокай адданасцю

— І за вяртанне

— І за вяртанне, — услед за ёй паўтарыў ён



# Аляксей БАЦЮКОЎ

## Я маю твор...



* * *

Недзе там, сярод ільдоў
Заблукала мая сцюжа.
Між цяснін зямлі пустой
Засыхае ружа

Чорнай пашчай вораг-цемра
Заглынула мае зоры
І мяне хмяльныя ветры
Не халодзяць болей

Ўчора мой загінуў сокал
Ў крумкачынай зграі
Вольны, сумны, адзінокі
Ў адзінокім краі

# Мікола ПРАКАПОВІЧ



*Гэта было тады,
калі калгаснікаў абіралі
ў прэзідэнты,
а палітыкі касілі сена сваім
козам
і раскідвалі на леціштчах
гной..*

# На Міколу





*ВОДГУЛЛЕ*

**На месцы хаты Касцюшкаў —
Закутая ў ланцугі пустка
І шыльда — на чыста рускай.
Пад снегам ірдзее шыпшына...**

**“Я нарадзіўся ЛІЦВІНАМ...”**

**Душа ў старадаўнім касцёле
Па-польску ахрышчана з воляй.
А недзе на Крупчыцкім полі
Пад снегам ірдзела шыпшына...**

**ПАГОНЯ гукала ЛІЦВІНА...**

**На поўнач імкнулася Шчара —
Ссівелі паданні і мары.
На поўдзень бруілася Ясельда —
Счарнелі таполі і ясені.**

**На месцы хаты Касцюшкаў
Закутая ў ланцугі пустка, —
Тут водаў і душаў падзел.**

**Крывавіцца памяць шыпшынай,
АЙЧЫНА чакае ЛІЦВІНА,
І водгулле збройнага чыну
Над Крупчыцкім полем гудзе.**

*СПАДАРЫНЯ ВІКТОРЫЯ*

**У ціхім старэнькім мястэчку
гандлююць часовым і вечным,
і конік заснуў на бягу...
У гулкім касцёле каменным
наскрозь прамерзлыя сцены
ловяць стагоддзяў тугу...
Трапечацца полымя свечкі
і болем жывым чалавечым
маўкліва сцякае на дол.
Вугельчыкі, слёзы і церні,
як памяці горкае зерне
дбайна сабраўшы ў прыпол,**

жанчына самотна і гожа
спявае “Магутны Божа”.
Схіліўся Хрыстос на крыжы...
А вочы ўзіраюцца скрушна...
Наскрозь прамерзлыя душы
свецяцца, як вітражы.
Адна Вы на сонечных хорах,
спадарыня, цётка Вікторыя, —
гісторыі нашай анёл.
Нам холадна знізу і пуста,
і снег адгукаецца хрустам, —
неба трымае касцёл.

## *ЛІТАРЫ НА ЛІТОЎЦЫ*

Загарну касу ў транспарант
з рамантычным лозунгам
“Жыве Беларусь!”,
сяду на ровар
і паеду абкошваць
гасцінец нашай гісторыі
Варшава — Масква.
Будуць побач снаваць, як мурашкі,
“масквічы”, “запарожцы”,
“форды” і “мерседэсы”;
працокае, падобны на тарпана,
мышасты конік з калгаса
“Светлы шлях”.
Пракаветны паганскі матыў
згадае старая літоўка
на два галасы з мянташкай, —
і ёй адгукнуцца косы
на Крупчыцкім полі.
А недзе пад Мілавідамі
падымецца з някошаных траў
прывід шляхцюка Пракаповіча
і разгублена спыніцца
паміж каменем,
пастаўленым нефармаламі,
і польскай капліцай з надпісам
“Pokój ich cieniom”.
Хваляй пракоціцца вецер
па вечным і юным жыце,
і ўявіць сябе штандарам
вулічны транспарант.
А з хмаркі, што прыплыве
невядома адкуль,





пральецца вясёлкавы дождж.
І зацурчаць з белага транспаранта
чырвоныя літары
“Жыве Беларусь!” —
на Крупчыцкіх касінераў,
на рану шляхцюка Пракаповіча,
на стомленую літоўку.

## *СОН ПЕРАД ТЭЛЕВІЗАРАМ ПАСЛЯ ПРАГРАМЫ АТН*

Гэта было тады,
калі людзей зноў пачалі вабіць лясы,
і кроплі яцвяжскай крыві закіпалі ў жылах;
а лясныя шаракі тым часам
стрыглі вушамі на ўскраінах гарадоў,
бо там пакуль адстрэльвалі толькі бізнесменаў;

гэта было тады,
калі калгаснікаў абіралі ў прэзідэнты,
а палітыкі касілі сена сваім козам
і раскідвалі на лецішчах гной;

гэта было тады,
калі ажывалі палотны Брэйгеля,
і Боская камедыя тварылася
ў самай праваслаўнай краіне свету;

гэта было тады,
калі гісторыя нічому не магла навучыць нашчадкаў
і мінулае заставалася непрадказальным.

Гэта было,
гэта ёсць,
ці гэта жахлівы сон:
з рудымі яцвягамі,
зайцамі ў бронекамізэльках
і прэзідэнтам, які вядзе ў зону
брэйгелеўскіх сляпцоў...

## *НА МІКОЛУ*

Як даўно я быў паэтам,
як даўно...
Ах, якое ты п‘янкое,

стынь-віно.
Ах, якая ты халодная,
зіма,
і мяне на гэтым свеце
больш няма,
як няма на свеце
радасці-тугі,
бо зраўняны белым снегам
берагі, —
завіруха адсвістала па трысці...
Я іду —
а мне няма куды ісці...

***

Роспачнай віхуры немата,
Выбелі мінулае за мною,
Замятай жыццё маё зямное,
Шчасце замятай.

Выстудзі яе вясельны смех
Ледзяшамі пад высокім небам,
Супакой душу будзённым хлебам
І вярні зіме.

Салаўіны посвіст над ракой
Засыпай заснежанай чаромхай,
Адгуляй зняверана і лёгка, —
Сціхні, як дакор...

***

Недзе за гэтым светам
Сустрэнемся мы з табой
Шчодрым, як радасць, летам,
Бясконцай, як час, зімой.

І ты не будзеш спяшацца,
І я не зап'ю з тугі:
Шчакі дакрануцца пальцы:
— Добры дзень, дарагі!

І будуць бяздонна вочы
Пра вечнае гаварыць,
І ружы на падаконні
Лёгкі твой смех запомняць,
І свечка ў абдымках ночы
Ніколі не дагарыць.



# Віталь ПЯТРОЎСКІ

Я маю твор...



## *АЎТАПАЭТ*

Неба ахрыпла
крычаць аб сінечы сваёй
Поўня пятлю
зацягнула на вежавым кране
Горад падняў за каршэнь я,
нібыта шчанё,
Толькі ў адказ я
паэтаў пачуў скавытанне

# Уладзімір АРЛОЎ



*"Тытанік" тануў, на тросах плылі ўніз шлюпкі з ахопленымі жахам людзьмі, і тут хтосьці з іх убачыў у асветленым ілюмінатары маладых мужчыну і жанчыну, якія, забыўшы пра ўсё на свеце, пяшчотна і страсна любілі адно аднаго.*

# Genius loci

Не буду спрачацца, ідэя належала табе, і я прыняў яе адразу — ты нават не паспела пакінуць у попелцы першы, патушаны з тваёй нязменнай дзіцячай стараннасцю недакурак. Памятаецца, я казаў табе, што, калі ты курыш першую цыгарэту, твар у цябе робіцца летуценным і адстаронена-незнаёмым — толькі крыху, але дастаткова для таго, каб выглядаць не тваім, а — тваёй сястры- блізнячкі, у якой усё такое самае і разам з тым — не Падобнае ўражанне ўзнікала і тады, як, сцішыўшыся пасля апошніх ласкаў, ты з лёгкім уздрыгам мякка падала ў кароткі сон, а я, вартуючы яго, касавурыў вока на тваю галоўку, што ляжала побач на падушцы

Ідэя была геніяльна простая· калі ўспамінаць нашу кавярню, дык адну яе — без усякіх прадмоў, эпілогаў і розных лірычных адхілаў кшталту першай раніцы, у якую мы прачнуліся абняўшыся, але бязгрэшныя, як пяцікласнікі, бо ў астатняе імгненне ты, быццам жнівеньская жужалка, абавязкова прымудралася выслізнуць. Альбо кшталту кладак над возерам з пахмурным найменнем Люхава, нават уначы насычаных сонечнай энергіяй, кладак і слоіка са светлякамі, чыё зеленаватае мігценне зусім не здавалася халодным .

Але мы дамовіліся гаварыць выключна пра кавярню Як на школьных уроках літаратуры адзінства часу, месца і дзеяння

Пра кавярню, што яшчэ не выветрылася з памяці жыхароў трох куртатых вулачак, якія насуперак усялякай логіцы ацалелі ў гэтай частцы горада ад сярэднявечнага прадмесця У цесных дварах з арэлямі і абымшэлымі альтанкамі вам пацвердзяць: насупраць тралейбуснага прыпынку, там, дзе цяпер салон італійскага абутку, тады сапраўды была кавярня

Да таго дня, калі мы ўпершыню не праехалі міма, а зайшлі і селі за столік пад пастэльным восеньскім пейзажам з парушанай перспектывай, схаваная пад шклом стандартная шыльда з дзвярэй кавярні ўжо знікла ці то не задаволіла эстэтычны густ новага гаспадара, ці то яму падалася неарыгінальнаю назва, а найверагодней — і адно, і другое Між тым новай шыльды так і не павесілі, і неўзабаве хтосьці вывеў на глухой бакавой сцяне стары назоў — спачатку крэйдай, а потым, паўзверх, нітрафарбаю з балончыка. Смарагдавыя літары на шэрай асноведзі глядзеліся, па-мойму, не горш за малахітавы кулон на тваёй купленай у краме "Second hand" папялястай кофтачцы .

Некалі я пісаў фантастычныя апавяданні і адно з іх мела сюжэт пра вынаходніка апарата, які — быццам з грамафонавай кружэлкі ці з магнітафоннай стужкі — умеў "счытваць" галасы з рэчаў, што былі сведкамі нейкіх размоў і падзеяў У апавяданні адбылося забойства, раскрыць якое дапамагло звычайнае кухоннае крэсла

Не, у кавярні, як табе вядома, нікога на нашай памяці не забілі, аднак ты ўяві, колькі маглі б распавесці яе расхістаныя сінія крэслы Праўда, у нашым выпадку ўсё наадварот: крэслы даўно згарэлі на звалцы, а мы зараз уваскрэсім іх разам з ненадзейнымі спінкамі і парэзамі, адкуль прасіўся на свет жоўты паралон набіўкі. Потым мы адновім дрогкі кутавы столік і брунатную, чыста выцертую стойку ў процілеглым канцы маленькае, усяго на пяць столікаў, залы. За стойкай зоймуць свае месцы рослы румяны бармен, падобны да зробленай добрым майстрам-чырванадрэўшчыкам шафы, і ягоная кругленькая здобная памочніца, яны няблага разумелі па-беларуску, прынамсі, ведалі, што такое кілішак і ніколі не блыталі каву з какавай

У той дзень, калі я не здолеў прыдумаць табе біяграфіі

Так, гэта ўжо за межамі нашае дамовы, але, пагадзіся, каб не мая бяскрыўдная гульня, ты не сядзела б сёння ў фатэлі каля акна і не казала, што трох пляшак светлага сухога віна для ўспамінаў якраз дастаткова — не дзвюх і не чатырох, а мяноўна трох.

Значыцца, ты згодная зробім выключэнне Я маю на ўвазе не віно, а гісторыю нашага знаёмства Праўдзівей — ягоную тэхналогію

Ты не забыла, мы пазнаёміліся дзякуючы маёй звычцы складаць чужыя біяграфіі. Аб'ектам эксперыментаў амаль кожны раз былі жанчыны Па-першае, яны хутчэй заводзілі ўяўленне, а, па-другое, самі абставіны, калі без дазволу жанчыны ўступаеш з ёю ў кантакт, стваралі падтэкст зваблівай шматварыянтнасці

Звычайна ўсё адбывалася так. У тралейбусе ці вагоне метро мой позірк цалкам самастойна, без усякае разумовае каманды выбіраў жанчыну або дзяўчыну — зусім неабавязкова самую прывабную — пасля чаго, таксама незалежна ад мяне, спрацоўвала

патрэбная спружынка, патайныя колцы і шасцярэнькі пачыналі бесперабойна круціцца, і праз хвіліну – дзве я меў першую порцыю інфармацыі: узрост, прафесія, муж, дзеці. Калі мы ехалі разам досыць доўга, гульня працягвалася і я атрымліваў дадатковыя звесткі. характар, захапленні, любімы пісьменнік альбо яго адсутнасць з прычыны абыякавасці да літаратуры.. На пятым ці шостым прыпынку я “ведаў”, куды мая спадарожніца накіроўваецца, якім кветкам і колерам аддае перавагу, што п’е з большаю асалодай А на чарзе стаяў блок інтымнае інфармацыі: як сустракаюць яе вусны пацалунак каханка, што ўмеюць рабіць самі, што такое для яе вернасць..

Прычым хачу табе сказаць. у маёй даведзенай да аўтаматызму гульні ніколі не ўзнікала неаднаразова апісаных рознымі аўтарамі сітуацыяў, калі пасля некалькіх слоў і поглядаў прыходзіць упэўненасць, што выпадковы візаві створаны не для каго-небудзь, а для вас; а потым — станцыя, прыпынак, і ён ці яна назаўсёды выходзяць, пакідаючы ў душы трагічнае адчуванне незваротнасці імгнення Паўтараю, са мною (можа, таму, што я кіраваўся правілам не заводзіць з “паддоследнымі” ніякіх размоў) нічога падобнага, у тым ліку і ў той травеньскі надвячорак, не здаралася

Тады здарылася іншае.

Блукаючы па душным тралейбусе, мой позірк, як зазвычай сам сабою, адшукаў найбольш цікавую яму істоту Пазней я падзяліўся з табой першым уражаннем: гішпанка Вочы колеру перасpелае вішні вінаватыя тут былі не болей за густы роўны загар злёгку кірпатага твару ў абладзе доўгіх, чорных з сіняю іскрынкаю валасоў. Колькі наступных хвілінаў я акрэсліў бы як суцэльнае здзіўленне. Бездакорна наладжаны механізм гульні ўпершыню даў збой фантазія мела даволі падстаў страпянуцца і раскрыць крылы, але паводзіла сябе падазрона абыякава.

Ты ведаеш, я не належу да празмерна сарамяжлівых, і, магчыма, памятаеш, што было далей. Каля цырка ты сабралася выходзіць, а мне ўдалося вышмыгнуць першым і падаць табе руку Ты з подзівам у пераспелых вішнях абаперлася на яе, намагаючыся разгледзець за цёмнымі акулярамі і рудаватай барадою каго-небудзь знаёмага, і пачула словы, якія сярэднестатыстычную пасажырку грамадскага транспарту непазбежна прывялі б да думкі пра стан псіхічнага здароўя суразмоўніка. “Даруйце, што не здолеў прыдумаць вам біяграфіі”

Увесь вечар мы гулялі па горадзе, елі за вынесенымі на вуліцу столікамі марозіва, запіваючы яго нясмачнай рэдкаю кавай, а калі неба пахаладнела і зрабілася глыбейшым, купілі шампанскага, пераглянуўшыся, зразумелі, што адной бутэлькі будзе да смешнага мала, узялі яшчэ дзве і спынілі таксоўку

Прызнаюся, ты здалася мне даступнаю, і гэта была не апошняя мая памылка..

Больш ні слова. Толькі пра кавярню. Пра нашую кавярню з такой мілай у сваёй банальнасці назваю — “Сябры”.

Мы прыходзілі туды пасля спатканняў у тым пакоі за зялёнымі шторамі. Часам напярэдадні маячыў цэлы вольны вечар, часам і ты, і я з прабачлівымі ўсмешкамі выбягалі з кавярні камусьці тэлефанаваць. Метафара сіямскіх блізнятаў, якая раз-пораз усплывала ў размовах, выглядала мастацкай празмернасцю, аднак вельмі часта развітанне на парозе кватэры ці на прыпынку ўспрымалася б не іначай, як злачынства.

Лета, за выняткам лічаных ліпеньскіх дзён з навылёт прагрэтымі сонцам азёрнымі кладкамі, выпала халоднае і дажджлівае, і ў кавярні мы найчасцей замаўлялі арэхавы лікёр, што, як і ўсё астатняе, там налівалі ў блакітныя пластыкавыя кубачкі — дакладна з такіх частавалі мінералкаю і ліманадам сцюардэсы ўнутраных авіяліній. Некалькі глыткоў густой бурштынавай вадкасці з міндалевым смакам хутка сагравалі і прыносілі амаль хатнюю ўтульнасць.

Зрэшты, выбар напояў не прэтэндаваў на багацце. апроч двух-трох гатункаў лікёру вы мелі магчымасць спытаць шампанскага, каньяку і дарагога нямецкага ці галандскага піва ў бляшанках. Дадайце сюды цыгарэты, гарачыя лусцікі і каву — яе бармен гатаваў не горш, чым разумеў беларускую мову — вось і ўвесь асартымент, які не забаранялася пашыраць прынесенымі з вуліцы бананамі, пліткай шакаладу і, галоўнае, якой-небудзь прыстойнай пляшкаю.

Музыка прываблівала не меней за дэмакратычнасць парадкаў. Кавярня слухала класічныя негрыцянскія блюзы, бітлоў, ролінгаў . Карацей, ты памятаеш, там круцілі альбомы, якія нам калісьці не дазвалялі ставіць на школьных вечарынах і мы слухалі іх дома на нехлямяжных пудовых магнітафонах, што больш за ўсё любілі пажаваць стужку





У часы тых дапатопных апаратаў нікога з кампаніі моладзі, якая, пазычаючы ў суседзяў два крэслы, займала цэнтральны з пяці столікаў, не існавала і ў праекце Кампанія піла ў асноўным прынесенае з сабой айчыннае піва, разлівала пад сталом штосьці мацнейшае і гаварыла на такім рафінаваным арго, што, здавалася, з намі гэтыя маладзёны пагадзіліся б размаўляць толькі праз перакладчыка Да прыкладу, я зусім не адразу даўмеўся, што трох-, двух- і аднаактоўкі, якія часта фігуравалі ў іхняй гаворцы, з тэатрам былі звязаныя не болей чым, скажам, з экспедыцыямі на Марс.

Абмежаванае кола наведнікаў было яшчэ адной бясспрэчнай вартасцю кавярні. Туды забрыдаў выпіць каля стойкі сто грамаў выпадковы прахожы, магла забурыцца гурма крутаплечых хлапцоў са стрыжанымі патыліцамі, што не прасілі, а давалі бармену загад з ходу наліць кожнаму па поўнай каньяку і гучна загаворвалі пра Хрыпатага, якому ўключылі лічыльнік, ды большую частку кліентаў, асабліва ўвечары, складала іншая публіка, у якой вылучаліся заўсёднікі Яны мелі традыцыйныя месцы, прыкметна нерваваліся, пакуль іх столікі былі занятыя, і неахвотна пераcаджваліся, калі тыя вызваляліся З шараговых кліентаў яны ператвараліся ў індывідуальнасці, і таму я лёгка магу аднавіць абліччы і паводзіны кожнага. і чалавека з вільготнымі рукамі, які называў сябе алмазаздабытчыкам, і глуханямых, і міліцыянта, якога не разумела жонка, і парачкі лесбіянак.

З каго б ты хацела пачаць?

Чаму не, няхай будзе міліцыянт, пагатоў у цесным свеце кавярні ён успрымаўся прыкладна так, як сабачае вуха на месцы аднаго з пялёсткаў вялізнага рамонка з палатна прызабытага паслядоўніка Далі

Міліцыянт заяўляўся недзе каля восьмай Ён прыходзіў у цывільным, але ўсе ведалі, што ён — міліцыянт і што яго завуць Пеця, бо выпітыя сам-насам з сабою “законныя” сто грамаў каньяку ўмомант рабілі яго гаваркім і, замовіўшы бутэльку шампанскага і крыху лікёру, ён падсаджваўся за чужы столік. Лікёрам ён зрэдку мог пачаставаць суседку, а шампанскае, усё да кроплі, выпіваў сам Рысы ягонага гладка выгаленага твару ніхто не назваў бы непрыемнымі, ды яны існавалі незалежна адна ад адной і, як на прамежкавых стадыях стварэння фотаробата злачынцы, ніяк не хацелі спалучацца. смелы разрэз вачэй пярэчыў невялікаму мяккаму падбародку, а выразны роўны нос не спадзяваўся дасягнуць гармоніі з па-жаночы маленькім ротам

Улюбёным слоўцам ягонага лексікону была, як ты памятаеш, “жопа” Па “жопе” ён страляў з табельнай зброі, калі парушальнік кідаўся наўцёкі Па “жопе” лупцаваў службовай папругаю сына-двоечніка. Іншага слова не знаходзілася і для жонкі, якой не дадзена было спасцігнуць тайніцу ягонае душы Аднак гэты балбатун чамусьці не шукаў сабе сабутэльнікаў у форме, а ўпарта ішоў сюды, у кавярню, якую, на вялікае наша здзіўленне, ні разу не абазваў сваім запаветным словам, а часам, перад адыходам да жонкі, абсалютна не абразліва, нават пяшчотна называў “гадзючнікам” Нягледзячы на тое, што з ім было цікава пагаварыць не больш за адзін раз, міліцыянт заняў на палубе прызначанае яму месца і без яго агульная мазаіка рызыкавала б рассыпацца — так адсутнасць патрэбнае косткі здатная разбурыць самы дасканалы сказ.

Я сказаў· “на палубе” Гэты выраз належаў алмазаздабытчыку і мог ускосна сведчыць, што той зарабляў на жыццё і на сваіх жанчын не толькі пошукам алмазаў у якуцкай вечнай мерзлаце, але і насамрэч хадзіў у мора. У такім разе захоўваць на палубе раўнавагу ў штармавую непагадзь яму, з ягонымі двума метрамі, было, відаць, няпроста Але гэты адносны недахоп кампенсавала атлетычная постаць і моцныя доўгія рукі, чый энергічны поціск, аднак, нязменна выклікаў у мяне лёгкі прыступ гідлівасці. сліскавата-вільготная далонь нараджала адчуванне, што ў руку ўсунулі вялізную жабу-рапуху

Як выглядае, жанчыны пакутуюць ад гідлівасці значна меней Дый лысая галава-яйка не была прыкметнай перашкодаю на шляху да жаночых сэрцаў, тым больш, яе ўладальнік сачыў за сабой, ходзячы ў модных гарнітурах і не забываючы пра парфуму У выбары жанчын ён не любіў паўтарэнняў і кожны раз прыводзіў з сабой новую Прыгажуняў сярод іх мы не заўважалі, але страхотлівых стварэнняў таксама не траплялася.

Быў зарэгістраваны выпадак, калі ён, пакінуўшы кавярню з адной спадарожніцай, перад закрыццём пасадзіў за свой столік ужо іншую, а сам, нефанабэрліва падміргнуўшы мне, падышоў да стойкі і весела гукнуў бармену· “Гэй, на палубе!”

“Цыган дома не крадзе”, — чуў я некалі ад бабулі. Алмазаздабытчык быў падобны

да цыгана, як я — на далай-ламу, аднак бабуліны словы мелі да ягоных паводзінаў несумнеўнае дачыненне Ён не зрабіў і кволай спробы хоць раз завязаць размову з якой-небудзь самастойнай наведніцай кавярні Да ўсіх іх, асабліва да тых, чые твары былі яму знаёмыя з ранейшых візітаў, ён ставіўся падкрэслена ветліва, але нават без намёку на мужчынскую ўвагу.

Выключэнне складала парачка лесбіянак, што кідала нашаму лавеласу выклік ужо самім фактам існавання жаночых істотаў, якія ўмелі абыходзіцца без лысых, вусатых, барадатых і ўсіх астатніх прадстаўнікоў іншае паловы чалавецтва. Наткнуўшыся позіркам на лесбіянак, уладальнік галавы-яйка не мог схаваць калючай укведенасці і спяшаўся запіць яе глытком каньяку Напрошвалася думка, што ён знойдзе падтрымку ў міліцыянта, ды той ставіўся да жаночай парачкі якраз надзвычай талерантна, ніколі не карыстаўся ў дачыненні да яе ўлюбёным слоўцам і часам мройліва мармытаў сабе пад нос: “Вось бы з дзвюма адразу, бля”

Лесбіянак мы сустракалі ў свой кожны прыход, з чаго вынікала, што гэтыя бландзінкі—танклявая, з нервовым артыстычным тварам, у якім падтэксту было болей, чым самога тэксту, і крышачку паўнейшая, з выдатна прамаляванай постаццю і шырока расплюшчанымі даверлівымі шэрымі вачыма — бывалі ў кавярні ледзьве не штодня Нас вабіў іхні загадкавы свет, аб якім дазвалялі адно здагадвацца скупыя вонкавыя праявы пераплеценыя на стальніцы пальцы, раптоўныя, па-птушынаму лёгкія пацалункі, якімі танклявая зрэдчас адорвала сяброўку; тонкія залатыя пярсцёнкі, якія абедзве насілі на правай руцэ

Алкаголь уздзейнічаў на іх па-рознаму Танклявая пачынала безупынна смаліць цыгарэты, яе твар змрачнеў, і на яго клаўся цень драпежлівасці Аднаго разу яна спалатнела, нібыта з яе выпусцілі палову крыві, і, задыхаючыся, кінула каханцы колькі фразаў, а потым так упілася ёй вострымі малінавымі пазногцікамі ў тыльны бок далоні, што шэравокая гучна ўскрыкнула ад болю. Мы вырашылі, што назіраем сцэну рэўнасці і, не абмяжоўваючыся канстатацыяй, паспрабавалі ўнікнуць у сітуацыю глыбей Памятаеш, нас займала пытанне здатныя лесбіянкі раўнавацца да мужчын ці гэта ў іх сістэме каштоўнасцяў — нявартая ўвагі драбніца накшталт ранішняга дожджычку за акном?

Скульптар-кераміст Коля не паспеў перайсці ў разрад заўсёднікаў Ягоная рэдкая для трыццаці з гакам гадоў светлая барадка над жураўлінай шыяй, дзе матляўся вузел нясвежай стракатай касынкі, аздобіла інтэр'ер кавярні ўсяго двойчы

У свой другі візіт Коля запрасіў нас на гасціны Ён жыў з бабуляю на ціхай вуліцы ў пабудаваным палоннымі немцамі двухпавярховым доме Адзін з пакояў прасторнай занядбанай кватэры на першым паверсе быў ператвораны ў майстэрню і адначасова ў спальню з шырокай канапаю, якую гаспадар называў сексадромам

Мы выпілі каньяку, потым Коля паклікаў мяне на кухню і змоўніцкім тонам паведаміў, што мы з табой можам заняцца на ягонай канапе любоўю, але з адной умоваю альбо ён, Коля, будзе назіраць за намі ў акно, альбо праз нейкі час знячэўку зойдзе ў пакой. “Чыста прафесійная цікавасць, стары”, — ужо няўпэўнена варочаючы языком, патлумачыў Коля.

Не, пра паэта я не забыў, як памятаю і тое, што ты прадказала ягонае з'яўленне, заўважыўшы, што ў такой мясціне павінен бываць хоць адзін прызнаны ці, лепей, непрызнаны паэт Тваё прароцтва матэрыялізавалася ў абліччы дыстрафічнага юнака ў акулярах і атрутна-жоўтым швэдары Лесбіянкі адгарадзіліся ад паэта ледзянымі ўсмешкамі і проста не пусцілі за свой столік, і першымі слухачамі наканавана было стаць нам. Ад празмернага хвалявання ў паэта мутнелі шкельцы акуляраў Выпадак, па-мойму, быў безнадзейны, як спроба датэлефанавацца да самога сябе Мы прапанавалі юнаку лікёру; успрыняўшы гэта як пахвалу, ён так распусціў пёры, што, калі я зноў пайшоў да стойкі, намерыўся прызначыць табе спатканне

Часам я думаю, што, калі б кавярня прызнала паэта, ён, насуперак усяму, стварыў бы нешта больш значнае за вершыкі, здольныя нарадзіць адну-аднюткую асацыяцыю з бескалёрнымі вадзяністымі парасткамі ў падвальным закутку Аднак кавярня не прыняла яго, і паэт знік гэтаксама раптоўна, як і з'явіўся

Другім пасланцом літаратурнага свету, што аднойчы, расплюхаўшы каньяк, узрадавана палез да мяне з мядзведжымі абдымкамі, стаўся знаёмы празаік, у якога пасля чарговае жаніцьбы пачаўся мядовы месяц. Паралічыўшы свае чыста мужчынскія





дасягненні разам з колькасцю і маркамі выпітых напояў, ён урачыста абвясціў, што піша апавяданне, якое нарэшце адкрые ў нашай літаратуры жанр эратычнае прозы. Першы сказ быў ужо гатовы “Пад'езд прапах спермай”. Я асцярожна параіў замяніць пад'езд на кватэру “Пад'езд прапах спермай”, — з націскам на першае слова абражана паўтарыў празаік, выцадзіў каньяк і, не развітаўшыся, ляпнуў дзвярыма

Значна глыбейшы след пакінулі глуханямыя

Яны трапілі ў кавярню, ратуючыся ад дажджу і, паколькі кампанія самых юных наведнікаў адсутнічала, апынуліся за іх столікам Дзіўная рэч, я не магу ўзнавіць у памяці іх рысаў, апрача таго, што яе твар — у параўнанні з ягоным, прыгожым і адухоўленым, — напачатку здаўся мне грубавата-вульгарным

Мы не адразу змецілі, што яны гавораць рукамі, а калі заўважылі, дык праз хвіліну ўжо былі перакананыя гэта — закаханыя. І нашы з табой рукі любілі пагаварыць на сваёй мове, але іх лексічны запас здаваўся нам вялікім толькі да таго вечара

Сапраўды, твары зараз захінутыя ад мяне туманам, а вось рукі рукі я гатовы намаляваць. яго вузкую музычную далонь з пластычнымі выцягнутымі пальцамі, кожны з якіх быццам бы меў на фалангу болей, і яе маленькую авальную далоньку з карантышкам-мезенцам Гэтыя рукі выпраменьвалі такую пяшчоту, што хацелася адвесці позірк — нібы падглядваеш за нечым інтымным, прызначаным для дваіх.

Мы яшчэ крыху паспрачаліся на тэму: як яны клічуць адно аднаго па імені і як — калі мы завём іх глуханямымі — называюць нас, тых, у каго слых і мова ў парадку У мяне бліснула ідэя ўзяць нататнік і асадку і пазнаёміцца з навічкамі напісаць, што яны нам падабаюцца, даведацца імёны, потым запытацца яшчэ што-небудзь, напрыклад, на якой мове яны гавораць сваімі чуйнымі рукамі і ці існуе наогул такі панятак, як “глуханямая” беларуская мова

А тым часам музычныя пальцы нашэптвалі штосьці такое, ад чаго профіль у жанчыны быў злёгку падведзены чырванню Яе твар развітаўся з уяўнай вульгарнасцю, стаўшы не менш адухоўленым, чым у яе спадарожніка, і я адчуў усю злачынную недарэчнасць свайго намеру пранікнуць у іхні свет з дапамогаю адмычкі зашмальцаваных будзённасцю фразаў

Ты выказала здагадку, што слова “кахаю” ў мове, на якой яны гавораць, вынайшаў самы закаханы глуханямы Нам здавалася, яны павінны зайздросціць нам, бо на іх мову шмат чаго проста не перакладалася — тэлефонны званок, музыка апошніх ускрыкаў, назвы рэдкіх кветак — напрыклад, эстэрдэлія — якія я любіў дарыць табе, ненавідзячы банальныя гваздзікі і ружы

Так, ты не памылілася, глуханямыя забеглі ў кавярню падчас той залевы Завесіўшы вокны раннім сутоннем, яна бушавала над горадам з адвячорка да глыбокае ночы. Каля парога наплыла вялізная лужына, і міндалевы лікёр піўся з асаблівым, я сказаў бы, экзістэнцыяльным прысмакам

Тады мне ўпершыню і ўзгадаўся той верш

*Я genius loci*, я помню дзяцінства*
*Гэтага горада, гэтае песні.*
*Шкада, калі не ўваскрэсне*
*Маё і тваё адзінства .*

Мы абое калісьці вучылі лаціну Табе з выкладчыкам пашанцавала, відаць, болей, бо ты прапанавала вымаўляць “c” не паводле сярэднявечных правілаў як “цэ”, а ў адпаведнасці з антычнай традыцыяй, як “ка”.

Сутнасць, вядома, была не ў правільным маўленні

У маленстве пасля такіх, як у той вечар, праліўняў мы, полацкія хлапчукі, неадменна беглі на бераг Дзвіны, каб знайсці каля Верхняга замка вымытую са жвіру зялёную ад пацінчы манету Наша ліпеньская залева здзейсніла нешта падобнае, прыадкрыўшы адказ на пытанне што альбо хто зводзіў у кавярні ўсіх нас, уладна і бесцырымонна пазычаючы ў іншага, больш адпаведнага кожнаму асяроддзя?

*Я genius loci, я помню дзяцінства*

*** Геній месца (лац.).**

Ён не проста збіраў нас. Раз-пораз ён штукарыў з часам· гэта ані не залежала ад колькасці выпітага — бывала, у нас у кішэнях гуляў вецер і мы абмяжоўваліся параю кубачкаў кавы, але фізічна адчувалі, што час запавольваецца і пляце, як заяц на снезе, мудрагелістыя петлі, а потым, апамятаўшыся, вяртаецца ў рэчышча кананічных паводзінаў і паспешліва навёрствае ўсё страчанае на нядаўняя прыхамаці.

Кавярня прымушала зусім іначай працаваць памяць, парушаючы яе павуцінавы спакой вострымі скавышамі і выцягваючы з пыльнага хлуду забытыя або, наадварот, старанна схаваныя рэчы. Здаралася, мы прысвячалі ўспамінам цэлыя вечары, даведваючыся тое, што магло прагучаць толькі там, за столікам пад восеньскім краявідам, дзе была відавочна парушаная перспектыва, затое мастаку ўдалося схапіць момант, калі з нізкіх хмараў вось-вось пасыплецца снег, што рабіла наш цёплы куток яшчэ больш прытульным

Там ты даведалася пра маё першае мужчынскае пачуццё да аднакласніцы Іры Я вучыўся ў другім класе, часта хварэў і тыднямі сядзеў дома, марачы, што ўлетку мая абранніца патоне ў возеры, а я выцягну яе і, зрабіўшы штучнае дыханне, ажыўлю. На гарадскім пляжы стаялі стэнды з малюнкамі, дзе тлумачылася, як гэтае дыханне трэба рабіць. Ыратавальнік удзьмуваў тапельцу паветра праз вусны, і, калі мае лятункі даходзілі да гэтага моманту, у роце перасыхала, а сэрца так шэрхла, што я баяўся памерці. На вырваным з вучнёўскага сшытка ў касую лінейку аркушы я буйнымі, чамусьці друкаванымі літарамі пісаў· "Іра, я цябе кахаю", адчыняў дзверцы напаленай грубкі, кідаў прызнанне на чырвонае ў чорных пералівах вуголле і з невыказным салодкім болем назіраў, як выведзеныя мною словы ператвараюцца ў попел

З гэтай цнатлівай згадкаю рэзка кантраставала гісторыя з шасцікласніцай Я закахаўся ў яе пасля другога курса універсітэта Шасцікласніца займалася гімнастыкай, і яе ўжо амаль сфармаваная жаночая постаць не хацела мірыцца з сукеначкай і фартушком школьнае формы У неадчэпна-пакутлівых эратычных снах я авалодваў яе загарэлым і пругкім маленькім целам, а прыехаўшы на зімовыя студэнцкія вакацыі, апынуўся на мяжы вар'ятва· чакаў дзяўчо пасля ўрокаў каля школы, ішоў следам да яе дома, высачыў, калі яна плавае ўвечары ў басейне, і пачаў хадзіць туды ў той самы час. Не сказаў бы, што планы, якія нараджаліся ў маім распаленым жарсцю розуме, былі фантастычныя Небяспека падкралася зусім блізка, але, на шчасце, вакацыі скончыліся, а ў студэнцкім інтэрнаце мяне ўратавала шчадралюбная аднакурсніца — беларуская татарка Фаціма. Пасля выпітай у дзень стыпендыі пляшкі віна яна гатовая была ўратаваць каго заўгодна, аднак менавіта такая жанчына ў той час і аказалася для мяне незаменнаю.

Я вяртаўся ад стойкі з новай порцыяй лікёру і сам ператвараўся ў слухача, уяўляючы гэткую ж, як і мая, ціхую гарадскую вуліцу твайго дзяцінства, дзе таксама цвілі яблыні і пасвіліся козы. Нізкае акно твайго вузенькага, нібы пенал, пакойчыка ўпіралася ў сабачую будку, і ўлетку яго лепей было трымаць наглуха зачыненым Калі маці працавала ў начную змену, бацька не тоячыся прыводзіў жанчын і ты ўсё чула праз тонкую перабойку, а часам і сутыкалася з распранутай госцяю ў калідорчыку Праз гэта, сцвярджала ты, у цябе доўга захоўваўся імунітэт супроць блізкасці з мужчынамі.

Пад ложкам у пакойчыку-пенале стаяла скрынка з кардоннымі лялькамі, якім ты выразала з паперы кофтачкі і спаднічкі. Тваё самаробныя цацкі настолькі кранулі мяне, што я вырашыў на дзень нараджэння падараваць табе самую дарагую ляльку ў шыкоўным строі

Калі мы не сустракаліся цэлы тыдзень, вечар у кавярні часта быў прысвечаны снам Не ведаю, як ты, а я магу прысягнуць, што такіх фантасмагарычных і ўдзячных жывых сноў да таго лета мне не снілася. Кавярня ўключала вядомыя адной ёй механізмы, і, думаю, зазірнуць у нашы сны не адмовіліся б Зыгмунд Фрэйд і Карл Густаў Юнг

Узяць хаця б сон, дзе мы з табой ідзём па горадзе, у якім усе жыхары — калекі. сляпыя, бязрукія, бязногія, на мыліцах і ў інвалідных калясках. Мы, трымаючыся за рукі, каб не згубіцца, прабіраемся праз іхні крыклівы страхалюдны натоўп і, часам пераходзячы на бег, як быццам мусім ратавацца ад пагоні, а часам, спыняючыся і пераводзячы дых, заглыбляемся ў нерат вуліц і вулачак, але ў вонкавай хаатычнасці нашага руху ёсць мэта, пра якую мы не маем права ні на хвіліну забыць. сярод тысячаў калек і ўбогіх мы павінны адшукаць іншых нармальных.

А памятаеш конкурс прыгажосці?





Над амфітэатрам, дзе ён адбываўся, вісеў букет шматкалёрных мангальф'ераў, і падобны да грака чалавек у чорным фраку і цыліндры па чарзе падцягваў іх за канат да арэны З кошыкаў выскоквалі юныя прыгажуні ў купальніках, якіх чалавек-грак падводзіў да подыума з шырачэзным адкрытым ложкам. Тут яны пераходзілі ў рукі двух бамбізаў у стракатых махровых шлафроках, чыёй задачай было на вачах у журы і публікі пазбаўляць канкурсантак нявіннасці Адчуўшы, што прапанаваная сістэма адбору мяне прыкметна нервуе, ты заразліва засмяялася і паведаміла пра даўняе знаёмства з усімі прэтэндэнткамі, якія ў лепшым разе яшчэ памяталі імёны сваіх першых мужчынаў

Але неўзабаве паветраны шар прывёз на арэну гнуткую дзяўчыну ў кармінавым купальніку, убачыўшы якую, ты ўся падалася наперад і зашаптала, што яе трэба выкупіць, бо дзяўчо — насамрэч цнатліўка і трапіла сюды, каб зарабіць грошай на вяселле. У наступную хвілю мы беглі па праходзе ўніз і паспелі-такі перахапіць чалавека ў цыліндры на яго цырымонным шляху да подыума, а потым пад незадаволены гул амфітэатра рассоўвалі яму па кішэнях купюры Рэшту аддалі вызваленай дзяўчыне, і ты загадала ёй ехаць да жаніха і сказаць, каб ён неадкладна, сёння ж, зрабіў яе жанчынай

У выніку аналізу таго сну атрымалася, што нашая ратаванка — ты..

Я думаю, карыфеі псіхааналізу заплацілі б нам і за сон, у якім я любію не цябе, а іншую жанчыну, называючы яе тваімі пяшчотнымі імёнамі і мянушкамі; ад гэтага яна ўвачавідкі набывала твае рысы, і ўрэшце я стаўся сведкам канчатковага пераўвасаблення, пакутліва разважаючы, што ў такім разе прычынілася з табой сапраўднаю і ў якой абалонцы існуе цяпер твая душа.

Ты згодная, што хтосьці жыве пераважна розумам, а хтосьці — пачуццямі? Адны, адпаведна, успрымаюць жыццё як камедыю, для другіх яно — трагедыя. У мяне гэтыя кампаненты, пачуццё і розум, заўсёды былі перамяшаныя ў складаным кактэйлі з хісткай перавагаю то першага, то другога, але ў тое лета, так, рэчаіснасць — нават у самых, здавалася б, камедыйных праявах з міліцыянтам Пецем альбо з алмазаздабытчыкам — не ўспрымалася мною як камедыя. Тым больш, яна не выглядала і трагедыяй Наш з табой свет меў характарыстыкі іншага кшталту

Пацягваючы міндалевы лікёр, мы прыйшлі да высновы, што, калі ты ўзняўся над раслінным існаваннем, мусіш зразумець адную элементарную, на першы погляд, рэч. Выбару сапраўды няма. кожны — незалежна ад уласнай волі — прызначаны ці асуджаны іграць нейкую ролю, у выкананні якой і схаваны сэнс жыцця У вайне з хронасам ніхто не пераможа, але той, хто ўсвядоміў свой абавязак і зліўся з роллю, узброены лепей.

Зрэшты, наша універсальная выснова не замінала ролям, якія мы выконвалі ў вечаровых гульнях — то легкадумных, то з адценнем драматызму — бо па натуры мы абое нарадзіліся гульцамі

Памятаеш, была гульня "ў Аўстралію"? Мы як быццам эміграваілі туды, у штат Вікторыю, і разводзілі на ферме кенгуру За ранішняй кавай ты выказвала спадзяванне, што сёння я нарэшце пастрыгу газоны, а я імкнуўся падмяніць гэтую ненавісную працэдуру вяртаннем на другі паверх, у спальню З яе акна адкрываўся від на далёкія горы, а на сцяне вісела захопленае ў эміграцыю авальнае, ушткаванае ў плеценую з лазы асаду люстра, перад якім аднойчы, яшчэ да ад'езду ў Аўстралію, мы любіліся, стоячы ў сонечных промнях, і раптам, на краі таго імгнення, калі целы падпарадкоўваюцца ўжо не розуму, а толькі самім сабе, мне здалося, што на падлозе зніклі нашы цені, а значыць, і самі целы.

"Давай я буду жонкаю Скарыны, а ты — віленскім бурмістрам і паспрабуеш мяне спакусіць", — прапаноўвала ты альбо пагаджалася на ролю ціхмянае манашкі, якая даглядае ў патайным пакоі кляштарнага шпіталя параненага паўстанца

Але такія гульні напраўду вымагалі не століка ў кавярні, а патайных пакояў, і мы пераключаліся на інквізіцыю. Распрацоўваўся сюжэт, калі я кахаў цябе, а ты адказала ўзаемнасцю іншаму і я, асляплены рэўнасцю, страчыў данос, што ты кахаешся з д'яблам, які з'яўляецца да цябе ў спачывальню, набываючы аблічча чорнага ката з хвастом, што можа тройчы абкруціць цябе вакол таліі Ты чытала "Молат ведзьмаў", а таму даволі ўпэўнена пачувалася ў ролі падследнай, калі на допыце я змушаў цябе даць падрабязнае апісанне вядзьмарскага шабасу.

Відаць, ты заявіш пратэст супроць таго, што я зноў адступаю ад пратакола, ды я ўсё ж успомню "Тытанік" Гэтую гульню мы вынайшлі, пагартаўшы ў скульптара Колі

замежны альбом з малюнкамі і фотаздымкамі славутага параплава, ягоных пасажыраў, кают, палубаў і рэстаранаў Гульню, у якую мы гулялі ў нашай каюце, і толькі потым падымаліся на палубу кавярні, дзе пакуль панаваў спакой і ніхто не здагадваўся, што плаванне няўхільна набліжаецца да вусцішнай развязкі

"Тытанік" тануў, на тросах плылі ўніз шлюпкі з ахопленымі жахам людзьмі, і тут хтосьці з іх убачыў у асветленым ілюмінатары маладых мужчыну і жанчыну, якія, забыўшы пра ўсё на свеце, пяшчотна і страсна любілі адно аднаго Гэтая пара, думалі ў шлюпцы, проста не чула, што здарылася з караблём, але ў сапраўднасці яны ўсё ведалі і замест штурханіны ў азвярэлым натоўпе і хуткай гібелі ў ледзяных хвалях выбралі светлую цёплую каюту і тыя імгненні, калі целы і душы ператвараюцца ў адну непадзельную сутнасць, зліваючыся з вечнасцю.

Па-ранейшаму ішлі дажджы, і ў прыцемку кавярні нам было лепей, чым у любым іншым месцы Аднойчы пад лапатанне кропляў ты сказала, што насельніцтва гэтага горада складаецца з мяне і ўсіх астатніх Часам, каб упэўніцца, што ты — ёсць, я браў тваю руку і ўглядаўся ў лініі далоні, штораз намагаючыся не зважаць на вядомы хірамантам трохкутнік гвалтоўнае смерці

Дастаткова было нам некалькі дзён не бачыцца, як я лавіў сябе на тым, што, здаецца, насуперак законам псіхалогіі і фізіялогіі, не заўважаю іншых жанчын Затое пасля нашага спаткання вочы нібыта расплюшчваліся і мне рабілася не проста цікава затрымліваць на жанчынах позірк, але хацелася ўбачыць іх, выпадковых сустрэчных, агаленымі, і я шкадаваў, што не жывапісец і не фотамастак і не магу іх маляваць альбо здымаць на стужку

Кажуць, эпілептыкі ў хвіліны прыпадку цалкам губляюць уяўленне пра час і прастору, перажываючы імгненне абсалютнае яснасці У тое лета мне давялося сутыкнуцца з нечым падобным падчас блізкасці маё ўласнае "я" пачынала сціскацца, канцэнтруючыся ў адной кропцы, якая магла знаходзіцца ўжо па-за межамі цела, і незваротна згубіць каардынаты той кропцы не дазваляла толькі памяць пра цябе

У другой палове жніўня, калі нарэшце зрабілася магчымым выйсці з дому без парасона, у кавярні звіло гняздо прыглушанае адчуванне трывогі

Ты кажаш, здарэнне з голубам сталася чыстай выпадковасцю? Аднак яно зніталася ў памяці якраз з тым мулкім пачуццём, ды і ты сама выдатна ўсё запомніла як дзікі шызы голуб неспадзеўкі заляцеў у разнасцежанае з нагоды чаканае цеплыні акно, як, спалохана залопаўшы крыламі, матлянуўся да стойкі, перакуліў пару блакітных кубачкаў з каваю і, зусім ашалеўшы, вымкнуў у дзверы.

Далейшыя падзеі раскручваліся з кінематаграфічнай імклівасцю

Гатуючы нам каву, бармен аднойчы папярэдзіў, што іх будынак ідзе пад знос і да канца месяца кавярню зачыняць.

Мы абмеркавалі навіну досыць спакойна. Маўляў, няпроста будзе знайсці другі такі куток, але мы знойдзем. Будзем шукаць, пакуль аднаго вечара не адчуем, як на нас павее знаёмай аўраю Была разгледжаная нават ідэя далучыцца да пошукаў усіх сталых наведнікаў, а ў прыдачу і бармена з яго здобнай памагатай, карацей — "пераехаць" цэлай ватагай, хоць, калі шчыра, мне было цяжкавата ўявіць, як мы дамовімся аб'яднаць сілы з лесбіянкамі, не кажучы ўжо пра глуханямых.

Можна адно здагадвацца, як успрынялі паведамленне бармена іншыя, але факт застаецца фактам у апошні вечар без усякага запрашэння сабраліся ўсе даўнія кліенты· і кампанія маладзёнаў з цэнтральнага століка, і Пеця, і лесбіянкі, адна з якіх паставіла на столік букецік свежых ліловых бяссмертнікаў Глуханямыя прыпазніліся і адчынілі дзверы а палове дзесятай, нібыта ведаючы, што з нагоды развітання кавярня будзе працаваць пазней

Чамусьці не прыйшоў адзін алмазаздабытчык, столік якога раз-пораз ненадоўга займалі розныя залётныя птушкі Прачытаўшы на дзвярах абвестку, найбольш цікаўныя пыталіся, чаму сёння кавярня адчыненая да поўначы, а мы, не згаворваючыся, пацiскалі плячыма і, я ўпэўнены, у думках дадавалі, што гэтыя дзве лішнія гадзіны не даюць чужаніцам права ашывацца сярод нас і шкрабаць душу недарэчнымі роспытамі

На пачатку адзінаццатае маўклівы ціск на залётных даў плён на "палубе" засталіся толькі свае. Моладзь са згоды бармена прысунула столік да дзвярэй, чым, па сутнасці, забарыкадавала ўваход, і пайшла танцаваць пад блюзавыя мелодыі Потым бармен





паставіў анталогію "Beatles", і падняліся мы, а дачакаўшыся наступнае песні, — глуханямыя Такі самы эфект міліцыянт Пеця мог бы выклікаць, разрадзіўшы свой пісталет у вітрыну за стойкай. Глуханямыя не былі глухімі, ва ўсякім разе, хтосьці з іх меў слых, дастатковы на тое, каб адчуваць мелодыю і беспамылкова вадзіць партнёра па лінолеумным пятачку імправізаванае танцпляцоўкі Ад разгубленасці астатнія пары спыніліся, і да канца песні глуханямыя танцавалі ў адзіноце

Потым я запрасіў цябе, а міліцыянт, разоў колькі зірнуўшы на лесбіянак, — памочніцу бармена Сам бармен, нечакана лёгка валодаючы сваім шафападобным целам, танцаваў з высокай шатэнкаю з кампаніі маладзёнаў Лесбіянкі трымаліся даўжэй, аднак не маглі не адчуць, што іх ахутаныя цыгарэтным дымам адмовы ад мужчынскіх запрашэнняў выглядаюць двайным выклікам У танцы яны рухаліся з пластычнасцю прафесіяналак, але, як і глуханямыя, не дазволілі разбіць свой дуэт ні міліцыянту, ні бармену, ні мне

Пад "Girl" ты пайшла з худым, як жэрдка, вастраносым хлопцам, а я — з ягонай пышнагрудаю сяброўкай, што мела зайздросную талію і карону цудоўных каштанавых валасоў, якія, напэўна, умелі маляўніча рассыпацца па падушках. Дзяўчына яўна перабрала норму· яна павісла на мне і, прыціснуўшыся ўсім целам, зашаптала, што хоча, каб я на ёй пакатаўся. Ты атрымала ад яе незаслужанае абвінавачанне ў фрыгіднасці, а твой партнёр з птушыным носам — у імпатэнцыі, што не перашкодзіла яму выцягнуць шарыкавую асадку і напісаць табе на далоні нумар тэлефона.

Прыкладна ў гэты час мокры ад поту бармен грукнуў аб стойку дзвюма дармавымі пляшкамі лікёру і дзвюма — шампанскага Гэта сталася сігналам Пеця ўпершыню наважыўся раскашэліцца на пачастункавае шампанскае, глуханямы паказаў, што хоча далучыцца, і паставіў побач каньяк. Мы з лесбіянкамі падтрымалі агульнае натхненне, а моладзь, у якой даўно скончыліся грошы, унесла сваю долю тым, што ссунула два столікі і расставіла крэслы, на якіх уладкаваліся ўсе, акрамя красуні з асінай таліяй, што ціхамірна пасопвала ў кутку за выступам дзвярэй

Тралейбусы ўжо даўно не хадзілі, калі ў прачыненае акно зазірнуў міліцэйскі патруль "У нас банкет!" — зычна выгукнуў бармен, і ягоны голас, аказаўшыся неспадзявана цвярозым, прагучаў над сатурналіяй, як ранішні крык пеўня

Ноч пераміргвалася дробнымі гарадскімі зоркамі і дыхала свежасцю блізкае восені

Колькі хвілінаў мы ўсе, паўтара дзесятка позніх гулякаў, непрыкаяна тупалі каля зачыненых дзвярэй, а тады пацягнуліся кожны ў свой бок. Пазней за астатніх разышліся пары мы, глуханямыя і лесбіянкі.

Праз два дні мы з табой стаялі на тым самым месцы Прызнайся, разам са старой завядзёнкай нас вяла туды і надзея, што развітанне з кавярняю было заўчасным і, праехаўшы тры прыпынкі, мы ўбачым чырванашчокага бармена, а там падцягнуцца лесбіянкі альбо, прыгнуўшыся ў дзвярах, зойдзе алмазаздабытчык з пасіяй-аднадзёнкай

Нас сустрэла падкова высокага свежага плоту, які хаваў і два акны на някідкім фасадзе, і бакавую сцяну, дзе была намаляваная назва, і клёнік-самасейку з тузінам пыльных лісцяў, што збіраўся вырасці на газоне перад ганкам

Мы зайшлі ў бліжэйшы зялёны дворык, селі на дзіцячыя арэлі і, выкурыўшы па цыгарэце, дамовіліся стэлефанавацца, як заўсёды

Ні ты, ні я не пазванілі — ні як заўсёды, ні наогул

З усіх наведнікаў кавярні за гэтыя гады я не спаткаў нікога, апрача алмазаздабытчыка. Наставіўшы пад золкім восеньскім ветрам каўнер, ён самотна брыў па свіслацкай набярэжнай, і з кішэні ягонага калісьці дыхтоўнага паліто выглядвала светлае рыльца адкаркаванае бутэлькі Я спыніўся, ён таксама відавочна пазнаў мяне, але пасля імгненнага вагання перавёў вочы на рачное рабацінне і прыспешыў хаду

Ну і цяпер вось сустрэча з табой

*Я genius loci, я помню дзяцінства*
*Гэтага горада, гэтае песні.* —

узгадваецца мне, а ты сядзіш з цыгарэтай у пустым фатэлі каля акна і пагаджаешся таго, што не зрабілася ўспамінам, проста не існавала.

# Алесь МАКРАЦОЎ



## *ДЛЯ ЎЗНІКНЕННЯ ДАВЕРУ*

З гісторыі мы ведаем тры асноўныя
дзяржаўныя і народаўтваральныя цэнтры
ўсходніх славянаў Ноўгарад, Кіеў і
Полацак.
Ведаем, што старажытныя этнічныя,
палітычныя, эканамічныя, геаграфічныя
ды іншыя ўмовы існавання Русі патрабавалі
нараджэння на паўночным усходзе
раўназначнага чацвёртага.
Напаўславянскага.
Які ўвасобіўся ў Маскоўскай дзяржаве,
каб з азіяцкай лютасцю пазбавіць
жыцця Наўгародскую рэспубліку, гіпертрафавацца
ў Расейскую Арду, змардаваць ацалелых
Для ўзнікнення ў беларускім і
ўкраінскім народаў даверу да расейскага
павінна адбыцца немагчымае — уваскрэснуць
загінуўшы брат
Наўгародскі этнас



# Янка СІПАКОЎ





*Трэба было на нешта адважвацца.*

**З Янкам СІПАКОВЫМ гутарыць Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**ВЕРШЫ, ПРЫТЧЫ**

АЎТАПАРТРЭТ ПАЭТА Ў ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫХ КРАЯВІДАХ
КНІГА ЯК ХРАМ
АКНО Ў МІНУЛАЕ
ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ТЫ — НАРОД.
У ПОШУКАХ СІНЯЙ МАРЫ
СВЕТ, ДЗЕ МЫ ПАМІРАЕМ
ЭКСКУРС У ЗЯЛЁНЫ РАЙ ПАЭТА
ПАЛЁТ НАД ПІРАМІДАЙ

*З Табой:*

# З ЯНКАМ СІПАКОВЫМ ГУТАРЫЦЬ ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Ёсць меркаванне, што літаратура памерла яшчэ на пачатку стагоддзя, а тое, што мы называем найноўшай літаратурай — іншы род мастакоўскай дзейнасці, бо мае інакшыя мэты ад спрадвечна літаратурнай — апісваць жыццё, усё роўна якім спосабам, і выклікаць у чытача максімальнае адчуванне рэальнасці Як бы вы сфармулявалі мэты сённяшняй і будучай літаратуры ўвогуле і беларускай у прыватнасці і ці ёсць у апошняй "прыватнасць" у мэтах?

**Я. СІПАКОЎ.** Літаратура памерла на пачатку стагоддзя? Літаратура ніколі не памірала! Яна не можа памерці, бо яна несмяротная, вечная. Яна — слова. А хто, скажыце, здольны знішчыць слова?! Людзі? Але ж слова — гэта і ёсць людзі. Таму нават калі на зямлі застанецца толькі адзін чалавек, яму абавязкова, нясцерпна захочацца расказаць пра сябе, пра сваё жыццё — хоць дрэву, хоць ветру ў полі. І ён выгадуе ў сабе талент і ўдыхне сілу ў, здавалася б, мёртвае ўжо слова. І яго слова — будзе літаратура. Бо літаратура — гэта не адлюстраванне жыцця, а само жыццё Можа, паралельнае сапраўднаму, можа, адасобленае, выбранае, выражанае рознымі спосабамі і формамі, але ж — жыццё!

Я не прыхільнік "найноўшых" і "альтэрнатыўных" літаратур. На маю думку, ёсць толькі два віды літаратуры: жывая — проста літаратура і нежывая — альтэрнатыўная. Усё жывое з другога віду абавязкова пяройдзе ў проста літаратуру, а астатняе — памрэ.

Увогуле ўсе гэтыя тэорыі пра смерць літаратуры, мне здаецца, нехта прыдумляе знарок. Каб потым самому ж змагацца з імі і абвяргаць іх.

Што датычыцца мэтаў сённяшняй і будучай літаратуры, то іх фармуляваць не трэба – яны не змяніліся, яны тыя ж, што і сто, тысяча гадоў таму назад. вывучаць і даследаваць словам, пачуццём чалавека і свет, у якім ён жыве і ў якім мог бы жыць. Мэты гэтыя аднолькавыя і для Лукіяна, і для Шэкспіра, і для Івана Мележа, і для Андрэя Федарэнкі.

Адметнасць, "прыватнасць" у беларускай літаратуры ёсць. як найпаўней выразіць, паказаць сваю зямлю, свой народ і яго душу, бо ніхто ў свеце лепей і дакладней за нас гэта не зробіць. Каб свет, пазнаёміўшыся з нашай літаратурай, мог сказаць. "Дык вось якія яны, беларусы!"

Нацыянальная самасвядомасць – усё ў беларускай літаратуры павінна працаваць на гэта.

**Л.Р.** Што для пісьменніка мусіць пераважаць — этычныя нормы ці эстэтычныя?

**Я.С.** І этычныя, і эстэтычныя Гэтыя паняцці, ці, як вы кажаце, нормы, нельга распалучаць, раз'ядноўваць. Яны павінны існаваць толькі разам.

І ўвогуле кожны твор у ідэале павінен быць спалучэннем, згусткам розуму, пачуцця, шчырасці, апантанасці, дасведчанасці, выяўленых у этычных і эстэтычных катэгорыях. І яшчэ шмат што пісьменнік павінен знайсці ў сабе, дастаць з самых глыбіняў, каб аддаць твору, як донар, падзяліцца сваёю крывёю з людзьмі, створанымі табою, з героямі, якія ў кнізе будуць прадстаўляць цябе, тваю душу і твой інтэлект І каб табе – у ролі чытача — не было сорамна за тое, пра што гаворыш ты сам і пра што — народжаныя табою ж людзі

**Л.Р.** Адзін знакаміты артыст сказаў· "Каб сыграць біфштэкс, не абавязкова быць засмажаным" А як датычна паэтаў, пісьменнікаў, вас асабіста? Што галоўнае — прататып ці фантазія?

**Я.С.** ПераканаНы, што пісьменнік павінен быць абавязкова там, дзе яго героі, павінен сам прысутнічаць пры ўсіх іх размовах і дзеяннях, павінен ведаць пра ўсё — нават у самых нязначных дэталях — намнога болей, чым гаворыць пра гэта ў творы Ён павінен не толькі слухаць, а і карэкціраваць размову, не навязваць, але выказваць і сваю думку — вуснамі каго-небудзь з герояў

Калі герой ідзе, да прыкладу, па дарозе, то пісьменніку трэба бачыць не толькі тое, што бачыць створаны ім чалавек, але і тое, што ён не бачыць. якая паблізу ёсць гара, якая рака, якая вёска. Адным словам, пісьменнік не павінен стаяць збоку і толькі запісваць усё, а жыць — менавіта жыць! — у кожным сваім творы.

Мая прысутнасць у любым маім творы абавязковая. Звычайна я іду з кожным сваім героем.

У прытчы "Тыя, што ідуць", я сам прайшоў увесь нялёгкі і, можа здацца, дзіўнаваты шлях з народам, які шукае сябе, які будуе хаты, каб жыць у іх пасля, сее зерне, каб спажываць яго потым. Здавалася б, гэта самая сапраўдная фантазія, але гэта, мушу я не згадзіцца з самім сабою, самая відавочная сапраўднасць, рэальнасць. Я ведаю ўсіх людзей — і малых, і дарослых, — з якімі ішоў Пра кожнага магу расказаць болей, чым расказаў Я ведаю Белабога, які вядзе ў будучыню свой народ. Пабудаваўшы вёску, я драмаў побач з будаўнікамі, паклаўшы галаву на яшчэ пахкі смалою стол, каб на досвітку зноў ісці ў дарогу

Я ехаў з кулаком Цітам Ворашнем у Сібір і ў роспачы сцябаў, паварочваў коней назад, дадому, хоць і ведаў, што і дома мне, нам будзе ой як нясоладка.

У кожнай сваёй баладзе я прысутнічаў сам Маю прысутнасць, мусіць, заўважыў незабыўны Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, які пра "Веча" напісаў· "Гэта дужа беларуская рэч, нягледзячы на прысвячэнні той ці іншай балады таму ці іншаму народу" І такое зразуменне Майстра мне вельмі і вельмі дарагое

# АЎТАПАРТРЭТ ПАЭТА Ў ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫХ КРАЯВІДАХ

*Стаміліся белыя коні*
*і цёмнымі сталі ад поту,*
*Стаміліся бомы звінець пад дугою –*
*Матляліся ўжо неахвотна,*
*Ахрыпла іх песня – яна наглыталася пылу*
*І ўжо задыхалася ўся...*

**Гэтымі радкамі з анталогіі беларускай балады (1978 года выдання), набытай у букіністычнай краме, пачалося маё знаёмства з паэзіяй Янкі Сіпакова. Пасля трапіла ў рукі знакамітае "Веча славянскіх балад" таго ж паэта. Паэзія адпавядала маёй юначай ментальнасці. Там была і рамантыка, і эпічнасць, і перададзена нешта няўлоўнае, чыста беларускае, тое, што робіць наш народ адметным, гераічным і... няшчасным...**

**Пасля, у адваротнай храналогіі да выданняў, было знаёмства з прозай пісьменніка, перакладамі, гумарыстычнымі творамі, прытчамі... Расійцы даўно горда вызначылі: "Паэт в России больше, чем поэт". Што могуць адлаведна вызначыць беларусы ў адносінах да сваіх паэтаў? Хто яны тут? Змагары? Пакутнікі?**

**Вось што яны вымушаныя сапраўды быць больш, чым паэтамі, заканамерна. І тое, што ў асобе літаратара Янкі Сіпакова сумяшчаюцца паэт, празаік, навуковец, грамадскі дзеяч, наўрад ці можа быць выключнай адметнасцю... Хаця колькі часу таму назад я палічыла б так. Але цяпер упэўненая: таленавіты чалавек, адораны нешараговым інтэлектам, у кантэксце літаратуры, абцяжаранай праблемамі выжывання нацыянальнай мовы, культуры ўвогуле, натуральным чынам не можа замыкацца ў межах "вузкай спецыялізацыі" і плённа праяўляе сябе ў самых розных адгалінаваннях мастацтва, навукі і грамадскай дзейнасці.**

**Бо калі не ён – то хто?..**

**І менавіта з такімі людзьмі найбольш цікава гутарыць.**

**"І гаворыць спакойна ў азвярэлыя, зненавідныя, памутнёныя лютасцю вочы:**

**"Гора вам, ашалелым ад злосці! Навошта ж вы, самі сляпыя і глухія, асуджаеце на вечную слепату і глухату цэлыя народы?.. Ці ж не ўсе мовы роўныя – пад гэтым сонцам і пад гэтым паветрам? Ці не кожны народ павінен гаварыць і пісаць на сваёй роднай мове?"**

**І ці не ў тым адметнасць беларускага паэта, што ён павінен усведамляць, як герой вышэй працытаванай балады Янкі Сіпакова "Пяроспар" святы Кірыла, да таго, што кніжкі яго, на роднай мове напісаныя, будуць зневажаць і таптаць, пакладуць на самую далёкую і пыльную паліцу кнігарні і з лёгкасцю аддадуць перавагу Чэйзу ці Эмануэль...**

**...І была ў мяне задума неяк класіфікаваць у сваёй гутарцы з пісьменнікам Янкам Сіпаковым яго розныя іпастасі, зрабіць тры паралельныя аўтапартрэты: першы – грамадзяніна, беларуса-рупліўца; другі – пісьменніка, творцы; трэці – чалавека, як ён ёсць у асабістым жыцці.**

**Але пасля гутаркі зразумела: няма межаў, не вылучыш асобныя іпастасі. Ёсць адзін – цэласны – партрэт. Беларуса, пісьменніка, асобы. Таго, каму аднолькава натуральна атаясамляць сябе з няшчасным вясковым пастухом і старажытным князем, складаць на вякі энцыклапедыі і вершы пра каханне можа быць, таксама на вякі...**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

Аб прататыпах. Любы прататып для мяне не можа астацца толькі прататыпам — ён дапаўняецца, напаўняецца маёю фантазіяй часам да непазнавальнасці, а любую фантазію (асабліва ў прытчах) я імкнуся напоўніць такімі жыццёвымі рэаліямі, каб чытач мог сказаць. так, у гэта цяжка паверыць, але гэта было на самай справе.

Карацей — падсмажаным быць не абавязкова, але чытач павінен ведаць: падсмажаным ты быў!

**Л.Р.** Ці былі ў вашай творчасці перыяды "самаедства", пытанняў· "Нашто я пішу? Каму гэта трэба?" Вы спрабавалі сфармуляваць адказ? Ці. не было пытання?

**Я.С.** "Самаедства" — нармальны стан нармальнага творцы. Гэта калі чалавек сумлення адносіцца да сваёй творчасці і здольны задумацца над сабою і над тым, што зрабіў Сказаць. "Я напісаў выдатны твор" пісьменнік не мае права. Ён можа толькі прызнацца. "Свайму твору я аддаў усе свае сілы і здольнасці" А які атрымаўся твор — няхай скажа пра гэта будучыня.

Тым болей, што навырост, на будучыню працуе ўся наша беларуская літаратура. І я таксама. Сёння ў нас няма шырокага чытача, якога варта родная творчасць. Памятаеце, "мы пішам, а нас не чытаюць"? Моўная палітыка, даведзеная да абсурду, зрабіла сваё — мы, беларускія пісьменнікі, і нашы творы быццам нейкая індзейская рэзервацыя, выстаўленая напаказ для турыстаў

"Нашто пішам? Каму гэта трэба?" Пытанне было і ёсць. І адказ — таксама. Для будучыні пішам, будучыні гэта трэба! Спадзяюся, што прыйдзе той час, — можа, праз сто гадоў, можа, праз дзвесце, — калі наша літаратура будзе запатрабавана і якраз *наш* чытач радасна і здзіўлена ўсклікне. "Зірніце, якая ў іх была харошая літаратура!"

Таму мне думаецца, што наша сённяшняе прыгожае пісьменства — гэта дыхтоўны музей з багатымі запаснікамі, пабудаваны для будучыні.

**Л.Р.** Проза і паэзія — гэта два крылы ці два шляхі? Наколькі ведаю, прозу вы пачалі пісаць пасля трыццаці Гэта заканамернасць?

**Я.С.** Проза і паэзія Два крылы ці два шляхі? Гэта два шляхі, а над імі два крылы. Каб можна было і ісці, і ляцець.

І ўзрост, мне здаецца, тут ні пры чым можна выбраць любы шлях і ў дваццаць, і ў трыццаць, і ў шэсцьдзесят гадоў Не зважаючы на тое, што фармаванне чалавечай асобы, як лічыў Канфуцый, заканчваецца ў трыццаць. Міхаіл Шолахаў пачаў пісаць "Ціхі Дон" у дваццаць тры гады. А наш Міхась Стральцоў у паэзію прыйшоў ад прозы пасля трыццаці. Узоры лірыкі кахання (славуты "дзянісеўскі цыкл") стварыў шасцідзесяцігадовы Цютчаў

**Л.Р.** Апішыце ідэальныя ўмовы для вашай творчасці.

**Я.С.** Ідэальных умоў для творчасці (у бытавым плане) у мяне, здаецца, ніколі не было. Я проста не ведаю, што гэта такое "Веча славянскіх балад" напісаў у асноўным на кухні. Сорак гадоў займаўся журналістыкай, службаю зарабляючы сабе на хлеб, і толькі ў вольны час пісаў, як кажуць, сваё Але ж гэта не дзіва — так працавалі і працуюць бадай усе беларускія пісьменнікі.

А можа гэта якраз і ёсць ідэальныя ўмовы? Бо яны не даюць страчваць форму



А ўвогуле для творчасці вельмі ж важна, каб не ленаваўся мозг, розум. Каб працавала душа — менавіта яна пісьменніка робіць пісьменнікам Будзе ўсё, не будзе душы — і няма творцы, няма творчасці. Трэба ўсё прапусціць праз яе, бо проста пісанне, не прапушчанае праз душу, — вялікі грэх і вялікая распуста ёсць.

І яшчэ. Ідэальныя ўмовы для творчасці — гэта, мусіць, стан адначасовага спакою і хвалявання. спакой розуму і хваляванне душы.

**Л.Р.** Ва ўсіх энцыклапедычных даведніках адзначаны характэрны для вас "пошук новых форм" А што для вас фарматворчасць? І якія новыя формы (для сябе) вы ў свой час адшукалі?

**Я.С.** Я шукаў не новыя формы, а новае ў старых формах. Скажам, у верлібры. Ён жа не чужынец нашай роднай паэзіі — яго карэнні і ў беларускім фальклоры. Таму я з юнацкай даверлівасцю і заклікаў паэтаў — трыццаць гадоў таму назад — "пракапыціць на вольным кані", за што мне перападала і ад крытыкаў, і ад паплечнікаў· "адказнасці, больш адказнасці"

І яшчэ мне вельмі хацелася апрабаваць у нашай мове і нашай літаратуры розныя класічныя і некласічныя формы, якія спарадзілі розныя стагоддзі і розныя народы: санет, трыялет, тэрцына, гекзаметр, раешнік, вянок санетаў, паэма ў прозе, эсэ, іранеска, прыпавесць і г.д. І каб яны натуральна гучалі па-беларуску, былі свае нашай літаратуры. Спрабаваў я падужацца са словам ("Мелодыя на званах"), узрадавацца неабмежаваным магчымасцям таго ж слова ("Рыфма пра каханне"). А каб "Веча" не было манатонным, даводзілася шукаць, выціскаць усё магчымае і немагчымае з балады, хоць яна і мае свае законы.

Але фарматворчасць для мяне ніколі не была самамэтаю: заўсёды яна дапамагала самавыяўленню Мае пошукі ніколі не былі скіраваны на разбурэнне, я шукаў толькі дзеля стварэння.

**Л.Р** У вашых славянскіх баладах паказаны трагічны лёс народаў, часам трагічнасць безвыходнасці Што чакае беларусаў — няўжо сапраўды безвыходнасць, асіміляцыя, страта самасці? Пытанне, зразумела, больш да палітыка ці астролага. . Але хіба паэт — не прарок?

**Я.С.** Уся мая творчасць - мне хочацца верыць у гэта - падпарадквана адной адзінай задачы. самому зразумець дастатку, што мы - народ, і прымусіць усіх сваіх чытачоў паверыць у гэта мы - беларускі народ. Паверыць у тое, што запісана ў нашай канстытуцыі.

Мне вельмі крыўдна, калі мой народ абражаюць, зневажаюць, называюць "шайморамі" зламыснікі. Але ж мне яшчэ болей крыўдна і балюча, калі сам мой народ зневажае самога сябе, змагаецца з самім сабою. Нейкая незразумелая агрэсіўнасць да сябе, не ўласцівая беларусам, робіцца відавочнаю — мы з радасцю і лёгкасцю называем сябе палякамі, рускімі і доўга думаем перад тым, як сказаць. я — беларус. Пагардлівае непрыняцце роднай мовы і ўвогуле цяжка вытлумачыць: яна прымітыўная, яна не дастойная мяне Жахліва, але нават сваіх дзяцей мы збіваем з панталыку· "Пагаварылі, пагаварылі па-беларуску, а тады давай па-нашаму", — гавораць яны

# КНІГА ЯК ХРАМ...

**Пры сяброўскіх сустрэчах-бяседах Янка Сіпакоў іншы раз не, не ды і прыгадае з пэўнаю доляй шкадавання, як спазніўся ён з-за нейкага "бала" патрапіць на наш журналісцкі курс — і ўжо вучыўся годам пазней, чым Генадзь Бураўкін, Міхась Стральцоў, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Мікола Гіль, Алесь Дзятлаў, Герман Кірылаў, Алесь Станюта (прыкметны быў набор!..)...**

**Але тут жа і суцяшэнне знаходзілася: у аднакурсніках Янкі Сіпакова былі Барыс Сачанка, Віктар Дашук, — кампанія не менш пашанотная...**

**А зрэшты, усе мы тады — і курсам-другім старэй, і маладзей, і журналісты і "чыстыя" філолагі, скажам, Рыгор Барадулін, Анатоль Клышка, Кастусь Цвірка (на старэйшакурснікаў мы глядзелі ўжо, як на класікаў), — жылі адною дружнаю інтэрнацкай сям'ёй, штодня сутыкаліся то ў лекцыйных аўдыторыях, то ў бібліятэчных "чыталках", то на тлумных рэдакцыйных парогах. Так-так — ужо з першых дзён першакурснага жыцця купкамі і ў адзіночку наляталі мы ў Дом друку з адвечнай рэпарцёрскай надзеяй: прабіцца хоць бы адзіным радком на газетную старонку. Ну а тыя, хто яшчэ і "рыфмаваў", неслі да строгіх рэдактарскіх сталоў і свае паэтычныя амбіцыі...**

**Такіх была большасць. І можа, думаецца сёння, з адлегласці дзесяцігоддзяў, практычная журналістыка нашая шмат страціла, не далічыўшыся ў сваіх шэрагах творцаў, што цалкам і незваротна змянялі рэпарцёрскія пёры на пісьменніцкія "вечныя" самапіскі.**

**Янка Сіпакоў у гэтым сэнсе выявіў добрае і выйгрышнае выключэнне. Бо жывая газетна-журналісцкая справа сталася для яго не прафесійнай адзнакай у дыпломе, а неад'емнай, сутнаснай пазіцыяй творчасці.**

**І нават той, "прапушчаны", год, які закінуў выпускніка вясковай школы ў раённую газету, вунь як адгукнуўся сёння: каларытнымі, багатымі на жыццёвыя малюнкі і характары — са слязою і ўсмешкай, эсэ, якія чыталі мы нядаўна ў "Полымі" (і пра сваё першае, і няўдалае, абітурыенцкае падарожжа ў Мінск на вагоне, зайцам, і пра далучэнне да жыцця-быцця газетчыка-раёншчыка)...**

**Журналісцкі характар, дэталёвая "ўчэпістасць", імкненне "дакапацца" да сутнасці факта, як пабачым, заўсёды скіроўвалі, выводзілі, можа, нават і "падштурхоўвалі" Янку Сіпакова да, не сказаць што сенсацыйных, але не стандартных, не трафарэтна-прадвызначаных крокаў і ў паэзіі, і ў прозе.**

**Ды, хутчэй за ўсё, і да прозы павярнула паэтычную сцежку Янкі Сіпакова будзённае журналісцкае "паляванне" на факты, сюжэты, калізіі, характары. І тут яго чакала несумненная ўдача.**

**Хоць сустрэчы з ёю былі і ў паэзіі.**

Але ўсё ж я беларус, і мне, як і ўсім беларусам, уласцівая адна з самых асноўных нашых рысаў· цярплівасць. Будзем цярпець і спадзявацца, калі сам народ урэшце адкрые ў сабе НАРОД, гонар, нацыю, мову І якая ж у яго будзе радасць і эйфарыя ад гэтага адкрыцця, ад гэтага ўзвышэння "Я народ свой, людзі, маю!"

І праўда, я не прарок і не ведаю, калі гэта будзе Але што будзе такое абавязкова, я не сумняваюся Бо ведаю свой народ і веру ў яго.

**Л.Р.** Вам, напэўна, як амаль кожнаму, даводзілася перажываць трагічныя сітуацыі. Як вы лічыце, ці сапраўды толькі трагедыя выштукоўвае душу творцы, толькі чалавек з трагічнай свядомасцю можа быць паэтам?

**Я.С.** Трагічнасць — і аснова, і першапрычына літаратуры. Штодзённы чорны хлеб творчасці. Ці памятаеце вы які-небудзь твор сусветнай літаратуры, дзе б ішла гаворка толькі пра радасць, шчасце, бязвоблачнае жыццё? Я, да прыкладу, не памятаю. Буколікі? Вершы пра каханне? Замілаванасць жыццём і там неяк падсвядома азмрочваецца невядомаю трывогаю, а шчаслівае каханне — бояззю страціць усё гэта.

Мне падабаецца карціна Ягора Батальёнка "Дзяцінства светлы дзень" — дыхтоўная, вясёлая хата, асветленая сонцам, добра ўробленая зямля ля яе, недзе за хатаю ідзе ласкавы, зусім не страшны дожджык, хлапчук ля ракі, перад сонечнаю плямкаю на ёй Усё, здавалася б, дыхае спакоем і замілаваннем. Але ж гэтая шчаслівая хвіліна, спыненая мастаком, выклікае нейкую вялікую падсвядомую трывогу І я ўпэўнены, што трывога гэтая невыпадковая, яна — задума мастака.

Свядомасць творцы — заўсёды трагічная Гэта ў душы і навечна. Нават весялосць самага вясёлага чалавека — трагічная. Бо за сваім смехам хтосьці хоча схаваць тое, што яму вельмі і вельмі баліць.

А часам хочацца напісаць твор толькі пра адну радасць. Без усялякіх трагедый Хоць бы толькі таму, што ён быў бы першым такім творам у сусветнай літаратуры.

**Л.Р.** На месцы каго з гістарычных асоб Беларусі вы хацелі б пабыць і для чаго?

**Я.С.** Ні на чыім месцы і ні ў якім стагоддзі я не хацеў бы апынуцца зараз Што б я, апынуўшыся там, мог зрабіць па-свойму, нават са сваім вопытам чалавека дваццатага стагоддзя? Чым бы мог, да прыкладу, дапамагчы Францыску Скарыне ці Кастусю Каліноўскаму? Яны і самі, без мяне з годнасцю і найвышэйшай адказнасцю перад Айчынаю і сваім народам здзейснілі сваё высокае наканаванне, зрабілі ўсё, што змаглі. Ім патрэбны былі не так заменнікі, дублёры, як памочнікі, нашчадкі — прадаўжальнікі іх высокіх клопатаў і задум.

Таму я, зразумела, хацеў бы трапіць у тыя далёкія стагоддзі, але не на чым-небудзь месцы, а якраз самім сабою. Вось тады б хутчэй за ўсё мой сённяшні вопыт і спатрэбіўся Наіўна, самаўпэўнена, але ж чамусьці хочацца ў гэта верыць. Хаця. Мусіць, ніхто з ніякай часавай прасторы не можа памагчы іншай

А вялікія людзі — яны вялікія на ўсе стагоддзі: і на тыя, што прайшлі ўжо, і на тыя, што яшчэ наперадзе

**Л.Р.** Даследнікі псіхалогіі творчасці лічаць, што адзнакай пісьменніцкага таленту з'яўляецца ранняя памяць. Паспрабуйце апісаць два ўспаміны свайго дзяцінства. самы ранні ўспамін і самы яскравы.

**Я.С.** Я памятаю, як з дзядзькам Петраком мы гуляем у каменьчыкі: ён кіне ў мяне, а тады — я ў яго. Але ўсе мае родныя і блізкія не вераць у гэта — дзядзька Пятрок памёр у той год, калі я нарадзіўся. Кажуць, што пра гэта мне нехта некалі расказаў Але ж я сам яскрава помню мы з дзядзькам Петраком гуляем у каменьчыкі· ён кіне ў мяне, а пасля — я ў яго.

А гэта ўжо законны першы ўспамін. Мне нейкі гадок, паўтара. Вясна. Бягуць ручаі — сама растае снег Мы з мамаю ідзём да бабы Шаўковіхі гуляць. Я, праўда, "іду" на маміных руках. Пераходзім шырокі, нібы рака, — так мне тады здавалася — ручай Пад мамінымі нагамі трашчыць, ломіцца лёд, каля яе гумовых ботаў шуміць, булькоча, пеніцца вада. А я з высокай, нават акропнай вышыні маміных рук гляджу ўніз, і мне здаецца, што гэта ніякая не вада, а нейкі вялікі, раззлаваны і страшны звер. Але, нягледзячы на гэта, ён мне вельмі цікавы. Мне хочацца дакрануцца далонькамі да пырскаў, да яго спіны і той жа час як мага хутчэй схавацца ад іх. Далонькі я выстаўляю ніжэй, каб пагладзіць гэтага звера, а сам па маміных грудзях караскаюся вышэй Мама туліць мяне да сябе, супакойвае· "Не бойся, не бойся" А я і не баюся Мяне проста зачараваў гэты звер. Мне і цікава, і радасна, і чамусьці вельмі трывожна.

І яшчэ адзін успамін. Самы яскравы Але, калі дазволіце, ужо дарослага чалавека. Я ў Кактэбелі, у Доме творчасці пісьменнікаў Пакуль не паспеў яшчэ вінаград, а ў вінаградніках няма вартаўнікоў, вырашыў схадзіць туды на экскурсію. Тым болей, што мне трэба было гэта для твора, які наперадзе Паблукаў па вінаградніку, нядаўна апырсканым купаросам — небна-блакітнае лісцё, небна-блакітныя, яшчэ зусім маленькія гронкі — і выходжу на дарогу, каб ісці ў Планерскае І тут нічога не магу зразумець. з дарогі якраз на мяне коціцца кола і ляціць легкавы аўтамабіль. Перада мною пачынае куляцца і спыняецца — коламі ўгору — ля самых маіх ног І я, нібы зачараваны, няўцямна гляджу на тры колы, якія ўсё круцяцца, круцяцца, круцяцца. А ў галаве адно толькі пытанне "Навошта яны круцяцца?".

**Л.Р.** "Кнігі — сябры. Іх кідаюць перш за ўсё", — пісаў Караткевіч. Уявіце, што вы мусіце на доўгія гады адасобіцца ад цывілізаванага свету і маеце магчымасць узяць з сабой толькі дзесяць кніжак. Якія б вы ўзялі?

**Я.С.** Мушу пацвердзіць жорсткі сілагізм майго вялікага земляка — у тую адасобленую ад цывілізаванага свету прастору, куды па сваёй ахвоце, спадзяюся, не спяшаюцца, а трапляюць часцей за ўсё па прымусу, я б не ўзяў аніводнай кнігі.

Кніга, на маю думку, толькі тады кніга, калі яна разам з іншымі Хто не ведае той асалоды, калі стаіш перад кніжнаю паліцаю, выбіраючы сабе на сённяшні настрой, пад сённяшнія жаданне і роздум кнігу? Сёння ты выбераш, да прыкладу, "Погляд на сусветную гісторыю" Джавахарлала Нэру, заўтра — "Вянок" Максіма Багдановіча, а потым пакладзеш перад сабою чатырохтомнік "Шэдэўры сусветнага жывапісу" . Ці "Інквізіцыю" Грыгулевіча.

Але ж калі нельга ўзяць усе кнігі, значыць, не трэба класці ў плячак аніводнай Бо калі

**Быў "Сонечны дождж", быў "Лірычны вырай". І была, выяўлялася задума, прасочвалася, прарастала імкненне — ад "проста" зборніка да Кнігі: вершаў, паэзіі. Кнігі, кампазіцыйна выверанай, змацаванай адзінствам задумы і мастацкага вырашэння. І калі ў "Лірычным вырai" як бы толькі нясмела вызначаецца "пастаноўка задачы": запеў — "Пачатак палёту" (лірычны ж вырай!) і фінал — "Заканчэнне палёту", а перад усім — эпіграф з Максіма Багдановіча, своеасаблівы паэтычны анонс, а можа, і творчае крэда, то ўжо далей Янка Сіпакоў вызначэнні дае катэгарычна і небеспадстаўна: Кніга. "У поўдзень, да вады", прыкладам, — "Кніга вершаў", а "Усміхніся мне" — "Кніга трывогі", — твор цэласны, кампазіцыйна складаны, але распрацаваны па-мастакоўску дакладна і выразна.**

**Але, пэўна ж, адметны самы пасад займае тут "Веча славянскіх балад" — кніга, нібы храм, узведзены талентам дойліда. Архітэктоніка яе строгая, жанрава "замкнутая", але адзінства не пагражае перайсці ў аднастайнасць, дзякуючы багатай фактычнай напоўненасці, шматфарбнасці сюжэтаў, іх славянскай "шматмоўнасці", агучанай беларускім словам, — сапраўднае славянскае веча на скрыжаваннях стагоддзяў і народных лёсаў.**

**Толькі што ж мы ўсё аб форме, аб форме... Яно так — збудаванне цешыць вока. Аднак храм робіцца храмам, калі ён духоўна абжыты, напоўнены святлом не толькі знешняй, але і змястоўнай прыгажосці. Якія ж малітвы ўзносяцца тут, якія гучаць прароцтвы? Ці, прамаўляючы словамі Мікалая Забалоцкага, спытаемся: "... что есть красота... Сосуд она, в котором пустота, или огонь, мерцающий в сосуде?.."**

**А малітвы ў храме Янкі Сіпакова гучаць зямныя, напоўненыя адвечным людскім клопатам. Бо і сам ён — з гэтых малітваў-песень:**

*Я з песень родам,*  
*З восені позняй,*  
*Дзе вечары ночы –*  
*Даўгія-даўгія, як андаракі жанчын,*  
*А песні – сумныя,*  
*Як апошнія, прамёрзлыя кветкі*  
*пад вокнамі...*  
*Жанчыны крышылі капусту*  
*І спявалі, шаткуючы.*  
*З імі спявала і мая маці.*  
*Я з песні радзіўся.*  
*Крышачку паляжаў моўчкі,*  
*услухоўваючыся:*  
*Песня была для мяне такою сваёю,*  
*Такою знаёмаю –*  
*Колькі ўжо вечароў да нараджэння*  
*Чуў я яе!*  
*я заспяваў...*  
*А жанчыны здзівіліся:*  
*– Зірніце, плача.*

*Аж да цяпер не разбяруся:*  
*Няўжо яны і напраўду не зразумелі,*  
*Што я спяваю?*

**І відаць, нездарма з'явілася тут імя і паэтычная формула Мікалая Забалоцкага. Прыглядзімся ды прыслухаемся, хоць бы да "Веча славянскіх балад":**

*...Аслы, паабчапляныя кашамі,*  
*Б'юць з крэктам, нецярпліва капытамі*  
*І пазяхаюць – рана іх збудзілі...*  
*...Вы чулі, закракталі ўжо сталы –*  
*На іх паўсклалі горы садавіны.*  
*І весялеюць на вачах аслы –*  
*Як павышэлі струджаныя спіны!*  
*А на сталах – сінеюць кабачкі,*  
*Груваcяцца цяжкія баклажаны.*  
*А гэта – брынза, гэта – сыр жаданы,*  
*А кветак пахкі акіян які!*

будзеш пастаянна чытаць адну, ці хаця б, як вы кажаце, дзесяць кніг, яны хутка надакучаць. Нават горш таго — можна дасягнуць адваротнага эфекту. І гэта будзе яшчэ большаю здрадаю і знявагаю кнігам, якія ты ўзяў з сабою і якія не захочацца чытаць.

Там, у адасабленні, любая кніга будзе перашкаджаць думаць. Перашкаджаць успамінаць, што ты ведаеш з тых кніг, якія прачытаў і хацеў бы забраць з сабою.

Вось гэтыя ўспаміны пра прачытаныя кнігі і былі б на самоце маёю бібліятэкаю.

**Л.Р.** Самыя дарагія для вас людзі, якія былі і ёсць?

**Я.С.** Канечне ж, гэта бацькі — мама, Ульяна Пракопаўна, і тата, Даніла Іванавіч. А таксама мае дзяды і прадзеды, дзяды і прадзеды гэтых дзядоў і прадзедаў І тыя, каго я ведаю і помню, і тыя, каго і не ведаю і не помню. Гэта ж яны сабралі мяне, можна сказаць, па часцінцы: хто даў сваю ўсмешку, хто спагадлівасць, хто розум, хто даверлівасць, хто талент, хто дабрыню. І я ўдзячны ім усім, што ніхто з іх не надзяліў мяне злом, зайздрасцю, сквапнасцю, хцівасцю.

Самыя дарагія мне таксама мае нашчадкі — сын, унучка, праўнукі і прапраўнукі, на якіх спадзяюся і якія будуць прадаўжаць мяне, вачыма якіх я глядзець буду на непадлеглыя ўжо мне часы. Я таксама нічога дрэннага ім не пакіну

Самыя дарагія мне людзі родныя і блізкія — па крыві і па душы — людзі, з якімі я разам жыву, радуюся і засмучаюся жыццю.

Але ж мне дарагія і зусім незнаёмыя людзі, якіх я ніколі не бачыў і з якімі нідзе не сустракаўся — шчырыя, добрыя, працавітыя, спагадлівыя, сарамлівыя людзі, якія не могуць нічога ўкрасці і нікога абдурыць. І асабліва — сумленныя і даверлівыя. Яны сёння нібыта якія чужынцы ў нашым жыцці: пакутуюць не толькі ад хіжых нядобразычліўцаў, а і ад сваіх — гэткіх жа, як і самі, людзей

Вось таму яны блізкія і дарагія мне — як браты і сёстры.

**Л.Р.** Вы апынуліся ў месцы, дзе вас ніхто не ведае, сярод людзей добразычлівых і простых, якія ніколі не чулі пра прафесію "літаратар" Вас просяць расказаць пра ваш прафесійны занятак і ў якасці ўзору працытаваць нешта з напісанага. Што вы адкажаце?

**Я.С.** Сярод незнаёмых людзей — я чалавек без прафесіі. Бо варта толькі прызнацца, што ты — пісьменнік, як людзі адразу ж насцярожваюцца, замыкаюцца, перастаюць расказваць самі і адразу ж пачынаюць слухаць цябе. А пісьменніку якраз трэба слухаць іх!

Я вельмі спаважліва стаўлюся да абранага мною роду заняткаў і таму мімаходзь, пры выпадковых сустрэчах са знаёмымі і не знаёмымі мне людзьмі нават і не бяруся абмяркоўваць, што такое творчасць.

Тым болей, што і да нас з вамі шмат хто з вялікіх і малых спрабаваў ужо разабрацца ў гэтым, аднак ніхто з іх так і не змог усебакова растлумачыць гэты неразгаданы, як згустак энергіі, як шаравая маланка, феномен

*5 лістапада 1996 г*

---

*Зелé – капуста, побач – дыні, мак –*
*Да гібелі ўсялякіх тут прысмак!*
*– Кісело млеко,*
*Чэсен лук!*
*Моля, другару, –*
*Купляй, сябрук!*

**Гэта — "Базары. Балгарская балада. XX стагоддзе". І ці не згадваецца ў разгорнутым малюнку размах знакамітых "Столбцов" Мікалая Забалоцкага? Як, дарэчы, і другога паэтычнага куміра — Уолта Уітмена, кнігу якога "Лісце травы" Янка Сіпакоў пераклаў на беларускую мову. І яшчэ раз заўважым: Кнігу, — так было ў Уітмена, так было і ў Забалоцкага: "Столбцы" — Кніга!..**

**Гэткая ж зямная, па сутнасці, малітва і ў прозе Янкі Сіпакова. Як мастацкай, так і публіцыстычнай, — хоць, помнім, мяжы з пагранзаставамі пісьменнік між імі не ўзводзіць. "Нарыс, на маю думку, — гэта своеасаблівая аповесць, споведзь з лірычным, настраёвым або проста дарожным сюжэтам, дзе галоўная дзеючая асоба — канкрэтнае "я" — мае магчымасць выказацца..." — гэта сведчанне аўтара сцверджана і яго творчай практыкай. Цяжка (ды і ці трэба?) вызначыць, што пераважвала ў "Крыле цішыні": "прыцягненне" жывога, непасрэднага факта, уражання, ці доля мастацкага дадумвання, "закруглення", "падгонкі"... Важна іншае: мы маем арыгінальную, таленавітую "Кнігу вёскі" (так: Кнігу), пад крылом якой утульна і мастацкай, і дакументальна-мастацкай прозе, дзейным асобам рэальным і "літаратурным".**

**Прыгадаем яшчэ "Пяць струн" — "Кнігу настрояў" (І. Лірычная струна. 2. Дарожная струна. 3. Апавядальная струна. 4. Літаратурная струна. 5. Іранічная струна.) ды "Жанчыну**





***

**Восень жоўтая пад нагамі.**
**І пранізлівая вышыня.**
**І цяплік, што растаў між лугамі,**
**На ўраселай спіне каня...**

***

**Не, не спрабуй змяніць натуру —**
**Служыць заўжды ты будзеш ёй.**
**Змяя, хоць скіне сваю скуру,**
**Усё ж застанецца змяёй.**

***

**А некалі я буду вельмі рад**
**Спакусе задаволіць даўні верад:**
**Вярнуцца хоць на дзень які назад**
**І зазірнуць хоць на стагоддзе ўперад.**

***

**І ў стане дзэн, у ціхасці нірваны**
**Спалохана шукаў сваю душу,**
**Бо без яе, здалося нечакана,**
**Што нават сам сабе я нахлушу.**

***

**Агонь абыдзе як святога**
**І нават скуру не лізне.**
**Крыві ж накапае так многа,**
**Што ўвесь касцёр яна залье.**

***

**Халодны вецер па халодных душах...**
**Адкуль цябе, зладзея, прынясло?!**
**Я, сам скалелы, з мёрзлай птушкі мушу**
**Зрываць тваё настылае сіло.**

***

**Дзе спакой мой, скажыце, жыве?**
**З кім ён ладзіць сапраўдную дружбу?**
**Там хачу адмаўчаць, бы ў царкве,**
**Адстаяць сваю скрушную службу.**

***

**Далеч сціпла запрашае,**
**Промень прада мной бяжыць, —**
**Быццам ціха прамаўляе:**
**"Хоць і цяжка, трэба жыць".**

1996 г

---

**сярод мужчын" — апавяданні, што ў сумоўі сваім супернічаюць з жанрава "чыста" раманам — аб жаночай долі-нядолі...**

**А вось — калі ласка: жанр спецыфічна газетны — "Інтэрв'ю з міс Палоніяй" — разрывае свае рамкі, перарастае ў якасна новую існасць — паэму ў прозе:**

**"Ага, вось у каго я вазьму інтэрв'ю — у пані Ірэны, дырэктара гэтага магазіна.**

**— Пані Ірэна, што гэта такое — кветка?**

**— Гэта радасць.**

**— Таму вы займаецеся імі?**

**— Не! Я іх проста люблю. А я, заўважце, нічога не раблю ў жыцці, чаго не люблю.**

**— А за што вы любіце кветкі?**

**— За справядлівасць..."**

**О, ды што яшчэ можа нагаварыць пані Ірэна! Заслухаешся. І зачытаешся...**

**Ад уласных лірычных мініяцюр — праз выдатна ўзноўленыя па-беларуску вершы ў прозе Івана Тургенева — да жанру, дзе сінтэзаваліся і паэзія, і проза, і журналістыка, — са знакам майстра: Янка Сіпакоў — прыйшла да нас кніга паэм у прозе "Ахвярны двор".**

**Літаратурны пошук у форме вартасна ўмацаваны тут дастойнай змястоўнасцю. Мастакоўскі позірк Янкі Сіпакова заўсёды высвечвае штосьці вельмі важнае для чалавечай душы. Гэта, скажам, і мудрасць стагоддзяў, застылая (але з жывым дыханнем) у каменнай легендзе армянскіх храмаў (паэма ў прозе "Ахвярны двор"):**

**"Чалавек ідзе далёка, а яго душа ідзе яшчэ далей.**

**Чалавек залежыць ад дарогі, а душа ні ад кога і ні ад чога не залежыць. Яна вольная.**

**І на зямлі, і на небе вольная..."**

**Гэта і наш чарнобыльскі боль**

# ПРЫТЧЫ

## НАД ПРАДОННЕМ

Ногі яго былі ўжо ў прадонні Яны, босыя, адчувалі холад спрасаванага, настылага за стагоддзі паветра, а розум ведаў там, пад імі нямераная глыбіня.

Рукі ўчэпіста, сутаргава трымаліся за стромую, скалістую сцяну яны нібы абдымалі яе. Далоні знайшлі, намацалі невялікія, вострыя каменьчыкі, што вытыркаліся са скалы, за якія і ўчапіліся заціёклыя ад напругі пальцы

Ён вісеў гэтак, нібы ўкрыжаваны на скале, і баяўся паварушыцца: ведаў, што выступы трымаюцца ненадзейна і варта толькі яму неасцярожна скрануцца, як каменьчыкі выпадуць і ён разам з імі паляціць уніз

Ведаў, што ўверх яму ўжо не падняцца, а ўніз можна зляцець, але гэта ўжо будзе звычайнае свабоднае падзенне цела.

А за ім гоніцца самалёт А правільней гнаўся даганяў яго, ляцеў услед

Ён таксама ляцеў І самалёт, убачыўшы, як чалавек з усяго размаху выцяўся аб скалу, змяўшы, зламаўшы свае крылы, як усё роўна разбіўся аб яе, пачаў разварочвацца, каб паглядзець, што сталася з тым, хто ўцякаў, і што яшчэ трэба зрабіць, каб выканаць вынесены прысуд.

Укрыжаваны бачыў, як у блакіце над ім, заваліўшыся на крыло, разварочваецца самалёт, які так і не змог дагнаць яго ў небе

Што рабіць? Выйсця няма. І так, і гэтак яго чакае смерць Самалёт, які вось зараз вырулюе на ахвяру, канечне ж, расстраляе яе ён і сам, нібы зводдаль, бачыў, як лёгка будзе самалёту расправіцца з распнутым на скале.

Можна, не чакаючы гэтай расправы, самому проста расслабіць пальцы і адпусціць каменьчыкі І ўсё вырашыцца само сабою. Але ж навошта спяшацца?

Ён паварушыў вялікім пальцам нагі Нібы спрабуючы на нешта абаперціся

Пад ім скалыхнулася, пайшло, як вада, кругамі густое, адчутае на дотык паветра. Але ж ён ведаў, што на яго не абапрэшся

Пальцу стала боязна. Гэты страх, гэта вусціш пачала падымацца ўгору праз нагу, калена, бок (недзе побач, ён адчуваў, часта-часта б'ецца сэрца), па руцэ дайшла да ўказальнага пальца і ўбачыўшы, што далей шляху няма, вярнулася назад і праз шыю ўдарыла ў галаву

Чамусьці ўвесь страх сабраўся цяпер у вачах. Вачам была жудасна, хоць ён і не глядзеў ужо ні ўгору, ні сабе пад ногі яны ўпёрліся ў вострую гранітную сцяну перад сабою

А самалёт усё яшчэ рабіў разварот марудна, паволі, не спяшаючыся, нібыта знарок доўжачы насалоду, чаканне таго моманту, калі ён з задавальненнем, без аніякай перашкоды расквітаецца з тым, хто, распнуты, вісіць на скале.

Нарэшце самалёт развярнуўся і са спіны выруліў на чалавека. Распнуты пачуў ужо за сабою блізкі гул яго матораў Ён азірнуўся і ўвачавідкі ўбачыў самалёт ягоны твар быў перакошаны ад злосці Самалёт паспешліва шукаў гашэтку

"Што я яму зрабіў?! у роспачы, у апошнія секунды свайго жыцця думаў распнуты За што ён хоча мяне забіць?"

Але ў гэтых сваіх думках чалавек быў няшчыры Ён ведаў, за што хочуць пазбавіцца ад яго

Найперш за тое, што ён не самалёт А яшчэ болей за тое, што хоць і не самалёт, а лятае Хутчэй самалётаў лятае

Самалёт націскае на гашэтку Стрэлы роўным радком утыркаюцца ў граніт, паўзуць угору Яны жалезныя, а таму, з каменю выкрасаючы іскры, выдзёўбваюць гранітныя аскепкі, ашчэпкі, асколкі, якія разлятаюцца ва ўсе бакі Стрэлы набліжаюцца да распнутага. Дык якая ж ягоная? Вось гэта. вось гэта... вось гэта.

Страла ўдзяўбнулася ля самай ягонай рукі Ён машынальна адсунуў руку і ўбачыў, што наступныя стрэлы ўтыркаюцца ўсё вышэй і вышэй нібы ўзбіраюцца на вяршыню Самалёт і пераляцеўшы яго, усё яшчэ страчыў стрэламі

Тады ён ухапіўся за стралу тая і не варухнулася сядзела ў скале моцна, падцягнуўся, дастаў свабоднай рукою другую, пахітаў яе, ужо спрабуючы, ці не вырвецца яна, але ўбачыўшы, што і гэтая сядзіць моцна, хутка, спяшаючыся, на адных толькі руках палез па стрэлах на самую вяршыню.

Узлезшы на голую пляцоўку скалы, сеў над самым абрывам, спінаю да самалёта, які здаляўся, вачыма — на неабсяжнасць прасторы над прадоннем, сядзеў, звесіўшы ногі ў апраметную, і нічога не мог зразумець тое, што павінна было стаць ягонаю смерцю, стала ягоным жыццём

Ці то самалёт і на гэты раз не пацэліў у яго?

Ці то ён і не хацеў пацэліць, убачыўшы распластанага на скале чалавека і ягоныя памятыя, паламаныя крылы?

---

**(паэма ў прозе "Одзіум", пранізаная і радыяцыяй, і промнем надзеі і ўратавання: радок за радком — праз увесь твор — малітваю "Ойча наш"...):**

**"Усё лета я хаваўся ад радыяцыі", — хваліцца хлопчык з той страшнай зоны, бо пакуль яшчэ не ведае, што схавацца ад радыяцыі нельга.**

**"Доктар сказаў, што ў мяне дужа многа радыяцыі", — сумуе дзяўчынка з той жа самай зоны, бо ўжо ведае: тое, што з ёй, з ёй назаўсёды — радыяцыя не прастуда, яна не выводзіцца. "Бабулечка, родненькая мая, я так хачу да цябе ў вёску, але напішы мне, калі ж ты выганіш са свае хатачкі радыяцыю?!" —рыдае малое, бо здагадваецца: не бабулечка выганіць радыяцыю, а радыяцыя выганіць бабулечку з хаты"...**

**Такі вось рэпартаж з радыяцыяй у крыві...**

**Пачалі мы гэтуюататку ўспамінам. І закончым, — тым, чым канчаецца "Журба ў стылі рэтра" Янкі Сіпакова: пытаннем-сцверджаннем. Пытаннем-журбой перад мінулым і сцверджаннем-надзеяй перад будучыняй:**

**"Што такое жыццё? Гэта адзінства, узаемаразуменне і садружнасць зямлі, вады, паветра і агню.**

**І яшчэ — думкі. Але думка можа і не адбыцца, калі няма папярэдняга ўзаемаразумення.**

**А можа, наадварот, думка якраз і з'яўляецца насуперак такому адзінству і такой садружнасці?.."**

**Вечны закон і сакрэт жыцця і мастацтва: у садружнасці і — насуперак...**

**Васіль ЗУЁНАК**





# АКНО Ў МІНУЛАЕ

**Вось-вось зачыніцца акно ў цяперашняе, XX стагоддзе. Нябачная рука ўжо ўзялася за аканіцы, каб закрыць доступ дзённага святла ў збудаваны, кепска ці ладна, дом. Гэта акалічнасць, вядома, нічога не азначае сама па сабе, але прымушае ўсё ж інакш паглядзець на многае з таго, што застаецца за рысай стагоддзя і тысячагоддзя.**

**У дачыненні да творчасці Янкі Сіпакова гэта зусім натуральна — бачыць яе ў Вялікім Часе (у бахцінскім разуменні). Бо і сам пісьменнік смела выходзіць на яго прастор: сучаснасць, нядаўняе і даўняе мінулае, магчымая будучыня ў яго творах асэнсоўваюцца з асаблівай актыўнасцю. У маім уяўленні Сіпакоў адначасова і канструктар-праекціроўшчык карабля, на якім ён выйшаў у адкрытае мора, прагнучы бур, і яго будаўнік, і мараплаўца. Калі забываць на вялікую мэту, дзеля якой і робіцца ўсё (здараецца, ці так здаецца, што і сам пісьменнік забывае на яе), то многае здасца звычайнай эклектыкай. Адсюль калектыўны псеўданім беларускага Казьмы Пруткова — Сібарсач, дзе Сіпакоў знаходзіцца ў цёплай кампаніі Барадуліна Рыгора і Сачанкі Барыса. Калектыў быў часовым і хутка разваліўся: "В одну телегу впрячь не можно вола и трепетную лань". Вось чаму ў**

Ці то ён пашкадаваў уцекача і дапамог яму знарок выбрацца з ужо, здавалася б, непазбежнага прадоння?

Чалавек чамусьці не разумеў, што без крылаў ён ужо не супернік самалёту і цяпер не ўяўляў для яго ніякай цікавасці.

## ПРЫМІРЭННЕ

Паляўнічы бачыў толькі дзюбу — настолькі вялікі быў той, каму яна належала. Дзюба засланяла сабою ўсё, і таму ўбачыць яшчэ што-небудзь крылы, вочы, хвост драпежніка было немагчыма.

У дзюбе бездапаможна выгінаўся, выкручваўся, спрабуючы нейкім чынам уратавацца, маленечкі, тоненькі чарвячок можа, ён і праўда быў такі дробненькі, а можа гэта толькі здавалася на фоне такой вялізнай клюнкі дзюбатага.

Паляўнічы не спяшаўся падымаць дубальтоўку, прыцэльвацца і страляць Хоць на гэта быў і пасланы сюды Ён разумеў, што, мусіць, трэба ратаваць чарвяка, але не ведаў, куды страляць не будзеш жа цэліцца ў дзюбу, а таго, каго трэба браць на мушку, ён не бачыць.

Таму паляўнічы толькі стаяў і адно глядзеў, што рабілася перад яго вачыма.

Чарвяк усё выгінаўся, усё спрабаваў вызваліцца з дзюбы, але і дзюба не спяшалася вельмі расправіляцца са сваёю ахвяраю яна, здавалася, як кошка з мышкаю, гуляе з чарвячком то адпусціць яго як не зусім, а потым схопіць, прышчыкнуўшы хвост, у самы апошні момант і пасуне на сярэдзіну, і той ужо зноў выгінаецца, роспачна б'ючы сваімі абодвума канцамі па баках дзюбы, то выпусціць чарвяка зусім, а потым падхопіць яго ля самае зямлі і падыме як мага вышэй быццам паказвае ўсім, што ўсё ў парадку чарвяк яшчэ жывы

І настолькі шчырай здавалася збоку гэта гульня, што паляўнічы і напраўду паверыў, што дзюба і на самай справе нічога кепскага не думае рабіць чарвяку пагуляе, пагуляе ды і пакіне ў спакоі

І раптам здарылася нешта неспадзяванае. Паляўнічы пільней угледзеўся ў гэтую гульню. Глядзеў і не мог паверыць сваім вачам дзюба нечакана пачала змяншацца, а чарвячок, які кешкаўся ў ёй, узяўся раптам расці

Калі яны зраўняліся, сталі аднолькавыя па велічыні, паляўнічы нарэшце ўбачыў і таго, хто меў такую, здавалася б, вялізную дзюбу ім аказалася невялікая, непрыкметная птушачка, на якую ў звычайных умовах і не звернеш асаблівай увагі

нашай літаратуры няма свайго Казьмы Пруткова. Для перанаселенай літаратуры другой палавіны стагоддзя гэта, вядома, не страта, таму перабольшваць значэнне гэтага этапу творчасці Сіпакова не даводзіцца. Гэтак жа хутка распаўся і яшчэ адзін "лірычны праект" сааўтарскага калектыву, на які ўжо гатовы былі рабіць стаўку многія: разам з Анатолем Клышкам была напісана "Паэма дарог" — нарыс, які запомніўся сваім карнавальным пачаткам пра аўтобус са ставераўскай рыфмай "Мінск-Пінск". На большае ні аўтары, ні літаратурная аўдыторыя ў той час не адважваліся. Так згінуў яшчэ адзін зародак, які адкрываў цэлы напрамак у літаратуры.

Шлях Янкі Сіпакова ў літаратуру нагадвае бясконцыя пошукі новых земляў. Але па дарозе пісьменнік ахвотна падварочваў і да адкрытых папярэднікамі астравоў. Сустрэўшы ў яго паэтычных зборніках верлібры — рэдкую, прыцененую афіцыйным недаверам форму, а пасля "вясковых аповесцей" зусім сцвердзіўшыся ў здагадцы, многія загаварылі пра "беларускага Салаухіна", які павёў чытача па забытых прасёлках і нагадаў яму, што давяраць можна толькі таму, хто "мае ў руках кветкі" (назва салаухінскага зборніка верлібраў). Але пакуль выходзілі ў свет паэтычныя кніжкі Сіпакова, друкаваліся ў часопісах яго аповесці "Крыло цішыні" і "Усе мы з хат", пісьменнік быў ужо далёка-далёка — у вялікім свеце славяншчыны. Вынікам гэтага нечаканага, мабыць, і для самога Сіпакова падарожжа з'явілася "Веча славянскіх балад" — Слова аказалася сапраўды сакральнай з'явай у





Паляўнічы зразумеў, што цяпер ужо ён павінен страляць, але зноў жа не ведаў, у каго у птушку ці ў чарвяка.

І ўсё ж ён стрэліў Аднак ні ў кога не пацэліў, бо ні ў кога і не цаляў.

А птушка ўсё змяншалася і змяншалася, а чарвяк усё павялічваўся і павялічваўся Неўзабаве ён стаў такім тоўстым, што дзюба не змагла ўжо яго ўтрымаць, хоць і разявілася на ўсю сваю шырыню

Чарвяк зваліўся ў траву, а паляўнічы аж войкнуў ад нечаканасці· ён ужо быў намнога большы ад птушачкі Птушачка — пясклёнак пясклёнкам! — спалохалася, узмахнула крыллейкам, паспрабавала ўцячы, але трава была завысокая ёй, лапкі блыталіся ў травінах, і чарвяку нічога не ставала дагнаць яе Тым болей, што ўцякала яна якраз туды, дзе быў ягоны рот

А чарвяк ужо быў зараз тоўсты, як кракадзіл, доўгі, як удаў, гнуткі, мускулісты, як анаконда. Ён звіўся ў вялікае, бы гумовае кола ад "МАЗа", кальцо, і цяпер ужо сам меў асалоду назіраць, як бездапаможна бегала па крузе, у сярэдзіне кола, памагаючы сабе крыльцамі, маленькая напалоханая птушачка.

Чарвяк доўга забаўляўся з ёю, а потым дачакаўся, калі птушачка ў чарговы раз падбегла да яго рота, выставіў насустрач ёй сваю прысоску, узяў дзюбу ў круглыя губы, сціснуў так, што аж затрашчэла рагавіца, і пакрысе, не спяшаючыся, пачаў уцягваць у сябе.

Птушачка і не супраціўлялася Праўда, калі прысоска, рытмічна скарачаючыся, нібы жуючы, дакранулася да крылляў, птушачка, яшчэ жывая, замахала імі, але губы чарвяка змялі іх і схавалі ў сабе. Яшчэ праз нейкі час здрыгануліся лапкі, птушачка, нібы развітваючыся, памахала імі напаследак, і тыя, гэтак жа, як і крылы, неўзабаве зусім зніклі ў чарвяку

Пасля гэтага губы прысоскі зусім закрыліся нібы рота ў чарвяка ніколі і не было

Паляўнічы, быццам зачараваны кім, глядзеў, як марудна, паволі сунецца, злёгку чырачы дзюбачкаю скуру, усярэдзіне чарвяка птушачка, і ў жаху думаў, што не выканаў свайго задання не ўмяшаўся ў спрэчку і не стрэліў у другі раз

Цяпер ужо страляць было позна, бо, стрэліўшы ў аднаго, абавязкова заб'еш абаіх.

Паляўнічы не ведаў, хто вінаваты, а таму не страляў І яшчэ яму здавалася, што, стрэліўшы ў каго-небудзь, ён нешта ў нечым парушыць

Ён — чалавек, а чалавек не павінен умешвацца ў гэткую спрэчку· няхай дзюба і чарвяк вырашаць яе самі

Паляўнічы зноў зірнуў на чарвяка і ў каторы раз хмыкнуў ад нечаканасці дзюба маленькай на гэты час птушачкі распалавініла жывот вялікага чарвяка і, выбеленая страўнікавымі сокамі, пераможна, як стрэмка, тырчала з яго

гісторыі заходніх, усходніх і паўднёвых славян. Гэта адзінае, што яшчэ яднае нас, нагадваючы пра тое, што ў нашых жылах цячэ адна кроў, а ў нашай генетычнай памяці жыве цьмяны ўспамін пра агульнае паходжанне: ці то мы прыйшлі з Міжземнамор'я (па мне, дык я б там ахвотна і цяпер заставаўся), ці то спусціліся з Карпатаў, ці то ўцяклі ад барбараў-германцаў, ці то вылезлі з балотаў "мора Герадота".

Сіпакоў нагадваў тую змяю, пра якую расказваў Гётэ свайму сябру-крытыку Экерману: крытыкі, даследчыкі накідваюцца на яе старую скуру, у той час, як сама змяя ўжо далёка.

Чытач, а крытыкі таксама чытачы, ну, нешта сярэдняе паміж даследчыкамі і следчымі, яшчэ асвойваў "новага" Сіпакова, марна намагаючыся яго дапасаваць да ранейшага, ужо вядомага, "вожыкаўца", "вясковага", "славянскага", а ён ужо ўставаў у новай іпастасі, здзіўляючы і сваіх прыхільнікаў, і сваіх антыподаў. На стол клалася кніга перакладаў вялікага "вершаруба" Уолта Уітмена, дзе мы знаёміліся з Сіпаковым, аматарам паэтычнага наватарства, усясветнікам, якому былі даспадобы касмічныя адлегласці і глабальны рэзананс вершаванага слова. А ўвогуле перакладчыцкая творчасць Сіпакова часам нагадвае фабрыку, дзе выпрацоўваюцца снабачанні пра тое, якой магла б быць беларуская літаратура, калі б яна ведала Т. Масэнку, Л. Фелекі, А. Пабюнаса, Дж. Джабарава, І. Падаляну, М. Ікрама, Э. Йыгіса, Х. Хейслера, А. Каалепа, Р. Гамзатава, Ю. Марцінкявічуса, Р. Лубкіўскага, Л. Кастэнку, Э. Межалайціса, А. Цэрэтэлі ці хоць бы сабе Хо Шы Міна. А

## ЛЕСАВІК

Навокал была цемра Ды такая хоць ты вока выкалі

Лесавік стаяў, прыслухоўваўся да пошуму ветру ў вершалінах дрэў і баяўся ступіць нават адзін крок ён не ведаў, куды ісці і навошта.

Але і стаяць вось так нерухома таксама было неразумна. Стаяць і чакаць? Але чаго чакаць і на што спадзявацца?!

Трэба было на нешта адважвацца.

Таму ён, як сляпы, выставіўшы перад сабою рукі, паволі пайшоў на цемру Яна была такая густая і вільготная, што ён далонямі, тварам, грудзямі адчуваў яе амаль фізічна — як ваду

Не ступіў і колькі крокаў, як выцяўся лбом аб дрэва яно якраз апынулася між выстаўленымі наперад рукамі Каб такое болей не паўтарылася, ён пачаў вадзіць перад сабою далонямі, і гэта дапамагала абыходзіць елкі і сасонкі

Аднак ногі, хоць Лесавік і сунуў іх па зямлі вельмі павольна і абачліва, усё ж зачапіліся за ўздыбленыя карані і ён, не ўтрымаўшы раўнавагі, пляснуўся тварам у нейкую рыхлую сцяну зямлі якая запарушыла яму вочы, насыпалася за каўнер Пасля ўжо, абмацаўшы яе рукамі, зразумеў, што гэта ўсяго толькі вялікі яловы вываратень елкі, карані якіх не лезуць углыбіню, а распаўзаюцца, быццам змеі, як не па самай паверхні, выварочваюцца звычайна з вялікім плоскім кавалкам зямлі

Але ўсё гэта былі дробязі устаў, абтросся і пайшоў далей. Аж пакуль не ўваліўся ў глыбокую, з слізкімі, нетрывалымі берагамі яму, запоўненую вадой, з якой ледзь выбраўся. Ён памятаў, ведаў пра гэтую ямку, але вось абысці яе не змог Тут нейкія “бізнесмены” шукалі кабель незразумелыя камунікацыі ішлі праз увесь лес шукалі, каб выдраць з яго і прадаць медзь. нагналі шмат тэхнікі, раскоўзалі, раскалупалі вялікі і, здаецца, бяздонны кар’ер, які па часе сам запоўніўся вадою і ператварыўся ў сапраўднае возера.

Ледзь выбраўшыся з вады, Лесавік, мокры ўвесь і брудны, падумаў пра агонь, каб перасушыцца крыху, але ўспомніў тут жа, што ў яго ніколі не было запалак.

Паспрабаваў абыходзіць кар‘ер з правага боку, але неўзабаве зноў упаў, зачапіўшыся за якуюсьці жалязяку сюды звозілі адусюль рознае жалезнае ламачча, і Лесавік якраз паляцеў тварам у гэтую кучу. Нешта параніў ці то руку, ці то твар адчуваў, выціраючыся, кроў, але не ведаў, адкуль яна.

Падняўшыся, размазваючы па твары кроў, Лесавік стаяў і ўвогуле ўжо не ведаў, што яму рабіць і ў які бок ісці I раптам перад ім далёка-далёка наперадзе! бліснуў маленечкі, нібы выратаванне, агеньчык, і ён адразу ж пайшоў на яго

Ісці чамусьці стала лягчэй, быццам гэтая кропля святла і напраўду свяціла пад ногі Але колькі ён ні ішоў, крапка святла не павялічвалася была ўсё той жа светлай мачынай. І нават калі падышоў зусім блізка, яна засталася маленечкаю кропляю

Гэта была прыпаленая цыгарэта. Яна ляжала на драўлянай лаўцы, якая адзінока стаяла пасярод якойсьці паляны

Паляна як усё роўна была асветлена яшчэ нечым нават не верылася, што звычайная цыгарэта можа даць столькі святла.

Ён падышоў да лаўкі Побач з крапкаю святла ўбачыў надарваны пачак з цыгарэтамі Узяў яго ў рукі, агледзеў з усіх бакоў. Прыблізіў пачак да святла, прачытаў “Міністэрства аховы здароўя папярэджвае· курэнне небяспечнае для жыцця”

Лесавіку тут жа захацелася чамусьці прыкурыць Ён хапатліва, спяшаючыся дастаў з пачка цыгарэту, пакамячыў яе ў пальцах, каб размякчыць, каб лепей гарэла, і ўжо наблізіўся да агеньчыка на акурку, але тут цыгарэта раптам успыхнула, як уздыхнула ўсё роўна, апошнім святлом і звяла, пагасла.

На паляне стала гэтак жа цёмна, як і там, у глыбіні лесу, адкуль ён з такімі прыгодамі выбіраўся

І было ціха-ціха аж вусцішна. Калі гарэла цыгарэта, здавалася, што на паляне ідзе жыццё, чуюцца нейкія гукі быццам і не была яна зусім бязлюднаю А цяпер ад цішыні закладала вушы хоць бы трэснуў які сучок, хоць бы зашумела хваінка, хоць бы ўздыхнула дрэва, як яно ўмее часам уздыхаць само сабою

Яму зрабілася страшна. Зноў трэба думаць куды ісці? Зноў трэба неяк выбірацца адсюль, ісці ў цемру, якой, здаецца, нідзе няма канца-краю

І ў гэты час зноў жа недзе далёка-далёка наперадзе засвяцілася маленечкая крапка як усё роўна нехта прыпаліў там новую цыгарэту Абнадзеены Лесавік ужо зноў хацеў падацца туды, на святло, але ўбачыў, што рабіць гэта не трэба святло, хоць і паволі, але ж само набліжаецца да яго Пасля хуткасць, з якой яно набліжалася, пачала павялічвацца і неўзабаве стала зразумела. гэта нехта едзе, а не ідзе. І яшчэ стала зразумела, што гэта ніякая не цыгарэта, а нейкая больш магутная крыніца святла.

Праз нейкі час Лесавік пачуў характэрны шум, які не зблытаеш ні з чым так шумяць толькі колы цягніка, які імкліва набліжаецца.

Прайшло яшчэ колькі хвілін, і тая маленечкая крапка святла ператварылася ў вялікую фару, якою цягнік праз нейкі час упёрся ў паляну, дзе стаяў ён.

Цягнік, раз-пораз чмыхаючы, стаяў і марудзіў як усё роўна чакаў каго Але з яго ніхто не выходзіў і ніхто туды не заходзіў

І тады Лесавік адчуў, што цягнік чакае якраз яго

**вы ведаеце, чыталі хоць штонебудзь гэтых аўтараў?**

**Бліжэй да нашага часу з‘явіўся цыкл апавяданняў “Жанчына сярод мужчын” — спроба ўзнаўлення-стварэння эратычнай традыцыі ў беларускай літаратуры, такой цнатлівай і такой наіўнай у гэтай сферы, што міжволі згадвалася танкаўскае запытанне: “Як яшчэ ў нас нараджаюцца дзеці?” Аднак сюжэты большасці гэтых апавяданняў будаваліся на іншым прынцыпе: мужчына сярод жанчын. Ён здраджвае ёй, яна яму, ён кахае, яна раўнуе — і няма канца гэтай векавечнай каруселі-каніцелі. Як не згадаць тут незабыўнага Анатоля Сербантовіча: “Усе, усе мы паволі згараем на чырвоным кастры крыві”. Чаму ж гэты цыкл твораў, які яўна апярэджваў свой час і глобусавы “Дамавікамероны”, так і не стаў сенсацыяй? Здаецца, усе падставы для гэтага былі. Алена Васілевіч нават цэлы лірычна-даследчы трактат прысвяціла “беларускаму сексу”, засноўваючыся пераважна на творах Я. Сіпакова, які потым ніяк не магла апублікаваць: у тыя часы ўсякія гаворкі пра “секс”, як і пра “дысідэнцтва” абсякаліся напачатку — ні таго, ні другога ў нас не было! Пісьменнік адважна, рызыкуючы сваім імем і іміджам, узяўся за распрацоўку найскладанейшай, эмацыянальна ранімай сферы ўзаемаадносін мужчыны і жанчыны, на якую бальшавікі наклалі вета яшчэ ў 20-я гады, дазваляючы толькі “вытворчае каханне”, калі “перадавы брыгадзір” кахаў “перадавую звеннявую”, а ў выніку павінны былі з‘явіцца дзеці, “кветкі жыцця”, будаўнікі, а па некаторых прыкідках, і жыхары “светлай будучыні”. Не хапіла смеласці, калі нават выраз: “Ён кінуў пільны мужчынскі позірк у разрэз яе сукенкі”, — здаваўся крамолай? Не меў пад рукамі неабходных дапаможнікаў, не ведаў, што такое Янь і Інь, Кама-Сутра? Сёе-тое і ў тыя часы хадзіла па руках. У побытавых гісторыях, цікавых саміх па сабе, неставала касмалагічнага змесціва, адчування таго, што ў інтымных адносінах закадзіравана яднанне мікракосмасу і макракосмасу. Нездарма сцвярджаюць, што Бог прысутнічае не недзе на небе, а ў чалавечых узаемадачыненнях. А ў час палавога акта Ён і зусім блізка, бо адказны за любы акт стварэння, калі вырашаецца лёс цэлага Сусвету і любая памылка лёсавызначальная.**

**Ужо вымалёўваецца алгарытм сіпакоўскай творчасці — ён у асноўным адпавядае дыскурсу другой палавіны XX стагоддзя. У апошні час пісьменнік шмат прадуктуе твораў у жанры прытчаў і метафар — не ўсе запамінаюцца: усё ж прытча вымагае рэзкасці паказу, умення ў кроплі вады ўгледзець свет, спалучыць малое і вялікае. А гэта ўдаецца, калі прытча ўзнікае сама па сабе, без штучнага планавання загадзя. У прытчах Я. Сіпакова пераважае знаёмая па многіх творах шасцідзесятнікаў танальнасць — танальнасць лірыка-настальгічная, стылёвая інерцыя, адценне састарэласці вобразнага мыслення, пабудаванага на традыцыйных хадах, прыёмах. Прытча з часоў Майсея і Ісуса Хрыста мае сваёй місіяй данесці да абмежаванага зямнога розуму Боскія ісціны ў даступнай і запамінальнай форме. Потым гэтыя прытчы можна тысячы гадоў разгадваць, тлумачыць, каментаваць. Нягледзячы на вечную прагу навізны, што відавочна, Я. Сіпакоў як мастак слова штораз**

Фара ярка асвятліла паляну,і на ёй ужо зараз было зусім не страшна, а наадварот радасна і спакойна, як і раней, калі ён, шчаслівы, жыў у гэтым лесе.

Лесавік успомніў пра цыгарэту, зноў пакруціў яе ў пальцах і пайшоў да фары быццам збіраючыся прыкурыць. Але на паўдарозе спыніўся хто ж гэта прыкурвае ад такога халоднага агню?!

Усё яшчэ трымаючы ў пальцах цыгарэту, Лесавік глядзеў на фару, пад якою толькі цяпер убачыў зацёрты крыху надпіс: "Беражыце лес ад пажару!"

Ён ведаў, што цягнік прыйшоў з горада і вось зараз паедзе зноў у горад

Лесавік не спяшаючыся падышоў да першага вагона і, узяўшыся за поручань, няўпэўнена паставіў нагу на прыступку Перад тым, як паставіць туды ж і другую нагу, ён азірнуўся

Асветленая яркім святлом лясная паляна здалася яму зараз святочнаю, казачнаю такімі прыгожымі выглядалі елкі і сосны, дубы і бярозы, малады падлесак, які аж зіхцеў у пражэктаравым святле.

Але ж ён ведаў, як толькі паедзе цягнік, тут зноў стане цёмна-цёмна.

З акна вагона нехта выкінуў парожнюю бутэльку ад гарэлкі Яна ўпала ля ягонай нагі, не разбілася, а скацілася пад адхон, у канаўку. У вагоне нехта загарлапаніў п'яныя песні

Лесавік перасмыкнуўся як ад холаду Ён не ведаў, што рабіць заставацца тут, на паляне, ці ехаць туды, куды завязе яго вось гэты незнаёмы яму цягнік.

Яму не хацелася ні ехаць, ні вяртацца назад туды, дзе можна ісці, толькі выставіўшы наперад рукі

І раптам яго нагу сарвала з прыступкі цягнік раззлавана, не набіраючы, як зазвычай, разгону, з месца рвануўся наперад. толькі што спакойна, нібы і не думаючы спяшацца, стаяў тут, а ўжо яго колы, ці чуеце, ляскочуць далёка ад паляны

Цемра, цішыня і трывога зноў сціснулі з усіх бакоў Лесавіка.

І тады ў тым баку, адкуль ён нядаўна прыйшоў, нечакана ўспыхнула, нібы прыпаленая цыгарэта, маленечкая крапка святла.

Ідучы на гэтае святло, Лесавік толькі думаў, каб зноў не ўваліцца ў тую самую глыбокую яміну з вадою

*1996 г.*

---

**дэманструе свой глыбокі кансерватызм, сваю адданасць традыцыйнай народнай, вяскова-беларускай этыцы і менавіта гэтым якраз і цікавы. У яго паэзіі і прозе выявіліся, бадай, усе перавагі і хібы беларускага менталітэту. Скажам, моцная заземленасць, укаранёнасць нашай мовы, нашага мыслення, нашай сістэмы нацыянальных паводзін у вялікім свеце дае нам, беларусам, унікальную магчымасць пры ўсіх варунках заставацца сабою і адначасова не дазваляе нам лёгка і нязмушана ўпісацца ў сям'ю еўрапейскіх народаў.**

**Інтанацыя, стылістыка, лексічны склад сіпакоўскіх твораў кажуць пра аўтара больш, чым яго біяграфічная даведка ў "Біябібліяграфічным слоўніку". Пісьменнік дэманструе жыццярадаснасць, а яго голас выдае бязмежны песімізм у поглядзе на чалавека і яго будучыню. Гэта песімізм самога народа, беларусаў, якія, паводле вызначэння, не могуць быць аптымістамі, хоць і намагаюцца адразу быць і белымі, і русымі. У настроях Я. Сіпакова, яго душэўным стане на свой лад выявілася трагедыя сучаснага чалавека, якую так уражліва растлумачылі французскія экзістэнцыялісты. Калі коратка, то сэнс гэтай трагедыі выказаны дакладна яшчэ Эклезіястам, у яго славутым: "Ад многага ведання многа і скрухі". Чалавек XX стагоддзя прынцыпова не можа быць аптымістам, бо за яго плячыма пагібель мільёнаў і мільёнаў людзей, кінутых у ненажэрнае полымя таталітарнай ідэалогіі, якая паставіла ідэю вышэй за жывую душу і на гэтым спатыкнулася, бо чалавек — самая кволая і самая безабаронная з усіх жывых істотаў на Зямлі (адна адсутнасць валасянога покрыва пра шмат кажа!), але і самая моцная, трывалая, нязломная... Гэта душэўнае сіроцтва, якое заўважыў некалі Андрэй Платонаў і Кузьма Чорны, трагічная самота чалавека ў былым цэласным, а цяпер жахліва раздробленым свеце, бадай, і ёсць стрыжань усёй літаратурнай творчасці Янкі Сіпакова. Адчыняючы акно ў мінулае, пісьменнік рыхтуе нас да жыцця ў будучыні, сноп зыркага святла якога ўжо б'е нам у вочы, слепячы нас, прымушаючы прымружыць вейкі. "Вочы ў вочы" — называецца колішні зборнік выбранай паэзіі Я. Сіпакова. Можа, у гэтым позірку, калі нельга ні на хвіліну адвесці вачэй ад вачэй, і тоіцца мужная сутнасць сіпакоўскай Музы.**

**Міхась ТЫЧЫНА**





# ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ТЫ — НАРОД...

### *1. ПОШУК СЯБЕ*

**Калі ў пару хрушчоўскае адлігі я, студэнт, лётаў па берасцейскіх кнігарнях, дзе стаялі горы цудоўных кніг пісьменнікаў усяго свету, у тым ліку і рэдкасныя выданні, аднаго разу мяне прывабіла танюткая светла-жоўценькая, нібы сонечны зайчык, кніжачка кішэннага фармату (коштам шэсць капеек!) з назваю "Сонечны дождж". Зверху на вокладцы, на намаляванай мастаком хмарцы, з якое "сцякала" пяць дажджавых промняў, арыгінальнымі белымі літарамі было намалявана імя і прозвішча аўтара — Іван Сіпакоў. Пачынаючым паэтам была ўзята запаветная вышыня. Я тады ўжо таксама друкаваўся, але ў перыёдыцы, а да той выдавецкае вышыні трэба было ісці яшчэ цэлых чатырнаццаць гадоў. І штораз я імкнуўся разгадаць сакрэт поспеху таго, чыя кніжка выходзіла ў свет.**

**У "Сонечным дажджы" паэта-дэбютанта было трыццаць тры промнікі; калі сказаць па-брылёўску, — "жменя сонечных промняў". Няхай сабе на фоне "Матчынай душы" і "Вячэрніх ветразяў", першых паэтычных зборнікаў дужа самабытнага Уладзіміра Караткевіча (ён якраз прыйшоў у літаратуру), сіпакоўская кніжачка ў чымсьці прайгравала, але яна несла ў свет сваю свежасць, сваё святло, сваю стваральную энергію.**

*Адгукніся*
*На стук у акно асцярожны;*
*Дай вады,*
*Калі просіць яе падарожны;*
*Абагрэй,*
*Калі той скачанеў на марозе;*
*Накармі,*
*Калі доўга не еў у дарозе.*

**Гэтак проста і натуральна пачынаецца першы верш. Такім чынам, першая паэтычная літара творцы — а, першае слова — адгукніся. Першы матыў — чалавечнасць. Хоць у працягу верш набывае іншы характар:**

*Ды не вер,*
*Калі вораг прыкінецца братам;*
*Не маўчы,*
*Калі смерць патыхае з гарматаў;*
*Не чакай,*
*Каб цябе закавалі ў кайданы...*

**Выснова: твая дабрыня павінна ратаваць, але яе самую трэба ахоўваць, быць пільным перад пагрозамі зла. Полюсы дабра і зла паэт бачыць поруч.**

**"Сонечны дождж" мяне не падмануў, прывабіўшы светлаю "апраткаю" ў берасцейскай кнігарні, ён аказаўся жывым. Я, чытач, убачыў, што яго стваральнік — добры чарадзей і што яго любімыя вобразы — ачалавечаныя. Так, у яго хмара пасылае ў разведку на зямлю дожджык, на ногі хуткі, "месяц у поўныя росы глядзіцца", "кветка пялёсткамі выцерла вочы", "ручай звінеў картавым смехам..." Стала відавочна, што натхненне маладому паэту даюць Чалавек і Прырода.**

***

**Стаўшы журналістам, я працягваў гойсаць па берасцейскіх кніжных крамах, каб не прамаргаць ніводнай паэтычнай кніжкі: калі сам пішаш, хіба можна не чытаць іншых?!**

**На календары — 1965 год. І вось на паліцы кнігарні мой позірк вабіць зборнік вершаў "Лірычны вырай", аўтар якога — Янка Сіпакоў. Каса прабівае 12 капеек, і я ўжо разглядваю кніжку. На вокладцы "Сонечнага дажджу" стаяла імя — Іван, а тут — Янка. Імя загучала па-новаму, па-беларуску. І я падумаў: "Малайчына Сіпакоў: у нашай сучаснай літаратуры Іванаў — хоць адбаўляй, Янкаў — малавата..." Справа, вядома ж, не ў імёнах, а ў тым, што за імі. Прачытаў "Лірычны вырай" — і заўважыў, што яго аўтар у сваіх поглядах — той самы, а ў самавыражэнні — іншы: больш упэўнены, разняволены і заглыблены — ужо добра адчуваецца не толькі выдатны лірык, а й змястоўны мысляр:**

*Каб неба*
*цябе не загушкала,*
*Каб зямля*
*не калола*
*быльнікам, —*
*Верш!*
*Ляці*
*Раскальцованай птушкаю:*
*У цябе —*
*ўвесь Сусвет пад крыллямі.*

**У кнізе — два, ураўнаважаныя**

**мудрасцю, крылы: “За небакрай” і “Вяртанне”.**

### *2. РОЗДУМЫ ПЕРАД ВЕЧАМ*

**Пра “Веча славянскіх балад” (1973), працаёмкі зборнік, адзначаны дзяржаваю як дасягненне ў галіне літаратуры, добра гаварылася пасля з’яўлення гэтых балад, а таксама падчас юбілеяў аўтара. Выказваліся ў асноўным крытыкі, навукоўцы. “Паэтычны лад славянскіх балад” — так называлася праца М. Ларчанкі. Літаратурныя даследчыкі слушна адзначалі як бясспрэчную ўдачу ўганараванага аўтара ў паэтычным асэнсаванні гісторыі славян. Абагульняюча прагучала думка Лідзіі Савік пра тое, што балады Я. Сіпакова “значна пашырылі тэматычныя і геаграфічныя абсягі сучаснай беларускай паэзіі”.**

**Адна з “прадвечавых” кніжак Сіпакова — “Дзень” (1968), яна — храналагічны пярэдадзень “Веча славянскіх балад”, паміж гэтымі явамі-з’явамі — пяцігадовая адлегласць. Калі ж параўнаць некаторыя творы з двух выданняў, то адлегласць скарачаецца да мінімальнай. Перада мною — “Пятля Кастуся Каліноўскага”, што змешчана ў “Дні”. Праніклівая, узрушальная гістарычнага паходжання імпрэсія, яна, па сутнасці, ідзе ў баладным рэчышчы.**

*Лепей з табою я звозіла б сноп’е...*
*...............................................*
*Снапы я, вяроўка, уціснула б моцна...*
*...............................................*
*Я – лейцы таксама ў руках тваіх цёплых...*

*Я магла б нарадзіцца й абрусам,*
*Якія ткаў добра калісьці твой бацька.*
*Мяне б заслалі на стол святочны,*
*Пітвом і ядою мяне б пазаставілі,*
*ўсе гулялі б да самае раніцы*
*Твае заручыны з чарнабровай Марысяй...*
*Страшна чакаць тваю шыю, хлопча!*

*Ці мала на што вам трэба вяроўка, –*
*Спачатку трымала б я вашу калыску,*
*А потым магла б зрабіцца і гушкалкай*
*Для вашых дзяцей...*

*А магла б я стаць і аборамі*
*Для лапцей тваіх. І з табой тады*
*Мы пайшлі б таптаць небасхілы*
*Гэтым вечным мужыцкім абуткам,*
*Гэтай вечнай мужыцкай праўдаю, –*
*І святло б мы выкралі ў ночы...*

*Скінь мяне з шыі, хлопча!*

**Блiскуча! Якая цудоўная ўлада мастацтва! З ёю не можа спаборнічаць ніякая іншая ўлада, тым больш — перамагчы: як можна перамагчы непераможнае!**

**На маю думку, блізкія да балад і вершы: “Гекзаметры рыбака”, “Тураўская элегія” і асабліва — “Пажар у старажытным Полацку”:**

*У горадзе – адны званы.*
*А вораг тут, ля гарадской сцяны,*
*І чуцен звон ягоны:*
*Звіняць страмёны,*
*Мячы і дзіды звоняць...*
*Звіняць званы.*
*..............................*
*“Народзе, дзе ты, мой народзе!..”*
*Маўчаць, дымяцца ваяры.*
*Званы кідаюцца ўгары*
*І клічуць мёртвых зноў на веча...*

*Трымайцеся, званы! Пачуў вас...*
*Коней асядлаў...*
*Спяшае з Кіева дадому Усяслаў, –*
*Будзе сеча,*
*Будзе сеча...*

**Зразумела, у зборніку нямала роздумаў не толькі гераічнага ці патрыятычнага характару. Як заўсёды, знайшлося тут месца інтымным пачуццям (“Падарожжа вакол цябе”), захапленню мацярынскім подзвігам (“Малітва над калыскаю”), пачуццю трывогі за родную прыроду (“Пушчу турбуе клопат адзіны...”).**

### *3. ПРАВА НА ШЭДЭЎР*

**На зялёнай цвёрдай вокладцы — залацістыя літары: “Ахвярны двор”. Як заўсёды, і гэтым разам арыгінальная назва. На тытульным аркушы — незвычайнае жанравае азначэнне: паэмы ў прозе. Зрэшты, для яго ў гэтым нічога незвычайнага няма — здараліся і больш крутыя віражы.**

**Доўга чакала гэтая вяршыня свайго скарыцеля. Яна яму, пэўна, здавалася вельмі блізкаю, як здаецца блізкаю — рукой падаць — ружаватая ці блакітная горная вяршыня. Як бы там ні было, 1991 год прынёс інтэлектуальнаму вандроўніку той духоўны “гімалайскі” (называю ўмоўна) пік, выхад на новы ўзровень.**

**Усяго восем твораў. Адзін з іх — “Одзіум”, ён пачынаецца так:**

*Ойча наш, калі ты ёсць на нябёсах!*
*Два браты і сякера з нетутэйшымі імёнамі –*
*Катаклізм, Апакаліпсіс Катастрофа –*
*нецярпліва, прагна ўглядаюцца ў тутэй-*
*шую зямлю і ласкава гладзяць па рас-*
*кудлачаных валасах сваю нашчадніцу,*
*спадкаемцу, якая, ці чуеце, мае*
*такое ўжо тутэйшае імя – Бяда.*

**Так, шаноўны чытач, ты здагадаўся, пра якую бяду гаворка (жывучы на Беларусі, гэта нельга не зразумець) — гэтай бядзе творца дае вобразна-афарыстычнае азначэнне.**

*Чорная быль: Чарнобыль.*
*Чорны баль: Чарнобаль.*
*Чорная бель: Чарнобель.*
*Чорны боль: Чарнаболь.*

**Тут усе паэмы — як на падбор, яны узрушаюць душу.**

**Паэма “Хата” — пра Вялікага Пакутніка Тараса Шаўчэнку, яго жыццёвую трагедыю, адзінцтва і трыумф яго генію — напісаны пранікнёнай сардэчнаю моваю. Але ж пераказваць паэмы — справа няўдзячная, іх трэба чытаць і перачытваць...**

***

**Я люблю паэта Янку Сіпакова (дарэчы, і празаіка — таксама) як вытанчанага, далікатнага лірыка, заўсёды блізкага да філасофскага роздуму, яго светлую, шчырую ўсмешку ў лірыцы, вясёлы смех у гумары. Атрымалася ж так, што тут я перавагу аддаў грамадзянскім матывам творцы. Ну, дык і скончу гамонку на адпаведнай ноце. Ёсць у паэта такі верш: “Зразумей, што ты — народ...”, а ў ім — такія строфы:**

*Зразумей, што ты – народ,*
*Які ў свеце часта хваляць.*
*Жыць за племя, жыць за род,*
*Што схавалі часу хвалі.*
*.......................................*
*Нібы маці, берагчы*
*Працаўніцу нашу – мову,*
*Бо яна – жыцця зачын*
*І пачатак песні новай.*

*За народ ісці на бой,*
*Помніць, правячыся боем,*
*Што стагоддзі за табой*
*І стагоддзі – прад табою.*

**Залатыя словы! Калі беларусы іх запамятаюць і зразумеюць сэнс, тады і насельніцтва стане народам, а народ ніколі не апусціцца да ўзроўню натоўпу.**

**Васіль ЖУКОВІЧ**





# У ПОШУКАХ СІНЯЙ МАРЫ

**Можна гаварыць пра Я. Сіпакова-пейзажыста: палюбіць у яго пейзажах казачна-зялёнае лета, адшукаць у гэтым леце “сінявокую” жанчыну...**

**Можна гаварыць пра Я. Сіпакова – паэта “сонца”: пазнаць у ім філосафа, разгледзець філасофскую думку аўтара ў наступным ідэйным ракурсе: “сонца” — форма існавання матэрыі (матэрыя, якая трымае ў сабе “сонца”, пераймае яго колер і форму) ці наадварот: матэрыя — форма існавання “сонца” (“сонца”, якое малюе — высвечвае канкрэтны прадмет, таксама пераймае яго колер і форму).**

**Аднак усе нашы развагі пра шматгранны талент Я. Сіпакова будуць у нейкай ступені спрошчаныя, калі мы не скажам пра паэта як пра мастака-каларыста, бо паэтычная творчасць яго (асабліва ў кнігах “Сонечны дождж”, “Лірычны вырай”, “Дзень”, “У поўдзень, да вады”) выявілася найбольш манументальна-жывапісна, маштабна-прасторава, мажорна-колерава.**

**Я. Сіпакоў — гэта той непасрэдна-вольны ў сваіх пачуццях творца, які сінтэзаваў паэзію жывапісам, дакладней сказаць — лінейна-колеравай перспектывай. Менавіта яго трэба назваць аўтарам “новай паэзіі”, якую ён спачатку як бы заўважыў-падгледзеў у паэтаў-”маладнякоўцаў”, а потым перанёс яе з дваццатых гадоў у шасцідзесятыя — пачаў жывапісаць словам, будучы не столькі ідэолагам-тэарэтыкам мастацкага сінтэзу, колькі яго непасрэдным выканаўцам.**

**Жывапісная мастацкасць вершаў Я. Сіпакова мае сваю колеравую аўру. Знаходзім у паэта тры сімвалічныя колеры: жоўты (сонечны), зялёны (казачна-летні), сіні (нябесна-зямны). Спынімся на тым, што абмяжуем сваю думку пра Я. Сіпакова-каларыста рамантычным кірункам яго паэзіі, а значыць фантазійнай марай лірычнага героя і сінім яе колерам.**

**Сіні колер увогуле прадстаўляе беларускую паэзію 50-х—90-х гадоў як эпоху рамантызму; гэты колер вымалёўвае рамантычную думку такіх вядомых аўтараў, як У. Караткевіч, Я. Янішчыц, Р. Барадулін, В. Жуковіч, не толькі геаграфічна-прасторава, але і робіць яе аптымістычна-крылатай. (У Я. Янішчыц сінь — лугавая, у Р. Барадуліна — нябесная, у У. Караткевіча яна — снягі Таўры, у В. Жуковіча — глыток свежага паветра).**

**Я. Сіпакоў — пясняр сіняга колеру не толькі таму, што рамантычны герой аўтара скіраваў свой позірк у “лірычны вырай”, каб адшукаць у краіне казачнага лета Сінюю птушку шчасця, але яшчэ і таму, што ён, аўтар, калі пажадаў пісаць пра “вырай”, сам у Сінюю птушку перастварыўся, перш за ўсё ў вачах той чытацкай аўдыторыі, якая хацела бачыць у Я. Сіпакове фантазёра, а яго фантастыку ўспрымаць як нешта антыкварна-рэдкаснае.**

**Сіняя мара паэта — патаемная, але яна запамінальна высвечваецца “небам”, тым жывапісна-вобразным “небам”, якое знаходзім у такіх тонкіх майстроў слова, як Г. Лорка, Б. Пастарнак, Я. Чыквін: сіні колер у Я. Сіпакова не ёсць “маладзіковае” неба Г. Лоркі, бо гэты колер у беларускага аўтара не такі насычана-густы — больш празрысты, больш лёгкі; сінюю мару паэта з Аршаншчыны не назавеш і фіялетавым небам Яна Чыквіна, бо ў польскага паэта гэтае неба касмічна-далёкае, халоднае, а сіняя вадзяная празрыстасць у пейзажах Я. Сіпакова наадварот — па-летняму цёплая, максімальна набліжаная да зроку гледача; сіняе неба Я. Сіпакова таксама не можа быць адбіткам-паўтарэннем восеньскага, слёзна-плаксівага неба Б. Пастарнака, бо фарба аўтара “Лірычнага выраю” — спеўная, мажорная, рэнесансавая, як і сама рамантыка 60-х гадоў.**

**Пра “сінюю” думку каларыста Сіпакова яшчэ можна сказаць, што яна гераічная, а летуценны герой паэта, які “кожны дзень прачынаецца з прагаю цуду”, напамінае часам знакамітага барона Мюнхгаўзена, бо рамантык Я. Сіпакоў і фантазёр Э. Распэ выразілі сябе ў адной жыццёвай ісціне: жыццё — прыгожая казка; калі ў казку вельмі паверыць, яна стане яваю. Трэба толькі пачаць шукаць казку — і жыццё ператворыцца ў гераічны ўчынак.**

**Сінюю казку Я. Сіпакова фармулюе тая дзіўная вобразнасць, якую хочацца назваць магічным вокам аўтара і якая на палатне жывапісных малюнкаў паэта ўяўна вымалёўваецца ў форму гранёнага пярсцёнка — абавязкова з сінім каменьчыкам. Адразу ўзнікае пытанне: якому прыроднаму самацвету адпавядае гэтая мройная сінява ў Я. Сіпакова? Хутчэй за ўсё — бірузе, паколькі прыродны колер зямнога лета ў пейзажах паэта-мастака — гэта пераважнае спалучэнне сіняга і зялёнага колераў, якія ў сваім сінтэзе ствараюць прасторавую бірузу, а біруза, як вядома, гарманізуе прыродны свет, гэта камень міру і спакою.**

**Няцяжка заўважыць, што магічны пярсцёнак аўтара — гэта**

той пярсцёнак, які трымае ў сабе такія лінейныя вобразы як “лінія гарызонта”, “лінія дажджу”, “сонечны промень”, высвечвае прастору, мадулюе яе ў лініях і колеравых формах, скіроўвае фантастыку паэта ў нейкае звышбыццё. А рамантычны герой у гэтым звышбыцці, быццам у віртуальнай рэальнасці, хоча бачыць “сябе самога збоку... — як чужога, іншага...”; ён вельмі падобны на героя А. Разанава, таго летуценніка-вандроўніка, які аднойчы (у “Першай паэме шляху”), забыўшы пра сваё існаванне ў трохмернай прасторы, трапіў у эфірную звышрэальнасць, каб у ёй адначасна “зямлёй і небам станавіцца”.

Я. Сіпакоў засяроджвае ўвагу на прывідных, фантасмагарычных снах свайго героя, па-мастацку ілюструе гэтыя сны, прачытвае-выгаворвае іх як рэальнасць, пра што сведчаць некаторыя вершы паэта: “Абнаўлення, хлопцы, абнаўлення”, “Пералёт дажджу”, “Праліў сноў”, “Такою ранішняй часінай”, “Рыбы хочуць лятаць, як птушкі”.

Чытаем у асобных радках, што герой у сне, вядома, падтэкстава, раптам набывае крылы, трапляе ў бязважкасць — як быццам душа яго аддзялілася ад цела і пачала лётаць у небе ў выглядзе канкрэтнага прыроднага вобраза (дажджынкі, сняжынкі, праменьчыка) — напэўна для таго, каб з вышыні птушынага палёту ўбачыць зямны дзень “наадварот”: паназіраць, як “не ў небе сінім, а ў расіне, купае крылы самалёт”, як “рыбы прагнуць узняцца за вербы на падрэзаных крылах сваіх”. І ў гэтых ілюстратыўных палётах-снах герой Я. Сіпакова як бы нараджаецца нанова, а душа яго бясконца абнаўляецца.

Адчувальна, што прыгожую мару дзіўнага летуценніка нельга ідэйна вымераць толькі нябесным сінім колерам, бо мы гаворым пра фантастычныя сны героя, а колер гэтых сноў няясны, паколькі стварае яго асацыятыўна вобраз душы. Толькі хто і калі гэтую душу рэальна-зрокава бачыў? Вось чаму ўзнікае жаданне ўнесці ў нашае прачытанне сіняй мары Я. Сіпакова адну лагічную папраўку-яснасць: прачытаць сіні колер не па-нябеснаму, а па-зямному. Тэхніка выканання падобнага зямнога колеру — мазаічная, як быццам сіні колер раскідаўся па радках вершаў Я. Сіпакова ў выглядзе мазкоў-вобразаў (сіняй расінкі, сіняга ручая, сіняй кветкі, сіняга матыля). А калі больш уважліва паназіраць за гэтымі аб’ёмна-выпуклымі вобразамі, што асацыятыўна ствараюць сіні колер, то можна заўважыць: вада — іх стыхія-заступніца. Вада ў паэта-жывапісца не столькі размяркоўвае сіні колер прасторава, колькі ўдакладняе гэты колер танальна, бо вадзяная празрыстасць у Я. Сіпакова не ёсць тая раптоўная аптычная ілюзорнасць, пра якую рускі паэт Юрый Кузняцоў у вершы “Мора сіняе” сказаў:

*Синеву я черпнул ладонями*
*И вгляделся глазами влюбленными,*
*но вода оказалась без цвета,*
*откровенна и нежива.*

У Я. Сіпакова ўсё інакш: бліскучая сінява — гэта нейкая зямная пяшчота, бы “крама парфумная”, якую аўтар нават не ўяўляе сабе “бескалёрнай” (напрыклад, у вершы “Вада”), бо падобна яна на вясёлку дня.

Сіняя фарба Я. Сіпакова-мастака зямная яшчэ і таму, што яна рэальная, а жывапіснае майстэрства Я. Сіпакова-пейзажыста выражае сябе не толькі ў тым, што майстар дазваляе чытачу інтуітыўна адчуць сіні колер, але і ў тым, што дазваляе гэты колер рэальна-зрокава ўбачыць: архітэктоніка сіняга колеру ў плане жывапісных кампазіцый паэта — выразна яркая, асабліва, калі параўнаць пейзажныя малюнкі беларускага аўтара з творамі М.К. Рэрыха (“Чырвоныя коні”, “Вясна ў Кулу”, “Зорка героя”). Знаходзім, што многія пейзажы Рэрыха гэта жывы купал сіняга неба. Сіні колер у іх дамінуючы і чытаецца як колер прыроднага Духу. У пейзажных кампазіцыях Я. Сіпакова фон казачнага лета стварае пераважна жоўты колер, а сіняя фарба ўсяго толькі прасторава дапаўняе сонечную ў выглядзе яе абводкі-каймы; можна толькі ўявіць, як гэтая сіняя кайма зліваецца з шумам зялёных дрэў і ад таго робіцца бірузовай у “пярсцёнку” казачна-вершаванай вобразнасці Я. Сіпакова.

Сіняя мара паэта. Дзіўны букет сноў. У ім сабраныя разам і парфумная пяшчота сініх дажджоў, і сінявокая ўсмешка жанчыны, і сіняя лугавая прастора. І букет гэты ёсць адказ аўтара на пытанне, што трэба ведаць паэту, каб стаць шчаслівым: трошкі пабыць філосафам, трошкі казачнікам, каб потым філасафічную казку намаляваць колеравымі мазкамі.

**Алена ІГНАЦЮК**

# СВЕТ, ДЗЕ МЫ ПАМІРАЕМ

*Мы жывём у свеце, дзе вечар змяняецца раніцай, вясна – восенню, жыццё*
*– смерцю,*
*дзе час рухаецца ў адзін бок,*
*дзе адзіная адвечна ўстойлівая апора – гэта страчванне яе:*
*в ы р а й.*

**А. Разанаў**

“Мне снілася, што я стаю на вяршыні вельмі высокай вежы, назіраючы за мірыядамі птушак, якія ўсё ляцелі ў адным напрамку; то было велічнае відовішча агромністай ракі з птушак у паветры.

Але раптоўна нейкім таямнічым чынам пераключылася перадача ў механізме руху часу, і ён паскорыўся так, што мне сталі бачны пакаленні птушак.

Я назіраў, як яны разбіваюць шкарлупіну, імкліва вылятаюць у жыццё, спарваюцца, страчваюць сілу, збіваюцца і паміраюць. Крылы выраслі і разбураліся, бліскучыя целы праз імгненне сцякалі крывёю і высыхалі, смерць знаходзіла іх паўсюль кожную хвіліну. Якая была карысць ад гэтай усёй бессэнсоўнай барацьбы за жыццё, нецярплівых рухаў, паспешлівага спаравання, палёту і перанапружвання гіганцкіх непатрэбных высілкаў?..”

Гэты сон, які на самай справе сніўся Дж. Б. Прыстлі (“Дождж над Годсхілам”), павінен быў бачыць Янка Сіпакоў перад тым, як напісаў кнігу прытчаў “Тыя, што ідуць”. Думаецца, што ён усё-ткі бачыў гэты сон, толькі з папраўкай на ўсходнееўрапейскую рэчаіснасць замест птушак былі чарвякі.

Яны настойліва, рашуча ішлі наперад. Пасля іх заставалася роўная паласа голай, выедзенай амаль да чарнаты зямлі, на якой ужо, каб хто і хацеў, не знайшоў бы ніводнай жывой пупышкі, нічога, што магло зазелянець і даць новы парастак. Наперад! Наперад! Наперад! Думаць не трэба, вырашаць не трэба... І раптам:

— Браты, а ці туды мы ідзём?

Вось такая чайка па мянушцы Джанатан Лівінгстоўн — глядзі Р. Баха — знайшлася сярод чарвякоў медытуючага Сіпакова. Толькі не знайшла яна сваё сёмае неба, бо была бязлітасна затаптаная ненатольнымі супляменнікамі. І тыя, хто падхапіў гэты крык, былі асуджаныя на смерць — па іх рашучы, і нават з асалодай прапаўзлі суродзічы, знарок утоптваючы ў бруд.

З травіны ў бруд, з князёў у гразь, з Бездакорных у нячысцікі... Чым бліжэй неба, тым цвярдзей зямля. Што ж — не выштурхвайся, не разгойдвай арэлі лёсу, бо “паміж усім на зямлі дзве адлегласці: паменшыцца адна — павялічыцца другая” (А. Разанаў).

Любі сваю вязніцу: чым яна меншая, тым рэальней памеры ўласнай свабоды. А дазволіўшы вольнаму духу апанаваць сабой — не здзіўляйся, калі замест ласкавай марской хвалі прыме цябе загостраны кол, пастаўлены прадбачлівымі катамі.

...бо калі нам здаецца, што мы набываем волю, мы накладваем новыя вярыгі,

...бо калі мы спрабуем выратаваць жыццё, набліжаемся да смерці,

...бо ратуючыся, мы паміраем,

...бо не толькі жыццё, але і смерць скарб ёсць.

А інакш і быць не можа — “бесперапынны занятак усяго нашага жыцця — гадаванне смерці” (М. Мантэнь). Мы нарадзіліся, каб памерці — ці не гэта найвышэйшая мэта жыцця? Трагедыйнасць чалавечага існавання, відавочна, не столькі ў тым, што мы пазбаўлены выбару ў момант свайго з’яўлення і адыходу, колькі ў тым, што не можам палюбіць смерць так, як любім жыццё. І толькі ў каханні мы добраахвотна аддаём сябе ва ўладарства смерці — што ёсць параксізмы нашага цела, як не прадчуванне агоніі, што ёсць наш апошні ўздых, як непатрабавальнае “яшчэ”?

Калі прыняць вядомае “кахаць — гэта значыць любіць паміраць” (Ж. Батай), то перастаеш бачыць абсурд у тым, што героі Сіпакова вырашаюць у адзін дзень справіць і вяселле, і хаўтуры. Наскакаўшыся і насмяяўшыся ў адной хаце, ідуць маладыя ў другую, каб паплакаць над нябожчыкам, а потым зноў вяртаюцца, і, здаецца, няма спынення гэтаму шляху з аднаго канца ў другі — “ад нястрыманай весялосці да зацятага адчаю, праз мяжу пасярод вёскі, дзе заціхаюць смех і песні, і нараджаецца плач і галашэнні”.

Людзям здаецца, што ўсё за іх вырашыў побыт — каб прадукты не псаваліся, каб падарункі не прапалі... Аднак быт толькі дэкаруе архетып — хто з нас не сутыкаўся ў асабістым жыцці з гісторыяй, калі напярэдадні вяселля разбіваецца брат маладой, што ехаў на матацыкле за гарэлкай?

З другога боку, менавіта быт і выкрышталізоўвае архетыпы сучаснасці — апошнія тысячагоддзі толькі ён і мяняецца. Чалавек застаецца нязменным — ён ужо ёсць усё. У ім, магчыма, ужо ад моманту з’яўлення быў закладзены праект усяго існага, а калі і не быў, то сёння ён нясе ў сабе адказы на ўсе пытанні.

Усё ўжо сказана. Жыццё, смерць, думка, Бог, каханне — з пэўнага моманту мы не шукаем, а кантамінуем сюжэты. Магчыма таму якраз літаратура постмадэрнізму ўвяла ва ўжытак вызначэнне “канец Гісторыі”. Нягледзячы на тое, што гэты тэрмін актуалізаваўся менавіта цяпер, ён мае мала агульнага з традыцыйнымі для канца стагоддзя эсхаталагічнымі настроямі. Французскі пісьменнік М. Бланшо тлумачыць сітуацыю канца Гісторыі так:

“Для ўсіх у той ці іншай форме гісторыя падыходзіць да канца: для чалавека з моцным духам гісторыя падыходзіць да канца, паколькі ён разумее сябе як усё і паколькі ён працуе над тым, каб зрабіць свет разумным; для чалавека, пазбаўленага гэтай моцы, гісторыя падыходзіць да канца, паколькі ў яе апантаным і пазбаўленым мэты руху гэты канец прысутнічае ў кожным імгненні, так як бы ён быў дадзены ад пачатку; для верніка гэта так, паколькі іншасветнае замыкае гісторыю — ад гэтай пары і на векі вечныя”.

Канец Гісторыі не азначае, што больш нічога не адбудзецца — чалавек як індывід гэтак жа будзе пакутаваць ад дробязных праблем, бо ў універсуме вечнасці, які ён утрымлівае ў сабе, няма месца для прыватнага. Канец — гэта не экалагічная катастрофа, і не ядзерная вайна, і, хутчэй за ўсё, не знакамітае эліотаўскае “не грукат, а ўсхліп”. Магчыма, гэта дрэйфаванне Лятучага галандца — не да нечага, а праз нешта.

Адчуванне бясчасся, зазначанага постмадэрністамі, стала выяўляцца і ў творах пісьменнікаў рэалістычнай школы. Цікавай у гэтым плане падаецца прытча “Яшчэ ў статку” Я. Сіпакова, дзе ёсць момант, калі галоўны герой Сонцапас пытаецца ў сваёй каханай:

— Хочаш у будучыню? А чаму табе не падабаюцца нашы дні, Крылатка?

Яна крыху падумала, а потым адказала:

— Не, мне і ў нашым стагоддзі

добра. Асабліва мне ў ім падабаецца праміскуітэт.

Адлюстраванае тут адчуванне дыскрэтнасці часу праяўляецца ў прытчах Сіпакова на самых розных узроўнях. З аднаго боку, ён міфалагізуе прыватнае, з другога — дэталізуе агульнавядомае. Не тое, каб пісьменнік не мог сказаць новага — новае, як сізіфаў камень, скочваецца з гары Культуры.

Аднак, калі ўжо ўсё сказана, чаго ж гэта мы ўсё гаворым?

Мажліва, баімся пачуць голас смерці.

Ганна КІСЛІЦЫНА

# ЭКСКУРС У ЗЯЛЁНЫ РАЙ ПАЭТА

Апошнім часам вяртаю страчанае ў мітуслівай штодзённшчыне: перачытваю напісанае пісьменнікамі — ад іхняй першай да апошняй па часе кніжкі. Пераважна літаратараў пасляваеннага пакалення — сваіх равеснікаў, крыху старэйшых альбо маладзейшых. Радуе іх працавітасць і ранні прафесіяналізм. Фактычна няма вучнёўскіх твораў у Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Міхася Стральцова, Васіля Зуёнка. Як не было іх у старэйшага за нас Васіля Быкава і нашых класікаў Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага. А яны ж пачыналі нашую літаратуру.

У гэтай кагорце паэтаў сённяшняга нацыянальнага Рэнесансу, літаратараў універсальнага таленту прыгожа глядзіцца творчасць Янкі Сіпакова. Ягоная першая, сціпла аформленая (бо пачатковец!) кніжачка "Сонечны дождж" (1960), адкрываецца праграмным для паэзіі майстра роднага слова вершам "Адгукніся на стук у акно асцярожны..." У гэтым крыху дыдактычным маніфесце — маральная імператыва не толькі аўтара, але і ягонага народа. Духоўны арыстакратызм не пакідае Янку Сіпакова вось ужо сорак гадоў. Беларуская спагадлівасць не дазваляе абыякавасці да пакутніцтва "меншых братоў і сёстраў" нашых. Як у вершы паэта "Ваўчыца ў звярынцы": "...Яна праз краты высунула лапы — // Хай хоць яны пабудуць на свабодзе".

Урэшце, эстэтычнае credo паэта дакладна выявілася ў вершы "Сонечны дождж": "Ён паліўся...// Спорны, шчодры, // Церабнуў па промнях коса, // Зазваніў са стрэх у вёдры, // На двары абмыў калёсы... А пасля дажджавой працы // Прыгажосць зямля прыдбала, // Нават сонца прыбірацца // У вясёлку стала". Нанава выйдзеная кантрастная метафарыстыка, якую ў свой час адкрываў у паэзіі Язэп Пушча. Пазней, следам за Максімам Танкам, Я. Сіпакоў уводзіў у беларускую паэтычную традыцыю свабодны верш, занатаваўшы свой вопыт у кніжцы паэзіі "Усміхніся мне" (1984):

*Быццам саксаул з ранетам,*
*Перайшоўшы грэх мяжы,*
*Я хачу верлібр з санетам*
*Як садоўнік, падружыць.*

Мастацкі прафесіяналізм Янкі Сіпакова выявіўся таксама ў стылістычнай цэласнасці яго паэзіі, у заглыбленасці на спрадвечных архетыпах культуры — нацыянальных і універсальных. Было б надзвычай цікава выявіць, якім чынам сюжэты, вобразы ды матывы першых вершаў паэта праходзяць праз усю ягоную творчасць, відазмяняючца аж да пераходу ў сваю процілегласць, ствараючы своеасаблівыя цыклы — па аналогіі з санатна-сімфанічнымі формамі ў музыцы.

На жаль, крытычная герменеўтыка — пакуль што рэдкасць у нашай "прыкладной" эстэтыцы. Літаратурныя набыткі Сіпакова, паэта, празаіка і эсэіста, не замоўчваюцца ў нашай крытыцы. Але гэта была пераважна "жаноцкая" (у тыпалагічным сэнсе гэтага слова) крытыка (на сёлетнім сходзе секцыі крытыкі карысталіся гэтым паняццем). Дамінавала асабістае, лірычнае захапленне творчасцю паэта, часам шчырая (аж да наіўнасці) апалогія. (Было, праўда, выключэнне — кніжка Антаніны Лысенкі "Лінія гарызонта: Нарыс творчасці Янкі Сіпакова", дзе ёсць літаратуразнаўчы аналіз.) Добрая апалагетыка (напрыклад, "Апалогія Сакрата", напісаная Платонам) патрэбная ў літаратуры. І не толькі ў дачыненні да класікі (для духоўнага самасцвярджэння нацыі), але і для сучасных літаратараў; хоць бы для маральнай падтрымкі пісьменніка і падвышэння прэстыжнасці ягонай працы, дзе не дзейнічае універсальны закон эканоміі энергіі. Але ж, як сказаў бы Адам Мальдзіс, апалагетыка мае два бакі: заахвочвае да творчасці, але часам і "закалыхвае" свядомасць і сумленне аўтара. А вось герменеўтыка, наадварот, дазваляе яму глыбей самаўсвядоміць уласныя набыткі, паглядзець на іх збоку, у полі зроку універсальнай культуры.

Паспрабую пакуль што толькі пазначыць некалькі архетыпаў паэзіі і лірычнай прозы Я. Сіпакова, пакідаючы асноўную працу на перспектыву. Першы і універсальны архетып выявіўся ў матывах сялянскага Раю. Універсальны, бо класічная літаратура (тым больш музыка, нават жывапіс) заўсёды выяўляла Рай і Пекла зямнога жыцця. Гэта пачалося з біблейскай кнігі Быцця, захапіла антычную літаратуру. У еўрапейскай паэзіі гэтыя полюсы быцця — нябесны і апраметны — спачатку выявіліся ў чыстых формах ("Боская камедыя" Дантэ, "Згублены рай" Мільтана). Пазней, у рамантычную і пострамантычную эпохі, — у іх змешанасці і ўзаемапераходах. У паэзіі і лірычнай прозе Я. Сіпакова гэты вобраз-архетып намаляваны не міфалагічна, а хутчэй метафарычна: райскія блікі і рэмінісцэнцыі.

Вось, напрыклад, радкі з кніжкі "Лірычны вырай": "Зямля мая! Маліцца трэба // На твой вянок у ззянні рос... // А недзе там, за сёмым небам, // Рыпіць сузор'яў зорны воз..." Міфалагема "сёмае неба" — гэта вобраз Раю ў апакрыфічнай літаратуры і ў нашым фальклоры. Мастацкі пантэізм, абагаўленне свайго "роднага кута" праглядаецца ва ўсіх кніжках паэта. Вось радкі з кнігі "Усміхніся мне":

*І я, як той далёкі продак,*
*Свой добра ведаю вытак...*
*Мая рэлігія – прырода,*
*Мой Бог – заземлены расток.*

Звяртаючыся да горада, лірычны герой паэта кажа: "Завязі мяне // Пад вадаспад, // Вадаспад цішыні, // зяляніны і кветак" ["Горад мой..."]. І працяг гэтага "райскага" матыву ў вершы "Запрашэнне ў раніцу": "Там // Да хрусту ў галінах // Пацягваюцца спрасоння бярозкі, // І атрасаюцца ад імху і лісця // Баравікі. // Там // Спрабуюць галасы птушкі // І настройваюць на вясёлую песню // Свае адсырэлыя за ноч // Жалейкі..." Да верша "Тураўская элегія" паэт узяў эпіграф з велікоднага гімна Кірылы Тураўскага, дзе Хрыстовае Уваскрэсенне ўпадабняецца вясноваму Раю: "Сёння вясна красуецца, ажыўляючы зімовую прыроду. Буйныя ветры, ціха павяваючы, песцяць і гадуюць плады..."

У паэтычных кніжках "У поўдзень, да вады" (1976) і "Усміхніся мне" ёсць літаральныя рэмінісцэнцыі міфалагемы Раю:

*А мы з табой, бы ў рай, у гэткі*
*Луг абраскошаны зайшлі,*
*Дзе матылькі – нібыта кветкі*
*І кветкі – нібы матылькі...*

("Вясновае".)

Альбо ў вершы "І не абтросшы з ног дарожны пыл...": "Я да знаёмай вёскі набліжаўся... Дзень добры, баба Ева! — Яна несла // Ваду з калодзежа — адзінага, жывога. // А дзе ж ваш дзед Адам?.."

Адным словам, райская, боская і людская, прыгажосць — дамінанта ў паэзіі і лірычнай прозе Янкі Сіпакова. Бездакорны густ паэта выявіўся ў ягоных мініяцюрах, афарызмах і нарысах. Вось толькі спатыкнуўся пісьменнік лірычнага складу на катэгорыі камічнага. Канкрэтна — на гратэскавай паэме "Сказ пра Лысую гару". Калі гэты ананімны твор надрукавалі, зазначае аўтар кнігі "Журба ў стылі рэтра", "тут убачылася, якая ж гэта злая рэч, колькі ў ёй непавагі і нават нянавісці да беларускай літаратуры"...

Калі паэт-лірык не разумее сутнасці гратэску (гратэск-універсальны, народны, карнавальны смех, у тым ліку смех над самім сабою), гэта зразумела. Але ж Іван Данілавіч звыш дзесяці гадоў працаваў у рэдакцыі "Вожыка". Урэшце, тут першая віна падае на крытыку: крытыкі і эстэтыкі ў сваёй большасці не зразумелі гэты таленавіты твор. Хоць сёе-тое пра яго сутнасць ужо друкавалася.

Уладзімір КОНАН

# ПАЛЁТ НАД ПІРАМІДАЙ

"Аўтара хвалююць маральныя і сацыяльныя праблемы: лёс неперспектыўных вёсак і іх ужо немаладых жыхароў..." Словы з анатацыі да адной з кніг Янкі Сіпакова. Амаль гэткімі ж словамі характарызуюцца і іншыя празаічныя творы аўтара. "Дык што ж яна, урэшце, за феномен такі, мая родная, незабыўная вёска? — пытаецца пісьменнік у эсэ "Як птушкі ў лёце" і, не даючы адказу, разважае: — Вось пражыў у ёй усяго толькі нейкіх семнаццаць гадоў, а ўсё пішу пра яе, чэрпаю, як кажуць, адтуль і свае творчыя сілы, і натхненне: пішу, і, здаецца, хопіць мне маіх вясковых запасаў на ўсё жыццё..."

...Слова ВЁСКА, выкарыстанае ў большасці твораў беларускіх пісьменнікаў савецкай эпохі, можна назваць *сімвалам* як беларускай савецкай літаратуры, так і цэлай эпохі ўсяго народа. Варта ўзгадаць, што эмблемай ці надсімвалам сімвала на той час былі серп і молат — прылады, прыналежныя ў першую чаргу той жа вёсцы.

***

"...Цэп, сявенька, серп... папракалі мяне за пакланенне гэтым адвечным сялянскім памочнікам і ўлюбёнцам... Сёй-той нават саромеецца, што серп і молат, гэтыя застарэлыя працоўныя прылады, упрыгожваюць наш савецкі герб: яму, канечне ж, хочацца, бачыць на іх месцы камбайн". ("Птушкі ў лёце".)

І як бы пасля гэтага розум пісьменніка не супраціўляўся, што творы, "якія выражаюць толькі вопыт аднаго пакалення, часцей за ўсё недаўгавечныя", прыналежнасць да часу росквіту савецкай эпохі была гарантам асэнсавання толькі аднаго пакалення: *ад сярпа і молата.*

...А вёска станавілася і сэнсоўнай формулай часу, і ладам, і прыкладам пабудовы дзяржавы.

***

Цалкам слушная, бясспрэчная, даўно знаёмая думка, што непакоіла і Я. Сіпакова: "...важна... беларусу стварыць праўдзівы вобраз беларуса і роднага краю — каб чалавецтва па часе не забылася і пра твой народ". ("Наталенне смагі".)

Але вопыт асобнага творчага індывіда часцей за ўсё быў вопытам вёскі і ў лепшым, і ў горшым сэнсе гэтага слова: ад

унутранага — эпас-падмурак, філасофія народа да вонкавага — калгас. Унутранае было дадзена разумець (і адчуваць) далёка не ўсім; і тады вонкавае, як бы таленавіта ні было апісана-паказана, — набывала часовую значнасць, абмежаванасць у часе, абстрактнасць у прасторы.

***

Пануючая сістэма ВЁСКІ помсліва праяўлялася праз скрыўленне іншых, гарманічна існуючых *раней побач з ёй* сістэм. Гэты ж працэс адбываўся і ў творчасці. Штучная філасофія ладу быцця перапыняла палёт думкі, "спрашчала" творцу так жа лёгка, як рабіла "простага чалавека" галоўным героем твораў. А менавіта такога героя наша літаратура магла "вырошчваць, будаваць, рабіць, ствараць" (па Я. Сіпакову).

І толькі ад разумення ганебнага працэсу падмены душа творчая магла заекатаць: "Божа мой! Вярні майму народу гістарычную памяць, абудзі ў ім самапавагу. Памажы зразумець яму, што ён не цёмны, забіты і прыніжаны, а такі ж вольны і паважаны на зямлі, як і ўсе іншыя народы ў свеце!". ("Наталенне смагі".)

***

Праз шматлікія празаічныя творы Я. Сіпакоў наблізіўся да дасканалага выпісвання вёскі, калі зусім натуральнай падаецца выснова, што нацыя беларусаў узлялася "ад зямлі, а дакладней — ад любові плуга і раллі".

"Семдзесят гадоў эксперыментаў над селянінам... Бяспраўны парабак — у самай вольнай краіне ў свеце, няволя, прыгон — пры самай перадавой грамадскай сістэме... Жудасна! Пачварна! Бесчалавечна!"

Адплюшчваюцца вочы, прачынаецца розум, роздум ахоплівае сотні тысяч савецкіх людзей. І апісваецца *"адкрыццё"* не так для сябе, як ужо — для іншых. І не сабе, — іншым дазваляецца вылічыць: дзе "павінна існаваць у прыродзе — у чыстым, нечапаным, незаплямленым выглядзе — наша самапавага і годнасць", і, магчыма, "адкрыць, як пад напластаваннямі стагоддзяў адкрываюць карысныя выкапні". ("Узятак з маўчання".)

Але ж ці ўсё так проста?

***

Часам пісьменнікі рабілі настолькі ўдалае параўнанне-вобраз, што можна было па адной фразе зразумець: пра *якую* краіну сказана. "Эх, Русь! Птушка-тройка!" — усхвалявана зазначаў Гоголь. А па Чэхаву: "Уся Расія ёсць вішнёвы сад". І незнарок разумееш сутнасць краіны, адчуваеш людзей, што жывуць там. Асацыяцыя: ад вобраза — да акалічнасцей.

З намі — наадварот. Акалічнасці: "Беларускі народ увесь час шчыра і аддана працаваў, клапатліва араў і сеяў, жаў і зноў сеяў, і ў цяжкой працы... не задумваўся асабліва, хто ён ёсць на зямлі. Не даражыў моваю, якой сам выракаўся, быў абыякавы да сваёй гісторыі, якой не цікавіўся, не бачыў патрэбы ў сваёй інтэлігенцыі, якую не выхоўваў". ("Наталенне смагі".) "Божа ж мой, які ж ты цярплівы, вынослівы і вечны, мой маўкліва-задумлівы народзе! З нагоды і без нагоды, з прычыны і без прычыны заўсёды думаецца такое". ("Узятак з маўчання".)

І зноў нараджаецца, узнікае той жа вобраз: ВЁСКА.

***

Перачытваючы шчырую, мастацкую прозу Я. Сіпакова, разважаю: о, з якім патаемна-сціплым задавальненнем многія беларускія савецкія пісьменнікі, гэткія Клімы Самгіны, адмовілі б сваім творам у прыналежнасці да *іхняй літаратурнай дзейнасці.* "А может, мальчика-то и не было?"

***

"Спрошчанасць" у літаратуры выклікае шчырае недаўменне: куды падзеліся не пачуцці (іх дастаткова), а *эмоцыі?* "І як сумна часам жывём мы, такія вольныя і такія правільныя. Чытаючы нашы творы, нашчадкам можа здацца, што ўсе мы былі аднаполыя, што не было сярод нас жанчын, што мы нават і не ўяўлялі, што гэта такое — каханне". ("Як птушкі ў лёце".)

І ці не праз дзесяць гадоў, у празаічнай паэме "Варзоб" знаходзіцца герой, які спрабуе зыначыць, паправіць, патлумачыць: "Мужчына без жанчыны — ніхто. Так сабе, нешта сярэдняе — яно. І толькі жанчына робіць мужчыну мужчынам. І толькі пры жанчыне вырастае і атрасаецца ад бруду Ён. Жанчына з загатоўкі, з аморфнай і не выразнай масы выточвае Мужчыну".

...І дасюль глыбіня кахання ў беларускіх празаічных творах — толькі намёк на існаванне *загадкавай прасторы глыбіні Кахання.*

***

Настае момант, калі творца адчувае незадаволенасць *самастворaным*, дух творцы пратэстуе з-за нявыкарыстанасці патэнцыялу думкі, і тады нараджаюцца эсэ, развагі, літаратурныя дзённікі, глыбокія крытычныя артыкулы...

Мусіць, праз адчуванне еднасці з чужым унутраным неспакоем, і перапісала калісь даўно, пасля публікацыі ў "Маладосці", зацемку (па Л. Галубовічу) Я. Сіпакова: "У аднаго філосафа ёсць дужа цікавая думка: чым вышэй у неба ўздымаецца птушка, тым меншай яна здаецца тым, хто застаўся на зямлі. // Тым большымі, дададзім мы ад сябе, здаюцца самі сабе тыя, хто ніколі не ўзлятаў у неба".

***

"Кожны чалавек носіць у сабе храм", — гэты радок дае падставу Янку Сіпакову развіць думку: болькі і радасці душы чалавечай нараджаюцца ва ўнутраным храме.

Мне ж падаецца, што літаратурны працэс можна параўнаць з пабудовай Храма; прычым прымаюць удзел у такой "пабудове" ці не большасць пісьменнікаў, выкарыстоўваючы за матэрыял свае творы і кнігі. Толькі *свой* Храм на працягу стагоддзяў пабудавалі адзінкі.

Зірнуўшы нібы збоку на творчасць спадара Янкі, мне пабачыўся не храм, але ж іншая пабудова, якая вырасла на ашчадна выкладзеным падмурку; "культавая ўстанова" плаўна перайшла ў грандыёзную Піраміду. Там — дом для яго герояў, там гняздзіцца дух творцы, і прастора піраміды — гэта прастора творчасці. (Ускосна: "І ўсё ж у кожнай творчасці ёсць берагі — гэта душа творцы, шырэй якой не разальешся" ("Як птушкі ў лёце")... Але ж дух — вольная птушка, і, перачакаўшы непагадзь, ноч і суцешлівыя хвіліны спакою, — вылятае, "вышэй у неба ўздымаецца птушка"... І ўсё меншай, — дадам ад сябе, — здаецца ёй піраміда на зямлі.

***

Творы Янкі Сіпакова традыцыйныя, правільныя, граматныя, шчырыя (задушэўныя). Але ці не ад незадаволенасці ўменнем спрошчана-натуралістычна (што сведчыць пра Талент) капіраваць жыццё, і з'яўляецца жаданне ўзяцца за пераклады?

Аказваецца, не толькі "...пішучы пра свой народ... даючы яму слова і магчымасць выказацца, — можна стаць сапраўдным, патрэбным народу пісьменнікам" ("Як птушкі ў лёце"). Вандруючы па іншых землях: рускай, украінскай, таджыкскай, армянскай, спасцігаючы іхні гонар і годнасць *за сваю* нацыю, — лёгка набываецца пэўнасць аб роўнасці народаў і неабходнасці ўзаемапавагі, узаемапранікнення ў Культуру, набываецца значнасць ролі ТАГО, хто пазбаўляе сваю краіну дыскрэтнасці, ізаляванасці, адарванасці ад культурных працэсаў свету. "Ніводная літаратура не можа паўнакроўна існаваць без перакладаў з чужых моў. Калі не будзе прытоку свежай крыві з іншых крыніц прыгожага пісьменства, любая літаратура, якой бы жывой і развітай яна ні была, задыхнецца, змарнее. Як і род, замкнуты ў самаколе, і таму змушаны да кровазмяшання, пачынае неўзабаве нараджаць дэгенератаў, так і літаратура, замкнутая ў сабе, дае непаўнацэнныя, непаўнакроўныя, хілыя творы-калекі".

Да таго ж любая "дарога заўсёды вядзе дадому. Нават тая, якая толькі што выйшла з дому" ("Наталенне смагі"). А з дальняй дарогі прыносіцца вопыт расстання, і разуменне вялікага пачуцця Любові да роднай зямлі, да свайго народа.

***

Шкода, але далёка не кожны творца ўсведамляе, што перш чым узяцца за пераклады трэба навучыцца разумець *сэнс* кожнай Літары сваёй мовы. Бо "у кожным слове — свая алітэрацыя. Больш таго: само слова — гэта ўжо і ёсць алітэрацыя..." "Зноў жа, не толькі слова, а і кожная літара мае свой твар, свой характар і быццам што жывое, само па сабе нават гаворыць: "ж" — гудзе, яно з крылцамі, "о" — гэта ўжо стогн, "у" здзіўленне... "ф" — адхукваецца, яно аж шчокі надзьмула..." і г.д. ("Як птушкі ў лёце").

І што рабіць, калі "чужая, вывучаная мова" не мае падмурка, стаіць "на голым месцы, не мае ні глыбіні, ні шырыні", бо ў ёй "няма самага галоўнага — гістарычнай памяці, таго жыццямоўнага карэння, якое дае магчымасць развівацца і плоданасіць"? Застаецца адно — "працаваць, як археолаг на раскопках — з квачыкам" ("Наталенне смагі").

***

Пабыўшы археолагам (пераклады), архітэктарам (Піраміда), творца робіцца і настаўнікам. "Ніколі не слухайце іншых паэтаў, — раіць ён маладым, — нават калі гэта будуць майстры. Бо кожны хваліць вас часцей за тое, што яму падабаецца ў вас, а яму падабаецца якраз тое, што робіцца ў яго манеры, сугучна яго думкам і настроям".

Слушна, але як жа лёгка прыняць гэта на свой кошт: цытую толькі з тых твораў, якія закранулі мяне, у якіх убачыла творцу іншым: несупакоеным, напружана-пільным, разважлівым...

***

Толькі падсвядома прыняўшы ролю праведніка, літаратар можа сцвярджаць, што трэба, каб па пратаптанай ім сцежачцы пасля за ім "ішлі наступнікі, паслядоўнікі". Але ж закон літаратуры пісьменніку вядомы: "рабі не так, як я" ("Як птушкі ў лёце"). Падпарадкоўваючыся, у згодзе з гэтым законам, Янка Сіпакоў цвёрда ўпэўнены: "У пісьменніка не павінна быць настаўніка... Ён патрэбен графаману. А сапраўдны пісьменнік — сам сабе настаўнік".

І даецца ж гэтая гульня ў фразачкі! Нашто праведнік (цнатліва), павадыр (рэалістычна), кумір (сябелюбіва), калі: "стварыць сабе куміра і пакланяцца яму — гэта значыць разбурыць, бязлітасна знішчыць сябе як асобу" ("Узятак з маўчання").

А вось і адпаведнасць, роднаснасць адчуванняў: "Настаўнік у літаратуры — гэта ўтопія. Мець настаўніка, верыць, даваряць яму — значыць стаць сляпым да сваёй *самасці, самасутнасці...* Калі чалавек згодны адмовіцца ад сваёй *асобы* як *асаблівасці*, ён можа альбо мець, альбо бясконца шукаць настаўніка (-аў). (В.К. — з адказу на анкету, "Маладосць", № 7, 1996).

Ды і чаму можна навучыць, калі ў слове — гэтай *прыладзе* пісьменніка — "няма ніводнага атама... бо яно дух..." За нашым часам было моўлена таленавіта: "...ды слова не прагняві, Бо слова належыць Духу, Кіньце слова гайні — І паляціць пацяруха". (А. Сыс. Дух).

"Якая гэта жахлівая трагедыя для пісьменніка: глядзець і не бачыць, слухаць і не чуць, пісаць і не тварыць!" ("Як птушкі ў лёце").

***

...Любая творчасць — афармленне энергіі, пераўтварэнне чыстай энергіі ў вобраз, твор.

Нешта падобнае сустралася і ў эсэ "Наталенне смагі": "Творчасць — гэта сабраная, сканцэнтраваная, сфакусіраваная энергія, якая выпраменьваецца накіраваным, моцным пучком... ад якога самазагараецца чалавечая памяць".

Не — кроку крок па "сцежачцы", а — палёт у прасторы...

***

"Мусіць, з кожным здараецца такое: раптам зусім спыняецца звыклы рытм твайго жыцця, усё навокал цябе робіцца ціхім-ціхім, нібы растварaецца і знікае, а ты сам нібы пакідаеш сваё цела, выходзіш з сябе, становішся збоку і менавіта збоку глядзіш на сябе..." ("Як птушкі ў лёце"). Разгублена назіраеш, у той момант як іншыя асэнсоўваюць *твой шлях:* "У кожнай думцы Янкі Сіпакова — сваё адметнае жыццё, знешняя абалонка, пластыка, сваё дыханне і ўзмах крыла"*.

Але ж як неверагодна-цікава назіраць за палётам думкі, якую, бы пёрка з крылаў, скідвае Дух, што лунае над Пірамідай Творчасці пісьменніка Янкі Сіпакова.

**Вольга КУРТАНІЧ**

* Л. Ламека. З уступнага артыкула да "Выбраных твораў у 2 тамах" Я. Сіпакова.

# Наталля РУСЕЦКАЯ



* * *

Абярнуся срэбным пярсцёнкам
на танклявай тваёй руцэ,
адгукнуся ўспамінам дзёрзкім
і слязой збягу па шчацэ,
я пячаткаю, як таўром,
прыпаду да сэрца твайго
і чырвоным даўкім вінам
упаду на крыштальнае дно
спакусы



# Марыя КІПЕЛЬ





*Мы, маладыя, жылі зь Беларусяй. Усё вакол нас ставала беларускім. і менскае апалячанае й абруселае мяшчанства, хоць яно й супрацівілася, і мне было крыўдна за іх, бо я сама чысьцюсенькая мянчанка, і школьніцтва, зь якім я была зьвязаная перш як вучаніца, а потым як настаўніца, і адміністрацыя, і культура, і наагул усё, усё Усё ставала беларускім, усе гаварылі пабеларуску, ды інакш яно не магло й быць, і Беларусь ставала на дзяржаўны шлях.*

## *Пра Марыю Кіпель*

**Дом, у якім 14 студзеня 1904 года прыйшла на свет Марыя, стаяў насупраць Менскага гарадскога тэатра, дзе яе бацька, Васіль Зубкоўскі, чвэрць стагоддзя працаваў “пры гардэробе”. Пасля заканчэння гімназіі яна настаўнічала ў роднай бацькавай вёсцы Вугляны пад Менскам, спявала ў вядомым хоры Ул. Тэраўскага. Потым былі заняткі на курсах беларусазнаўства, якімі кіраваў Язэп Лёсік, вяселле з маладым навукоўцам Яўхімам Кіпелем і лінгвістычна-літаратурны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. У тыя гады яе сябрамі зрабіліся літаратары Ядвіга Бяганская і Янка Скрыган.**

**Чорнай вяхой у жыцці Марыі Кіпель стаўся 1930-ты. У ліку іншых “нацдэмаў” быў арыштаваны і высланы ў Вяцкую вобласць муж. НКВД “параіў” выбірацца куды-небудзь далей ад Беларусі і ёй самой з малым сынам**

# ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОД ТАМУ...

Стук у дзьверы ўначы на 29-га чырвеня 1930 году застаецца ў памяці вось ужо 50 год і, відаць, гэтак і будзе зы мной да канца жыцьця І, на мой пагляд, ня дзіва гэта. Ад таго незабыўнага, хай сабе й гэтак няпрыемнага мамэнту — часта-часта хочацца, каб ён быў забыты — жыцьцё маё дый тысячаў іншых блізкіх мне людзей, маіх сяброў, знаёмых, пайшло інакш, як мы плянавалі й лятуцелі

А лятуцелі й плянавалі мы служыць Беларусі й будаваць Беларусь, і ўсё нашае йснаваньне вызначалася беларускім прагрэсам. І калі я ў памяці перабяру тыя кароценькія гады ад 1918 году, калі я чатырнаццацігадовай дзяўчынкай уступіла ў хор Тэраўскага, і да 1930 году, калі надыйшоў той сумны мамэнт, дык на цёмным фоне нялёгкага, ойжа-ж часамі й нялёгкага, даўгога жыцьцёвага шляху, тыя гады ўстаюць і аднаўляюцца як сьветлы й радасны мамэнт, які гэтулькі нам даў духовага задавальненьня, радасьці, прыемных успамінаў Мы, маладыя, жылі зь Беларусяй Усё вакол нас ставала беларускім· і менскае апалячанае й абруселае мяшчанства, хоць яно й супрацівілася, і мне было крыўдна за іх, бо я сама чысьцюсенькая мянчанка, і школьніцтва, зь якім я была зьвязаная перш як вучаніца, а потым як настаўніца, і адміністрацыя, і культура, і наагул усё, усё Усё ставала беларускім, усе гаварылі пабеларуску, ды інакш яно не магло й быць, і Беларусь ставала на дзяржаўны шлях.

На гэты-ж пэрыяд прыпалі й, бадай, мае найлепшыя ўнівэрсытэцкія гады, і развой беларушчыны на ўнівэрсытэце, бурныя дыскусіі аб будучыні Беларусі, выхад Беларусі з маладняком на ўзвышшы сусьветнае літаратуры, а я была студэнткай літаратурна-лінгвістычнага аддзяленьня, і ўсё навакол нас жыло Беларусяй

Нажаль, да болю й сьлёзаў, усё гэта засталося ў успамінах. Жыцьцё было наканаванае інакш Ну што-ж! Змусілі нас пайсьці іншым шляхам. І хоць зьнішчылі шмат, прост цяжка й уявіць, як шмат, ды часам здаецца, што й незалячальна шмат, але пад старасьць усё здаецца чарнейшым, беларускага-ж духу ўсё-ж ня зьнішчылі дый ня зьнішчаць.

Тое, што сягоньня ідэя адраджэньня беларускае дзяржавы, нацыянальнае дзяржавы, а не таго расейскамоўнага эрзацу, які імкнецца рэпрэзэнтаваць Беларусь у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, пастаўленая на Захадзе, ды тое, што ў гэным чырвонашчарнелым логаве, Маскве, спарадычна даюць дазволы на рэгабілітацыю (а фактычна-ж Масква дае гэтыя дазволы на рэгабілітацыю, і што, цікава, рабілася ў галовах у П Глебкі і П Броўкі, калі ім давалі дазволы на рэгабілітацыю іхных старых сяброў і Скрыгана, і Баранавых, і Пальчэўскага й іншых?) — гэта довады, што Беларусь не загінула й крочыць наперад. (Дарэчы, П. Броўка, С. Баранавых, А. Пальчэўскі, А. Салагуб, А. Сідарэнка, У Дуброўскі — гэта мае сувыпускнікі літаратурна-лінгвістычнага аддзяленьня пэдагагічнага факультэту БДУ выпуску 1931 году)

А цяпер крыху ўспамінаў, як нам, жонкам (а часта й бацьком і сваяком) арыштаваных паводзілася ў 1930 годзе "на волі".

У ноч з 28 на 29 чырвеня 1930 году да нас у дом № 6 на Горным завулку (якраз за Вайсковымі могілкамі) рэзка пастукалі Я адчыніла Адхіляючы мяне ўбок, хутка ў хату ўварваліся (іншага слова я не знаходжу) чатыры чырвонаармейцы із стрэльбамі наперавес. Адзін зь іх загадаў нікому ня рухацца, а мне падаць "дамовую кнігу". Устанавіўшы, хто Яўхім Кіпель, яго адлучылі й паставілі каля яго варту Тады яны пачалі "шукаць", а фактычна гэта быў пагром Трэсьлі гадзінаў пяць. Ператрэсьлі ўсё ў хаце, ператрэсьлі сенцы, паравярнулі ўсё на гарышчы, у складзіку Чаго шукалі — не казалі, а калі мы папыталіся — сказалі "Молчать"

Нарэшце, калі ўжо пачынала сьвітаць, Яўхіму сказалі: "Одевайся, пойдем с нами", і павялі Я выглянула ў вакно, у кірунку, дзе праходзіла Ямная вуліца (цяпер гэтае вуліцы, здаецца, няма, бо пасьля вайны былі пашыраныя могілкі), і пабачыла, як вялі Яўхіма. два жаўнеры напередзе, два ззаду Вось цяпер лаўлю сябе на думцы, што пазьней я ў яго ніколі не папыталася, дакуль яго вялі пехатою. Што прамільгнула ў маёй галаве за тыя пару гадзінаў — цяжка й успомніць і перадаць. Прыбіраючы пасьля пагрому хату, думалася, што гэта нейкая памылка, што днём усё выясьніцца, што Яўхім вернецца Але, з другога боку, пачынала я ўспамінаць, што Яўхім пару ра́зоў мне перад тым казаў, што неяк у Акадэміі неспакойна, назіраюцца перамены ў адміністрацыі, перамянілі шмат адміністрацыі й на правінцыі Мяне брала роспач· што я буду рабіць, літаральна на носе былі экзамены, трэба было памагаць бацьку, на руках было малое дзіцё Аднак, я ўсё адганяла ад сябе, а думала — гэта памылка.

Нажаль, раніца прыйшла, я пабегла ў горад, цэлы дзень хадзіла па ўстановах і напрыканцы дня раптам усьведаміла. не, гэта не памылка, гэта жахлівая рэчаіснасьць, і мне страшна рабілася думаць аб нечым наперад. У мяне ясна паўстаў абраз у тую ноч арыштавалі колькі сот людзей Я бачыла іхных жонак, бацькоў і родных і каля міліцыі й каля розных камісарыятаў, і найбольш каля ГПУ І каго толькі я не спаткала ў той дзень каля ГПУ! Там былі й людзі, зь якімі мы былі знаёмыя праз Акадэмію, знаёмыя з тэатру, журналістыя, пісьменьнікі й інш Ува ўсіх некага ў тую ноч арыштавалі, забралі Ясна, ніхто з намі ў той дзень не гаварыў, і я нічога нідзе не даведалася дзе Яўхім, што будзе?

Ідучы позна дамоў, я аднак выкрышталізавала пераканаьне, што гэта ня выпадкова, і што я сама мушу разьвязаць усе хатнія справы ды плянаваць далей У наступныя дні, тыдні й месяцы, кола маіх знаёмых, якія арыштоўваліся, штораз пашыралася. У мяне-ж галава была заклапочаная, каб як-небудзь здаць экзамены ды знайсьці працу Праўда, экзамены хутка скончыліся, я перайшла на апошні курс, але з працай было цяжкавата. Пераважна знаходзіліся колькі лекцыяў, як-бы сяньня сказала, "парттайм", аднак гэтага не ставала.

У міжчасе штодня хадзіла пад ГПУ, там ужо пад сярэдзіну ліпеня штодня стаялі тысячы людзей, каб даведацца, што зь іхнымі блізкімі Аднаго дня я пастанавіла дачакацца чаргі да вакенца й, можа, даведацца, дзе-ж Яўхім. Было гэта недзе ў сярэдзіне ліпеня І якое-ж было маё шчасьце, калі мне гэпэвушнік (ён навет мне здаўся прыветлівым!) сказаў, што "гражданин Кипель еще здесь", і я магу прынесьці "перадачу" Для мяне гэта была першая навіна аб мужу, і для мяне навіна гэтая была надзвычайная Праўда, зрыхтаваць перадачу была справа ня лёгкая. Гэта ня так, што пайшоў у краму дый купіў, што трэба, зразумела, калі ёсьць за што купляць. Вось-жа перада мной стаяла справа, што й грошай было мала, і трэба было пашукаць, дзе

**Вітаўтам. Радасць ад сустрэчы з вызваленым Яўхімам была нядоўгая: у тым самым 1935 годзе па яго зноў прыехаў "чорны воран"... На той час сям'я жыла ў Арле (шлях на Беларусь быў зачынены), дзе Марыя працавала настаўніцай. У 1937-м ёй выдавалі новы пашпарт. Дырэктар школы сказаў: "Мария Васильевна, здесь есть графа "национальность". Русский или белорус — это все равно, но я советую вам записаться русской". "Если все равно, то напишите: белоруска", — адказала Марыя.**

**Кіпелям удалося злучыцца і вярнуцца ў Менск толькі ў гады другой сусветнай вайны.**

**На эміграцыі Марыя кіравала беларускім дзіцячым садком, выкладала родную мову, дапамагала сыну Вітаўту і нявестцы Зоры, чые імёны добра вядомыя беларусістам усяго свету, а таксама пісала ўспаміны, якія друкаваліся ў нью-ёркскім "Беларусе". Яна належала да Свята-Еўфрасіннеўскага прыхода ў горадзе Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі, дзе ў 1992 годзе і была пахаваная побач з мужам. Выконваючы просьбу сям'і, удзельнікі памінальнай бяседы замест кветак на магілу сабралі ахвяраванні на газету "Беларус".**

**Уладзімір АРЛОЎ**

купіць, бо ў крамах, апроч камсы, тады нічога ня было І пачала я абходжваць менскія рынкі, каб раздабыць харчоў на перадачу На Чэрвеньскім рынку ўдалося купіць буханку хлеба, на Сураскім — хунт сала, тады на Камароўскім рынку, а гэта добрых кілямэтраў шэсьць ад Сураскага, мне пашчасьціла "дастаць" гародніцы. Аднак, я была вельмі шчасьлівая, што ўдалося склеіць перадачу

Пазьней, нас, жонак, сабралася колькі разам адна бегала па сала, другая шукала хлеба й г.д. Перадаваньне перадачаў — гэта быў бадай рытуал! Кажны стаяў у даўгой-даўгой чарзе, трымаў клуначак, і ў душы маліўся, каб прынялі Бо ці раз бывала — прастоіш блізу дзень, а тады літаральна перад носам жаўнер ляпне вакенцам, вось дзень і прапаў Мне здаецца, што ў тых жаўнераў была моцная асалода бразгаць вакенцам, ды бразгаць моцна, каб рэха расходзілася! Калі перадачы перадаць не ўдавалася, бывала асабліва цяжка яшчэ сала можна было датрымаць да наступнага тыдня, а вось хлеб, гародніну датрымаць было немагчыма — трэба было есьці, а тады зноў шукаць, бегаць, шукаць.

І вось так цягнулася недзе месяцаў тры-чатыры. Аднойчы ў ГПУ мне сказалі, што мужа перавялі ў турму У турме й Яўхіма й бадай усіх арыштаваных "нацдэмаў" (тады, наколькі памяць, гэты тэрмін ужо прыняўся) пазбавілі права на перадачы, але мы ўсё спадзяваліся на "дабрыню" панявольнікаў і доўга яшчэ з клуначкамі прыходзілі пад турму Часамі нас там, пад турмой, зьбіралася колькі сотняў, а гэта было ў цэнтры гораду, дык нас праганялі Яскрава ў памяці стаяць перада мной, старэнькія ўжо тады і з клуначкам, бацькі сп Ант Адамовіча Заўсёды яны прыходзілі разам, але й ім, мне здаецца, не ўдавалася перадаць перадачы.

Увосень стала горай у мяне ня было зусім грошай, а працы на апошнім курсе ўнівэрсытэту было вельмі шмат, дык аб сталай працы ў школе не магло быць і мовы Дарэчы, у гэты час пачынала ўжо быць цяжкавата ўладзіцца на працу Як толькі даведваліся, што нехта арыштаваны як "нацдэм", стараліся ня зьвязвацца Наагул, тагачасны Менск жыў у напружаньні, у няпэўнасьці, у нэрвовасьці Хоць большая хваля арыштоў і прыпынілася пад канец лета, аднак чуткі плылі, што рыхтуецца вялікі працэс і што будуць арыштоўваць далей На чарзе будуць жонкі, настаўнікі, пісьменьнікі Цыркулявалі таксама чуткі, што шмат хто з арыштаваных прызнаўся быццам-бы ў "злачынствах" і што знайшліся сьведкі, што будуць сьветчыць, што арыштаваныя тварылі арганізацыю ды рыхтаваліся рабіць пераварот

Мне ў гэты пэрыяд жылося надзвычай цяжка: ня было грошай, ня было бадай прадуктаў Тут я мушу ўспомніць зь вялікай удзячнасьцяй, цяпер ужо нябожчыка, а тады запраўднага прыяцеля сем'яў арыштаваных, пісьменьніка Міхася Лынькова Міхась Лынькоў у той час быў загадчыкам аднаго з аддзелаў Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва (БДВ). Хоць ён і добра ведаў, што я ды яшчэ іншыя (прозьвішчаў не называю знарок, бо некаторыя яшчэ жывыя ў Саюзе) жонкі арыштаваных (а зь Яўхімам Лынькоў знаўся ад 1920 году, й у Менску яны часта спатыкаліся), аднак, калі-б да яго ні зьвярнуліся, дык заўсёды можна было атрымаць што-небудзь для перакладу А зробіш пераклад — вось і капейка, і можна неяк перакідацца І ў самыя цяжкія часіны Міхась Лынькоў нам памагаў. Вялікая яму падзяка й успамін! А часы-ж тады надыходзілі жудасныя. Людзі пакінулі выходзіць на вуліцы, каб не спатыкацца з тымі, у каго былі арыштаваныя, бо дапамагчы ніхто ня мог, а сябе на небясьпеку наражаў!

А жыцьцё йшло. Арыштаваных трымалі ў турме, сем'ям нічога не казалі, настрой у Менску напружваўся далей І раптам навіны· Купала хацеў скончыць самагубствам, застрэліўся Ігнатоўскі, сярод арыштаваных не знайшлося ніводнага, хто-б сьветчыў на судзе! Папаўзьлі новыя чуткі, што працэсу ня будзе Для нас-жа "на волі" ўсёроўна нічога пэўнага ніхто не казаў І раптам, калі я ў турме неяк дамагалася ўсё-ж нечага даведацца, мне буркнулі, што "арестованного Кипеля здесь больше нет". Я ледзьве не самлела ад гэтае навіны, але калі пачала дамагацца, а дзе муж, дык мне сказалі, што яго перавезьлі ў Бутырскую турму ў Маскву Ня памятаю, як я дайшла дахаты й што рабіла ў той дзень.





Адно я тады добра ўцяміла, што мы ўсе спадзяваліся непаразуменьні, хуткае вызваленьне й г.д. — толькі мара, рэчаіснасьць — гэта іншае. Масква беларускага ўздыму не пацерпіць, і перавоз "нацдэмаў" у Маскву — гэта толькі пачатак даўгога а даўгога цяжкога шляху У той дзень я ў гэтым сама перад сабой пераканалася й, як паказалі далейшыя падзеі, не памылілася

Відавочна, што ў ніякую Маскву ня было гутаркі паехаць. ня было ні грошай, ні патрэбы, бо калі нічога нам не казалі блізу год у Менску, дык нічога-б не сказалі й у Маскве І заставалася мне ды іншым маім сяброўкам неяк наладжваць нашае жыцьцё ды чакаць нейкага разьвязаньня Было гэта недзе ў красавіку 1931 году. Аднак, і мне ня доўга давялося прабыць на Беларусі, бо ўжо на пачатку 1933 году ў часе пашпартызацыі таксама запрапанавалі выехаць зь Беларусі.

## ПАСЬЛЯ АРЫШТУ МУЖА...

За дзесяць месяцаў, пакуль арыштаваныя сядзелі ў Менску, мне было дазволена ў канцы сакавіка 1931 году адно спатканьне з мужам Цяжка нават і цяпер успамінаць. Спачатку было даўгое чаканьне на вуліцы, потым уваход у памешканьне, кругом краты, вартавыя, суворасьць. Я сама із сьлязамі на вачох цягну за руку трохгадовага сына, бо дазволілі нам абодвым угледзіцца з арыштаваным Тады ў спэцыяльным пакоі — спатканьне ў прысутнасьці сьледчага. Сын усьцешыўся, калі ўбачыў тату, а нам з мужам стала жудка. Аб чым гаварыць? Што больш важнае? Муж пытаецца, як я даю сабе рады, ці маю працу? Я-ж праз сьлёзы пытаюся а што ў яго, як доўга будзе гэта цягнуцца? Прыцішаючы голас, муж папытаўся пра нейкае прозьвішча. Я нават і не разабрала, пра што муж пытаў, аднак сьледчы акрыкнуў, каб не шапталіся

Паўгадзіны праляцела маланкава й сьледчы заявіў· "Свидание окончено" Мужа адразу вывелі, а нас павялі назад. У мяне ад плачу займала дух, але я старалася трымацца, мусіла перад сынам. Бо што я магла сказаць трохгадоваму дзіцяці, калі ён пры разьвітаньні з татам, захлёбваючыся ад сьлёзаў, запытаўся, чаму тата ня йдзе з намі дахаты

Калі мы выйшлі на вуліцу, то там было некалькі чалавек, і мне нехта шапнуў, што сяньня арыштаваных будуць весьці назад у турму І хоць ужо пачынала цямнець, я пастанавіла пачакаць. а ну-ж яшчэ раз удасца ўгледзецца І ўзапраўды, неўзабаве выйшла колькі канваіраў, уськінулі вінтоўкі напагатоў, а за імі выйшла некалькі арыштаваных, а сярод іх і Яўхім Канваіры аклікнулі людзей, каб ня перагаварваліся й не падыходзілі блізка, аднак не праганялі І гэтак я з сынам позіркам выйшла за арыштаванымі Іх накіравалі ў турму, якая знаходзілася на адлегласьці трох-чатырох кварталаў І гэта было нашае апошняе спатканьне на два з палавінаю гады, пакуль ня сустрэліся ў высылцы

Неўзабаве, як я ўжо казала раней, усіх "нацдэмаў" зь Менскае турмы перавезьлі ў Маскву ў Бутырскую турму Калі яны яшчэ сядзелі ў Менскай турме, хоць і малюсенькая, але дзесьці ў сярэдзіне тлела надзея — а можа, выпусьцяць, а зь пераводам іх у Бутырку гэтая надзея поўнасьцяй прапала. Заставалася толькі чакаць прысуду ды неяк уладкоўваць сваё жыцьцё Праўда, раз, а то й два ў тыдзень, калі час дазваляў, заходзіла я ў ГПУ, ану-ж нешта даведаюся! Аднак ішлі месяцы, а канкрэтнага нічога ня было чуваць.

Летам з працай і зусім было цяжка, бо ня было дзе выкладаць, дык заставаліся толькі пераклады, ды такая-сякая выпадковая праца. то ў канцыляры!, то недзе карэкта Хаджэньне па горадзе ды шуканьне падработку ўскладнялася й тым, што сям-там ужо пачыналі пытацца. "А чаму вы ня маеце сталае працы?" Адказваць праўду на гэткае пытаньне — азначала й далей ня мець працы. І тым ня менш, мы ніколі не хаваліся й казалі праўду Мушу сказаць, што шмат у якіх установах ставіліся й сымпатычна Гэтак, як я ўжо ўспамінала раней, заўсёды даваў падрабіць у выдавецтве Міхась Лынькоў. Даваў часта працу на дом і Янка Маўр. Шмат атрымоўвалі падработкаў жонкі "нацдэмаў" і ў Наркамземе, і ў пісьменьніцкіх арганізацыях.

Жыцьцё ўскладнялася вельмі й тым, што было цяжка “даставаць” прадукты І вось у дапамогу рынку прыходзіў “Торгсин” (расейскі скарот — “торговля с иностранцами”) Гэта ў пачатку 30-ых гадоў у вялікіх гарадох Саюзу былі паадчыняныя магазыны, у якіх за золата можна было купіць усё, што хочаш. Праўду кажучы, куплялі толькі тое, што было самае неабходнае, каб выжыць. У Менску Таргсін быў адчынены на Савецкай вуліцы Несьлі ў Таргсін усё, што было залатое ў хаце· падараваныя бабкай завушніцы, пярсьцёнкі, крыжыкі, старыя гадзіньнікі У дадатак да рынку, Таргсін быў напачатку падмогай Аднак ненадоўга. Адкуль-жа ў нас магло быць золата

Клопаты аб ежы й працы займалі бадайшто ўвесь час Аднак, хоць чалавек і пачынаў прыстасоўвацца да новага спосабу жыцьця, думка заўсёды сядзела ў галаве а што будзе з мужам?

І вось аднойчы, напрыканцы лета, здаецца, будучы ў ГПУ, мне сказалі, што арыштаваны Яўхім Кіпель засуджаны “тройкай” і высланы на пяць гадоў у горад Налінск Вяцкай вобласьці Першая мая рэакцыя была· аж пяць гадоў, за што, і дзе гэты Налінск? Аднак я сябе апанавала Дома на карце знайшла Вяцкую вобласьць, Налінска, праўда, на карце ня было І ў гэты дзень я, ужо значна загартаваная, пачала плянаваць сваё жыцьцё Думала знайду сталую працу, сын крыху падрасьце, неяк ператрываю І тым ня менш, жыцьцё аказалася шмат цяжэйшым, чым я дапушчала й плянавала

У ГПУ я больш не заходзіла, аднак стала спатыкалася із сяброўкамі-жонкамі іншых “нацдэмаў” Хутка я даведалася, што ў тэй мясцовасьці, куды быў высланы Яўхім, знаходзіліся А. Адамовіч, М Азбукін, У. Жылка ды шмат іншых.

Прыпамінаю, надыходзіла восень. Мне пашчасьлівіла дастаць сталую працу ў выдавецтве (дапамог шчыры Беларус, які й сяньня яшчэ жыве, дык прозьвішча ягонага не называю) Але, як той казаў, пражыць з адных рук у тыя часы было цяжка Узяла я пару лекцыяў у сярэдняй і вячэрняй школах. Найцяжэй было із сынам пакідаць яго дома ня было як, бо бабкі ня было (памерла ў 1928 годзе), а дзед быў хворы й патрабаваў дапамогі таксама Пастанавіла я сына аддаць у дзіцячы садок. Аднак аказалася гэта справа ня лёгкая У некаторыя садкі, што па дарозе да мае працы, яго ня ўзялі, бо былі тыя садкі або перапоўненыя, або, як даведваліся, што муж арыштаваны, з гэтае прычыны ня бралі На шчасьце, неяк скокам-бокам удалося мне яго прыстроіць у садок працаўнікоў асьветы (Дом Настаўнікаў) І вось ніколі я не забудуся тае зімы, як мне было цяжка Як цяжка мне было адводзіць яго ў садок, устаючы а 6-7-ай гадзіне Весьці трохгадовае дзіця ці ў дождж, ці ў сьнег кілямэтраў тры-чатыры (гарадзкі транспарт быў толькі ў цэнтры гораду, а жылі мы на акраіне), тады бегчы на працу й забіраць гэтае дзіця а 9-9 30 гадзіне вечарам ды весьці дахаты, каб назаўтра раніцай паўтараць тое самае. Думаю, што маткі першыя зразумеюць мяне Бывала, прыйдзеш а 9-ай гадзіне ў садок, а гэтыя дзеткі сядзяць на падлозе заснуўшы, чакаюць Растурхаеш яго, а ён зноў засынае Потым плач, цягнеш гэтае дзіцянё за ручку, а яно сьпіць. Ой, як маткам бывала цяжка! Лепш сябе адчувала, калі падчас дня ўдавалася недзе дастаць нейкую цукерку, гэта было лягчэй

Прыйшоўшы дахаты, трэба было ўсё зрабіць у хаце, даглядзець бацьку, ну й легчы пасьля поўначы спаць

Гэтак прайшоў 1931 год, пачаўся 1932 Арышты, здаецца, прыпыніліся Праўда, заўважалася ў установах, што прыбывалі новыя, незнаёмыя людзі. У школах трэба было пілнавацца, якія ўжываць падручнікі Шмат падручнікаў было сканфіскавана, у тым ліку й падручнікі, у якіх суаўтарам быў Яўхім (падручнікі. “Жывёлы” й “Расьліны”, аўтары Касмовіч, Кіпель, Троська) І тым ня менш, здавалася, што ўціхамірылася. Нажаль, не надоўга У другой палавіне 1932 году пачалі арыштоўваць узноў Праўда, цяпер гэта былі толькі паадзіночныя арышты, але людзі ўзноў насьцярожыліся Пад канец 1932 году папаўзьлі чуткі, што будзе праводзіцца пашпартызацыя. Людзі пачыналі хвалявацца Асабліва тыя, у каго можна было знайсьці нейкую зачэпку Я хвалявалася вельмі, бо арышт і высылка мужа — гэта ўжо добрая зачэпка





Надыйшоў 1933 год. Пачалася пашпартызацыя Напружанасьць узрастала, й я інтуіцыйна адчувала, што будзе мне ліха. Так яно й сталася Аднойчы напачатку году мяне паклікалі ў канцылярыю й адразу запыталі “Дзе ваш муж?” Адміністрацыі й бяз пытаньня было ведама, дзе мой муж, аднак хадзіла пра пратакол. Я адказала, што муж мой высланы Наступнае пытаньне было “За што?” Я на гэта адказала. Больш мне пытаньняў не задавалі й сказалі, што магу ісьці Праз два дні, у канцы тыдня, мне сказалі, што я звольненая У службовай кнізе мне напісалі “Звольненая з працы, як непатрэбная”. Узноў хмары згусьціліся над маёй галавой Вось і папрабуй з такім запісам у службовай кніжцы шукаць працы! Безнадзейна Дзе ні ткнешся, адказ адзін “Вакантных месцаў няма”

І гэта быў пачатак. Сталае працы ня маеш, пашпарту не атрымаеш, а бяз пашпарту ня прыпішуць, а бяз прыпіскі — ня маеш права жыць у Менску Я добра ведала, што гэта абазначала, і адцягвала ісьці ў міліцыю Сябры раілі выяжджаць на раён, але я не хацела, бо ведала, што там пачнуць спачатку· чаму зьнялі з працы, а дзе муж і г.д. Месяц-два яшчэ лазіла па Менску, а ну-ж знайду працу, тады мо атрымаю пашпарт, ну й буду неяк цягнуць. Але гэта былі толькі мары — жыцьцё было іншае Прыйшоў дзень, калі мне сказалі, што мне пашпарту не дадуць і што мне патрэбна зьмяняць месца жыхарства Да гэтага часу ўжо некалькі маіх сяброўак не атрымалі пашпартоў, і ім проста запрапанавалі выехаць за межы Беларусі Калі я ў тым пашпартным стале спытала, а што-ж мне рабіць, то мне проста адказалі “Вы самі разумееце, куды Вам найлепей выехаць Чаму Вам не паехаць у тыя краі, куды едуць вашыя знаёмыя, куды раней паехаў муж?” Справа была ясная· у Менску заставацца болей ня было як. Я выбрала месца жыхарства горад Налінск, за пару тысячаў кілямэтраў ад Беларусі

Як пазьней выявілася, дык гэтак можа было й лепш Пазьней, у 1934—35 гадох, некаторых жонак “нацдэмаў”, што неяк затрымаліся ў Менску, паарыштоўвалі й павысылалі ў канцэнтрацыйныя лягеры на Поўнач, на Камчатку, на Далёкі Ўсход (прозьвішчаў зноў не называю, бо некаторыя яшчэ жывуць дык маглі-б мець прыкрасьці)

Цяпер, калі я была на становішчы бяспашпартнай і беспрацоўнай, паўстала ў мяне праблема, як ехаць, бо грошай ня было ні капейкі Мужа дык хоць вывезьлі, як кажуць, “на казённы шчот”, а мне трэба было думаць і аб грошах на дарогу Прыйшлі на дапамогу добрыя людзі Была ў мяне адна сяброўка, зь якой я працавала ў выдавецтве — Жэня Перская І вось зьвярнулася я да яе, каб пазычыла мне рублёў сто А яна мне ў вадказ “Што-ж ты, Маня, з сотняй будзеш рабіць — на табе трыста” На мой удзячны адказ і засьцярогу, калі я сплачу, яна сказала “Будзеш жыць — сплаціш, не хвалюйся” Бязьмежна я была ёй удзячная й грошы сплаціла ёй за пару год, калі ў высылцы атрымала працу (Жэня згінула ў Менскім гэце, здаецца, у 1941 годзе )

Пад сярэдзіну — другую палавіну 1933 году ўжо шмат жонак “нацдэмаў” выехала зь Менску Праўда, мушу сказаць, што ня ўсе жонкі “нацдэмаў” згаджаліся на такую долю Некаторыя адракліся мужоў, сталі савецкімі актывісткамі, павыходзілі нанава замуж (Курыловіч, Багданская й інш ) Бальшыня-ж, аднак, засталася вернай і мужом, і сем’ям, і беларускай ідэі ды пайшла на высылку

Раздабыўшы грошы, пачала й я рыхтавацца да выезду І ў канцы лета паехала спачатку цягнікам на Маскву, потым Казань, Вяцкія Паляны, параплавам па Каме, Вятцы, да маленечкай прыстані Мядзьведкі, потым коньмі й пехатою ў горад Налінск. Падарозе мяне абакралі, ачысьцілі бадай ушчэнт, і так я з малым сынам пачала новы этап жыцьця далёка ад Беларусі Але пра гэта — Налінск, потым горад Арол і іншыя прыгоды жыцьця ў Расеі — пазьней

І вось цяпер, калі я аглянуся назад на пройдзены жыцьцёвы шлях жонак “нацдэмаў”, — а іх былі тысячы й тысячы, — сьціскаецца ад болю ў грудзёх, нельга стрымаць сьлёзаў за пакалечанае жыцьцё, але таксама становіцца й радасна, што, як і тым жонкам дзекабрыстаў, гэтак шырака расьпетых, і нашым беларускім жанчынам ёсьць чым ды можа й трэба ганарыцца — за ідэйнасьць і вытрываласьць у жыцьці

*“Беларус”, №№ 278, 280. 1980 г.*

# Святлана ВАРОНІК



* * *

Ля царквы    жабракі
А ля іх
галубы-папрасімцы

Лета



# Барыс ЧЫЧЫБАБІН





*У дух я верыў, верыў у багоў,*
*я клікаў іх упарта, звар'яцела*
*і рвецца ў сутаргах уночы цела,*
*і льецца з носа раніцою кроў.*

## Пра Яго

Раніца 22 студзеня 1997 г. падаравала мне двайную радасць. Пачуўшы званок, я адчыніў дзверы — і паштальён на чыстай беларускай мове сказаў мне: "Вам бандэроль. Распішыцеся, калі ласка". Яшчэ больш радасна забілася маё сэрца, калі я прачытаў, што бандэроль прыслана з Харкава Ліляй Сямёнаўнай — жонкай паэта Барыса Чычыбабіна. Прадчуванне не падманула мяне. Як рэдкую каштоўнасць, я трымаў у руках і разглядваў кнігу "Барыс Чычыбабін у вершах і прозе". Успаміны нахлынулі на мяне...

Вызначальнай для мяне была сустрэча з паэтам Барысам Чычыбабіным у верасні 1988 года ў валошынскім Канкэбелі. Імя Барыса Чычыбабіна цяпер вядома многім аматарам паэзіі, а ў той час ніхто вершаў выдатнага паэта толькі пачалі зноў з'яўляцца на старонках тоўстых і не вельмі тоўстых часопісаў пасля амаль дваццацігадовай апалы. І калі я па просьбе беларускіх пісьменнікаў Віктара Каваленкі і Міхася Дубянецкага разам з Барысам Чычыбабіным прымаў удзел у вечары паэзіі, які праходзіў у клубе Дома творчасці, я яшчэ не ведаў яго. Выступала шмат паэтаў, але мала чые вершы кранулі мяне. Барыс Чычыбабін выступаў апошні і адразу завалодаў увагай і душамі слухачоў, хоць нічога не гаварыў пра сябе і не жартаваў, як гэта рабілі іншыя, а толькі чытаў свае вершы. Як моцны парыў ветру,

***

Я небыцця цяжар пазнаў сваім гарбом:
смяротны смак вады, смяротны прысмак хлеба.
Да спраў і да жыцця я вернуты дабром —
і дрэвамі зямлі, і воблакамі неба.

З губ анямелых сцёр я роспачы пячаць,
пад шчодрай сінявой прайшоў я курс лячэння.
Калі слоў не чуваць, імкнецца ўсё гучаць,
звязана ўсё з усім і шмат ва ўсім значэння.

Я маску прастаты з рэальнасці сарваў,
расою зор цяжкіх умыў чало і рукі.
Нібыта ў кніг святых, у жаўтавокіх траў
я сутнасць пазнаю бязграматнай навукі.

З лагоднай дабрыні, з наіўнасці святой
каваў сваю браню, зваў працаю забавы.
Я ціха ўсім кажу: "Адчай пакіньце свой,
не трэба крыўдаваць на свет наш неласкавы".

Паўсвету я на баль паклічу ўсё адно,
насустрач шчасцю позірк праясніцца, —
і мне нічога болей не прысніцца:
і рай, і пекла ведаю даўно.

## *ОДА ВЕРАБ'Ю*

Пакуль не збілі з панталыку,
ці захварэю, ці зап'ю —
з пяшчотай оду вераб'ю
складаю, стомлены ад крыку.
Дзень добры, сябар! Чык-чырык!
Прашу, не пераходзь на крык.

які расчыніў насцеж акно і ўварваўся ў дом, так яго вершы ўварваліся ў мяне. Уладна, нечакана, рэзка і свежа. Я адчуў узрушэнне і шкадаванне, што да гэтага часу не быў знаёмы з вытанчанай, цудоўна інструментаванай, шчырай і мужнай паэзіяй гэтага высокага, сухога, прыгорбленага жыццём чалавека з нізкім глухім голасам і добрай дзіцячай усмешкай, якая час ад часу змывалася з яго твару прылівамі разгубленасці і гневу на самога сябе, калі ён забываў свае вершы. Выручала жонка Ліля. Яна сядзела ў першым радзе побач з маёй жонкай і падказвала мужу забыты радок. Вершы Чычыбабіна "напоўнілі мяне здзіўленнем, захапленнем і шчасцем", як некалі яго самога — вершы Восіпа Мандэльштама. Яны былі бясконца блізкія мне па духу. Ніколі яшчэ ў жыцці я не адчуваў такой роднасці душ з другім чалавекам — і Барыс Чычыбабін адразу абярнуў мяне ў сваю жыццесцвярджальную веру. Ён у мяне ўдыхнуў натхненне і ўпэўненасць.

У біяграфічнай даведцы, дадзенай мне, Барыс Чычыбабін пісаў:

"Нарадзіўся ў 1923 годзе ў гор. Краменчугу Палтаўскай вобл. Украінскай ССР. Чычыбабін — прозвішча мамы, знакаміты хімік Чычыбабін — брат мамінага бацькі, г.зн. мой стрыечны дзед, між іншым, я ніколі яго не бачыў. Айчым, які ўсынавіў мяне (бацькі свайго я не ведаю) — Палушын, камандзір Чырвонай Арміі. Сярэднюю школу я закончыў у 1940 годзе ў г. Чугуеве Харкаўскай вобл. Вайна заспела нашу сям'ю ў Закаўказзі, куды была эвакуіравана вайсковая часць, у якой служыў бацька. Там я быў прызваны ў рады Савецкай Арміі. Закончыў ваенную школу малодшых авіяспецыялістаў і служыў майстрам авіяпрыбораў у авіяцыйных часцях Закаўказ-





Я шлю, як быццам верабей,
зіме халоднай сто праклёнаў.
Я зерне мар дзяўбу з балконаў,
п'ю з дахаў волю ўсё смялей,
паветра б'ю крылом нястомна
ва славу брацтва бяздомнай.

І мо таму, што сам пустэльнік,
не так шаную галубоў,
як прайдзісветаў вераб'ёў,
з іх кожны — веры сабутэльнік,
пасадкам вораг, лаўкам друг,
і скача, як і мы, на двух.

На поўначы, дзе лагер быў,
дзе зацяняюць пабудовы
арлы-сцярвятнікі ды совы,
што разабраны на гербы,
праныра шэры не здаецца —
і ў холад скача ды смяецца.

Заві прахожых на канцэрты,
шумі ля вокан, ветрагон!..
Калі прыгледзецца, дык ён,
між іншым, не такі ўжо шэры.
Нап'ецца з лужыны ў двары
і дзюбу ўскіне да зары.

На ім любы, хто не аслеп,
убачыць шмат разных пярынак.
Ён сонца здзёўбвае з галінак
і дзеліць з жабракамі хлеб.
Застаючыся шэльма шэльмай,
адорыць радасцю душэўнай.

Як валацугі і піраты,
я вераб'я ў сабе нашу,

скага фронту. У чэрвені 1945 года па стану здароўя (варыкознае расшырэнне вен) дэмабілізаваўся і паступіў на філалагічны факультэт Харкаўскага універсітэта. З першага курса быў арыштаваны па беспадстаўным абвінавачванні ў антысавецкай агітацыі і асуджаны на пяць гадоў лагераў. Тэрмін адседзеў цалкам у лагерах Вятлага (Кіраўскай вобл.). Пасля вызвалення ў чэрвені 1951 года працаваў рабочым сцэны аднаго з харкаўскіх тэатраў. Удалося скончыць курсы бухгалтараў і ўладкавацца працаваць бухгалтарам. У 1963 годзе ў Маскве ў "Советском писателе" выйшла першая кніга вершаў "Маладосць". Пасля гэтага яшчэ выйшлі тры кніжкі — "Мароз і сонца", "Гармонія" і "Плыве Аўрора". Пасля 1968 года друкавацца перастаў. У 1966 годзе прыняты ў Саюз пісьменнікаў, у 1973 годзе выключаны з яго за вершы, у якіх выступаў супраць негатыўных, "застойных" з'яў нашага жыцця. З кастрычніка 1987 года вяртаюся да чытачоў публікацыямі вершаў у часопісах ("Огонек", "Новый мир", "Дружба народов" і інш.). У 1988 годзе Харкаўская арганізацыя Саюза пісьменнікаў адмяніла сваё рашэнне аб маім выключэнні".

На жаль, наша сустрэча ў Кактэбелі была адзінай у жыцці, нягледзячы на тое, што сустрэцца зноў хацелі і я, і Барыс Аляксеевіч, аб чым сведчыць ягоны ліст, які атрымаў я пасля публікацый яго вершаў у маіх перакладах у газеце "Літаратура і мастацтва" (№ 44, 1989 г.) і майго верша "Вершы чытае Барыс Чычыбабін" у часопісе "Полымя" (№ 6, 1989 г.). Ліст пачынаўся словамі:

"Дарагі Валодзя! Я ніколі не думаў, што наша кароткае кактэбельскае знаёмства прынясе такія добрыя і важкія плады. Цяпер мне вельмі шкада, што ў гэтым пісьменніцкім логаве, дзе

ды ацяжарыў лёс душу,
і дрэнна мне, што не крылаты.
Журба жывая, вераб‘і,
хто скажа словы вам любві?

Хто створыць оду вераб‘ям,
нязломным гэтым небаракам,
бяздомным кошкам і сабакам,
рамонкам пустыроў і ям?
Паэты вымерлі, як туры, —
і больш няма літаратуры.

* * *

Даволі слёз, даволі суму,
таварыш мой.
Сярод слаты, між тла і тлуму
жыві душой.

За месца б‘юцца чэрнь і чэлядзь,
як крумкачы.
Няхай яны здабычу дзеляць,
а ты маўчы.

Забыўшыся ў злабе і дыме
на сны свае,
яны не чуюць, як над імі
арган пяе.

Знішчае кнігі і палотны
бяздумны век.
Звер нават не такі мярзотны,
як чалавек.

Цудоўнае чало ў маршчынах
і немач, знай:

мы абодва адчувалі сябе не зусім “у сваёй талерцы”, мы так рэдка сустракаліся і пра самае галоўнае не пагаварылі. Дзякуй Вам, мой беларускі брат, за цудоўныя пераклады менавіта тых маіх вершаў, якія я сам марыў убачыць перакладзенымі ў першую чаргу. І за добры верш пра мяне, — але асабліва і больш за ўсё — за добрую і брацкую памяць, якая мне, як усім нам, пішучым вершы, патрэбней і даражэй усяго астатняга. Суцяшаю і радую сябе надзеяй на тое, што абавязкова і неаднойчы яшчэ сустрэнемся ў жыцці — у тым жа Кактэбелі, або ў Мінску, або яшчэ дзе-небудзь.

Я разумею Вашу крыўду на мяне за тое, што я не патэлефанаваў Вам, калі мы з Ліляй былі ў Мінску: часу ў нас амаль не было, але мы б маглі абняцца, перакінуцца парай слоў і — самае галоўнае — Вы б прачыталі па-беларуску той верш, які я там чытаў — “не мёртвы Сталін” — і гэта было б, вядома, выдатна. У зале было шмат людзей, якія прыйшлі для скандалу, але ўдзельнікі вечара вялі сябе дастойна, большасць у зале аказалася на “нашым баку”, правакацыя не атрымалася і вечар прайшоў добра. Але становішча ў Беларусі нам не спадабалася”.

У сярэдзіне пісьма Барыс Аляксеевіч прызнаваўся:

“Мне хацелася б пабываць яшчэ ў Беларусі. Мінска амаль не бачылі, крыху прайшліся па вуліцах, вось і ўсё. Але тое, што я ведаю аб краіне і народзе, прымушае мяне прыняць у сэрца і палюбіць вашу цёмную, горкую, шматпакутную зямлю. На жаль і на сорам свой, я амаль нічога не ведаю пра Беларусь, яе гісторыю і культуру. Нават вялікага Купалу мы ўсе, не беларусы, ведаем як песняра сталінскага дабрабыту... Як пацяплее, можа, мы з Ліляй і збяромся ў вашы краі, каб уведаць іх лепей. А то ж на самай





ты — прах і тым, хто на вяршынях,
не дакучай.

Так змрочна, хоць у гліну легчы,
над прорвай шлях.
Ды хай гучыць напеў спрадвечны
ў тваіх вушах.

Над спрэчкаю дабра і ліха
нам і багам,
як дзіва ўтоенае, ціха
пяе арган.

Прыгожы і чароўна дзіўны
свет на зары.
І, як дзіця, паэт наіўны,
хоць і стары.

З нябёс Гасподніх льецца меса.
Ты ў цішыні
праз боль пачуй яе, засмейся,
слязу змахні.

Сцягі нам не заменяць ісцін,
любы з іх — тло.
І зробіцца дабром калісьці,
што злом было.

Жыві прасцей, па-чалавечы,
туман рассей,
перакладзі журбу на плечы
сяброў, дзяцей.

Ні ў грозны час, ні ў час панылы,
ні ў дні разлук
не трэба плакаць, друг мой мілы,
мой мілы друг.

справе сорамна: пра Арменію і Літву я ведаю болей, чым пра Беларусь, такую блізкую і па адлегласці, і па мове, і па лёсу”.

Віншуючы мяне і маю сям‘ю з Новым 1992 годам і жадаючы нам, як звычайна, “дабра і святла”, Барыс Чычыбабін таксама пісаў: “Веру, што мы яшчэ ўбачымся і абдымемся”. Але такой была Божая воля, што мы больш ніколі не сустрэліся, хоць у 1993 годзе жылі ў Доме творчасці “Кактэбель” у адным (сёмым) корпусе (Барыс Аляксеевіч — у другім нумары, а я — у трэцім), але ў розны час. Я прыехаў туды на наступны дзень пасля таго, як Паэт пакінуў “гэтае пісьменніцкае логава”.

Лёгка і натхнёна я перакладаў вершы цудоўнага майстра паэтычнага слова. Яшчэ тры разы з‘яўляліся падборкі яго вершаў, перакладзеных мной, у беларускіх выданнях. Публікацыі ў газеце “Літаратура і мастацтва” папярэднічала пісьмо, атрыманае мною ў красавіку 1992 г., у якім Барыс Чычыбабін дробным сціслым почыркам пісаў:

“Дарагі Валодзя! Я напісаў верш (ён перапісаны на другім баку гэтай старонкі)... мне хацелася б, каб ён Вам спадабаўся і Вам захацелася б перакласці яго на беларускую мову. Я быў бы рады гэтаму, бо мне самому ён падабаецца (што, як Вы, напэўна, ведаеце, у аўтара ў адносінах да сваіх вершаў здараецца рэдка) і таму што, як мне здаецца, ён адлюстроўвае пачуцці многіх людзей, можа, соцень тысяч, калі не мільёнаў. На жаль, ён супярэчыць пануючай зараз у нашых суверэнных краінах нацыянальна-патрыятычный ідэалогіі, але мне не прывыкаць быць у апазіцыі да афіцыйнай ідэалогіі. Доказам таго, што верш ніякім чынам не з’яўляецца выяўленнем настальгіі па разбуранай імперыі, якую, як Вы ведаеце, я заўсёды

## *ПРАКЛЁН ПЯТРУ*

Я не люблю цара Пятра.
Будзь, імператар Пётр, праклятыі!
За боль сучасны перагляды
рабіць мінуламу пара.

Праклён табе, цар-супастат,
крывавы цесля саардамскі,
знішчальнік вер, угоднік дамскі,
самоты пеўчай грозны кат.

Галіў бароды? Шыі сек!
Праклён табе, хрыстазабойца.
Ты жлукціў прагна, як прапойца,
людскую кроў увесь свой век.

А Русь пайшла з чала зямлі
ў таемнастаўленыя зрубы,
дзе ворагі і душагубы
яе пакрыўдзіць не маглі.

Праклён табе, вой сатаны,
трунар з натураю нясвецкай,
што ад бязглуздзіцы стралецкай
клаў у нямецкія штаны.

Праклён шукальніку прыгод,
што спуску не даваў нікому!
Я клопату служу другому,
а ты мне затыкаеш рот.

Праклён таму, хто Русь пракляў,
пракляў народ сваёй Элады!
І ведай, кат, я быў бы рады,
каб ты мне галаву адцяў.

---

ненавідзеў, служыць амаль адначасова напісаны верш пра двухгаловага арла". Гэта былі вершы "Плач па згубленай радзіме" і "Арлінаая элегія".

Барыс Чычыбабін, які быў "у адвечным сваяцтве" з Дантэ і спадзяваўся, адолеўшы ўсе кругі Пекла, сустрэць у Раі Беатрычэ, дапамог мне ўзвысіцца да разумення "Боскай камедыі" Дантэ. Адчуўшы, што і майму "сэрцу адгукаецца Дантава ліра", напачатку 1993 г. я ўзяўся за пераклад на беларускую мову геніяльнага твора вялікага фларэнтыйца.

Нялёгкая доля паэтаў. Але наўрад ці хто з сучасных майстроў слова вынес столькі кпінаў, абраз, несправядлівых абвінавачванняў, колькі Барыс Чычыбабін. Ледзь не да канца жыцця ён быў вымушаны працаваць бухгалтарам у трамвайна-тралейбусным упраўленні. Няцяжка ўявіць, да якога стану быў даведзены гэты чалавек, які публічна прасіў: "Ты стому, маці Смерць, з мяне здымі!" Але тры дабрачыннасці — Паэзія, Каханне і Час — дапамаглі яму перамагчы ўсе нягоды. І незадоўга да сваёй смерці ён пісаў:

*Хтосьці бачыць наступнае ясна*
*З нас павінен. Таму я малю:*
*Не дай, Нехта, пакінуць дачасна*
*Мне асуджаную зямлю.*

Як страту роднага брата я перажыў яго канчыну. 15 снежня 1994 г. Барыс Чычыбабін памёр ад мазгавога тромба. Так мы больш і не сустрэліся з Чалавекам, Які быў папярэднікам таго Бога, які зараз жыве ў маёй душы і ўзносіць яе да тых вышыняў, дзе непадзельна ўладараць Усеабдымная Любоў і Усёдараванне. Можа, там сустрэнуцца нашы душы. Хай будзе на гэта воля Твая, а не мая, Госпадзе!

Уладзімір СКАРЫНКІН
12.03.97





***

Шмат бачу слёз, шмат чую звад,
але, мярзотны, прэч бягу.
Раз кожны кожнаму з нас кат,
то я людзям не памагу.

Я жыць і дыхаць не хачу,
маўчаць душы маёй ражкі.
Згусціўся морак уваччу,
у торбе — пуста, крыж — цяжкі.

Спаць не дае віна мая.
Не ірад і не ліхадзей —
бязлістым дрэвам сёння я
баюся і люблю людзей.

Б'е бізуном святая раць
то па гарбе, то па плячы,
і ношы цяжкай не падняць,
і ночы не перамагчы.

Я слова дзіўнае хацеў
уголас вымавіць адно,
ды мозг даўным-даўно змярцвеў,
і сэрца мёртвае даўно.

Я нёс усім бяду і боль,
і раззлаваўся ўрэшце Бог
і раздавіў мяне, як моль,
каб і маліцца я не мог.

***

Ты стому, маці Смерць, з мяне здымі.
Я не прашу падзякі за работу,
але пашлі астуду і дрымоту
на доўгі шост з нагамі і грудзьмі.

Стаміўся я страшэнна і даўно.
Прыходзіць сон ка мне на тры гадзіны,
і ў гэты сон — ратунак мой адзіны —
жаданне смерці ўселена адно.

Мне кнігу зла чытаць сіл не стае,
а кніга шчасця вынесена з дому.
О, маці Смерць, здымі з мяне ты стому,
накінь радно на маслакі мае.

На грудзі, лоб лядком сваім дыхні,
дай вечнага спакою асалоду.
Стаміўся я. Было мне цяжка зроду,
не знаў спачыну я і цішыні.

У дух я верыў, верыў у багоў,
я клікаў іх упарта, звар'яцела —
і рвецца ў сутаргах уночы цела,
і льецца з носа раніцою кроў.

Адным радкам навек не пазмрачнець,
калі на іх ёсць Вечнасці адзнака.
Стаміўся я. Як раб або сабака.
Здымі з мяне ты стому, маці Смерць.

*Пераклаў*
*Уладзімір Скарынкін.*

## ОДА ТАПОЛЯМ

Што значыць — жыць, што значыць — паміраць,
хто ў свеце мы, я запытаў у Бога, —
і загадаў Гасподзь мне апяваць
таполю, як ахвярніцу Ван Гога.

Са шчэці мы з'явіліся ў жыцці,
каб шумна дыхаць безданню самоты,
і толькі ў снах мы здатны дарасці
да немагчымай дрэвавай пяшчоты.

Як ні замёрзне, полымя агню
ёсць у таполі на адвечным полі,
ёсць глыб і ціш, што мкнуць у вышыню,
саборы сну і свечы боскай волі.

Мы прынікаем да свяцiл, кустоў,
Бо іх сваімі лекарамі лічым,
але прыліплую да вуснаў кроў
і шчэць не зжыць нам у зямным абліччы.

Мы, молячыся жорсткасці падчас,
няпраўдзе служым, звадныя задзіры,
адно таполі пад акном у нас
завуць кудысьці, як арыенціры.

Мне б змоўкнуць на нязнаным рубяжы,
сказаў "завуць", ды кліч падманам быў нам,
а праўда хіба ў тым, хто на крыжы,
ці ў рыцары з Ламчы незабыўным?

Сказаў "завуць", ды з неба змрок навіс.
Яны ж завуць — у глыбі, а не ў далі,
завуць, каб мы, як некалі Нарцыс,
Праз плоць у душах боскасць сузіралі.





На ваўчанят падобны змалку мы,
дабро ў нас — спадарожнік рызыкоўны,
шумім мы, а таполяў строй нямы
маўчыць, значэння і гучання поўны.

Шматрукасць іх трывалага ствала
з індыйскім Богам падабенства мае,
маўклівым і надзейным, ім хвала:
іх вецце неба на сабе трымае.

Тут, на зямлі, няма ад лікаў траў.
Бяздушныя і злосныя даволі,
мы і маўчым аб дзеянні дзяржаў,
аб Богу і аб Вечнасці — таполі.

Душа мая! Ратуй жа прыгажосць,
каб мы малілі аб пяшчоце дрэвы,
пакуль і месяц, і таполя ёсць,
нясі штодня ім блаславення спевы.

Свае вітанні ты ўсяму дары,
а зло і боль схаваюцца ў падполле,
пакуль ёсць хоць бы кропелька зары,
і ёсць трава, і месяц, і таполя.

Чаму ж крыклівы род людскі, чаму ж?
Якія стройныя прышэльцы з раю,
няправату герояў і клікуш
спакой іх мудры моўчкі дакарае.

Іх полымя, не маючы заган,
не апячэ. Яны, як храмы веры,
напоўнены гучаннем, як арган,
як тайна тайн, як чысты ліст паперы.

Ва мне, нарцысе і Хрысце —
адна душа. Нас болей у таполяў,
чым у саміх. Нас мітусня гняце.
Дзе той ручай, што смагу мне б спатоліў?

Адчужанасць з'ядае нашу плоць,
а дабрыня — таполяў лад суцішны.
Шумяць пракокі — ды маўчыць Гасподзь,
і ўглыб сябе світае ўсмешка Вішны.

*Пераклаў*
*Пятрусь Макаль.*

# Анатоль СЫС



## *ВЕЧНЫ ЖЫД*

Где стол был яств, там гроб стоит
Учора ціхенька, пад ранне
памёр паэт мой, Вечны Жыд
Я не пайду на пахаванне.

І вы не ўздумайце над ім
казаць жалобныя прамовы,
бо і ў труне ён пілігрым,
яму не трэба вашы словы

Хто з вас не прытуліў Хрыста?
А потым па зямлі бадзяўся,
шукаў яго паэтам стаў,
прылюдна ў подласці прызнаўся

Таму не ўздумайце па ім
гуляць казённыя памінкі,
ён Вечны Жыд! Ерусалім!
На ім біблейскія пясчынкі



# АДКРЫЦЦЁ



Я — Ганна. Шаноўны Алесь Разанаў сказаў мне "Вы ў нас знакамітая. Вам дазваляецца сказаць усё, што Вы думаеце ." Адразу мне не хацелася нічога казаць. А сёння я пагартала свае леташнія дзённікі, знайшла ў іх колішнія занатоўкі, зробленыя для "Н Н ", якія так і не пабачылі свет у гэтым выданні

А што тут хаваць? Падумаеш, знаходка-сякера пад лаваю! Ды яна заўсёды там ляжала. Проста Вы яе не бачылі. Ну то памацайце, невідушчыя, выграбаю з-пад лавы сякеру Вось запіс ад 10 03 96 г "Як Адам з Еваю спусціліся з Эдэму на грэшную Зямлю, так "Н Н " з Вільні пераехала ў Мінск.

Талстой пісаў пра рэвалюцыйны рух у Расіі, што з гэтага можа нешта быць, а можа й нічога не быць. А цяпер у нас завёўся гэты Славамір. Прачытала ягоную кароткую біяграфію і трохі ўсцешылася, што ён, здаецца, мае матэрыяльныя падставы для сваёй "поэзии действия", у адрозненне ад сытых Леніна ды Дзяржынскага.

Адам Глёбус стрыжэ авечак за тое, што яны авечкі. Можа некалі ўдзячныя ліцвіны й паставяць яму помнік за вынаходніцтва ўласнага чэляса ды ўсяго, што з ім звязана.

Уладзімір Арлоў вечны бадзяга ды бяздомнік, зрэшты, як і ўсе мы, хто сабраліся на грунце "Н Н " "А наогул, гэта цудоўна, што ў нас ёсць Сяргей Дубавец! Я даўно ўжо вызначыла яму ролю бацькі нацыі"

Ну й што адбылося на грэшнай зямлі з дзейнымі асобамі майго дзённіка? Уладзіміра Арлова так зашмат усюды, што здавалася б, з ім усё ўсім ясна Ён, разумнік, пакінуў неяк у "Н Н " № 26 такое незакаплексаванае выказванне "А нашае зацятае недрукаванне густа аброслага мітамі дзённічка М Багдановіча (няхай там гаворыцца не зусім пра літаратуру і літаратараў) выглядае дэманстрацыяй нацыянальнае няўпэўненасці і не болей" Разумна сказана, але ж неразумна робяць. Вось хоць бы й "нашаніўцы", спусціўшыся на грэшную зямлю, раптам зрабіліся такімі ўжо цнатлівымі святошамі! Святцей папы рымскага! Ужо ж абзывала я іх за гэта і "камплексантамі" і, выбачайце, "каханымі засранцамі" Праўда, пасля перапрашала і станавілася нават перад імі на калені Але ж яны як былі сарамлівыя, такімі й засталіся А я іх кахаю і такіх. І па праву Кахання і з ласкі шаноўнага Алеся Разанава кажу пра іх тое, што думаю І высокашаноўнаму спадару Яну Пятроўскаму ў Амерыку забароненыя "нашаніўцамі" свае творы выправіла. І буду выпраўляць. Бо тое, што я пішу, — не мая асабістая справа Яна — усечалавечая Не менш Калі здолею, зараз раскажу самую сутнасць сваіх твораў

Хрыстос казаў, што пакуль на ёту не будуць выкананы Касмічныя законы, чалавецтва не зможа рушыць далей у сваім развіцці

Сёння, здаецца, ужо ніхто не спрачаецца, што самы высокі ўзлёт думкі за час існавання нашай нацыі быў у Вялікім княстве Літоўскім у эпоху Рэнесансу Так, я пісала у "Простых думках", што "І Рагнеда, і Кірыла Тураўскі, і Еўфрасіння Полацкая — гэта выток, рост, яшчэ неўсвядомлены дух. І Кастусь Каліноўскі, і Францішак Багушэвіч, і Максім Багдановіч, і Браніслаў Тарашкевіч — гэта цвердзі на шляху адступлення нашае культуры А Леў Сапега, Францішак Скарына, Сымон Будны — гэта ўжо свядомы рух, уключаны ў Касмічны бясконцы рытм працы" Да "Максіма, альбо Кахання пад акупацыяй" нават вершык напісала свой у якасці эпіграфа.

*Устань,*
*Асвечаны Божай воляй*
*Народ!*
*Бо западлы твой дух.*

*Бы ў рэанімацыі,*
*Стаім над тваёю пасцеляй*
*Ноч і дзень*
*У працы бясконцай*
*Нашых душ.*

Да "Безназоўнага спеву ў чаканні суда над літаратурным дзённікам" у цяжкіх родах нарадзіла радасную найвышэйшую формулу· "Божа, я кахаю Цябе!" "Вечаровую Латвію, убачаную вачыма ранішняй Ліцвінкі" з невымоўнай удзячнасцю прысвячаю Адаму Глёбусу (Ці ведае ён пра гэта?) "Ліцвінамі пад акупацыяй" я віншавала з Калядамі маіх сяброў на Бацькаўшчыне і за яе межамі, бо нешта падобнае рабіў штогод мой Настаўнік Ян Пятроўскі Гэтыя творы ды таксама іншыя сталіся напісаныя мной, бо была глыбокая шчырая "Малітва Жанчыны за Літву" Малітва, у якой ёсць страх, сумнеў, няпоўная вера не даходзіць да Бога Такая малітва адносіцца да часоў фетышызму

"Нашаніўцы" ж прыватызавалі нягоршыя здабыткі нашай культуры апошняга часу (маю на ўвазе заснаваны імі фонд, цераз які яны распаўсюджваюць кнігі, касеты), але якасць выкладання гэтай культуры нізкая

"Думка павінна быць высокай, а жаль скіраваны ўніз, да простага чалавека" – вось формула, з якой Вялікі Настаўнік хадзіў па Зямлі Гэтую цытату з "Жывой Этыкі" "Н.Н " яшчэ прапусціла ў маім дзённіку.

Ян Пятроўскі ў сваіх Мемуарах перакanaў мяне, што нашая культура, пазбаўленая самастойнага развіцця, трапіла ў палон да чужынцаў, бо езуіцкі Рым растаптаў высокія духовыя дасягненні нашых асветнікаў эпохі Рэнесансу. У "Ліцвінскай каханцы" я пісала "Уніяцкая царква, пасобніца Рыма, стала ўсё мацней заціскаць жывую душу ў манастыр, дзе яна, няшчасная, гінула без натуральнага жыцця на волі Так і Казіміра Лышчынскага засудзілі на смерць, бо быў ён атэістам, як наш Славамір"

Што ж адбываецца цяпер? Наша інтэлігенцыя, замест таго, каб абуджаць народную душу, развіваць самастойную думку, піша слёзнае пасланне ў Рым аб заснаванні уніяцкае царквы А Рым кінуў ужо танную прынаду, прызнаўшы ўсяго толькі 13 новых святых на Беларусі Чаму ж наша інтэлігенцыя забылася на Хрыстоў запавет· калі паможаш бліжняму — паможаш Богу? Чаму не падтрымалі Славаміра, які памкнуўся нешта зрабіць для Бацькаўшчыны? Бо духам яшчэ не нарадзіліся Не дараслі да колішніх слаўных Ліцвінаў Не выкананы Касмічны закон — не зможаш ісці далей. Так і застанёмся беларусамі — імем, што пакінулі нам чужынцы.

*Літва, Бацькаўшчына мая!*
*Ты, як здароўе...*

Гэтым сумам душы з "Ліцвінскай каханкі" я падзялілася з маім настаўнікам Янам Пятроўскім. Няхай яму сум маёй душы будзе Радасцю ды ўзнагародай за самаахвярную працу ўсяго ягонага жыцця..

Дазволю сабе прывесці доўгую цытату з ліста Алены Рэрых, якую я таксама выкарыстала ў "Безназоўным спеве" "Посмотрим, как искажена легенда об уходе Адама из Рая. Бог его проклял наставлениями о труде в поте лица Странный Бог, проклинающий трудом! Разумное существо не может угрожать трудом, который есть венец Света Что же лежит в основе этой легенды? Когда человек благодаря женской интуиции пришел к одолению сил природы, тогда его напутствовал Руководитель. Главное напутствие было о значении напряженного труда Это скорее благословение, чем проклятие Упоминание пота есть символ напряжения Нелепо думать, что пот явление только физическое При мыслительной работе исходит особая эманация, ценная для насыщения пространства.. " І каб адным стрэлам забіць двух зайцоў· закончыць тэму грэшнай зямлі ды неяк азвацца пра Сяргея Дубаўца, скажу так. Цяпер я бясконца ўдзячная маім Каханым Мужчынам з "Нашае Нівы" ды асабіста Сяргею Дубаўцу за тое, што яны выразалі мае вольныя думкі з Майго "Дзённіка", не друкавалі мае самасційныя творы, хоць раней за гэта самае папракала Сяргея ў недахопе мужнасці, вінаваціла ў здрадзе Цяпер я разумею, што кожны з нас робіць сваю справу Пазбаўленая голасу праз друк, але неаслабна чуючы ў сабе Голас Бога я стала пісаць лісты знаёмым і незнаёмым людзям, ладзіць вечарыны, сустрэчы, проста памагаць выпадковым людзям, якім такая дапамога патрэбна Такім чынам пашыраецца людская свядомасць. Вось і Яну Пятроўскаму пішу Трэба працаваць, сеяць, нават калі не спадзяешся пабачыць на ўласныя вочы ўзыходзячую рунь. Можна сказаць, што "нашаніўцы", навучыўшы збольшага мяне плаваць, кінулі ў сусветны акіян

Пра Адама Глёбуса Алесь Масарэнка сказаў, што ён "выпендрываецца" То, можа, гэта лепш і карацей, чым я пісала сп Яну Пятроўскаму· "Пра раннюю творчасць Адама Глёбуса я пісала ў "Н.Н.", што гэта "злое дзеянне, але яно пашырае людскую свядомасць ды спрыяе эвалюцыі" Але гэта было справядліва па тым часе. Цяпер жа ён сам моцна кульгае і тармозіць усіх нас, калі не сказаць больш выразна"

Ужо памянёны Алесь Масарэнка падчас майго паходу па рэдакцыях за вызваленне Славаміра таргаваўся са мной па змесце майго ліста "Пра Глобуса (Глёбуса ён не прызнае) надрукаваў бы, а пра Славаміра ні ў якім разе Бо Славамір уеўся яму ў пячонкі яшчэ па "Настаўніцкай газеце", прыходзіў у "Першацвет", нечага патрабаваў, пісаў "бог" з малой літары Дый невядома яшчэ, што ён робіць там у турме Можа, у семінарыі навучаецца"

А я ўзялася памагаць Славаміру, бо хачу, каб з гэтага (ён стварыў суполку "Правы рэванш") нешта атрымалася Так я напісала Яну Пятроўскаму А яшчэ я прасіла яго, каб прыслаў мне працяг сваіх Мемуараў, бо ў сваім жыцці я падышла да таго складанага перыяду, калі мне вельмі патрэбна духовая дапамога майго Настаўніка.

Здаецца, усё Хіба толькі зазначыць, што я ў жыцці нікога з "нашаніўцаў" не бачыла — ні Сяргея, ні Славаміра, ні Адама (гэта на 25.02.97 г )

Я ўдзячна ўсім людзям, якія мяне любяць, і тым, якія не любяць. Апошнім, мо нават, болей Абыякавым да мяне — мае шчырыя спагада ды спачуванне

25.02.97 г.



**Ганна МАТУСЕВІЧ**

**КРЫНІЦА № 5**

**1997**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**

**Рэгістрацыйны нумар 630**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Звaніце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінала-макета 22. 04. 97 Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 2000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 878.

**Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**